# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**4** (1026)

**КРАСАВІК**

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»





Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2015

# ЗМЕСТ



**Віктар КАЗЬКО**

# СІРЭНА

*Апавяданне*

## 1

Вуліца была ўскраіннай. Хат на ёй небагата. Недзе было развярнуцца вуліцы. Адным канцом яна ўпіралася ў снулае зялёнае балотца. Другім — у чорны высокі насып чыгункі, за якім распасцёрліся жоўтыя пяскі, амаль голыя, зрэдку толькі прастрочаныя самотнымі кусцікамі крывава-чырвонага ракітніку.

Прачыналіся на гэтай вуліцы рана, засыналі позна, затое драмала яна ўвесь працяглы летні дзень. Напаўсоннае яе ачмурэнне толькі зрэдчас пеўнева парушалі гудкі паравозаў ды грукат цяжкіх таварнякоў, што ляскаталі міма.

Збоку балота распячатвае вуліцу сірочая, без даху, хатка, што рэшата, пасечаная асколкамі. Шчапу ад іх яшчэ не паспелі прыгладзіць вятры, тамсям у сценах скуламі тырчалі і асколкі. І зблізу хатка выглядала, хаця і параненай, але зухавата, весела. Пад павевамі ветру, нават слабага, яна пазвоньвала, нібы яе пачэсвалі, казыталі. Ці то радавалася, што ацалела, выстаяла, ці то скардзілася на сіроцкую долю.

У агародзе, недалёка ад хаткі, зеўрала чорнай пашчай вялізная варонка — ад бомбы. Як яна не здзьмула хатку, даводзілася толькі гадаць і здзіўляцца яе жывучасці і ўчэпістасці на зямлі. З варонкі вылезлі двое хлапчукоў, як параджэнне колішняга выбуху. Старэйшы і даўгалыгі з абсыпаным ластаўчыным рабаціннем тварам, вельмі худы — Віцька-дурань, другі — больш спраўны, з чыстым, але як бы назаўсёды спыненым на мяжы сталення і дзяцінства

---

*__Казько Віктар Апанасавіч__ нарадзіўся 23 красавіка 1940 года ў горадзе Калінкавічы Гомельскай вобласці.*

*Скончыў Кемераўскі індустрыяльны горны тэхнікум (1962), Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве (1970). Працаваў на шахце, праходчыкам у геолагаразведцы, у раённых і абласных СМІ, літсупрацоўнікам газет «Чырвоная змена», «Советская Белоруссия», часопіса «Нёман», сакратаром праўлення СП БССР.*

*Аўтар кніг «Високосный год» (1974), «Здравствуй и прощай» (1976), «Суд у Слабадзе» (1978), «Неруш» (1983), «Хроніка дзетдомаўскага сада» (1987), «Но пасаран» (1990), «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» (1991), «Бунт незапатрабаванага праху» (2009) і іншых.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1977), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982). Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».*

тварам — Лёнька Змітрок. Каля веснічак у дворык іх ужо чакаў хаўруснік — Валодзька Бахіла, вулічны канавод.

— Во, глядзіце, — сустрэў ён крыкам хлапчукоў і паказаў вялікі крамяна наліўны яблык, які з цяжкасцю месціўся на яго далоні, пакачваўся і хістаўся, наровячы ўпасці.

Яблык, здаецца, гулліва падміргваў хлапчукам, як у начы зоркі стажары, іскрыўся, падобна сонцу перад навальніцай блізка поўдня. Нават не верылася, што гэта сапраўдны яблык. Валодзька трымаў яго на выцягнутай руцэ, і рука яго дрыжэла, як жывы, дрыжэў і пераліваўся ў мроіве дня яблык.

— Жывы! — выгукнуў Віцька-дурань і зарагатаў.

— Дай пашчупаць, — папрасіў Лёнька.

Бахіла схаваў яблык за плечы:

— Лопне і сок выцеча. Лепш паслухай вухам, як шапочуць зярняткі.

Лёнька пацягнуўся па яблык. Бахіла адпіхнуў яго:

— У маіх руках.

Лёнька падставіў вуха і стаіўся, слухаючы. Ад напругі вуха яго, і толькі адно, адразу ж заружавела.

— Чуеш?

Лёнька маўчаў, ружавеючы ўжо і другім вухам.

— Во-во, слухайце, глядзіце, — загалёкаў Віцька-дурань. — Зараз, зараз вухі лопнуць, і кроў як пальецца, як пабяжыць. Гэй-ля…

Заскакаў ад радасці. Бахіла ўрэзаў яму носца ў жывот. Віцька скурчыўся і замоўк.

— Чую, — азваўся нарэшце Лёнька, — на самай справе шапочуць. Як мыша ў сене.

— Эх ты, мыша…— Бахіла схаваў яблык за пазуху. — Не як мыша, а як …

Але не здолеў прыдумаць як, плюнуў сабе пад ногі і занудзіўся.

Дзень толькі-толькі перапоўз за другую палавіну, і вуліца была апусцелая і сумная. Закапаліся ў пясок, у замарачэнні лыпалі белымі ад спёкі вачыма куры. Каля іх з падскокам бегаў, маладзіўся, натужана і злосна клекатаў стары, з абвіслым, як падсмажаным, грэбнем і да сіняга з абшчыпанымі бакамі певень.

— Кыш, Гітлер, — замахнуўся на яго Лёнька.

Певень падскочыў, але невысока, наколькі здолеў, успушыў гарлянку і, унурыўшы галаву, дробненька пакрочыў на хлапчукоў.

— Гітлер і ёсць фашыст, у, зрода…

Лёнька нахіліўся, падняў дубец, што ляжаў каля яго ног. Певень гучна залапатаў крыламі, пагрозна, але ніколькі не страшна, бо яны ў яго былі ўжо нягеглыя і непаглядныя, без задзірлівага агню ў пер'і. Хаця гэты агонь у сярэдзіне яго, пэўна, яшчэ і меўся, бо ён на злом галавы кінуўся на Лёньку, свайго крыўдзіцеля. Лёнька ўзняў дубец, але не паспеў перацяць ім пеўня.

— Я табе пакажу майго пеўніка біць, — пачуўся сіпаты голас Пабягушкі, валадарніцы Гітлера.

Певень адчуў абарону і спыніўся, скоса і нядобра пазіраючы на Лёньку.

— А чаго ён першы біцца кінуўся? — насупіўся Лёнька, ваяўнічасцю на тую хвіліну вельмі падобны на пеўня. — У, зрода… Будзе, будзе табе Сталінград…

Певень адскочыў.

— І табе, і табе, і табе, — загаласіла Пабягушка. — І пеўніка не прапусцяць. Азвярэлі, распусціліся. Ні Бога, ні чорта не шануюць. Сябе ў лужыне ўбачаць і гатовы ўтапіць…

Пабягушка бязмерна даражыла і ганарылася сваім пеўнем. Як яна сама сведчыла, апроч кошкі, Гітлер адзіная жывая ў яе хаце ад вайны душа. І ці не палова горада ведала пра яе Гітлера, бо кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму Пабягушка паведала, як певень выратаваў яе ад смерці. Здарылася тое яшчэ на самым пачатку акупацыі. Нямецкія салдаты захапілі яе падворак і пачалі паляваць курэй. Адзін з іх папоўз пад ганак, дзе нesліся і ў спёку хаваліся куры. Пабягушка пазірала, пазірала на яго азадак, што так зазыўна вытыркаўся з-пад хаты, не вытрымала, урэзала па ім лапатай. Бабулю адлавілі, што куру, і паставілі да плоту. Ужо ўскінуліся ўгару вінтоўкі. Але на тую хвіліну на падворку з'явіўся Гітлер, яшчэ безыменны, праўда. Проста спраўны і ахвочы да курэй пеўнік. Убачыўшы сваіх прывабніц непаглядна раскілзаных, мёртвых, ваяўніча напяў грэбень і хвост і кінуўся на салдат. Тыя з рогатам апусцілі вінтоўкі і пачалі пацвельваць русіш зольдатен. А Пабягушка бокам, бокам, рот хустачкай заціснула і з двара ў лес. Так і збераглася, а певень цудам ацалеў. Набыў імя, але чамусьці абразлівае.

З тае пары, як певень стаў Гітлерам, Пабягушка даглядае яго, як сваё роднае дзіця. І ласкава гаворыць з ім, калі ў гуморы, а не — то і ўшчувае, як маці сына. Абяцае яму, як толькі паспее, свежае проса, завядуцца грошы — і курачак: чубатак, чорных, белых, стракатых і пярэстых, галянастых, падгалых і маладзенькіх.

Гледзячы на Віцьку, яна жаласліва скрывіла губы і з дробным падскокам затупала па пустой, прыпечанай сонцам вуліцы. Каля Лёнькавага падворка затрымалася.

— Усё раскажу маці, так і знай.

Лёнька павярнуўся да Валодзькі:

— Пойдзем у лес?

— Пойдзем…

— Ага, пойдзеш! А яблык? — учапіўся за рукаў Валодзькавай сарочкі Віцька.

— Што яблык?

— Дай мне, пакінь мне яблык.

— Ён узарвецца, выбухне ў цябе ў чэраве, як… бомба.

Віцька баяўся бомбаў, гаворак пра іх. Але тут нібыта і не пачуў, трымаў Бахілу за рукаў сарочкі. Той паспрабаваў вырвацца, сарочка затрашчала. Бахіла зазлаваў:

— Дурань, але дужы. Бугай…

— Яблычка, — занюніў Віцька. — Ні разу не еў яблычка.

Бахіла задумаўся:

— Ні разу?

— Аніводнага, — пацвердзіў Віцька, гледзячы ў вочы Бахілу.

Той доўга і цяжка нешта меркаваў, потым неахвотна палез за пазуху. Выцягнуў яблык, але трымаў яго, прыціснуўшы да сябе. Віцька прымружыў вочы, нібыта яго пабілі, бáднуў галавой паветра і ўнурана кінуўся да Валодзькі, выхапіў яблык, зноў ледзь не падраў на ім сарочку. Пабег да балота, зрэдку зацкавана, па-ваўчынаму азіраючыся. Бахіла хацеў кінуцца за ім, толькі Лёнька ўтрымаў яго. Да іх бег Васька Барэцкі. Успатнелы, сарочка расхлістана да пупа, бо без гузікаў, як толькі трымаецца на целе, босыя ногі па шчыкалатку ў мазуце.

— На станцыі макуху выгружаюць, — задыхана, яшчэ здалёку абвясціў усім. — Вялікія, вялікія кругі. Дзесяць кілё кожны….

Лёнька з Валодзькам сышліся позіркамі:

— Пільнуюць моцна?

— Не…— закруціў нітачкай шыі Васька.

— А гэта з чаго? — тыцнуў Лёнька пальцам убок чорных, мазутных ступакоў Ваські.

— Бег да вас, заглядзеўся на варон, уляпаўся ў лужу мазута… Ну, не сам трапіў. Грузчык паймаў і ў бочку з мазутам акунуў.

— У лес! — сказаў Лёнька.

— Не, — замітусіўся Васька. — Там можна. План толькі трэба. У мяне ёсць. А макуха…

Васька выцягнуў аднекуль ніжэй пупа зашмальцаваны, цёмны ад поту ці нечага яшчэ ком макухі:

— Не глядзіце, што выжымкі. Саладзей самога маку…

— Паспытай, — працягнуў Бахілу. — Мяне ў бочку з мазутам, а я макуху не выпусціў, не…

Валодзька напружыў сківіцы і адгрыз кавалачак. Барсук у чаканні зазіраў ледзь не ў рот яму, тоўстыя шчокі дрыжэлі. Ён усё лета, кожны дзень ашываўся на разгрузачнай раме на станцыі і часта прыходзіў дамоў з нагамі іншым разам і па калені ў мазуце.

— Мак лепей, — сказаў Валодзька, перадаючы макуху Лёньку.

— Ага, мак лепей, — пакрыўдзіўся Барсук. — А ты дастань маку… Там яшчэ наганы на платформах ляжаць. Сапраўдныя…

— Хлусіш, — узрадваўся Лёнька.

— Я? Хлушу? — Барсук уздзёр угару галаву. — Стукні, калі не верыш… Зуб даю.

## 2

Падворак Змітракоў быў завалены ўжо ачэсаным бярвеннем. Гаспадар рыхтаваўся перасыпаць хату. Каля ганка сушыўся мох. Змітрачыха пад павеццю наладжвалася шчапаць дранку пад тынкоўку, тачыла вялізны каваны струг. Прыхіленыя да хлява ў цяньку ачахалі распластаныя ўдвая абалоністыя цурбакі, загадзя падрыхтаваныя гаспадаром пад дранку.

— Бог у помач! — пажадала Пабягушка яшчэ здалёку. — Ні выхадных, ні прахадных табе, Маруся. І для каго толькі ўсё рупіцеся і рупіцеся…

— Усё трэба, баба Ганна. Усё спарахнела, — вінавата ўсміхнулася Змітрачыха, як рабіла і гаварыла пра ўсё на свеце, нібы загадзя, ад нараджэння, у нечым вінавацілася. Была яна рослая, твар скуласты, буйны, але мала рухомы, такія ж, як у сына, засяроджаныя вочы, як бы спалоханыя. Ні на хвіліну не давала сабе спачыну, але рабіла ўсё не спора, нібыта пад прымусам. І зараз доўга прымервалася да цурбака, доўга настаўляла на яго струг.

Пабягушка была другога нораву. Не вытрымала, адабрала ў яе струг, адным рухам прыладзіла яго да цурбака, загадала:

— Бі!

Змітрачыха няўклюдна цюкнула калуном па струзе.

— Цю на цябе, — плюнула Пабягушка.— Нібыта ўсё жыцце за плячыма мужыка. Сакеру па-бабску трымаеш.

— Адвыкла ўжо, баба Ганна...

— Прывыкай. Твой-та ўсё кашляе?

— Кашляе, усю душу мне вывернуў, — паскардзілася Змітрачыха. — Я ўжо кажу: плюнь ты на гэту чортаву мазутную работу і на заробак. Не адно ж толькі дэпо ў горадзе. Мясакамбінат будуюць, кансервавы завод... Як глухі.

— Жаб яму трэба.

— Каго? — апусціла сякеру Змітрачыха.

— Жаб, кажу. У гарэлку іх. Настойваць і няхай п'е. Адразу лёгкія вычысціць. Усё як рукой здыме.

— Ды хіба ж Змітра прымусіш... — адкінула калун і села на бервяно побач са старой Змітрачыха.

— А ты не прызнавайся, не кажы яму. Гарэлачка, і ўсё. Ён табе яшчэ дзякаваць будзе.

— Хіба што так... Вох, баба Ганна, сіл маіх няма, — Змітрачыха захліпала носам, высмаркалася ў падол спадніцы. — То ў вайну па куранях з малым. Горбішся з ім, ні есці, ні піць. Здаецца, трапіла б пад ногі міна, наступіла б і з канцом. Верыш, калі сагналі нас немцы, усю нашу вуліцу, у твой хлеў, бабы ў голас, гвалт, лямант... а па мне — хутчэй бы запальвалі. Ні Лёньку, ні сябе, ні людзей — ні да каго жалю, ні на вось паўстолькі, хутчэй бы... Бог мілаваў, а дзеля чаго. Вярнуўся з вайны Зміцер, толькі абапнуўся — туберкулез.

— Во, а яшчэ ярмо на шыю — перасыпацца ўздумалі.

— Ды ён, баба Ганна, кажа, у рабоце задышка адыходзіць. Яму ўсё, каб і кашлянуць некалі... Ды з другога боку, усе навокал будуюцца. А мы што, горай людзей.

— За людзьмі цягнуцца.

— А за кім жа, баба Ганна. Не было б людзей...

Змітрачыха ўсё тым жа прыполам спадніцы выцерла твар. Як сцёрла з яго сполах, нерухомасць і абыякавасць.

— Вось паплачаш перад табой, і на душы весялей, забудзешся і на гора. Пойдзем у агарод, бульбу паглядзіш. Капала ўжо, падлегчвала. Сухмень, сухмень, а бульбачка з добры кулак.

Жанчыны пайшлі ў агарод. Пабягушка перагнала гаспадыню і выдзерла за націнне першы, што трапіў ёй пад руку, куст. Быў ён слабым, не надта прырослым да глебы, зямля пад ім сухая і сыпкая, на худым і мізэрным растку хістка свяцілася ўсяго тры вузлаватыя бульбінкі.

— Дожджык папырскае,— трасянула імі Змітрачыха, — пойдуць у рост і яны. Яшчэ не зацяліся, не зразумелі, будуць расці і маленькія. А тут? Во...

Яна адной рукой грабанула попельную зямлю, з якой толькі што выдзерла націнне, агаліла пару ладных бугрыстых бульбін.

— І праўда, — нагнулася над імі Пабягушка. — Як перад вайной картопля.

— Будзе табе, баба Ганна. Забываць, забываць трэба.

— А я ўжо забыла і збыла. Пра што помню, пра тое маўчу... З гарсавета да мяне пад абед жанчына прыходзіла, ветлівая, маладая і апранутая спраўна, касенькая толькі трошкі. А так і боцікі на ёй хромавыя, хром добры, юхць. Сукенка ў крапінку і не кароткая. Рыдыкюль са спражкай. Пра Віцьку-сірацінку ўсё. У жоўты дом у Магілёў хочуць забраць.

Пабягушка замоўкла, хуценька-хуценька міргаючы, уталопілася ў Змітрачыху. Той было не да галавы, чаго прыходзіла да яе гэта маладая, толькі касенькая. Але каб падтрымаць гаворку, збіраючы бульбу, спытала:

— Ну і што ты?

— Ды шкада ж. Сумна, зусім ужо неспадзеўка будзе мне без яго. Да канца вайны неяк хоць мы, бабы, гуртам трымаліся. А цяпер не кожная са мной і знацца хоча, адны пры мужыках, што з фронту прыйшлі, другія пры ўхажорах, трэція пры дзецях. А я як перакаці-поле, з боку прыпёку. Адна. Гітлер ды Віцька-дурнічка — увесь мой клопат. Засохну без свайго сіротніка… На Барсучыху касенькую навастрыла.

— Дарэмна гэта ты, — скрушліва завінавацілася Змітрачыха, выяўляючы зноў спужанасць у вачах і на твары.

— Дарэмна? Яна ж сама на кожным кроку клянецца і ляпае языком: здам ды здам Ваську ў дзетдом.

— Сабака брэша — вецер носіць. Вочы яна табе за Ваську павыдзірае. Сама ж ведаеш, як яна ў смерці яго адабрала, з замініраванага поля вынесла. Стары твой, нябожчык ужо, крычыць: «Не хадзі, хай лепш адзін загіне, чым дваіх у магілу класці!» Мы пальцы кусаем. Голас падаць, азвацца баімся. А яна, як тагасветная ўжо, праз міннае поле да яго імкне. А ён жа ведаць нічога не ведае, рады-радзенькі, насустрач ёй, маці роднай, па мінах ідзе. Смяецца толькі. А таго не цяміць, што маці ў абдымку са смерцю да яго спяшаецца. Думаю сёння, што на тую хвіліну маці і смерць паразумеліся: бабы ж, бабы — і маці, жанчыны. І яна двойчы па мінах прайшла, туды і назад, і вярнулася некранутай, толькі сівой, і забыць нічога не забыла. Таму і сарвалася, языком ляпае, па руках пайшла. Усе з зямлянак вылазяць. А яна ў ёй адна. Чужым шчасцем, чужой радасцю атруцілася. Выправіцца, ачомаецца.

Змітрачыха выйшла з агарода, кінула бульбу ў вядро, заліла яе вадой.

— Вось і вячэра маім мужыкам, — яе нерухомыя вочы засвяціліся і падабрэлі. Яна спаранька заснавала з падворка ў хату. Пабягушка вінавата і нерашуча пацерла адну аб адну парэпаныя ногі.

— Я ўчора раненька так бягу міма яе зямлянкі. Чую смех, прыпала да шчылінкі. Мужчына ў яе там, жанаты, у гадах, пажылы…

Змітрачыха прамаўчала, толькі гучна патрэсла бульбу ў вядры і заазіралася. Але Пабягушка ці то не зразумела яе, ці то ёй некуды было пайсці. Хата яе была цёмна маўклівай, няўтульна самотнай і пустой, без нутра. Дашчаныя палаці каля печы, саламяны матрац на іх. Саматканая коўдра, што некалі ў добры час служыла дыванам, дарожкай пад ногі. Адзіная кульгавая лава замест крэсла. Стол без хлебнага паху, паху страў. І даўно ўжо каменна настылая печ. Пры ўваходзе ў хату, каля парога, як гэта і павінна ім, зморшчаныя і ссохлыя чобаты нябожчыка мужа Пабягушкі, дзеда Пракопа, якога застрэлілі босым немцы на яго падворку перад самым вызваленнем. Муж Пабягушкі быў бяскрыўдны і ціхмяны, працавіты і беражлівы. Хацеў падлатаць страху на хаце Віцькі-дурня, ужо дурня на той час. Залез, падняў кроквы. Разуўся, бо так было лацвей ступаць па слізкіх дошках — якраз сыпануў цыганскі споры дождж. Па вуліцы ішлі п’яныя нямецкія салдаты. Бачыць старога на страсе, ды яшчэ босым, падалося ім, пэўна, дзівам. Адзін з рогатам ускінуў вінтоўку, стрэліў — міма. Другі аказаўся больш трапным. Вось і ўсё.

Босым яго і пахавалі. Аб чым іншым разам асабліва ўначы на самоце і бедавала Пабягушка: збярог чобаты, а як яму, бедаку, на тым свеце басаною. Але скора, скора яна даставіць яму яго абутак.

І не было цяпер куды пайсці бабе Ганне, па вулічным Пабягушцы. Вялікай гаспадаркі ў яе і ў завядзёнцы ніколі не было. Так, штосьці недарэчнае, ці то нейкая драная каза, ці то трусы, ці, як зараз — певень Гітлер.

— Я за сваім болем і забыла, баба Ганна, ты да мяне па справе прыходзіла ці як?

Змітрачыха ўжо абірала бульбу.

— Па справе, — сказала Пабягушка і ўздыхнула. — Ты бульбу не чысці. Адыходы. Ты яе ў мундзірах вары. У мундзірах ды з буйнай соллю, ды з парам…

Змітрачыха вымушана і цярпліва слухала яе і думала: хутчэй бы тая пакінула яе. Вось-вось павінен быў вярнуцца з работы Зміцер. А Пабягушка прыдумвала, якую б зачэпку знайсці ёй, куды апроч Змітракоў можна пайсці, пагаварыць яшчэ пра Барсучыху, Змітракоў, пра Віцьку, Гітлера. Але ісці ёй не было куды. З Барсучыхай яна пасварылася, Гітлера загнала ў двор, а з Віцькам не пагаворыш. Да Вольгі Бахілы. Але тая была надта гаваркой. Усё адно толькі напінала жывот і прасіла памацаць: шаволіцца, ужо шаволіцца першы пасляваенны. І ўсцешна, і сумна, слёзы блізка, плакаць хочацца каля чужой радасці. З Марусяй ёй было больш лёгка, бяздумна.

— У суседкі тваёй двойня будзе, — Пабягушка авалодала нажом, адціснула яе ад вядра і сама пачала скрабці бульбу, не сцішаючы гаворкі:

— І калі тое было. Сам прыйшоў у сакавіку…

— У лютым, папраўіла яе Змітрачыха.

Але Пабягушка як не пачула. Ёй трэба было выказацца, выгаварыцца.

— У сакавіку. А ўжо ў дзверы не пралазіць. А ты ўсё пустая. Адно дзіця не дзіця. Усё Гітлеру майму праходу не дае…

— Дык якая ў вас справа? — насмелілася, перапыніла старую Змітрачыха.

— Усё, Маруся. Уся мая справа. Была ды выйшла, — сказала Пабягушка, адкладваючы нож. — Пабягу сваю банду карміць.

І асцярожна, з птушыным падскокам мінаючы бярвенні, адчыніла веснічкі, затрымалася ў іх:

— Нешта яшчэ хацела сказаць табе, ды забылася, варона безгаловая, — паміргала вейкамі, якіх ужо амаль і не было, выцвілі і павыпадалі. — Забыла. Ну і добра, наступным разам. — І хуценька-хуценька, сарочыным крокам пабегла па вуліцы, міма сваёй хаты, міма хаты Віцькі-дурня, у напрамку чыгункі.

Змітрачыха засталася адна. Нейкі час сядзела не кратаючыся, шырока раскінуўшы на ганку ногі, падпершы правай рукой падбародак. Сонца выціснула за дзень з ачасаных бёрнаў жывіцу, ад паху якой усё навокал дыхала мёдам, у якім патануў, згубіўся тонкі і сухі дух састарэлых бёрнаў яшчэ жылой хаты. Ад навіны гэтага пераможнага чужога паху ішла кругам галава, пяршыла ў горле і чамусьці хацелася плакаць. У гэтай старой прыпалай да зямлі хаце яна нарадзілася, вырасла, нарадзіла сына, перажыла вайну. Была яна ўтульнай і ласкавай ёй, добрай. А як будзе сябе паводзіць новая хата.

Была яна жаданай і нежаданай, як позняе дзіця.

Прагучаў доўгі і вясёлы гудок паравоза. Канец працоўнай змены. У хаце насупраць бразнулі дзверы.

— Маруся!

Змітрачыха апамяталася, цяжка і няёмка ўстала. Суседка, Вольга Бахіла, прытулілася да плота:

— Ты што свайму гатуеш?

— А што прыдумаеш, — адказала Змітрачыха. — Бульбу.

— А я свайму ладку з соі. Праўда, на рыбіным тлушчы. Трэба соі?

— Давай…

Змітрачыха назбірала шчап'я і распаліла касцёр. Пацягло дымам і з іншых падворкаў. Жанчыны чакалі з работы мужыкоў.

## 3

Прыстанцыйныя рэйкавыя пуці былі забіты платформамі з мёртвым жалезам. Абгарэлыя і пакарабачаныя гурбы металу пачыналіся ад драўлянага аднапавярховага сціплага будынка вакзала і цягнуліся да пад'язных пуцей. Вайна сканала і са знямелых ад жаху палёў яе ішлі як на пахаванне скалечаныя танкі і спаленыя машыны, ваенныя гарматы са згубленымі, а часам і выдзертымі, разбітымі ўшчэнт джаламі ствалоў. Невялікі гарадок паходзіў на вялізныя могілкі нядужага, хаця і свежага праху нядаўняга забойства. Піраміды, піраміды, магільныя бугры. Праз кожныя дваццаць, трыццаць метраў, наколькі хапала чырвонай абеліскавай чыгуначнай платформы. Людзі абыходзілі іх бокам. Былі выпадкі, калі могілкі жалеза абуджаліся і выбухалі. Памерлае помсціла жывым. Невідушча, смяротна і бязлітасна.

Калі хлапчукі дапялі станцыі, макуху ўжо выгрузілі і некуды звезлі, застаўся толькі пах ад яе. Грузчыкі ў чаканні новых вагонаў з новымі грузамі перакусвалі на санцапёку, марнуючы час на рэйках і шпалах. Адзін з іх, прыкмеціўшы жэўжыкаў, ужо не малады, хваравіты, з упалымі шчокамі і сінімі нават на сонцы вуснамі, паманіў іх да сябе. Валодзька з Лёнькам падышлі. Барсук застаўся наводдаль.

— Цябе, цябе, мардаты, якраз і трэба, — падняўся грузчык.

Барсук агледзеўся, выбіраючы, у які бок знікнуць.

— Не бойся, — сказаў грузчык. — Не баяўся красці, не пужайся і адказ трымаць.

Васька зрабіў крок. Падумаў, ступіў яшчэ. Потым двойчы падымаў то адну, то другую нагу, але так і застаўся на месцы.

— Эх ты, злодзей самавук, — грузчык сам падышоў да Ваські. Узяў яго за руку.

— Я больш не буду, — сказаў той. — Зуб даю.

Грузчык не адпусціў яго руку, пацёг за сабой.

— Я ўжо быў у мазуце, не трэба яшчэ раз. Не жадаю, не буду больш. Вы ж мяне зусім нядаўна…

Лёнька з Валодзькам нерашуча пасунуліся за імі за складзеныя штабелем шпалы. Грузчык азірнуўся і выцягнуў з-пад іх важкі круг макухі.

— Навошта ты яе краў?

— Падабаецца, — адказаў Васька.

— Што падабаецца? — не зразумеў грузчык.

Васька быў шчыры:

— Красці падабаецца і макуха. Мы яе з маці замест хлеба ядзім.

— А вы яе мяліце, — параіў грузчык. — І ладкі ведаеш, якія. Толькі багата нельга, што муха сонны будзеш.

І грузчык працягнуў Ваську макуху.

— Другім разам прастуй прама да мяне. Зразумеў?

— Не-а, — закруціў галавой Васька.

— Яшчэ раз у бочку з мазутам з галавой акуну, паразумнееш.

— Вядзі да наганаў, — загадаў Ваську Лёнька, калі яны ўжо адышлі ад разгрузачнай пляцоўкі.

Васька не маніў. Наганы на самай справе былі, і сапраўдныя. Ажно пяць чыгуначных платформаў. І Лёнька з Валодзькам адразу палезлі на бліжэйшую. Васька застаўся ўнізе, бярог макуху.

— Э-э, — расчаравана ўсклікнуў Лёнька, — ды яны без дзірак.

— А навошта наганам дзіркі? — слушна абурыўся Васька.

— Каб страляць, дурань. Пуляць пулю.

— Не толькі дзірак няма, і курок мёртвы.. — зазначыў Валодзька.

Гэта, пэўна, былі толькі нарыхтоўкі будучых пісталетаў. Недзе на заводзе іх мо зусім нядаўна адштампавалі. Але тут і вайна скончылася, і нарыхтоўкі павезлі на пераплаўку.

Лёнька з Валодзькам дапялі апошняй платформы. Але пісталетаў з дзіркамі і жывымі куркамі не знайшлі. Яны ўжо хацелі скочыць долу, як Валодзька ўтрымаў Лёньку:

— Аўтамат, вунь аўтамат. Толькі нейкі не наш — шмайсер.

— Стой на атасе, пільнуй! — крыкнуў Валодзька Барсуку.

— Калі што — свісні. — І яны ў дзве пары рук пачалі разграбаць і адкідваць убок няспраўныя наганы.

— Аніякі гэта не аўтамат, — выказаўся Лёнька. — Тут на ім нейкія шасцяронкі і ручка.

— Не цяміш. Гэта ж лепей аўтамата. Гэта ж сірэна.

Валодзька напружыўся і выцягнуў яе з груды нарыхтовак.

— Раве і вые — аж пад пахамі свярбіць, і ногі млеюць. Сёння на нашай вуліцы паветраную трывогу зробім.

Хлапчукі саскочылі з платформы і бежкі скіравалі з чыгункі на сваю вуліцу. За насыпам ужо Валодзька скінуў сарочку і абматаў ёю сірэну. Дамоў яны ішлі каля пажарнага дэпо. Ваенная часць, што праходзіла тут, падаравала пажарнікам духавы аркестр. І пажарнікі зараз развучвалі вальс «На сопках Маньчжурыі». З такой нагоды тут круціліся ці не ўсе ўскраінныя дзеці. Быў сярод іх і Віцька-дурань. У зіхатлівай меднай касцы — пажарнай — шалёна махаў рукамі — дырыжыраваў. Пускаў сліну, ганяўся за кожным малым, што набліжаўся да яго аркестрантаў.

— Пайшлі дамоў, яблычак дам, — паклікаў яго Валодзька.

Віцька надзьмуўся строга і дзелавіта, зрабіў выгляд, што не пачуў Валодзьку, увогуле незнаёмы з ім.

Старэйшыя хлопцы і дзяўчаты нясмела спрабавалі танчыць. Пузатая драбяза блыталася ў іх пад нагамі і пацвельвала:

— Цілі-цілі цеста, жаніх і нявеста…

Сябры не сталі затрымлівацца тут, пабеглі далей. У кустах каля балоціны схавалі сірэну, дамовіліся сустрэцца ўвечары.

А ён ужо быў блізкі. Змяркалася, і вуліца ажывала, набірала голас. З падворкаў гучала спорая гаворка сякер. Мужчыны пасля работы папраўлялі хаты, ганкі, платы. Натужна рыпеў калаўрот, ляскала бодня. Вуліца гуртам, талакой капала калодзезь. Лёнькаў бацька, паголены налыса і да сінечы худы, акрамя костак толькі жылы ды пакручастыя выпнутыя вены, старанна налягаў на рукаятку калаўрота. Голы да пояса і ў гліне. Хлопцы спыніліся адзаду яго. Зміцер іх яшчэ не бачыў, ускідваў па-конску галаву, стоена крэкаў і кашляў.

— Арыштант, — прашаптаў Васька.

Лёнька ўрэзаў яму кулаком па шыі. Зміцер павярнуўся:

— Ага, — мовіў нікому і працягваў круціць калаўрот.

— Дзядзька Зміцер, на ваду яшчэ не выйшлі? — спытаў Валодзька. Спытаў сур'ёзна, па-гаспадарчы.

Са зруба выплывала трохвядзёрная, рыжая, з пагнутымі, у гліне, абручамі бодня. Зміцер падхапіў яе левай рукой. Вышэй запясця адразу праступілі чырванню струпы даўніх і глыбокіх апёкаў.

— Ага, — паўтарыў ён зноў. Вываліў гліну і спіхнуў бодню ў зеўру зруба. — З'явіліся.

— Загакаў, — сказаў Лёнька, трохі выстаўляючыся перад хаўруснікамі. — Цябе пытаюць: вада ўжо ёсць?

— Добра, стоп, — пачуўся глухі і сыраваты голас з калодзезя.

Калаўрот спыніўся.

— У лес зноў шасталі? — спытаў Зміцер сына.

— А што? І туды забаронена мне хадзіць?

Пакідаючы сям'ю і хату, адыходзячы на вайну, бацька пакінуў сына пяцігадовым хлапчуком. Такім чамусьці думаў і сустрэць. Але замест няцямнага хлапчаня ўбачыў ці не сталага ўжо вяскoвага хлопца, амаль мужчыну ў нечым, які амаль па-мужчынску і паводзіў сябе з бацькам. І разгубіўся, не заўсёды быў здольны гаварыць з ім на адной мове. Развяла бацькоў і дзяцей вайна. Сын іншым разам выдаваў старэйшым і больш спрактыкаваным у мірным абіходку за франтавіка-бацьку. Зміцер напачатку быў нават рады гэтаму, а цяпер не ведаў, што і рабіць. Заўчаснае сталенне сына злавала яго, і, што хавацца, бывала, на роўным месцы. Вось і зараз…

— Ты з кім гэта размаўляеш? — Змітру хацелася сказаць зусім не так, зусім не тое. Папярэдзіць і нагадаць, што ў лес цяпер небяспечна хадзіць, там на кожным кроку міны ды снарады, хацелася прылашчыць сына, адчуць сваё і яго цяпло, пагладзіць па птушыным пуху валасоў. Але рука ўжо адвыкла рабіць гэта. Непадымная на ласку за гады і вёрсты вайны зрабілася рука, што яго таксама мімаволі злавала.

— Хто табе дазволіў хадзіць у лес?

Лёнька здзіўлена, але без сполаху паглядзеў на бацьку.

— А чаму ж ты не забараняў, калі з маці ў лесе ад немцаў хаваліся? Колькі гадоў без цябе і ўсё па лесе. І нічога… Жывыя.

— Агрызацца, — выгукнуў Зміцер і пацягнуўся па дзягу, што ляжала каля гімнасцёркі на гліне.

Ён не ўяўляў, што будзе рабіць далей. Яму было сорамна перад сынам, і гэта толькі павялічвала разгубленасць. Васька з Валодзькам на ўсякі выпадак збочылі ад калодзезя. Лёнька моўчкі і тужліва сачыў за бацькам. Зміцер узяў дзягу.

На тую мінуту ланцуг на калаўроце задрыжэў, было чутно, як недзе ўнізе плёхаецца, падае ў сырое гліна. З калодзезя вытыркнулася спачатку пілотка, а потым і ўсмешлівы твар бацькі Валодзькі. Ён узвысіўся на выцягнутых руках да пояса над зрубам, зірнуў на Зміцера, убачыў сумнага Лёньку, усё зразумеў і падміргнуў яму.

— Пераможца і гроза мясцовых пеўняў. То ж я чую галас, шапка падае. — Ён рыўком выцягнуў з калодзезя сваё грувасткае, нібыта скручанае з вяровак, цела, што аж ільснілася і парыла на сонцы, струменіла сілай і здароўем. — Зноў з пеўнем ваяваў? — яшчэ раз падміргнуў Лёньку.

— Ага, — не запярэчыў яму Лёнька і як бацька глуха, у кулак кашлянуў, крутануў галавой. — З Гітлерам.

— З-за жыццёвай прасторы?

— Чаго? — Лёнька зноў зацяўся.

— Вуліцу, кажу, не падзялілі, — Бахіла засмяяўся.

— Не, я з прынцыпу з ім, — сур'ёзна адказаў Лёнька. — З-за яго паходжання і імя. — І хуценька павёў вока ў бок бацькі. Той усё яшчэ круціў у руцэ дзягу, сам не ведаючы, што з ёй рабіць, куды падзець.

— Гопца-лупца-дра-ца-ца яму, Зміцер, — падказаў Бахіла і зноў засмяяўся, цяпер ужо гучна. Змітрок падперазаўся і глыбока, з надрывам закашляўся.

Да калодзезя імкнула спраўная высокая жанчына, апранутая ў новы дыяганалевы афіцэрскі кіцель, відавочна малы яе шчодраму целу, гатовы лопнуць у таліі і на грудзях, таму зашпілены толькі на два ніжнія гузікі, што дазваляла ўбачыць, як матылькова трапечацца на ёй шоўк не надта новай, пасечанай моллю і часам кофтачкі.

— З каго зняла? — відавочна, маючы на ўвазе кіцель, спытаўся Бахіла.

— З каго зняла, той ужо далёка.

— Хвацкая, — ухваліў Бахіла. — Шкада, што я ўжо свой знасіў. А то было б у цябе два кіцелі.

— Прыбралася, — Зміцер у адрозненне ад Бахілы быў настроены на іншы лад.

— Прыбралася, таму што не як вашы, не растаптанка.

— Во, — працягнуў маці макуху і прытушыў гатовую разгарэцца сварку Васька.

— Зноў? — успляснула рукамі Барсучыха.

— Я зарабіў, — удавана пакрыўдзіўся Васька. — Яны мне самі далі. Я дапамагаў ім грузіць.

— Кожны дзень. Кожны Божы дзень адно і тое ж. Няма больш майго цярпяжу. Не, здам у дзетдом.

— Уцяку, — мовіў Васька. — Пайду ў грузчыкі, пракармлюся, з голаду не памру…

Але Барсучыха яго ўжо не слухала, павярнулася да Змітрака.

— Прыбралася і не гарую. А чаго ж мне, Міцечка, гараваць. Чакаць — ждаць каго. Чакала, ждала ды ўсе жданкі паела… З зямлі не варочаюцца. Тваёй хораша. І прылашчыць, і сына паўшчуваць — усё ёсць каму па-людску. А тут і конь, і кабыла, і сама сабе жарабец, баба і мужык… І бягу я да цябе, Міцечка. Управы на майго вырадка няма, можа б ты дапамог мне, паўшчуваў яго па старой памяці?..

— Гэта па якой такой старой памяці? — азірнуўся ва ўсе бакі Зміцер.

— Вох жа, Міцечка, кароткая ў вас, мужыкоў, памяць, забыўся ўжо, — засмяялася Барсучыха. — Няма ў пасляваеннага мужыка памяці. Вайна ў вас усё адбіла…

— Дзяцей бы пасаромелася, — зазлаваў Змітрок. — Людзей асцераглася, а то падумаюць яшчэ, што і праўда…

— А то няпраўда?

— Няпраўда, хадзілі мы з табой у дубняк, чаромху ламалі. А нічога больш паміж намі не было.

— Так яно, Міцечка, так. Нічога паміж намі не было. Гэта я здуру тады, па маладосці, цяпер, на схоне… самой мне сына ўшчуваць трэба… Ну, а ты — павярнулася да Бахілы, — узгадай, каму кіцялёк на плечы накінуў. Падумай, пашукай і…

І Барсучыха ўздыхнула, захінула на грудзях кіцель, моўчкі адышла ад мужчын. Следам за ёй з кругам макухі на плячах падаўся і Васька.

Па вуліцы зноў пыліла Пабягушка, з боку ў бок матляючы чорнай і доўгай, да пят, спадніцай. Было ёй ужо невядома колькі за шэсцьдзясят, але хадзіць

спакойна яна так і не навучылася. Да ўсяго і ўсюды востранькім носікам цікаўная і дасціпная, да таго ж жвавая і вёрткая, нязменна ўсё подбегам, подбегам.

— Ганна, — пазваў яе Валодзькаў бацька.

Пабягушка рэзка, так, што спадніца перагнала яе, тармазнула і адразу ж рынулася да калодзезя:

— Электрастанцыю заўтра ў горадзе будуць пускаць. А ў дэпоўскім магазіне мыла даюць. Па бруску на чалавека, і дзецям таксама. А…

— Апрастай куратнік, — перапыніў яе Бахіла. — Вось гэты герой сёння з Гітлерам у абдымку будзе начаваць.

— Я яму галаву адкручу, — прабурчэў Лёнька.

Пабягушка, занятая сваім, не пачула яго:

— А вось яшчэ раз задзярэцца, як ёсць Бог, упяку.

І баба Ганна пакапацела далей.

Ёй было сумна з мужчынамі.

— Яблык нам з маці паспытаць пакінуў? — павярнуўся Бахіла да сына. Валодзька пакруціў галавой:

— Віцька-дурань адабраў… Я хлопцам напаказ вынес.

Бахіла закрактаў:

— Марляй на дрэве абвязалі і не захавалі... Шкада.

Яблыню Бахіла выкапаў у садзе бацькі, які жыў адзінцом на хутары ў лесе. У вайну памёр. Хату і ўсе прыбудовы спалілі немцы. Ад селішча засталіся галавешкі, вуглі, попел, ды яблыня ацалела нейкім цудам. Бахіла выкапаў і прывёз яе ў горад ужо ў квецені. Уся завязь хутка апала. Застаўся адзіны толькі яблык.

— Народзіш сына — гэты яблык мой табе падарунак, — сказаў жонцы Бахіла, і каб вераб'і не паклявалі, абвязаў яблык марляй.

— Смачны хоць быў? — спытаў ён сына.

— Я ж кажу табе, не ведаю. Нават не ўкусіў, — Валодзька замоўк і праглынуў сліну. Бахіла ўздыхнуў.

Змітрок дастаў з кішэні капшук з махоркай, палез у гімнасцёрку па газету.

— Вазьмі маіх, — апярэдзіў яго Бахіла. — Генеральскія, — падаў суседу квяцісты пачак папярос з даўгімі муштукамі.

— Разор, забаўка, а не курыва, — сказаў Змітрок. — Пачак папярос — булка хлеба.

— А дзве не хочаш, — пстрыкнуў пазногцем па коніку. Які некуды скакаў па крышцы папяроснай каробкі, нібы падганяючы яго. — Толькі я ўсё цяпер паспытаць хачу. Ад усяго лепшага хоць трошкі адкусіць, — задуменна мовіў Бахіла. — У апошнім баі зарок сабе даў — усё толькі першага гатунку, і на сына ніколі руку не падымаць, хай лепш адсохне.

Бахіла зноў засмяяўся і паглядзеў на сына. Валодзька пачырванеў і насупіўся.

— Сказаць усё можна. Усяго і не прыгадаеш… Колькі іх, зарокаў, перад боем і пасля бою было…

— Нічога. Я памятлівы. Усё ў галаве трымаю. Во…

Бахіла адно за другім пусціў тры густыя і роўныя колцы дыму:

— Калі вучыўся так дым пускаць, век таму, здаецца. А ў галаве не сцерлася. Дымім, курадымім. Майстар мне сёння падшыпнік нясе: падшабры, кажа, бабіт на ім пералівалі. Добра, зробім. А ў самога халадок па хрыбціне: калі я

апошні падшыпнік шабрыў… нічога, памяці ў галаве няма. Затое ў руках ёсць. Дымім, курадымім.

— Па метале, па рабоце і я ўсё магу, — сказаў Зміцер. — А вось дома ўсё, як першы раз у першы клас. І хочацца, і боязна. А раптам усё зноў. А сны ўсё пра тое, што рукі некалі засвоілі, пра плуг, касу ды сякеру ў руках. Прахопішся — у вушах звініць. Камарыкі ды ціша. І пашавяліцца не магу. А раптам ды ўсё парушу. За сябе дык нічога. А вось за іх, — Зміцер кіўнуў убок дзяцей. Яму стала, пэўна, зябка, ён накінуў на плечы сына воглую ад сырой гліны гімнасцёрку.

— Гэх, Лёня, і дом мы з табой адгрохаем. На вяселле бацьку запросіш?

— Гняці карчоўку, гані самагонку,— адказаў Лёнька. — Нявесту сабе я даўно ўжо прыкмеціў.

— Гэта каго ж? — здзівіўся Бахіла.

— Барсучыху, — сунуўся пад бацькаву руку Валодзька. Але дарослыя не ўспрынялі яго жарт, перавялі гаворку на работу, калодзезь.

Лёнька з Валодзькам засталіся каля бацькоў. Тыя паспрабавалі ад іх пазбавіцца, справадзіць дамоў, але калі яны заўпарціліся, асабліва не настойвалі. Дзённая гарачыня спала, як яе і не было. І толькі распалены пясок ды ўгрэтыя сонцам хаты дыхалі цёплым напамінкам былога пекла. Калодзезь струменіў прахалодай, пахам сырой гліны, як свежанінай. З боку станцыі даносіліся гукі ўсё таго шматпакутнага вальса «На сопках Маньчжурыі». І хлапчукі каля дарослых і пры справе набылі самавітасць і годнасць, дзелавіта круцілі калаўрот, падымалі, перакульвалі і высыпалі з бодні гліну. На кароткі вечаровы час цішы і супакаення забыліся нават пра сваю знаходку на чыгуначнай платформе.

Да іх няспынна падыходзілі ўсё новыя і новыя людзі. Жанчыны цікавіліся, ці хутка будзе вада. Мужчыны паважна курылі, з веданнем справы глядзелі ў цёмную зеўру правалу зруба. І пасля нехапатлівай гаворкі развітваліся. Час замёр і знік. Неўзабаве ўсіх іх паклікалі ў хаты.

Пасля вячэры маці, як заведзена, паспрабавала прымусіць Лёньку класціся спаць, і, як заведзена, ён не даўся, збег. Яшчэ не зусім змерклася. І Лёнька здалёку і адразу ўбачыў Ваську з Валодзькам. Каля іх поркаўся і Віцька. Без каскі ўжо, але усё-такі ваяўнiча наструнены, як і каля пажарнага дэпо. Засунуўшы рукі ў кішэні, пазіраючы на ўсіх спадылба, успорваючы змрок выпнутымі наперад кашчавымі ключыцамі, ён энергічна вымераў, крочыў па вуліцы. Мо не збыў яшчэ дырыжорства духавым аркестрам, а мо проста так узбуджана ўплываў на яго вечар, гучна знясільваючы строкат цыкад, пахкі да замірання сэрца палын, водар хвоі і росная жалоба пазгубленай сонцам травы.

Да цемры на вуліцы апроч сябрукоў нікога не было. Але вось ужо ноч з’ела і цені. І выйшла са свайго падворку, села на лаўку, укапаную каля плота, Вольга Бахіла. Ашчадна склала рукі на добра ўжо выпнутым жываце, напаўпрымружыла вочы, нібыта слухаючы сябе, таго, хто ў ёй быў. Падышла, прысела каля яе Барсучыха. Цяпер, не зважаючы на вечар, была яна без кіцеля, у шырокай кофце са саматканага палатна з вышытымі каўнерчыкам і рукавамі.

— Усё дуешся, кума? — прыціснулася да бока Вольгі.

З генеральскай папяроскай у зубах выйшаў на голас Іван Бахіла, сеў побач з жонкай.

— Старанны ты мужчынка, — не па-дзённаму, ціха і сарамліва засмяялася ў кулак Барсучыха.

— Трэба, — сказаў Бахіла. — Усім сёння трэба рупіцца, гэта ж зараз дзяржаўная справа.

— Якая, якая? — падлавіла, ухапілася Барсучыха за слоўца.

Жонка тыцнула мужа кулаком у бок. Ён засмяяўся, весела зацмокаў папяросай:

— Жывая гэта справа, — перагнуўся, ушчыпнуў за сцягно Барсучыху. Тая падскочыла, віскнула:

— Пры жонцы! Рукі паадбіваю. Ты сачы за ім, Вольга. Мужыкам сёння давяраць — апошняя справа...

І пайшлі, пацягнуліся на галасы людзі. Вуліца ўсё паўней абрастала народам. Так было тут кожны вечар. І ішло гэта з даваеннага жыцця, калі ў кожнага мелася свая гаспадарка, жывёла і была жывая вясковая памяць, якую яны яшчэ не паспелі збыць у наваселлі гарадскога існавання.

Даглядалі жывёліну, абапіналіся ў двары і хаце, выходзілі на вулічны прастор, рассаджваліся па лавах каля плота мужчыны, жанчыны. Спаўзалі з печ і ляжанак нягеглыя старыя бабулі і дзядулі і імкнулі да маладзейшых, сваіх жа дзяцей, нават на трох нагах, з кіёчкамі і кавенькамі.

Цяпер жа, за вайну, народ добра прарэдзіўся. Старыя амаль усе адышлі, зусім маладыя недзе яшчэ даваёўвалі па ўсякіх розных Германіях ці гібелі па вярбоўках, зараблялі грошы на лесапавалах ці іншых дзяржаўных павіннасцях. На сваю скаціну ніхто тут яшчэ не паспеў забагацець, але былой, вясковай, сялянскай завядзёнкі не рушылі. Лавы для вячорак былі ўкапаны каля плота кожнай хаты. А калі якой не было, значыцца, не было ў хаце і мужыка. Адзіночкі, удовы пазбягалі пасядзелак і вяселля каля сваіх хат. Проста цураліся і каб не было звягі.

Часцей усяго збіраліся каля хаты Івана Бахілы, таму што гаспадар граў на гармоніку. Прывёз з Нямеччыны дзіўны гэтаму краю і люду гармонік пад назвай акардэон. І ў чаканні, калі ён падасць голас, збіраліся, падыходзілі і падыходзілі ўсё новыя і новыя людзі. Старыя, дзяды нават цягнулі з хат свае ўслончыкі і табурэткі, таму што былі надта зацікаўлены пытаннем калодзезя, вады. Ведалі, канечне, на памяць пытанне. Але адна справа з чужых вуснаў, і зусім іншая — на свае вушы: трохі як бы сам удзельнічаеш у вырашэнні задачы.

— Не пайшла яшчэ? — спытаў дзед Жычка, які з’явіўся ці не апошні.

— Дваццаць метраў глыбіні ўжо, як лёду, — адказаў аматар перабольшваць Бахіла.

— Дваццаць не дваццаць, а за пятнаццаць переваліла ўжо, — паправіў яго Зміцер.

— Аднак глыбка, — паскроб бараду, а заадно і шчэцце на шыі Жычка. — Яно і лепей. Помню, у нашай вёсцы, не за нашым часам, праўда, калодзезь быў. Усе зоркі ўвабраў. Лёд каля вады ні ўзімку, ні ўлетку не сыходзіў… Такіх цяпер днём з агнём пашукаць.

— Што лепей, дзед, на зашыўку пускаць? — спытаў Зміцер.

— Яно, хлопча, як паглядзець. Дуб цяпер у павазе.

— А чым не годзіць дуб? — захваляваўся Зміцер. — Вечна ляжаць будзе.

— А гэта, хлопча, гледзячы каму які век пакладзены. На свой і нашчадкаў рабіць — бяры хвою, толькі што на пяску і сонечным прыпёку стаіць, каб смалістая была. І на маладзіку зразай. Усе дубы пераджыве. Дуб вільгаць любіць, сухменю баіцца. А хвоя, як мы тут каля дрыгвы і балота, да ўсяго прыстасоўваецца, вечная…

— Яно так, так, — згадзіўся з дзедам Зміцер. — Наша дрэва вечнае. І хвоя яно, хвоя. Што для міру, што для вайны, што…

— Вось я таму і кажу, што патрэбны дуб. Дуб! — зацвердзіў Жычка.

— Цябе на адным месцы не ўтаўчэш, дзед. То хвоя, то дуб…

— Дуб, дуб. Каб трохі больш за наш век выстойваў. Зверху зруба — хвоя. А за аснову, у ваду — дуб. У вадзе, калі не дыхае, ён пераўтвараецца ў зусім іншае дрэва. Вось яго якраз і не ўтаптаць. Бо яно здольнае перараджацца. Сапраўды ўжо вечны, як мы, здаецца, змардаваны, тручаны. А не, прыкідваецца толькі. На самай жа справе — мораны, ажыўлены нанава і да ўсяго прыдатны пры нашых добрых руках…

Мудры быў дзед Жычка. Але таго-сяго ўсё ж не ўлічваў, што і выказаў яму Бахіла:

— Дуб, дзед, дрэва дзяржаўнае. А мы ад дзяржавы адасобленыя. Хто нам дасць, хто дазволіць дуб рэзаць?

Дзед як чакаў гэтага:

— А што, на ўсё табе дазвол трэба? Так ты ўжо звык, каб табе ўсё давалі. Ні ў адной дзяржавы мужыку давалак не хопіць. Тое-сёе ўнепрыкметку і самому ўзяць трэба.

— Украсці?

— Не, ты што, я гэтага не казаў. Узяць, узяць зусім трошкі, каб знаку не было. Як вечна гэта робіцца. Сама ж дзяржава табе потым і дзякуй за гэта скажа, што дрэва гэтае не спрахла, не згніло і не згарэла.

Усё ж мудры быў дзед Жычка, з патомных, вечных палешукоў.

Недзе ў канцы вуліцы забрахалі сабакі. Праблiснуў і схаваўся каля лесу агеньчык ваўчыных вачэй, нібы хтосьці ў хмызах пстрыкнуў, уключыў і патушыў ліхтарык.

— І людзей не баяцца, — уздыхнула, прыціснулася да плота Пабягушка. Месца на лаўцы ёй не хапіла, і яна сядзела на зямлі, маленькая, нібы дзяўчынка. Галава схілена да каленяў, спадніца хавае босыя ногі:

— А зімой што будзе, як жывёлу будзем берагчы?

— У каго, баба Ганна, жывёла тая ёсць, — азвалася Змітрачыха.

— А Гітлер табе не скаціна, — падначыў яе Бахіла. — Ад старога пеўня ды сабакі, ведаеш, дух які. Духам, смуродам толькі на старасці і заманьвае.

— Няма сёння жывёлы, дык заўтра будзе, — прапусціла міма вушэй Пабягушка кпіны Бахілы. Яна ўвогуле ўспрымала яго не надта сур'ёзна, хаця і пабойвалася яго языка, — да таго ўсё ідзе. Хлявы пустыя, але цэлыя. А спраўны гаспадар не трывае, каб хоць што-небудзь пуставала.

— Я неяк праходзіў з касой па былым сенакосам, — пачаў Жычка, — трава вышэй пояса. Перастойвае ўжо. Па-добрым, цяпер бы атаву браць. Сваю дзялянку спляжыў. На той год сама трава будзе. А то зусім нанет лугі сыходзяць. Мо каму сена на матрацы трэба, зграбайце, гніе.

— Грыбоў не бачыў яшчэ, дзед? — спытала Барсучыха.

— Не будзе па такім годзе грыбоў. Нешта адбылося з лесам. Вайны яшчэ, пэўна, баяцца грыбы, пахаваліся, як на той свет пайшлі грыбніцы. Людзі ўжо акрыялі, а ў лесу даўжэйшая памяць, больш напужаная.

— Ды і чалавек яшчэ не надта адышоў, пужаны-перапужаны, — пазяхнула Пабягушка, перахрысціла рот: стамілася, набегалася.

— Якое там пужаны, — адмахнуўся Жычка. — Усё ж, што прыдбалі, потам і кроўю нажывалі — усё прахам пайшло. Ну, думаў, кончыцца вайна, будуць жыць: паесці і паспаць, на сябе што накінуць. Такое перабедавалі. Не, куды там, — усё на заўтра, на наступны дзень, якая б капейчына не завялася. А каб на вас пранцы, збіраюць, збіваюць рублі, запасяць, абзаводзяцца. Усё нанава ды спачатку, як нічога і не было.

— Карову пад восень куплю, — сказаў Бахіла. — Разродзіцца, апрастаецца, а з бабы пасля такой вайны якое малако.

— Хоць раз праўду сказаў, — адазвалася Пабягушка. — Няма ўва мне малака. Ніякага з мяне навару…

Пасмяяліся, аціхлі, памаўчалі. У балоце завёўся. Прабег бежкі па вуліцы хуценькі ветрык. Напалохаў, а мо і асвяжыў стоеную пад плотам каля людзей жабу. І яна нячутна знялася з месца, цяжка ўпала ў прыскавы пясок пасярод вуліцы, які прыйшоўся ёй не даспадобы — апёк, пэўна. І жаба паскакала на абочыну, у траву.

— Акардэон бы, — ціха мовіла Барсучыха.

Валодзька ўжо ў непрагляднасці ночы адшукаў Лёньку і пацёг за сабой.

— Чаго, куды, — здзівіўся той. — Зараз музыка будзе.

— Ты што, забыў?

— Не, толькі, можа, не трэба.

Валодзька зрабіў сябру падножку. Лёнька ўстояў. Валодзька раззлаваўся:

— Вечна ў цябе «можа». Можа не дапаможа, калі сам не возмешся.

— Ну і бярыся. Ідзі адзін.

— Баішся? Ваўкоў напалохаўся?

— Няхай малыя ў вайну гуляюць, — памяркоўна мовіў Лёнька.

— Баішся!

— А, чорт з табой. Пайшлі.

Выкралі ў цемры Ваську, утрох пабеглі да балотца. Там было вусцішна, вільготна і страшна. Валодзька ішоў наперадзе, першым, толькі быў надта гаваркі. Гаварыў абы-што, што ў галаву прыходзіла і трапляла на язык. Сірэну знайшлі адразу. Прынеслі і паклалі на гліну каля калодзезя і зноў пайшлі да дарослых. Там ужо Бахіла граў на акардэоне, усё той жа неўміручы сёння вальс «На сопках Маньчжурыі», потым, праўда, «Амурскія хвалі».

— Валодзька, Валодзька! — закрычала ўжо з падворку маці Валодзькі.

Акардэон замоўк.

— Няхай пабегае, пабесіцца, мацней спаць будзе, — сказаў акардэаніст і чыркнуў запалкай, прыкурыў.

Не зважаючы на маўчанне акардэона, танцы не спыняліся. Хтосьці біў у невядома адкуль і кім прынесены бубен, хтосьці выстукваў на драўляных лыжках, брынкала і дзынкала закладзеная ў расчоску папяросная паперка, дрыжэла пад напалам паветра з умелых вуснаў. З-за лесу выкаціўся месяц, выкрыў вялізны шэры клуб пылу, рухомыя больш белыя жаночыя ногі ў гэтым клубе. Барсучыха звонкім голасам спявала пахабныя прыпеўкі.

Сябрукі паспрабавалі ўшчаміцца ў шчытнае кола танцораў. Але Лёньку адразу абтапталі абедзве нагі, Валодзьку адвесілі гучнага шчалбана, Ваську ж проста запіхалі. І яны рашылі марна не траціць часу.

— Чакайце мяне тут, — шапнуў хаўруснікам Валодзька і пабег на свой падворак. З’явіўся з вяроўкай у руках:

— Адным канцом прывяжам яе да лаўкі, — давячыся смехам, тлумачыў ён. — Перапусцім праз вуліцу і хуценька нацягнем, напнём. Усе танцоры будуць улёжку на зямлі. Будзе куча мала…

Так яны і зрабілі. Атрымалася куча вяліка.

— Вой-вой, адарвеш, мядзведзь... Радзіць задумаю, чым карміць буду, — скрозь рогат задаволена стагнала Барсучыха.

— А гэта я. Мяне навошта, вох, навошта, — вохкала Пабягушка, між іншым, таксама не без задавальнення.

— Валодзька, гадзік, — падымаючыся з зямлі, параготваў Бахіла. — Аблезуць вушы. Аблезуць, толькі пачакай.

Хлопцы былі ўжо далёка ад вывалу дарослых, у полі, але ўсё чулі. Уначы галасы былі гучныя. Свавольства і смех распіралі іх, амаль абязважвалі. Добры подых ветру, і яны, здаецца, паляцелі б, залуналі анёламі. Такая ў іх была прага ашчасліваць гэту ноч, зямлю, сваю вуліцу і ўсіх дарослых яе жыхароў, множыць і множыць радасць і вяселле. І гэта было яшчэ наперадзе ў іх.

— Пара, — гучна загадаў Лёнька і зноў даў падножку Валодзьку. Ён упаў, але паспеў абаперціся і пацягнуць за сабой Ваську, той жа зачапіўся ўжо за Лёньку. І ўсе трое яны распаўзліся па ломкім сухім палынніку і ваўчкоўніку, лятуча пыльным, ад чаго перасядала ў горле, чхалася.

Здаецца, тое ж адбывалася і з ноччу, ёй заклала горла і здушыла ўсе гукі, чуўся толькі адасоблены ад зямлі і неба, усяго існага самазабыўны і самазадаволены строкат неіснавальных, але адначасова існавальных паўсюдна цыкад. Строкат хмяльны, заклікальны. І хлопцы навыперадкі кінуліся да калодзезя. За імі ўвязаўся Віцька-дурань, невядома адкуль і з'явіўся, як нехта навёў.

— Ідзі спаць, — папытаўся адбіцца ад яго Васька. Але Віцька не адстаў. Вырашылі не настойваць: з ім нават больш цікава.

Сірэна ад гліны была трохі спатнелай, халаднаватай і слізкай.

— Будуць ведаць, як з нас здзекавацца, — сказаў Васька.

— Як жа, навучыш іх… Яны ўжо непадатныя да нашай вучобы. — Лёнька падхапіў сірэну і пабег з ёй па вуліцы. Валодзька дагнаў яго, забраў сірэну сабе.

— Я сам, — прашаптаў ён. — Ты не здолееш…

Танцы ўжо кончыліся. Позна было ўжо. Замоўклі і цыкады, пэўна, ацяжэлі ад расы і страцілі голас, ахрыплі. Успыхвалі і адразу ж тухлі вокны. Да плоту цісануліся парачкі. Месяц стаяў акурат над дарогай, як некуды хадзіў па ёй. Доўга хадзіў па дарозе, ад яго святла яна пасівела.

— Давай, — з прыдыханнем прашаптаў Лёнька.

— Давай, давай, давай, — панура і ўзбуджана гугнявіў Віцька-дурань. Валодзька ўсім целам налёг на ручку. Сірэну, пэўна, зусім нядаўна змазвалі, была яна ў справе, у рабоце. Ручка пайшла лёгка. Скрыгатлівае, раздзіраючае наваколле скавытанне панеслася ўздоўж вуліцы, ад хаты да хаты. Лёнька ад нечаканасці прысеў, Валодзька заплюшчыў вочы і з усяе моцы націснуў на ручку, ад страху. У хатах загрукалі дзверы, пачуўся звон разбітага шкла. На станцыі ўспыхнулі, зашнарылі па перадсвітальным ужо небе яшчэ не знятыя, хаця і невядома дзе схаваныя пражэктары.

— Давай, давай, — раз'юшана, як не пры памяці крычаў Віцька-дурань.

— Не трэба, не трэба, — залямантаваў Лёнька.

Але Валодзька ўжо нічога і нікога не чуў. Ён зжыўся, паяднаўся з ручкай і быў няздольны адпусціць яе. Лёнька далонямі закрыў вушы. Але гэта не дапамагло. Адасабляючы зрок, слых і цела гук быў ужо ў ім самім. І Лёнька не вытрымаў, пабег неверагодна хутка, па-заечы нізка ўгнуўшыся да зямлі. Спатыкнуўся, упаў, тыцнуўся тварам у пясок. Нехта спатыкнуўся аб яго, плюхнуўся побач. Ён падняў галаву. Гэта была Пабягушка з пеўнем у руках. Перакулілася праз галаву, выпусціла з рук пеўня і папаўзла. Але на адным месцы, не пускала спадніца. Пабягушка перабірала ў ёй каленямі і нікуды не краталася. Певень дзыбата падняўся і раскрыў дзюбу, пэўна, закукарэкаў, але бязгучна і таму вельмі страшна, жудасна.

А Валодзька тым часам хістаўся з боку ў бок і ўсё наярваў і наярваў, круціў ручку сірэны. І яе настырны і ўладны голас падымаў, выкідваў з хат, гнаў

у сцёбкі і паграбы, у лес усё новых і новых людзей. У лесе, у ваенным гарадку ўзняліся, успаролі неба ракеты. І пры іх святле выразна быў відаць спалатнелы, з заплюшчанымі вачыма, але зусім разумны, асэнсаваны, хаця і напружаны твар Віцькі-дурня. Недзе ўкалоў паветра стрэл. Віцька адплюшчыў вочы і ў неверагодным скачку абрынуўся на Валодзьку. Сірэна замоўкла, але панёсся нялюдскай моцы крык Віцькі-дурня. Мо ён крычаў і раней, ды ніхто з-за сірэны яго крыку не чуў.

Віцька аберуч абхапіў Валодзькаву галаву і, працягваючы лямантаваць, біў ёю аб сірэну. Валодзька маўчаў. Але на голас, узняты Віцькам, спяшаліся людзі з факеламі. Апярэдзіў усіх Лёнькаў бацька. Лоб яго над правым брывом быў рассечаны, вока залівала кроў. Ён, пэўна, прымаў яе за пот, змахваў даланёй, твар быў у крыві. У крыві быў ужо і Валодзькаў твар, бо Віцька не мог ніяк спыніцца, біў яго галавой па сірэне. Зміцер паспрабаваў разняць Віцькавы рукі, не здолеў, не хапіла сілы. Тады ён з пляча секануў Віцьку па яго акрываўленых руках, Віцька асунуўся і абмяк. Людзі, што паспелі набегчы, расцягнулі хлапчукоў.

Каля іх сабралася амаль уся ўскраінная вуліца. Апошнім з’явіўся Бахіла, Валодзькаў бацька. Ішоў няроўна, як п’яны, спатыкаўся, хаця глядзеў сабе пад ногі.

— Дапамажыце, Вольга раджае… — гэта былі адзіныя пачутыя ад яго словы. Сына, што ляжаў на зямлі, ён, пэўна, і не прыкмеціў. Валодзька падняў галаву, хацеў нешта сказаць бацьку, але ці то не наважыўся, ці то не змог, пазіраў на яго і маўчаў.

Маўчалі і людзі, і праз гэта маўчанне здалёк быў чутны падвоены, несуцешны плач Лёнькі і Ваські. Яны і самі не ведалі, чаму плачуць. Але не ад болю, не ад страху перад пакараннем. І маці абодвух няздольны былі іх суцешыць.



**Мікола МАЛЯЎКА**

# КАЛІ ДУША Ў ЦЯБЕ ЖЫВАЯ...

## ГАВОРАЦЬ, БОГ СПУСКАЕЦЦА З НЯБЁС

Гавораць, Бог спускаецца з нябёс
І ходзіць па зямных шляхах-дарогах —
У вобразе вандроўніка старога.
Ён сведка нашых клопатаў і слёз,
Ён асвячае чалавечы лёс.
Спыняецца ля кожнага парога,
А мы яго такога вось, зямнога,
Адпрэчваем у спёку і мароз.

На сцежцы палявой, на тратуары
Я ўглядаюся заўжды ў людскія твары.
Пастукаюць у дзверы — дам начлег,
І адару і ласкаю, і хлебам,
Каб над душою не ўладарыў грэх,
Калі партрэт мой апаўецца крэпам.

---

*__Маляўка Мікалай Аляксандравіч__ нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавяскоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душой» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы і сосны…» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011), «Беражыце шыпшыну» (2013) і інш., кніг вершаў і казак для дзяцей «Дзед і ўнучка» (1983), «Салодкі лядзяш» (1986), «Як дом будавалі» (1987), «Дзе жывуць казкі» (1994), «Запрашаем на калядкі» (1998), «Папялушка» (2000), «Пачынайце дзень з усмешкі» (2013) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

## СПЛЫВАЕ З ЛЁГКІМ ВЕТРЫКАМ ДЫМОК

Сплывае з лёгкім ветрыкам дымок.
Гляджу на захад, дзе садзіцца сонца,
Як прысак, цьмеюць хмарак валаконцы.
За кругам вогнішча гусцее змрок —
І цела працінае халадок:
Без сонца чалавек безабаронны,
А свет прыроды адчужэла-сонны, —
Ладкуйся нанач, стомлены хадок.

Садзіцца сонца, засмуціўшы неба,
Ды адпачыць яму таксама трэба.
Заранка мне ўсміхаецца здаля,
І слухаю, галубячы заранку,
Як салаўіным голасам зямля
Спявае сонцу ў небе калыханку.

## БУСЕЛ МОКНЕ

Бусел мокне, апусціўшы дзюбу,
Як скульптурка, зробленая з дубу.

Дождж без бліскавіц і грому, ціхі,
Дзеці спяць пад крыламі busліхі.

На адной назе-тычынцы строма
Ён стаіць, стары ахоўнік дома.

Засціць змрок дрымоты павалока,
А да раніцы — яшчэ далёка.

Я пад дахам спагадаю ўнізе,
Хоць з плашчом да птаха падніміся, —
Каб накрыўся з галавой нябога
Ад макроты і дажджу начнога.

## ДАРУЙЦЕ, НЕПРАЧЫТАНЫЯ КНІГІ

Хапае людзям, бачу, і газет.
А я чытач, і на зыходзе веку
Заглядваю ў сваю бібліятэку,
Як у чароўны, невядомы свет:
Тут дух сучаснасці і продкаў след,
Натхнення плён і збажыны засекі,
Лясы шумяць, лагодзяць вока рэкі, —
Уся зямля, ад плуга да ракет.

Даруйце, непрачытаныя кнігі,
Што не паспеў дайсці да вас я, ціхі.
І вы даруйце мне, героі кніг —
Юнацтва цвет і мудрацы старыя, —
Не ўбачыў вас сярод сяброў сваіх,
Спрыяйце тым, хто заўтра вас адкрые.

## СТРАКАЗА

Яна ў палёце трапятала,
Трымцела на лістку лазы.
І ты з усмешкаю спытала:
«Якія вочы ў стракаізы?»
Адкрасавала лета міла,
Дыхнуў марозным ветрам час —
Жыццё ўсе колеры зацьміла
І развяло ў дарозе нас.

Гляджу на страказу ў палёце,
І свет туманіцца ў журбе:
Не ўспомніў на лірычнай ноце,
Якія вочы… у цябе.

## У СНЕ ДУША АДПАЧЫВАЕ

У сне душа адпачывае,
Калі сыходзіш з цягніка —
І клопат гарадскі змывае
Лагоднай хваляю
Рака.

У сне душа адпачывае,
Калі, забегшы ціха ў сон,
Вядзе сцяжынка палявая
У жыта,
У блакітны лён.

У сне душа адпачывае,
Калі падыме кроны бор —
І песню родную спявае
І дрэў, і птушак
Зводны хор.

У сне душа адпачывае,
Пералжагнуўшыся спярша,
Калі душа ў цябе жывая
І не грашыла ўдзень
Душа.

## ТЫ ВЫЙШЛА З ЦЕНЮ...

***Веры***

Ты выйшла з ценю, быццам змыла грым.
О, як святло мяняе выраз твару,
Пяшчоты белізну, смугу загару!
Свая — і незнаёмая зусім,
Нібы за мілым вобразам тваім
Убачыў тую, з маладосці, мару.
Так неба, прызямліўшы ліўнем хмару,
Аж вочы слепіць сонцам залатым.

Баюся затуманіць і дыханнем
Тваёй асенняй прыгажосці ззянне.
Святло і цень на кожны новы штрых
Кладуцца падфарбоўкай нечаканай, —
І маладзееш сам у міг,
Каб стаць шчаслівым у вачах каханай.

## ЗА ЖЫТНІМ ПОЛЕМ — ЛЕС СІНЕЕ

За жытнім полем — лес сінее.
Здаецца, гледзячы здаля,
Што недзе там злілася з небам —
І стала космасам зямля.

Як арка перад раем вечным,
Вясёлка ззяе ў сіняве.
Туды сыходзім Шляхам Млечным.
Там продкі ўсе. Там Бог жыве.

Там падарожнікаў не слепяць
Імжа і спёка, пот і пыл,
І толькі воблачка, як лебедзь,
Плыве за мройны небасхіл.

Чаму ж адтуль, нібы з няволі,
Душа вяртаецца назад —
Сюды, дзе жыта спее ў полі
І зелянее родны сад?..



Наталля ТУМІЛОВІЧ

# У КОЖНАЙ СЯСТРЫЦЫ СВАЕ ТАЯМНІЦЫ...

*Апавяданне ў маналогах і не толькі...*

## Наш час. Надзея

Усе мы былі вельмі розныя.

Мама — смелая і адчайная, ганарлівая і злёгку напышлівая, як лічылі амаль усе. Сапраўдная полька.

Уля — ціхая, сціплая, сарамлівая і маўклівая. Яна рэдка ўсміхалася ў маладосці, а пасля Валодзевай смерці перастала ўсміхацца назаўжды.

Каця — у адрозненне ад мяне, упартая ў працы, разважлівая і спакойная.

Нюра... Нюра, малодшая, больш за ўсіх з нас была падобная на маму. Але я не любіла яе зусім не з-за дзіцячай рэўнасці ці жаночай зайздрасці. Ды і наогул — хіба можна сказаць, што я яе не любіла?

Напэўна, усё ж такі можна.

Я — дзіўна, сябе апісаць складаней за ўсё. Што сказалі б пра мяне астатнія жанчыны нашага роду?

Надзя — Надзю нішто не можа зламаць, яна любіць жыццё і ўсміхаецца. Нават скрозь слёзы яна ўмее ўсміхацца.

Мабыць, так і ёсць. Я любіла жыццё ўсе гэтыя доўгія дзевяноста з лішнім гадоў, колькі жыву на зямлі.

Можа быць, таму я і засталася самай апошняй з усіх сясцёр, што любіла жыццё.

Але была яшчэ Альжбета, пятая з нас. Дакладней — першая. Яна адзіная ў нашай беларускай сям'і мела польскае імя.

А як жа мама, скажаце вы, сапраўдная полька?.. Маму нашу клікалі Марыяй. А тата — Іван. Іван ды Мар'я.

Тата быў з суседняй вёскі, і дзе яны пазнаёміліся і як палюбілі адно аднаго — мама не расказвала. Ведаю толькі, што яна да яго збегла. Таму што бацькі не хацелі аддаваць яе замуж за праваслаўнага. І тады яна сабрала вузельчык і збегла. Не ведаю, дзе яны бралі шлюб і як. Мы ўсе былі ахрышчаныя ў

---

*Тумiловiч (Саянава) Наталля Вячаславаўна нарадзiлася 24 чэрвеня 1981 г. у г. Барысаве Мiнскай вобл. Скончыла факультэт журналiстыкi Беларускага дзяржаўнага ўнiверсiтэта (2003), працуе там жа.*

*Апавяданнi друкавалiся ў часопiсе «Маладосць» і калектыўным зборнiку «Пакуль б'ецца сэрца» (2013).*

праваслаўную веру. Толькі мама ўсё жыццё чытала па-польску малітвы і, калі хрысцілася, вадзіла рукой злева направа.

А тата... тату я памятаю цьмяна. Не тое каб не памятаю зусім, усё ж такі мне было ўжо трынаццаць, калі яго не стала. Але гэта было — восемдзесят гадоў таму. Вы можаце сабе ўявіць, што такое — восемдзесят гадоў? Іншыя столькі не жывуць.

І тата не пражыў. Яму было пяцьдзясят чатыры, як памёр. Памёр ён даўно, яшчэ да першай вайны, доўга хварэў на «сухоты», як цяпер кажуць, на туберкулёз. Напэўна, калі б тата дажыў да рэвалюцыі, ён таксама даведаўся б такое слова. Ён быў вучоны, пісьменны. Вяскоўцы хадзілі да яго, калі трэба было напісаць куды ліст ці якую просьбу.

Тата стаў бы настаўнікам. Але ён не дажыў да рэвалюцыі. Ён нават да першай вайны не дажыў, памёр у студзені чатырнаццатага года.

Потым, праз дваццаць з лішнім гадоў, ад гэтай жа хваробы памерла Каця. Лекары, вядома, ужо былі, у суседняй вёсцы адкрылі фельчарскі пункт. Але лекары сказалі — трэба класціся ў бальніцу. А ў Каці было трое дзяцей, самай маленькай, Ніначцы, яшчэ двух гадоў не споўнілася. І Каця сказала, што будзе лячыцца сама.

Але гэта было пазней ужо, праз шмат, шмат гадоў.

А калі тата памёр — у мамы на руках нас засталося чацвёра. І… недабудаваны дом.

Так, чацвёра, я не блытаюся ў памяці на старасці гадоў. Ужо чым-чым, а памяццю я магу пахваліцца. Мне даводзіцца памятаць за ўсіх. Іх — там — ужо значна больш, чым застаецца тут. Тыя, хто тут, даўно выраслі, з'ехалі, разляцеліся хто куды, нарадзілі дзяцей, а дзеці сваіх дзяцей... усё ж, нягледзячы ні на што, мы перамаглі і перамагаем нягоды жыцця...

Як скачуць думкі — не ў ліхаманкавым забыцці, ад чарговага прыступу болю. Ужо колькі мне будуць калоць гэтыя ўколы, як быццам гэтым можна нешта змяніць...

Я стамілася жыць. Я занадта даўно жыву на гэтым свеце. Мне не страшна сыходзіць. Мне толькі шкада, што я не дажыву да лета. Кожны год, нават калі была вайна, калі паміралі ўсе, каго я любіла, і тыя, хто любіў мяне, — у чэрвені я бегала ў лес, туды, дзе пунсавелі суніцы. І квітнеючая палянка, на якой яны раслі, нібы адраджала нешта незвычайнае ўва мне самой. Можа, таму я і пратрымалася так доўга.

Каця лес не любіла. Яна яго баялася. Баялася заблудзіць, і гадзюк баялася. І ў ягады хадзіць не вельмі любіла. А вось у полі — тут ёй было раздолле, усю працу палявую яна гатова была рабіць за ўсіх нас, мы заўсёды клікалі яе на дапамогу.

Уля была наша, вясковая, але яна даўно, занадта даўно з'ехала. Пасля вайны яе сын, ажаніўшыся, забраў маці ў горад, і нават пасля яго, Валодзевай, гібелі яна ўжо не вярнулася сюды, дзе нарадзілася.

Нюра... Калі мы разышліся назаўжды, нам было амаль па сорак гадоў, лічы, на сярэдзіне жыцця. Але тая Нюра, якую я памятаю з дзяцінства... ці была яна сапраўднай?..

Чаму мяне так цягне на думкі аб далёкім мінулым? Усё гэта даўно ўжо быллём парасло, нікога з іх няма, а хутка, мабыць, не стане і мяне. Можа, таму мне ўсё часцей успамінаецца ўсё даўняе, тады яно ярка-ярка ажывае ў маёй душы...

## Наш час, крыху раней. Нюра

Зараз на свеце мы засталіся толькі ўдзвюх. Самая малодшая з сясцёр, я была зусім някемлівай, пакуль была жывая Альжбета, і не памятаю ні яе саму, ні як яна памерла. Памятаю толькі тое, што пазней распавядала мама. Нас заўсёды было чацвёра. Каця, Уля, Надзя і я. Дзіўна, у такім парадку, як мы нараджаліся, адна за адной, так і пачалі паміраць. Ці значыць гэта, што я застануся самай апошняй з усіх? Магчыма, гэта было б лагічна, раз ужо я нарадзілася пазней за астатніх.

Але пакуль што нас засталося двое. Праўда, гэта нічога не мяняе. Хіба што з Улінай смерцю перарываецца тая апошняя нітачка, што звязвала мяне з маёй сям'ёй… Але, калісьці і ў мяне была сям'я. Мы былі дружныя ў дзяцінстве, вельмі сябравалі, нягледзячы на розніцу ва ўзросце. А розніца была між намі вялікая, бо Каця была старэйшая за мяне амаль на пятнаццаць гадоў. І ўсё ж такі маё дзяцінства ўспамінаецца мне шчаслівым — можа, як і кожнай з нас, нягледзячы на тое, што тата памёр вельмі рана. Некалі мы, сёстры, былі разам. А потым разышліся. Чаму?.. Я нават не магу зразумець, як, дзе і калі адбыўся той злом, што аддаліў нас адну ад адной. Калі б я ведала сваіх сясцёр крыху горш, вырашыла б, што яны, асабліва Надзя, мне зайздросцяць. Але ўжо калі каго з нас і можна было б абвінаваціць у зайздрасці, то менш за ўсё менавіта яе.

Ды і ўласна, чаму асабліваму яны маглі зайздросціць? Хіба што я змагла выйсці замуж другі раз, пасля вайны, калі ў вёсках і мужыкоў амаль не засталося. Але якая ў тым мая заслуга? І хіба Андрэй любіў Улю, а Васіль — Надзю менш, чым любіў мяне мой першы, Сцяпан? Часам, нават праз столькі гадоў, я сумняваюся ў тым, што ён любіў мяне наогул. Чаму ён ажаніўся са мной? Чаму Антон, мой другі муж, абраў мяне, удаву з дзвюма дочкамі? Можа, пашкадаваў, што я, у адрозненне ад мясцовых жанчын, прыехала на пустое месца, вярнуўшыся пасля вайны з літоўскай вёскі, куды адправілі Сцяпана ў трыццаць дзявятым годзе ствараць калгас. У яго атрымалася, занадта добра атрымалася зрабіць гэта ў нас, тут, вось яго і паслалі перадаваць вопыт далей. Праўда, вопыту хапіла ненадоўга: Сцяпана забілі ў саракавым, яшчэ да прыходу немцаў. І ўсе гады вайны мне давялося выжываць у чужой вёсцы, дзе да нас амаль усе ставіліся насцярожана. Тут, пры фашыстах, людзі хаця б дапамагалі адзін аднаму, усе свае, суседзі, радня, сяброўкі дзяцінства. А там — чужая мова, падазроныя погляды, памяць пра круты нораў Сцяпана, які яго і давёў да бандыцкай кулі. І гэта не лічачы, што баялася, загоняць у Нямеччыну, а на руках дзве дзяўчынкі — шасці і чатырох гадоў. Тут за імі мама магла глядзець, або Уля ці Надзя — хоць мы перад маім ад'ездам ужо рэдка сустракаліся, але ведаю, маіх дзяцей ніхто не кінуў бы.

Так, я вярнулася ў нікуды. Мне пашанцавала, што Антон мяне прытуліў. Двое маіх дзяцей памерлі зусім маленькімі, а тыя, што выжылі — дасць бог, перажывуць мяне, як гэта і павінна быць. Але хіба ёсць мая віна ў тым, што Уля страціла свайго старэйшага, адзінага сына Валодзю, калі яму не споўнілася і трыццаці? Хіба я не гатова была прымірыцца з Надзяй, не раз і не два прыходзіла да яе, і тады, адразу пасля вайны, і потым, калі загінуў яе старэйшы сын Іван? Толькі я не разумела яе так, як магла б зразумець Уля. Так, я спачувала і спачуваю ёй і калі б у маіх сілах было дапамагчы — я б зрабіла ўсё.

Але ёй не патрэбна мая дапамога. Ёй не патрэбны грошы, якія я магла б пазычыць, падарункі, дапамога Антона і суцяшэнне, якое можа даць толькі

размова з родным чалавекам. Ёй не трэба было ўсё гэта доўгія трыццаць з нечым гадоў пасля вайны. Чаму я вырашыла, што пасля Улінай смерці нешта зможа змяніцца?

## Пасля вайны. Ульяна

Я не паслухалася маму ўсяго адзін раз у жыцці. Ні да гэтага, ні пасля я не смела ёй пярэчыць. Але і аднаго гэтага разу аказалася дастаткова, каб нашы з ёй адносіны сапсаваліся назаўжды. Падумаць толькі, што пасля гэтага нам давялося жыць разам з ёю — менавіта мне, не Каці, не Нюры, якую яна любіла больш, чым астатніх дачок — яшчэ доўгіх трыццаць гадоў.

У той вечар я адмовілася ад вячэры і сышла з дому. Калі б можна было проста схавацца на печ, забыцца, уявіць, што прыйдзе тата і ўсё вырашыць, таму што ён быў адзіным чалавекам, якога мама слухалася! Дзіўна, бо ён быў такім мяккім, у адрозненне ад яе. Усе мы, усе яе дочкі, акрамя малодшай, Нюры, і амаль усе яе ўнукі, акрамя маёй малодшай, Мані, нездарма назвалі яе ў гонар бабулі — былі падобныя па характары на свайго бацьку.

Чаму былі — ды таму што некаторых з нас, тых, пра каго я кажу, нашчадкаў Івана ды Мар'і, ужо няма ў жывых. Няма Каці, няма Альжбеты. Альжбета памерла самай першай, нават раней за тату. Ёй было васямнаццаць. А мне споўнілася тады ўсяго дзесяць, але я да гэтага часу памятаю, якія тонкія былі ў яе запясці, пышныя валасы і дзіўна блакітныя, ярчэй, чым неба і вада ў нашым возеры, вочы. А як яна ўсміхалася! Нічога дзіўнага, што гэты суседскі Дзям'ян быў гатовы на што заўгодна, толькі б стаць яе мужам. Ён жа Альжбеце не падабаўся. Не таму што ёй падабаўся хтосьці іншы — напэўна, яе час яшчэ не прыйшоў. Але пасля таго, як ён выпадкова напалохаў яе, пастукаўшы ў акно ў прыцемках, час кахання для маёй старэйшай сястры так і не настаў. Альжбета памерла ад спалоху, амаль гэтак жа, як праз сорак гадоў памрэ ад спалоху мая дачка Галя.

Так, я пахавала сваю дачушку. І двух сыноў. Паўлік быў зусім маленькі, тры гадкі, і часта я нават, прабач, Госпадзі, мяне, грэшную, забываю аб тым, што ў мяне быў не адзін, а два сыны. Бо быў яшчэ і Паўлік... Хоць калі ўжо гаварыць пра дзяцей, была яшчэ дзяўчынка, мы нават не прыдумалі ёй імя, яна памерла адразу пасля маіх першых родаў. Я вельмі баялася, што ў мяне больш не можа быць дзяцей, але потым нарадзіліся Валодзя, Насця, Паўлік, Галя і Маня.

Валодзю, Паўліка і Галю я перажыла.

Як дзіўна, як страшна перажыць сваіх уласных дзяцей. Чаму нават гэтая, агульная на нас усіх, акрамя Каці, трагедыя не зблізіла нас — маму і ўсіх яе дачок? Надзя пахавала Івана, Нюрыны двое дзетак памерлі зусім маленькімі, але яна таксама пазнала самае вялікае гора для жанчыны, для маці.

Да таго ж, усе мы засталіся ўдовамі, і ў кожнай — некалькі дзяцей на руках.

Але гэта не аб'яднала нас, на жаль...

Можа быць, больш шчаслівай з нас усіх была менавіта Каця. Праўда, заплаціла яна за гэта сіроцтвам сваіх дзяцей: яна памерла на трыццаць пятым годзе жыцця.

У той вечар я пайшла менавіта да Каці. Яна ўжо некалькі гадоў была замужам у суседняй вёсцы, і я ведала, што сястра мяне не прагоніць, выслухае, як

бы занятая ні была. Ды і мама не стане лаяцца, даведаўшыся, што я пайшла менавіта да Каці. З тых часоў, як я стала сустракацца з Андрэем, яна знаходзіла мне ўсялякую хатнюю працу, каб толькі не адпускаць на вячоркі.

Чаму яна адразу не палюбіла майго будучага мужа, да гэтага часу не магу сказаць. Так, потым ён прыйшоў да нас у дом, недабудаваны татам, замест таго каб забраць мяне да сябе. Але там, на іх хутары, і без таго было цесна — трое яго братоў з сем'ямі. І неразумна было б пачынаць будаваць сваю хату ў той час, калі трэба было яшчэ дапамагчы маёй маме паставіць на ногі Надзю і Нюру. Менавіта так мы з ім разважалі першыя гады пасля жаніцьбы.

А потым усё роўна ўсё гэта дабро пайшло ў калгас. Калгас, які Андрэй так і не прыняў...

Да мамы ён заўсёды ставіўся з павагай і дапамагаў ёй усім, чым толькі мог. Але ўсё-такі яна яго не любіла. Зрэшты, дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што яна да ўсіх сваіх зяцёў ставілася без асаблівай цеплыні. Хіба што да Нюрынага першага мужа была крыху менш абыякавая. Можа, яна лічыла, што яе дочкам павінна было дастацца нешта лепшае? А што ўзамен на гэтае лепшае маглі прапанаваць усе мы — акрамя сваёй прыгажосці і працавітасці? Хіба што цярпенне і ўменне шкадаваць.

Але Андрэя мама так і не прыняла. Гэта і быў адзіны раз, калі я паўстала супраць яе волі. Я сказала, што выйду замуж толькі за яго. Інакш са мной рана ці позна здарыцца тое ж, што з Альжбетай.

Можа, яна так і не здолела дараваць, што ён аказаўся мацнейшы, што для мяне яго каханне даражэй, чым маміна слова.

Аднак ёй прыйшлося змірыцца з маім рашэннем, адзіным прынятым мною самастойна за ўсё маё жыццё. І мы сталі мужам і жонкай. І Андрэй прыйшоў жыць да сваёй цешчы, якая была настроена супраць яго.

Ён, разам са сваімі бацькам і братамі, дабудаваў нашу хату. Да вайны гэта быў, мабыць, самы прыгожы дом ва ўсёй вёсцы, прынамсі, мне заўсёды здавалася менавіта так. З гэтага новенькага дома, які яшчэ пах свежым дрэвам, мы выдалі замуж Надзю і Нюру. Тут я нарадзіла Валодзю і ўсіх маіх астатніх дзяцей.

Тут я была шчаслівая, нягледзячы ні на што, нягледзячы на ўтоеныя ад староннiх вачэй часта маўклівыя сваркі з мамай, нягледзячы на смерць сваіх дзетак. Тут, да вайны, памерлі толькі малюткі, Паўлік і тая, першая мая дачушка.

А некалі ж у маім жыцці быў час, калі і я была вельмі, вельмі шчаслівая.

А потым пачалася калектывізацыя.

## Да вайны. Кацярына

Калісьці даўней, калі чалавек быў пры смерці, абавязкова клікалі бацюшку для споведзі, і лічылася вялікім грахом не пакаяцца ў сваіх грахах на парозе перад невядомым. Я памятаю, як паміраў тата і ў дом прывезлі святара з суседняй вёскі, і калі хварэла Альжбета, таксама. Толькі дзецям, лічыцца, каяцца яшчэ няма ў чым.

А зрэшты, нават калі б свет заставаўся ранейшым і можна было паклікаць бацюшку, хіба б я расказала яму тую праўду, што ляжыць у мяне на сэрцы? Навошта? Бо калі ў чым мая віна і ёсць, то толькі ў тым, што я імкнулася схаваць праўду. Нікому яна не прынесла б заспакаення, а зрабіць ворагамі ўсіх нас было б так проста.

Так што хай ужо гэтая праўда, якую ведаем толькі мы, Надзя і я, застанецца з намі. І калі аб чым я прашу Цябе, Госпадзі, дык гэта аб тым, каб мае дзеткі былі шчаслівыя і аб тым, каб у яе хапіла цярпення і мудрасці назаўжды забыцца пра тое, што распавяла яна мне некалькі тыдняў таму.

У яе атрымаецца. Надзя добрая і цярплівая. Калі самая паслухмяная з нас усіх — гэта Уля (яе непакорлівасці хапіла толькі на тое, каб яна сама выбрала сабе мужа), то самая добрая — гэта Надзя. Нават не так, гэта называецца іншым словам — жаласлівая. Яна шкадавала тату і маму, яна да болю шкадавала свайго Васіля, і калі б можна было адправіцца на той свет замест яго, яна зрабіла б гэта. Яна як сястра любіць — любіла — Андрэя, таму што заўсёды была яму ўдзячная за тое, што менавіта ён дапамог маме падняць усю сям'ю пасля татавай смерці. І таму, дакладней, таму таксама, ёй асабліва балюча, што ўсё атрымалася менавіта так. І калі хто-небудзь з усёй маёй радні і паклапоціцца пра маіх дзяцей, у першую чаргу гэта будзе яна. Хоць яна сама з двума маленькімі сынамі і без мужыка ў хаце. Хацелася б думаць, што калі-небудзь яе гора аціхне настолькі, што пераважыць розум. Бо нягледзячы на тое, што ў яе дзеці, нехта абавязкова б пагадзіўся ажаніцца з ёй…

Вось Уля — пра Улю можна сказаць з упэўненасцю, што калі яна і выйдзе зноў замуж, то толькі таму, што гэтага запатрабуе мама. А ведаючы маміна стаўленне да сваіх зяцёў, ды дадаўшы да гэтага чатырох Уліных дзетак… Не, Уля наўрад ці зноў пойдзе замуж...

Магчыма, калі б мы былі гэткія мудрыя, каб змаглі зразумець, чаму стварыліся калгасы, або не так моцна трымаліся за сваё няхітрае дабро, нажытае працай многіх гадоў, гэтыя калгасы былі б для нас не такімі ўжо і дрэннымі. Але хоць ніхто не пытаўся майго меркавання і я моўчкі пагадзілася з мужам, калі той аднёс заяву і адвёў дзвюх нашых кароў і каня на агульны двор, — у глыбіні душы я разумею Андрэя і падзяляю яго меркаванне аб справядлівасці. Ён працаваў з маленства на хутары ў бацькі, да мазалёў на далонях дабудоўваў татаў дом, кожную вольную хвілінку быў заняты калі не на полі, то ў лазні, калі не ў лазні, то ў хлеве, калі не ў хлеве, то яшчэ дзе-небудзь — і павінен быў аддаць усё, усё сваё дабро гультаям і лайдакам накшталт Грышкі Міхнюка або п'яніцам, як Колька Дзямідчык? І падзяліць усё пароўну паміж імі, а потым працаваць зноў, для таго, каб пракарміць не толькі сваіх дзяцей, але і чараду чужых галодных ратоў, у той час як іх бацькі нічога не робяць?

Хіба ж гэта справядліва, Госпадзі?

Але нават калі ў тым і была Твая воля, каб паклапаціцца аб усіх сіротах і галодных, як жа мог Ты дапусціць, каб Андрэя забілі?.. Так, ён не хацеў уступаць у калгас, не хацеў дзяліцца з іншымі. Так, ён быў скупы для чужых, асабліва бесталковых людзей. Але ж менавіта такім Ты яго стварыў, і, значыць, яму наканавана было пражыць сваё жыццё менавіта так. І што можа апраўдаць тое, што здарылася паўтара месяца таму? Для той жахлівай, жорсткай, подлай здрады, якую здзейсніў чалавек, які прыходзіцца нам сваяком. Бо ён мае дачыненне да мяне, Надзі, мамы, усіх нашых дзяцей такое ж, як мой муж, як Надзін Васіль ці сам Андрэй. Калі б я даведалася, што мой Раман здольны на такое — ці змагла б я пасля гэтага не баючыся класціся з ім у ложак? Ці змагла б глядзець на сваіх дзяцей без боязі і слёз, ведаючы, што ў іх разам з маёй цячэ і яго кроў, а гэта значыць, што аднойчы яны змогуць быць здольнымі паўтарыць бацькаў учынак?..

Я не ведаю адказу на такія пытанні. Даруй мне маё свавольства, Госпадзі, і прашу Цябе, калі я зрабіла няправільна, знайдзі спосаб выправіць мае памылкі. Але толькі хай ад гэтага не будзе кепска ні адной з маіх сясцёр. Бо

якімі б яны ні былі, усе яны — мае. Андрэя не вернеш да жыцця. А калі б Нюра даведалася праўду — дык на чыім баку яна была б?.. Разбурылася б яе сям'я — яна не даруе гэтага нікому. Выбярэ мужа — гэта назаўжды зробіць яе і ўсіх нас ворагамі. Мне на парозе смерці ўжо ўсё роўна, якім словам яна ўспомніць мяне. Але я не хачу, каб нянавісць разбурыла наш род, і таму — хай Надзя маўчыць. Да таго ж, ці паверыць у такое мама? Перад якім выбарам гэта паставіць яе, хто стане ёй даражэй — Уля або Нюра, унукі Андрэя або ўнукі іншага чалавека?..

Госпадзі, прашу Цябе, нават калі гэта вельмі, вельмі складана — у Тваёй уладзе ўсё на зямлі і не толькі на зямлі, усе намеры і перажыванні чалавечыя Табе бачныя і вядомыя. Дапамажы Надзі назаўсёды забыць усё тое, што яна распавяла мне.

## Надзея

У апошні раз мы з Нюрай былі як сёстры на пахаванні Улі. Так, пасля гэтага мы сутыкаліся ў вясковай краме. Мы нават калі-нікалі адначасова наведвалі могілкі ў дні, калі прыходзяць успомніць усіх, што адышлі. Незалежна ад таго, хто з іх і ў чым і перад кім быў вінаваты.

Але мы больш ніколі не мелі ніякіх зносін з Нюрай, не размаўлялі шчыра, як гэта бывае паміж сёстрамі. Як бывала ў мяне з Кацяй і з Уляй. Я стрымала слова, якое дала Каці тады, даўным-даўно. Магчыма, менавіта таму я як толькі магла старалася пазбягаць блізкіх адносін з Нюрай — каб не прагаварыцца супроць сваёй волі.

Але цяпер, калі пайшла і яна, мая малодшая сястра, і зусім хутка мы сустрэнемся там, калі там усё ж такі нешта існуе — мяне бяруць сумненні. А можа, трэба было прызнацца ва ўсім? Можа, яна зразумела б — хай не адразу, але зразумела б мяне. Бо перш за ўсё яна была адной з нас. А ўжо потым — Сцяпанавай жонкай.

...Святло вячэрняга сонца так мякка ахутвала і хвоі, і лясок крыху наводдаль, і поле, што здавалася, быццам яшчэ не верасень, не бабіна лета, а проста — лета. Надзя, скончыўшы выбіраць бульбу ў баразне, нарэшце выпрастала спіну і з задавальненнем падумала: «Ну, вось, нездарма ўсё ж такі я прыйшла менавіта сёння. Ці мала якое будзе надвор'е ў бліжэйшыя дні, а палову бульбы ўжо выбрала. Яшчэ раз прыйду на поле, і можна будзе не баяцца, што застанемся галоднымі на зіму. Хоць хлопцам мяса падавай, але калі ў хаце ёсць бульбачка, жыць неяк можна...»

Падумаўшы пра сыноў, яна, як звычайна, і крыху пасумавала, і парадавалася: растуць здаровыя. Ваню ўсяго восем, а ён памочнік ужо не толькі ў хаце, але і ў двары. Лёнік, вядома, яшчэ зусім малы... Нават не будзе памятаць бацьку... А падобны больш на яго...

Надзя прыклала да вачэй далонь, паглядзела на захад, разважаючы, колькі ёсць яшчэ часу, пакуль сцямнее, і вырашыла, што ўсё ж такі паспее сабраць хоць крышачку чарніц, парадуе дзяцей.

Поле, на якім у гэтым годзе яна садзіла бульбу, было далекавата ад вёскі, але Надзя не баялася заблудзіцца — і ў змроку знойдзе дарогу дадому. Але адыходзіць ад дарогі ў глыбіню лесу ўсё ж не наважвалася: колькі збярэ ягад, столькі і збярэ, яна прыйшла сюды, на поле, усё ж не за імі. Ды і мех з бульбай, прывязаны на маленькую тачку, не трэба пакідаць без нагляду, таму яна ады-

шла ад поля толькі на некалькі крокаў. Лес быў напоўнены сваімі звычайнымі гукамі: дзесьці яшчэ цвыркалі птушкі, пад нагамі трашчала сухое галлё, перабегла дарожку жабка.

Вечар дыхаў спакоем. А можа, ёй так здавалася, бо на душы было задавальненне ад зробленага за дзень.

Надзя збірала ягады, яны ўжо закрылі донца вядзерца, калі раптам пачуўся гук матора. Увогуле, машыны часам прыязджалі ў вёску, але ж зараз чамусьці душу ахапіла трывога…

Потым ёй неаднойчы ўспамінаўся той вечар, усё, што адбылося, раздражнёныя мужчынскія галасы:

— Ты цвёрда вырашыў?

— Я ў калгас не пайду.

— А не пойдзеш — прымусім.

— Паспрабуйце...

Машына спынілася, адчыніўся задні борт кузава, і з яго саскочылі на зямлю некалькі мужчын.

— Ды што з ім па-добраму, Сцяпан?.. — Пачуўшы галасы, а потым і імя, Надзя ўпэўнілася: у машыне ехалі два яе зяці і яшчэ некалькі — яна не магла дакладна разглядзець — чалавек. — Прыстрашыць як след, ды і іншым непанадна стане.

— У калгас не пайду! Мне сваю сям'ю карміць трэба, а пра іншыя хай іх гаспадары клапоцяцца.

— А ты разумееш, што супраць улады ідзеш? — са схаванай пагрозай спытаў муж яе малодшай сястры.

— Я пра ўладу не думаю, я пра жонку, дзяцей, ды цешчу думаю. Я ўладу не чапаю, усё дабро сваёй працай нажыў.

— Апошні раз пытаюся: сам заяву аднясеш або прымушаць прыйдзецца? — Сцяпан нецярпліва пачаў паляпваць галінкай па халяве бота.

— Гэта як жа ты мяне прымушаць думаеш? — усміхнуўся ў адказ Андрэй. — Праз цешчу, ці як?

— А ты зубы не скаль, знойдзецца і на цябе ўправа. Ці таксама хочаш, каб раскулачылі? На бацьку ўжо твайго і братоў папера гатовая, у сельсавеце ляжыць, што зямлі занадта шмат на ўсіх, і што памочнікаў у гаспадарку бяруць, наёмную працу выкарыстоўваюць, і супраць калгасаў размовы вядуць, а такім чынам, і супраць улады савецкай.

— Ну і паганец ты, — плюнуў на зямлю Андрэй. — Выслужыцца хочаш?

Ён не паспеў цалкам адвярнуцца, і таму ўдар Сцяпана прыйшоўся яму па скуле. Андрэй на секунду знерухомеў, нібы пралічваючы, ці варта адказваць, але потым, відаць, перадумаўшы, зрабіў крок у бок. Аднак Сцяпан, мабыць, не збіраўся здавольвацца адным ударам.

Двое мужыкоў, якія ехалі разам з імі, у разгубленасці пераглянуліся.

— Сцяпан, можа, не варта?

— Што?! — Сцяпан перавёў мутныя ад лютасці вочы на таго, хто стаяў бліжэй, і пасля гэтага ўжо ніхто не сказаў ні слова.

«А можа, выйсці мне?» — мільганула ў галаве ў Надзі. Але тут жа гэтую думку перапыніла іншая: «Не, толькі горш будзе. Трэба на дапамогу кагосьці паклікаць».

Пакуль яна напрасткі праз лес спрабавала зрэзаць дарогу да вёскі, у галаве ліхаманкава круціліся абрыўкі пачутых фраз. «А што я скажу суседзям? Андрэя б'юць? Хто б'е? Не ведаю, чужыя мужыкі, там жа і праўда не адзін

Сцяпан. Выпадкова ўбачыла. За што б'юць — не ведаю, спалохалася, адразу ў вёску па ратунак пабегла».

Яшчэ здалёк, амаль на ваколіцы, толькі-толькі выбегшы з лесу, яна ўбачыла машыну, што чакала ля Нюрынай хаты.

«Спазнілася...» — тупа застукала ў скронях.

«Ды не ж. Трэба вярнуцца туды, у лес. Самой вярнуцца. Адной, паглядзець...»

«А можа, зайсці да Нюры, паспрабаваць выведаць, што ды як? Раптам яны пару разоў адзін аднаму поўху заехалі ды і супакоіліся на тым?»

«А калі Андрэй там ляжыць, пабіты? Яму ж дапамога патрэбна... »

«Што рабіць? Што рабіць?! Што рабіць...»

Пакуль Надзя спрачалася сама з сабой, ногі давялі яе да Нюрынай брамкі. «Хоць бы сама яна выйшла...» І нібы ў адказ на яе маўклівую просьбу, сястра з'явілася на ганку.

— Надзя, а ты адкуль? Ты ж бульбу капаць збіралася?

— А... так, — недарэчы адказала тая. — Выкапала...

— Так што, на полі пакінула? А як гэта цябе Сцяпан не заўважыў, яны ж вось толькі праязджалі там, з горада прыехалі ўпаўнаважаныя, і ён з імі. Можа, зойдзеш, павячэраеш з намі?

— Не, не, дзякуй, я пайду, дзеці чакаюць, — Надзя адвярнулася і пабегла назад, да лесу.

— Ды куды ж ты? Чакай... — Нюра зрабіла крок да плота, але з хаты пачуўся дзіцячы плач, і, забыўшыся пра сястру, яна павярнула назад.

...На Андрэевым твары, акрамя таго, першага ўдару ў скулу, было нічога не прыкметна. Адзін кулак быў раздзёрты ў кроў, каўнер касавароткі разарваны, але больш нічога не выдавала слядоў бойкі.

— Андрэй! — ціхенька паклікала скрозь слёзы Надзя. — Андрэ-эй!

Андрэй нерухома ляжаў на спіне, вочы яго былі адкрыты, ні адна жылка не тарганулася на скамянелым твары...

Надзя ўпала перад ім на калені, абхапіла яго галаву. Вечаровую цішыню прарэзаў яе дзікі крык, ад якога павінна была здрыгануцца зямля...

Але не здрыганулася, толькі рэха прабегла па лесе, аціхла, і гукі лесу засталіся такімі ж, як звычайныя вячэрнія, якія бываюць такою парою, калі садзіцца сонца...



Іван КАПЫЛОВІЧ

# ВІЕЦЦА ДЗЁН МАІХ ДАРОГА...

* * *

Невядомасці выпадзе час —
Буду йсці незваротнай дарогай
І сябе папытаю не раз —
Ці трымаўся я правілаў строгіх?

Ці пакрыўдзіў каго я калі —
Не забыў папрасіць прабачэння?
Своечасна свой грэх замаліў
І масток збудаваў прымірэння?

Я адказы шукаю ў сабе
На пытанні трывог-неспакою.
Я пачуццямі не агрубеў —
Не хачу знаць віны прад сабою.

На сустрэчу да добрай душы
Я спяшаў скрозь пургу і сумёты,
Не страшыўся ні вёрстаў імжы,
Ні пакутнай, тужлівай самоты.

---

***Капыловіч Іван Іванавіч*** *нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1967). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную катастрофу, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка.*

*Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужаніны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003). З вершамі выступаў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць» і «Полымя».*

* * *

Вясна імчыць — ўздыхнуць глыбока
Паслязімовыя палі.
Вясны паўсюль убачу крокі,
Што жыццядайнымі былі.

Вясны гаючае дыханне
Зямлі пачуе кожны кут,
Дзе ёсць жальба і спачуванне,
Дзе ёсць нязгоенасць пакут.

Павысачэе раптам неба
І плуг успомніць пра загон,
Які араць, скародзіць трэба
У неспакоі тлумных дзён.

Пальецца песня жаўрукова
З паднебнай яснай вышыні:
Усё зусім невыпадкова —
Вясна спатоліць карані

Ўсяго зямнога і жывога
І без чаго не жыць ні дня,
У чым надзея і трывога,
У  чым святлынь жыцця відна.

І я пранікнуся любоўю
Да свету, блізкага спакон,
Які пакліча за сабою
Неўтаймаваннем хуткіх дзён.

* * *

Скрозь сон, скрозь вецер, непагоду
Я тупат чую табуна.
І забываюцца нягоды
У дзень, што вабнаю нагодай
Я летуценняў свет спазнаў...

У луг ішоў я раным-рана
І слухаў буйных росаў звон,
І для сябе неспадзявана
Быў ранкам я зачараваны —
Нібыта бачыў дзіўны сон.

У лузе, чуў я, скачуць коні
І будзяць ранку цішыню.

Іржанне іх пачуюць гоні,
Іржанне тое запалоніць —
Сустрэўся з ім бы ўпершыню.

Туман сыходзіць у даліны,
Дыханне чую табуна.
Шчаслівы кожнаю хвілінай
Той непаўторнаю часінай,
Калі распутваў скакуна.

І — наўздагон за хуткім часам
Туды, дзе духу воля ёсць,
Дзе шлях мой стане зорнай трасай,
Дзе з добрым людам буду разам,
Дзе гаспадар я, а не госць.

* * *

У святым заміраю маўчанні,
Калі ўбачу палёў шырыню.
Не стрымаю на міг хвалявання
Ад чаканага сэрцам спаткання:
Кожны гук непаўторны лаўлю.

Незвычайнага свету палоннік —
На калені прад ім упаду
І на вольных прасторах-улонні
Я скажу табе шчыра сягоння —
Накалованы шлях свой прайду.

Удыхаю на поўныя грудзі
Пахі жыта і зёлак-травы.
І высокія думкі абудзяць
Спадарожнікі — чулыя людзі,
Хто радня мне па духу, крыві.

Неразлучны я з полем, як жыта,
Усёй сілай цнатлівай душы.
Колькі згадана з ім, пражыта,
Колькі думак харошых спавіта
Днём пагодным і часам імжы.

* * *

Віецца дзён маіх дарога
Парою вёснаў, летаў, зім,
Імкне да берага другога,

Дзе час дыхання веснавога,
Што абуджае творчы ўздым.

Ёй давяраўся я заўсёды —
Ішоў, куды пакліча дзень.
Быў у палоне адзіноты,
Журбой спавітае самоты
І неадрыўна ў даль глядзеў.

Не абыдуць мяне імгненні,
Калі ў вышыні мкне душа,
Калі атуліць дух натхнення —
Дух блаславёны акрылення,
Тады з вачэй спадзе імжа.

Віецца дзён маіх дарога
Скрозь багну, гаці, скразнякі
І вёрстаў пройдзена ўжо многа,
Пабачыў добрага, ліхога
Дарогай той не напраскі.

Яна і бачыла, і знала,
Як падымаўся я і рос.
Боль на сябе яна мой брала,
Калі надзея пакідала,
Калі даходзіла да слёз.

Не размінуся аніколі
На той дарозе я з сабой.
Дарога стала сведкай долі,
Маёй свабоды і няволі,
Маёй трываласці зямной.



**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ПАСЛЯ ВАЙНЫ

*Раман**

## Частка II

### I

Месячнымі лістападаўскімі вечарамі хлопцы-падлеткі збіраліся на свежым паветры і гулялі ў жмуркі. Для гэтага надта падыходзіла крутая сціртa саломы на прыгуменні ў Ясевага Мішы. У ёй, у норах, і хаваліся гульцы. Міша — чалавек мяккі, баптыст, дазваляў. Гульня, як від чалавечага існавання, мяркуючы па ўсім, не супярэчыла евангельскаму светапогляду Мішы.

Адзін з гульцоў «жмурыў», закрыўшы вочы і абапёршыся на Ясеву чаромху, што высока і раскідзіста навісала над прускаўскай вуліцай. Пакуль ён «водзіць», шукае, сам лезе ў сцірту, можна перабегчы ў іншае месца, схавацца яшчэ надзейней ці «застукацца», падбегшы да чаромхі.

Зацвярдзела падсушаная халадамі зямля. З неба зырка свецяць зоркі магутнага кола Млечнага Шляху, струменіцца святло неадступнага ветаха, адсоўваючы цемень ночы ў канцы вуліцы, за хаты і пабудовы, за дрэвы. Цішыня. Прыемна адчуваць сябе заадно з гэтым мігатлівым сутоннем, з гэтым вялікім і загадкавым светам.

Дахаты падлеткі вярталіся позна.

---

*__Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч__ нарадзіўся 26 снежня 1937 года ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута (1959). Служыў у арміі, настаўнічаў на Брэстчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР (1965) і быў залічаны супрацоўнікам гэтага ж інстытута.*

*Працаваў у апараце ЦК КПБ, быў дырэктарам Інстытута літаратуры НАН Беларусі. Акадэмік.*

*У друку выступае як крытык і літаратуразнаўца. Аўтар манаграфій «Традыцыі і наватарства» (1972), «Упоравень з часам» (1976), «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Як само жыццё» (1984), «Ля аднаго вогнішча» (1984) і інш., а таксама кніг прозы «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008), «Вайна» (2014), «Валошкі на мяжы» (2014).*

---

* Працяг. Частка I у № 11, 12, 2014 г.

— Ранкам цябе не разбудзіш, вечарам не знойдзеш, — бурчэла Фёкла, сустракаючы ўнука.

— Я ўжо не маленькі, я ўжо дарослы, — адказваў той.

На зіму Валодзіку пашылі «дзеравяшкі» — чаравікі са скураным верхам і драўлянай падэшвай, якія ў Прусцы насілі ўсе падлеткі і нават старэйшыя. Абутак дабрэнны, толькі хіба што халаднавата ў ім нагам і знізу снег наліпае. Здараецца, што чалавек ідзе ў «дзеравяшках», як на старажытнагрэчаскіх катурнах.

Пасля зімовага сонцастаяння цэлая чарада святаў: Новы год, Раздво, Вадохрышча... Ідзе падрыхтоўка. Прускаўскія гаспадыні дзёрлі ў ступах ячменную крупу для куцці, заквашвалі аўсяны кісель, даставалі з камор сухія грушкі, каб гатаваць узвар. Радавала і надвор'е. Дні стаялі хоць і марозныя, але пагодныя. На небе, паміж аблокамі шмат просіні. Вісіць просінь — блакітная, як ільдзіна. Нездарма гэты месяц — студзень — у Прусцы здаўна называюць «просінец».

Пад Раздво наваліла шмат снегу. Паветра радавала чысцінёй і свежасцю. Мароз. Заружавелі карункі на аконных шыбах. Настрой у хлопцаў-падлеткаў святочны. Напярэдадні Раздва змайстравалі «гвязду». Усе яны ўжо былі піянерамі, хоць уступалі ў піянеры неахвотна. Супраціўляліся бацькі, таму што піянераў лічылі бязбожнікамі, у Бога яны не верылі. Ці, дакладней сказаць, верыць у Бога ім забаранялася. Піянерская арганізацыя ў Прускаўскай школе ўжо існавала, першым у піянеры ўступіў Гога Пахолак. Другім стаў Янка Карпішук — сын багатага хутаранца, які, нібы нешта прадчуваючы, хацеў паказаць сваю лаяльнасць да савецкай улады. Падышла чарга і да астатніх, і амаль у адначассе юнымі ленінцамі сталі ўсе прускаўскія школьнікі, хто падыходзіў па ўзросце. Палохалі, што тых, хто не ўступіць, выключаць са школы. Да чырвоных гальштукаў хутка прывыклі як тыя, хто іх насіў — піянеры, так і іх бацькі.

«Гвязду» майстравалі, гальштукаў не здымаючы. Сярод калядоўнікаў быў і Пахолак, дапамагаў клеіць рогі. Выдатная атрымалася «гвязда», прыгожая, з васьмі рагамі. Рогі абклеілі празрыстаю папераю з малюнкамі, прычапілі рознакаляровыя раскошныя кутасы, а ўнутр паставілі свечку. Колькі штук свечак з воску скачалі ў запас. Па старым песенніку развучылі некалькі калядак, у якіх распавядалася пра абставіны нараджэння Ісуса Хрыста і звязаныя з гэтым розныя драматычныя падзеі.

А Герад злосны, лукава сэрца,
Паўсюль шукае Хрыста-младзенца-а...

Дамагаліся, каб галасы гучалі сугучна, стройна, прыгожа. Ладзілі калядоўнікі «гвязду» ў хаце Оргія Ламакі. Жонка Оргія Барбара, якая пусціла ў хату, хваліла іхняе пяянне, але пад канец сказала: «Натлумілі галаву!» У той жа вечар пайшлі ў абход. Дасталі недзе незаменны ў такіх выпадках званок. Запалілі свечку, і ў цемры «гвязда» стала падобная на чароўны ліхтар, які сам свяціўся і асвятляў шлях наперад. Здавалася, што гэта зорка, якая з неба апусцілася на зямлю, каб нешта сказаць, пра нешта напомніць яе панылым, заклапочаным штодзённымі справамі насельнікам.

Пачалі з папа. Нёс «гвязду» Васька Ламака. Сашка, яго малодшы брат, са званком у руцэ падбег да акна і прарэзліва зазваніў. У марозным паветры звонка праліліся тонкія пералівы гукаў.

— Спяваць ці не? — спытаў Сашка.

— Спяваць! — пачулася з хаты.

Калядоўнікі падышлі ўпрытык да акна, якое бліснула абмерзлымі шыбамі, адсвечваючы ззянне «гвязды». У акне паказалася барадатае аблічча айца Клаўдзія. Заспявалі «Я з сумой хадзіла...» Кожны стараўся паказаць, на што ён здольны. Выйшла няблага, голасна і суладна. Праспяваная евангельская гісторыя прагучала шчыра і пераканальна. Айцец Клаўдзій, паслухаўшы каляднае пяянне, усцешаны і расчулены, выйшаў з хаты, падзякаваў і даў ажно тры рублі. За скарбніка быў глуханямы Міша Ярый, які славіўся чэснасцю і непадкупнасцю. Яму даверылі, і ён збіраў грошы. Паўрубля, пасля спявання, вынес з хаты Восіп Дзванарык, дваццаць капеек аджалеў Оргій Відэрка. Ішлі ад хаты да хаты. Абмінулі толькі Натолія. Натолій — баптыст, і «гвязда» здавалася яму чымсьці лішнім і непатрэбным. Не падыходзілі да акна Мішы Ясевага, які таксама быў «пратэстантам», як часам сябе называў.

Паднеслі «гвязду» пад акно да Кужалёў, зычна пазванілі ў званочак і, атрымаўшы згоду паслухаць каляднае пяянне, заспявалі «Неба і зямля». Праз акно відаць было, як пасвятлелі аблiччы ў гаспадароў. Лявон нават пасміхаўся, пазіраючы на калядоўнікаў, якія стаялі за шыбамі, можа ўспомніў сваё дзяцінства, а Фёкла слухала засяроджана, перакінуўшы цераз плячо ручнік, якім перацірала посуд і ставіла на стол.

Прайшлі вёскай — ад айца Клаўдзія пачаўшы і ажно да Паўла Гальяша, які жыў на супрацьлеглым канцы Прускі, каля школы, і калісьці працаваў пры ёй вартаўніком, саступіўшы цяпер гэтую пасаду сыну Ляксандару. Адмовіліся паслухаць калядныя спевы толькі баптысты ды Гамон, які лічыў сябе «парцейным». Падлічылі заробленае, аказалася не шмат, усяго адзінаццаць рублёў. Толькі Лаўр Яўсеевіч ды Восіп Дзванарык далі па рублю, астатнія адбыліся капейкамі.

Хто першы падаў думку пайсці павіншаваць з Раздвом настаўніц Аляўціну Дзіядотаўну і Сняжану Валер’еўну — невядома, але прапанову падхапілі і дружна ўхвалілі. Настаўніцы жылі ў школе. Трэба было са службовага ўваходу падняцца на другі паверх, дзе знаходзілася іхняя кватэра. Калядоўнікі памянялі ў «гвяздзе» свечку на новую, свежую, запалілі і асцярожна, каб не грукаць «дзеравяшкамі» па ступеньках, пачалі, паднімацца. Перад настаўніцкай кватэрай спыніліся. З-за дзвярэй пачуліся гукі гітары і голас:

Я был батальонный разведчик,
А он — писаришка штабной.
Я был за Россию ответчик,
А он спал с моею женой.

Нехта засмяяўся, песня зацікавіла, і яны пачалі слухаць.

Ой, Клава, родимая Клава,
Ужели судьбой суждено,
Чтоб ты променяла, шалава,
Орла на такое гавно...

Тут яны не стрымаліся і засмяяліся грамчэй. У пакоі пачулі шум, спяваць перасталі. Дзверы адчыніла Сняжана Валер’еўна, вясёлая, усхваляваная, у прыгожай цёмнай сукенцы, якая прывабна адцяняла белізну яе шыі. Усмешка знікла, і яна няцямліва ўтаропілася вачмі ў тых, хто перад ёю стаяў. Мусіць, пазнала, бо запрасіла заходзіць. Яны зайшлі, унеслі «гвязду». Пакой быў невялікі. Пасярэдзіне стаяў стол з бутэлькай і талеркамі з закускай. Цьмяна паблісквала лямпа, пачэпленая да столі. З кута блішчэлі чыесьці пагоны. Валодзік пачаў углядацца і пазнаў участковага Сценгарыева, які летам і зімой

ездзіў на веласіпедзе. Участковы малодшы лейтэнант Сценгарыеў выглядаў салідна ў фіялетавым мундзіры з чырвонымі выпушкамі і пры сярэбраных пагонах. Каля Сценгарыева сядзеў цельпукаваты Самусік з гітарай. Абодва былі ўжо на добрым падпітку, падвяселеныя. Аляўціна Дзіядотаўна, з другога боку, нешта перастаўляла на стале.

Усе, адчувалася, былі надта здзіўленыя гэтым нечаканым начным візітам, аднак паводзілі сябе спакойна.

— У чым справа? — паблажліва сустрэў няпрошаных гасцей Самусік, лёгкім жэстам перадаючы гітару Аляўціне Дзіядотаўне. — Што здарылася? Ды тут цэлы калектыў!

Валодзік успомніў, як ён заходзіў у клас і правяраў напісанне слова «мяккі», выклікаючы кожны раз да дошкі Івана Каленіка. Хлопцы паздымалі шапкі і пачалі разглядацца па баках. У пакоі ўсталявалася цішыня, якая, аднак, насцярожвала. Іван Каленік, убачыўшы Самусіка, стаў ціснуцца ў куток. Сціпла, палахліва трымаўся бледнатвары Грышка Гальяш. Калядоўнікі збіліся ў гурт і сцішыліся. Відаць было, што разгубіліся. Хуткі і вяртлявы Валодзька Галёнка цяпер стаяў нерухома, апусціўшы галаву і забыўшыся зняць шапку, толькі раз-пораз палахліва лыпаў вачыма. Гога зняў шапку, але стаяў у самым заднім радзе, шкадуючы, напэўна, што не адмовіўся ад усяго гэтага «калядавання».

— А дзе ваша ветлівасць? — мякка, але строга спытала Аляўціна Дзіядотаўна, маючы на ўвазе перш за ўсё, відаць, Валодзьку. Хлопец сцягнуў з галавы шапку.

— Добры вечар! — павітаўся Сашка Ламака. — Віншуем з Раздвом Хрыстовым! Спяваць ці не? — Пры гэтым Сашка так моцна і прарэзліва зазваніў у званок, што Сценгарыеў затуліў вушы далонямі, як бы яму забалела.

— Ну, што ж, прыйшлі дык спявайце! — як бы пакрыўдзіўшыся на кагосьці, сказала Сняжана Валер’еўна.

Яны пачалі:

Я с сумой ходила
В город Вифлеем
И была в вертепе
И видала в нём,
Как Христос-спаситель,
Царь, Творец и Бог
Родился от девы
И лежит, убог...

Да канца не даспявалі. Самусік спляжыў даланёю па стале, што ажно падскочылі бутэлька і шклянкі, і яны змоўклі. Запанавала цішыня. Уражанне было такое, нібы ўзарвалася бомба.

Міша Ярый, не ўцяміўшы толкам, што адбываецца, як звычайна прамычэў нешта неразборлівае.

— Ты яшчэ малакасос! — не разабраўшыся, напудзіўся на яго пачырванелы Самусік. — Ён яшчэ і крыўляецца! Вось вам антысавецкі элемент у наяўнасці! Каго мы выхоўваем — папоў?

Валодзік адчуў, як спынілася сэрца, а потым пачало грукаць так, што здавалася, разарве грудзі. Тыя, хто знаходзіўся ў пакоі, былі напалоханы не меней за калядоўнікаў. Надта ж нечаканым усё сталася. Першым апомніўся Сценгарыеў, ускочыў і зачыніў на ключ дзверы. Суровы погляд Самусіка таксама не абяцаў нічога добрага. Прыкметна было, як усё больш набракаў кроўю і цямнеў яго твар. «Эх, дарэмна мы сюды прыцягнуліся...» — падумаў Валодзік.

Сняжана Валер’еўна дастала папяросу з пачкі «Беламора», што ляжала на стале, сунула ў рот, чыркнула запалкай і прыкурыла.

— Балаўство гэта! — разважыла яна, адчуўшы, што сітуацыя набывае непажаданае развіццё і штучна развіваецца. — Ім і самім сорамна ад свайго ўчынку.

— Не, не балаўство! Гэта — прадуманая паліціка! — Самусік зноў з усяе сілы ляпнуў рукою па стале, нагадваючы гэтым, што ён начальнік і ён тут галоўны.

— Бачыш, каго яны ўздумалі славіць — Хрыста! Таварыша Сталіна трэба славіць! — з абурэннем выпаліў Сценгарыеў. Ён раптам устаў, нервова атузаў гімнасцёрку і зноў сеў. — Таварыш Сталін — вождзь.

Калядоўнікаў са страху і напружання кінула ў пот. Узняўся гвалт, усе кінуліся ў дзверы, але дзверы былі зачыненыя на ключ.

— Стой! — крыкнуў Самусік, грэбліва скрывіўшы ніжнюю губу.

Хлопцы спыніліся. Самусік зірнуў на Сценгарыева. У позірку была строгасць і патрабавальнасць.

— Што ж вы так ходзіце, акалпачваеце насяленне! — пачаў, нібы допыт, Сценгарыеў. — І не сорамна?

— А на значок ГТО[1] здалі? — уставіў сваё пытанне Самусік.

Калядоўнікі, пазіраючы сабе пад ногі, маўчалі, не ў стане што-небудзь запярэчыць.

— Такой і родзіну прадасць, — зрабіў выснову Сценгарыеў.

Самусік сярод калядоўнікаў усё ж такі пазнаў Івана Каленіка, які не раз пад яго дыктоўку пісаў слова «мяккі».

— І ты тут?

Іван нічога не адказаў, толькі яшчэ ніжэй угнуў галаву.

— І нада палагаць, усе піянеры?! — дзівіўся Самусік.

— Піянеры, — пацвердзіла Сняжана Валер’еўна, пыхнуўшы папяросай. — Усе на добрым рахунку. — Яна хацела разрадзіць абстаноўку, спрасціць сітуацыю.

— Заўтра ўсім напісаць аб’ясніцельныя! — загадала Аляўціна Дзіядотаўна.

— І без радзіцелей не прыходзіць! — дадала Сняжана Валер’еўна, гасячы недакураную папяросу. — І больш думаць! Ніхто за вас думаць не будзе.

Пахолкаў Гога хацеў нешта сказаць, неяк апраўдацца.

— Маўчаць! Не разважаць! — апярэдзіў яго Самусік і махнуў рукой.

Сняжана Валер’еўна адамкнула дзверы і шырока адчыніла.

Напалоханыя калядоўнікі, штурхаючыся, пакінулі памяшканне. Калі дзверы за імі зачыніліся, Галёнкаў Валодзька адвярнуўся і паказаў свой доўгі язык, але тыя, хто застаўся ў пакоі, гэтага ўжо не маглі бачыць. Валодзя падумаў пра сваіх братоў — Віталіка і Лёніка, якія ўжо хадзілі ў школу, у першы і другі клас: «Як добра, што яны не пайшлі з «гвяздай», бо збіраліся, але мама не пусціла, не дазволіла — малыя яшчэ нанач ісці, бадзяцца недзе».

Грукаючы «дзеравяшкамі», спусціліся на першы паверх, выйшлі на вуліцу. Адчуванне было такое, што трапілі ў нейкую небяспечную пастку, але пашанцавала, выбавіліся і апынуліся на свабодзе. Церусіўся сняжок, казытаў і асвяжаў твар. Цёмнае неба поўнілася безліччу зор на чале з зіхоткім месяцам.

---

[1] Готов к труду и обороне.

У Бабічы, куды збіраліся ісці з «гвяздай», пасля Прускі ўжо не пайшлі, настрой быў сапсаваны, вырашылі вяртацца дадому, разыходзіцца па хатах. Балелі натомленыя і нацёртыя за дзень ногі, ды і на душы было неспакойна.

— Ну, што ты там нарабіў? — сустрэла Фёкла, убачыўшы паніклы настрой унука.

— Песні ім спявалі.

— Каму?

— Настаўніцам ды Самусіку.

— Якія песні?

— Калядныя, з гвяздай. Накрычалі яны на нас. Сказалі, каб бацькі прыйшлі.

Назаўтра дырэктар школы Рыбак размаўляў з гэтай нагоды з бацькамі. Прысутнічала і Фёкла. Рыбак пагражаў выключэннем са школы і пачаў літаральна звярэць, называючы калядоўнікаў хуліганамі і распустай. Прускаўцы, звыклыя да ўсяго, маўчалі. Не вытрымала Фёкла.

— Ты што на іх раскрычаўся? Гэта ж дзеці! — запярэчыла яна хамаватаму дырэктару. — Годзе над малымі згаляцца! Вы ж вучыцель! А яны ўсяго толькі дзеці, вашы вучні.

Рыбак аднак праявіў, як ён казаў, службістасць, кожнаму «хулігану» аб'явіў строгую вымову з запісам у асабовую справу. Паколькі пакаранне сталася агульным для ўсіх, дык яно не надта страшыла і хутка пра яго забылі.

Між тым надышоў час зімовых канікул. Прускаўская зіма — раздолле для дзетвары. Ёсць дзе разгарнуцца і паказаць сябе, па-сапраўднаму адчуць зімовую пару. Хораша імчацца на санках з Маркавай гары. Маркава гара — самае высокае месца ў наваколлі. Тут знаходзіліся прускаўскія могліцы, а за могліцамі — круты схіл, пойма Лосьны. Адсюль адкрываюцца далі, суседняя вёска Зінькі, рака і зарэчныя прасторы, лес, хутар Нупрэя Тысенчука — сваяка Якава Арыстархавіча, сястра якога Настуся была замужам за Нупрэем. Цяпер увесь краявід укрыты тоўстай снегавой коўдрай. Санкі з разгону ўспорваюць снег і імкліва спускаюцца ледзь не да самага берага Лосьны.

Хто на санках, хто на лыжах, на каньках! Зрэшты, прускаўскія падлеткі звычайна каталіся на адным каньку. Рабілі яго па традыцыі з драўлянай калодачкі, знізу акоўвалі дротам або ўбівалі кавалак касы ці якога іншага жалеза, і канёк гатовы. Заставалася толькі прывязаць да нагі. Жалезныя канькі — «снягуркі» і «ледавікі» — раскоша, меліся толькі ў Галёнкавых хлопцаў. Валодзік часам пазычаў у іх, не адмаўлялі. Можна было пайсці катацца на замерзлую Лосьну. Захапляў і чараваў зімовы, незвычайны, выгляд знаёмай ракі. Летам Валодзік з равеснікамі днямі прападаў на рацэ — купаліся, загаралі, лавілі рыбу і ракаў, аднак зімою, закаваная ў лёд, аснежаная, Лосьна мела зусім іншы, амаль фантастычны выгляд. Валодзік пазіраў і дзівіўся. Лёд быў такі таўшчэзны, што месцамі адваліўся ад берага, абламаўся і ўпаў на дно рэчышча, якое аказалася сухім: вада амаль вымерзла, бруілася вузкай ручаінай. Цікава прайсціся такім пустым рэчышчам, убачыць мясціны, дзе ўлетку віравала вада, утвараючы глыбокія яміны і разбураючы берагі.

Зімой нарыхтоўвалі дровы для школы. За агародамі, у карчах, валілі старыя вольхі, абрубвалі сучча, распілоўвалі і вазілі на школьны двор.

— Ну, сябры, нас чакае цікавая работа! — казаў Рыбак. — Лесапавал! Прывыкайце! Уменне можа прыгадзіцца.

Работа была не столькі цікавая, колькі працаёмкая, патрабавала фізічнай сілы, якой школьнікам яшчэ не хапала. Але справіліся. За тры дні каля хлява, на дрывотні, выраслі два высокія штабялі бярвенняў. На зіму хопіць.

Дырэктар казаў:

— Нам, таварышы, трэба часцей практыкаваць калектыўныя выступы, калектыўную працу. Гэта адцягвае ад пабочных думак. Калі чалавек на віду, дык гэта лепш для яго самога, менш адхіленняў ад дысцыпліны.

Аднойчы вечарам, у шараю гадзіну, вярнуўшыся з вуліцы дамоў, Валодзік застаў бабулю з дзедам адных. Пра нешта яны вялі ціхую гамонку. Унук прыслухаўся. Гаварылі пра пчол, успомнілі колішнюю прапанову Якава Арыстархавіча купіць у яго парачку вулляў. У мінулую нядзелю, каля царквы, ён зноў нагадаў пра сваю прапанову.

— А добра было б свой пчэльнік мець, — азваўся ўнук, калі прымоўклі.

— Пчолы догляду патрабуюць, догляду і ўмення, — сказаў Лявон. — Гэтым, можа, калі-небудзь ты зоймешся.

— А што, можа, і займуся.

— Цяпер, унучак, — звярнулася да яго бабуля, — ты ў нас ужо дарослы, будзем цябе ўжо не Валодзікам зваць, а Валодзем.

— Вядома, я ўжо дарослы, — згадзіўся хлопец.

— А Пац, я чула, — зноў загаманіла Фёкла, — іконамі захапіўся, іконы купляе, абразы, як тут кажуць. Увесь покут у абразах.

— Якаў Арыстархавіч? — дзеля большай яснасці перапытаў Лявон.

— Ну, так.

— Цікава, што гэта на яго найшло? — падзівіўся Лявон, а разам з ім і сама Фёкла.

— Нейкі гешэфт мае, — дадаў Лявон.

## II

Васіль з канём і возам ездзіў у Пушчу на лесанарыхтоўкі, ці, як казаў Рыбак, на лесапавал. У Белавежскай пушчы трэба было, па загадзе ўлад, нарыхтоўваць лес, грузіць яго на калёсы і падвозіць да вузкакалейкі. Прызначыў яго туды па разнарадцы прускаўскі ўпаўнаважаны Хвядзюшка Шпунт. Валодзік чуў, як ён казаў: «Васіль! У лес чаму не едзеш? Твая калейка ў пушчу, на вывазку дроў. Табе заданне — трыццаць кубоў!» Васіль мусіў ехаць.

Абавязвалі нават жанчын. Не можаш — плаці штраф. Упарцілася, не хацела ехаць Ганна Бочка. Казала, што я, маўляў, жанчына. Хвядзюшка аднак такі, што пераканаць немагчыма.

— Калі вывозіць цяжка — шосткі будзеш ставіць.

Вядома, вывозіць дрэвы цяжка. Дрэвы ў пушчы тоўстыя, аграмадныя. Пушчанскія! Паспрабуй спусці такое, спілуй звычайнай пілкаю! Ставіць шосткі — гэта значыць абсякаць сукі і рэзаць бярвенні на метровыя кавалкі і складваць іх у роўныя стосы.

— Ой, ой! — войкала жанчына, але ўпаўнаважаны не адставаў:

— Плаці штраф — шэсцьсот шэсцьдзясят рублёў.

Ганна — не ехаць жа ў пушчу ў жаночых майтках — стала збіраць грошы.

Васіль паехаў. Дома з дзецьмі заставалася Прося, пякла малым дранікі. Па ёй ужо добра было відаць, што цяжарная. Загрубела — як казалі прускаўцы. Ела кіслыя гуркі і капусту, часам адкалупне кавалачак мелу,ператрэ на зубах і праглыне. Казалі, што з цяжарнымі гэткае бывае. У адсутнасць Васіля (не паглядзеў Хвядзюшка на тое, што жонка цяжарная) Прося апекавалася сына-

мі. Віталік і Лёнік — яшчэ малыя, дзеці, нагляду патрабуюць. Калі занадта валтузіцца паміж сабой пачнуць, то Прося кажа:

— Сціхніце, а то баба-яга пастукае!

Чакалі бацьку. Васіль вярнуўся праз дзесяць дзён. Прывёз даведку аб выкананні задання і буханку хлеба. Купіў у Камянцы. Тут выпадкова сустрэў і даўняга свайго знаёмага Івана Мітрафоравіча Афінагенава. Пастаялі, пакурылі. Васіль сказаў, што едзе з пушчы, быў на лесапавале. Валілі ўсё падрад, толькі там-сям пакідалі рэдкія дрэвы для самаабсявання пустой прасторы. Успомнілі былое, ваенны час, партызанку. Хлябнулі гора напоўніцу!

Іван Мітрафоравіч натапырыў тоўстыя вусы, пыхнуў дымам. Вусы падобныя былі на сталінскія — такія ж тоўстыя і цяжкія. Гэта дэталь кінулася Васілю ў вочы.

— А зуброў бачыў?

— Не, не бачыў. У тое месца, дзе мы працавалі, яны не заходзяць. Балота. Грузка. Толькі ўзімку прымярзае.

— І я, колькі партызаніў, а зуброў не бачыў. Да-а-а... Партызанка... — зноў вярнуўся да гэтай тэмы Афінагенаў. — Я ведаю, што аб партызанах часам непрыхільна ўспамінаюць. Маўляў, кажух забралі, ці гадзіннік, ці яшчэ што. Ну, але, падумай, як партызану зімою, у лесе без кажуха ды без гадзінніка, калі ён на жалезку ідзе. Паязды ж па гадзінах ідуць!

— Ну так, — згадзіўся прускавец. — Цяжкі гэты час, гэтая партызанка. Я ж ведаю...

— Партызан — чалавек, які гатовы быў не есці і не спаць, не ведаць цяпла, — як бы на нешта ці на некага скардзячыся, загаманіў Афінагенаў. — Але, як ні дзіўна, знаходзяцца людзі, якія гатовы папракнуць.

— Людзей не проста ў чым-небудзь пераканаць, — зноў азваўся прускавец, — асабліва таго, хто на печы сядзеў.

— На жаль, так.

— А як жыццё, Іван Мітрафоравіч?

— Працую. Я цяпер, каб ты ведаў, імей у віду, за гандаль адказваю, па ўсім раёне. Гэта не жартачкі. Апрануць народ трэба, накарміць...

— Клопатная справа!

— Клопатная, аднак і пра архіў не забываю. Зноў некаторыя дакументы знайшоў. У дзярэўні Мурыны, у Міхаіла Сацюка. Дзве папкі. Суседзі падказалі. Дакументы не для шырокага азнаямлення, важныя.

Затым перайшоў на іншае:

— А ты як? Ты, я чуў, коньмі спекулюеш, купляеш у Ковелі і перапрадаеш?

— Хлусня! Я сабе купіў.

— Ну, гэта я так, каб ты ведаў, што і ў цябе непрыяцелі ёсць...

Іван Мітрафоравіч гаварыў неяк машынальна, без эмоцый і, відаць, спяшаўся на працу ў райвыканком, баяўся спазніцца. Паспеў аднак выказаць цікавую прапанову:

— А ведаеш, Васіль Аляксандравіч, пераязджаў бы ты ў горад!

Для Васіля гэта было вельмі нечакана.

— У горад?

— А што? Работы тут многа, устроішся. Такую магчымасць, к твайму сведзенію, дае савецкая ўлада. Улада дазваляе, дык чаму не скарыстаць? А то ў вас тут кажуць, што ўсе дзяржаўныя ўстановы прыхадні запаланілі.

— Прыхадні? Якія прыхадні?

— Выходзіць, з Усходу.

— Ну гэта ярунда нейкая. Па ўстановах і мясцовыя сустракаюцца.

— Сустракаюцца, дык і ты перабірайся.

Васіль не ведаў, як і рэагаваць, абяцаў падумаць. Шэрыя, пранізлівыя вочы Івана Мітрафоравіча пазіралі на гэты раз лагодна, нават прыязна. Настрой у яго быў не з горшых, спрыяльны.

На гэтым яны развіталіся. Афінагенаўская прапанова зацікавіла, нават усхвалявала. Дома Васіль расказаў пра свае пушчанскія ўражанні і пра сустрэчу з Іванам Мітрафоравічам, але пра яго прапанову, каб не хваляваць і не палохаць сямейнікаў, змаўчаў.

Лявон з Фёклай слухалі. Пра Афінагенава Васіль казаў:

— Настрой у яго ў цэлым не благі. Хваліўся, што некаторыя паперы ўсё ж такі адшукаў.

— Дзе? У каго? — пацікавіўся Лявон.

— Дзве папкі знаўшоў у Мурынах у Мішкі.

— Відаць, Мішка не паспеў скурыць.

— Магчыма.

Загаварылі пра другога камянецкага знаёмага — Пятра Мачалава, колішняга акружэнца, цяпер начальніка, які ажаніўся на Шведавай Маньцы.

— Да Пятра, кажуць, я чуў, жонка прыязджала, ажно з Сахаліна! — паведаміў Лявон. — Немалая адлегласць!

— А я і не ведаў пра гэта, — здзівіўся Васіль.

Умяшалася ў размову Фёкла:

— Жонка за мужам, як нітка за іголкай, але ж мужчыны гэтага не цэняць.

Лявон прамаўчаў, нічога не адказаў, ведаў, што Фёкла сказала праўду, праўду, якая тычылася яе ўласнага жыцця.

* * *

Адшукала-такі Пятра Мачалава першая жонка. Жыў ён цяпер з прускаўскай Манькай у Камянцы. Перавялі яго сюды з Ратайчыц на пасаду загадчыка сельгасаддзела. Яшчэ з даваенных часоў жыў удалечыні ад роднага дома. Як толькі прызвалі ў армію. Вельмі нудзіўся. Але вось і вайна мінулася, мог прывыкнуць. Не прывык, сумаваў па сям'і, па родзічах, сваяках. Не вытрымаў, напісаў бацькам пра тое, дзе ён знаходзіцца, і пра тое, што прыжаніўся, так склаліся, маўляў, абставіны. Прасіў паведаміць пра лёс сям'і. Бацькі паказалі ліст нявестцы. Анфіса ўзрадавалася і прымчалася, гэта ж ажно з Сахаліна. Спачатку прыслала тэлеграму, пад якой стаяў подпіс: «Твая жонка Анфіса». Мачалаў літаральна аслупянеў і ажно змяніўся з твару, пабляднеў. Манька жахнулася: «Ой, людкове!» Напалоханая і засмучаная, сышла да бацькоў.

Пятро стаў хвалявацца. Маглі, і вельмі проста, бо незычліўцаў шмат, стварыць персанальную справу (дзве жонкі для камуніста — гэта зашмат) і выключыць з партыі.

Анфіса прыехала. Доўга перапытвала, але знайшла ў Камянцы і вуліцу Беларускую, якая да перайменавання называлася Крывой і якую местачкоўцы часцей за ўсё па традыцыі так і называлі, і хату, у якой жыў муж з новай жонкай. Адчыніла дзверы без стуку і спынілася перад парогам. Угледзеўшы Пятра, пераступіла парог, зайшла ў пакой. Стомленая і жыццём, і дарогай. Гэта ж не жартачкі — ехала ажно з Сахаліна. Апранутая была ў старую жакетку, на нагах латаныя чаравікі. У руцэ трымала пашарпаны фанерны чамадан-

чык. Пятро пазнаў яе адразу, пазнаў яе круглы, загарэлы на сонцы твар, крыху лупатыя вочы.

— Ты?

Яны, не раздумваючы, кінуліся адно да аднаго, моцна абняліся і ўсхвалявана пацалаваліся. Ён адчуў яе цвёрдыя, сухія вусны і худы, запалы жывот. Калі яны разняліся, Анфіса кончыкамі пальцаў развязала на галаве хусцінку.

— Ой, у цябе ўсё тыя ж гарачыя рукі! — сказала яна, адчуваючы, як моцна забілася сэрца і перахапіла дых.

— Распранайся! — запрасіў ён, дапамог зняць жакетку, паклаў на спінку стула.

Анфіса развязала і зняла з галавы хусціну, расправіла плечы. Была Анфіса калісьці прыгожая, паўнагрудая і станістая, цяпер зблажэла. Час і жыццёвыя клопаты не абышлі і яе. Яна пазірала на мужа і старалася ўсміхнуцца.

— А што ў цябе на шчацэ? — занепакоілася яна, убачыўшы ў яго каля вуха чырвоную палоску. — Хто ж гэта яе табе пакінуў? Мецінка?

— Гэта лес, партызанка. Асколак чыркнуў. Асколак пакінуў.

— Ай-яй-яй!

«Не была б гэта жонка, — падумаў ён, — усё бачыць, усё заўважае. Маня да гэтага часу нічога не заўважыла. Глядзіць, а думае пра нешта сваё...»

— Зараз я чайнік пастаўлю, чай будзем піць. Стамілася з дарогі? Прысядзь! Гэткая далячынь! Падумаць толькі, дзе Сахалін! З краю ў край краіну праехала. Праз увесь мацярык!

— А рукі памыць можна?

Ён паліў ёй на рукі, падаў чысты ручнік з вышыўкаю.

— Яна? — Анфіса кіўнула на вышыўку.

— Яна.

— Вышывае?

— Гэта калісьці, цяпер не вышывае.

Яна ўвесь час імкнулася зазірнуць яму ў вочы, паглядзець, што там, бо нездарма кажуць, што вочы люстра душы, дык ці засталася яшчэ ў яго душы яна, Анфіса, ці можна на нешта спадзявацца.

— А я табе пірог з візігай везла, ды толькі вось кавалачак застаўся. Па дарозе ціжало што-небудзь купіць, дык я ад пірага вазьму і адкалупну.

— Ну і правільна дзелала.

Яна развязала хусціну, дастала адтуль усохлы, падобны больш на сухар, кавалак таго, што называла пірагом, і паклала на стол.

— А яна дзе?

— З’ехала. Да бацькоў.

— Ну і добра, дык мы з табой дадому паедзем! — узрадавалася Анфіса, сядаючы на столак каля сцяны. Бачна было, як ад хвалявання трымцелі яе рукі.

Ён прымоўк і нейкі час маўчаў, а потым, уздыхнуўшы, стрымана прамовіў:

— Не, мусіць, не...

— А чаму?

— Пасада ў меня адказная, і ў партыю прынялі. Я парцейны. Дысцыпліна!

— Далёка пайшоў! — як бы пахваліла Анфіса. — Хто б думаў!

— Ніхто не адпусціць.

— А калі я пайду і раскажу ды папрашу!

— Не трэба.

Госця ўздыхнула. Ён зірнуў на яе ўдавана вясёлыя, з прыспушчанымі вейкамі вочы, бледныя паніклыя шчокі і яму стала яе шкада.

— А як яе зваць?

— Маня.

— А пра дзяцей што не пытаеш?

— Толькі хацеў спытаць, як яны там?

— Гадуюцца, дзед з бабай дапамагаюць. Ты не пасабляеш, аліментаў не плаціш. Мы цярплівыя. Цябе ўсё ж памятаюць, чакаюць.

— Пабагацею дык адразу тысячу адвалю.

— Адваліш...

— І не сумнявайся.

Закіпеў чайнік. Пятро знайшоў заварку, заварыў чай. Анфіса дастала з чамаданчыка загорнутую ў газету вяленую гарбушу, паклала на стол. Ён узяў рыбіну, панюхаў:

— Пахне добра!

— Добра! — ледзь не падхапілася на ногі Анфіса, нібы чакаючы гэтай пахвалы.

Ён бачыў, як мякчэе, нібы растае, душа Анфісы, як абуджаецца ў ёй надзея. Пажвавелі і павесялелі вочы, больш упэўненымі сталі рухі.

— Паедзем-ка мы з табой дадому! Дома добра! Бацькі, дзеці, сям'я! — зноў прапанавала яна, спадзеючыся, што ўсё ж удасца яго ўгаварыць. — Чакаюць...

— Я ж табе кажу, у нас дысцыпліна. Гэта — па-першае, а па-другое, бачыш, я ж зараз да яе прывязаны. Так сталася...

— Я разумею: вайна!

— Вайна.

Наступіла паўза. Селі піць чай.

— Ну, а як твая пасада?

— Спраўляюся. Работа не лёгкая, ёсць складанасці. Абстаноўка цяжолая.

Ён адламаў акрушчык ад прывезенага Анфісай пірага, што ляжаў на стале, панюхаў і сунуў у рот.

— Наш, сахалінскі, — сказаў, рассмакаваўшы.

— Для цябе пякла. У магазіне мука з'явілася, з мацерыка прывезлі.

Ён зірнуў на яе грудзі і ўспомніў, што калісьці яны былі падобныя на белыя чайнічкі і надта яму падабаліся, а цяпер звялі. Адчуў, як торгнулася левае павека, — гэтак здаралася, калі хваляваўся.

— І чым вы тут займаецеся? Ну, акром работы.

— Рыхтуемся да знамянальнай даты, да сямідзесяцігоддзя таварыша Сталіна, бяром новыя павышаныя сацыялістычныя абавязацельствы, звышпланавыя пастаўкі даводзім да насельніцтва, робім усё.

— Ці чытаеце вы ў гэтай глушы якія-небудзь кнігі?

— Калі час ёсць, дык чаму б і не пачытаць? Якую-небудзь навінку. Вось дужа цікавая кніга з'явілася — «Кавалер Залатой зоркі». У раённай бібліятэцы чарга.

— А помніш, як мы з табой на сопку ўзбіраліся?

— Помню. Маладыя былі. На табе яшчэ блакітная касынка была.

Анфіса адпіла з кубачка, пасміхнулася.

— Дык помніш!

— А чаму ж не, помню.

— Што аб'ядноўвае людзей? Мінулае! Пражытае разам! — сказала яна і нібы крыху павесялела, займела нейкую надзею, але ён астудзіў яе спадзяванні.

— Я ўжо, Анфіса, да гэтага клімату прывык. Я ваяваў тут, партызаніў. Лес палюбіў.

— У нас сопкі.

— Я помню.

— Я бачу, мілы, што ты тут вельмі адзінокі, мала вакол цябе цяпла.

Пятро прамаўчаў, глынуў з кубачка і папрасіў:

— Дай развод, Анфіса.

Яна апусціла галаву і пачала ўсхліпваць. Ён стаў супакойваць, паклаў руку ёй на калена. Яна ссунула яго руку, паглядзела кудысьці ўбок, пазмрачнела.

— Развод я табе, Пётр Нікадзімавіч, не дам. Мы хоць з табой і не вянчаліся, але ты мой законны. Дзеці — ад цябе. Любоў у нас была, ды яшчэ якая! Я помню.

— Значыць, не даш?

— Не.

— Ты не жадаеш глядзець праўдзе ў вочы, — папракнуў ён. — Я ўжо адрэзаны кусок. Лёс гэтак распарадзіўся.

Вусны яе хваравіта і непрыгожа скрывіліся, і яна зноў ціха, бязгучна заплакала. Па шчаках пакаціліся слёзы.

Пятро памкнуўся быў суцешыць:

— Анфіса, мая дарагая...

Але яна абарвала яго:

— Не называй мяне «мая дарагая».

— Усё ж такі...

Анфіса ведала, куды ў такіх выпадках трэба ісці — пайшла ў райком. Пятро нават пашкадаваў, што здуру прызнаўся, што ён член партыі. Ніхто ж за язык не цягнуў.

У райкоме прымаў сакратар Харахорын — высокі, худы, касцісты, яшчэ не стары, мужчына. «Пакараць мы яго пакараем, — сказаў ён, пазяхаючы і прыкрываючы рот, — строга пакараем, па партыйнай лініі, але прымусіць вярнуцца да вас — не ў нашай прэрагатыве. Самі разумееце».

Яна не ведала, што гэта такое — «прэрагатыва», але сэнс выраку сакратара да яе дайшоў. Яна яшчэ раз зірнула на ссутуленую постаць службоўца і пакінула яго кабінет. «Сілай не быць мілай», — успомніла яна старую прымаўку, якую неаднойчы чула ад маці, і глыбока ўздыхнула.

Начавала пару начэй у гасцініцы. Пара было пускацца ў адваротны шлях. Яшчэ раз сустрэлася з Пятром.

— Ну, што ж, трэба вяртацца. Дзеці чакаюць, ацец з маманяй, — уздыхнула яна.

— Паязджай, Анфіса. Мажа, і я кагда-та прыеду.

— Штой-та не веру.

Ён стаяў перад ёю, апусціўшы вочы.

— Малаверагодна, — дадала яна.

Ён праводзіў яе на службовым «газіку» да Жабінкі, пасадзіў у поезд. Паціснулі адно аднаму рукі і развіталіся. На развітанне ўсё ж такі пацалаваліся.

Ні з чым вярталася Анфіса дадому, на свой Сахалін. Адно толькі два кілаграмы сала везла ў фанерным чамаданчыку. Гэта Пятро купіў ёй на Камянецкім базары, куды яны хадзілі разам. Ён жа дапамог ёй купіць чыгуначны білет на зваротны шлях. Ужо ў вагоне яна сказала яму загадкавыя словы:

— Аднак, Пеця, муж дарагі, мецінка на табе ляжыць. Ляжыць, думаю, не дарам, а да случая. На шчацэ мецінка, каля скроні...

На развітанне ён марудна і доўга махаў рукой. Стаяў на пероне і пасля таго, як поезд знік за паваротам.

Мачалаву ва ўліковую партыйную картачку запісалі строгую вымову, але гэтым і абмежаваліся «персанальнай справы» не стваралі.

— С кем не случаецца, — сказаў сакратар па ідэалогіі таварыш Самовіч.

## III

Зімою адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет. Прускаўскі выбарчы ўчастак № 82/195 месціўся ў памяшканні школы. Дырэктару Ксенафонту Іванавічу Рыбаку, нягледзячы на тое, што ён усё яшчэ заставаўся беспартыйным, улічваючы яго службістасць, даверылі ўзначаліць выбарчую камісію. Тут, было сказана, патрэбен быў мясцовы таварыш. Агульнае палітычнае кіраўніцтва было ўскладзена на знаёмага прускаўцам упаўнаважанага з раёна Лазуціна, які ажыццяўляў яго з дапамогай (а можа, і пад кантролем) участковага міліцыянера малодшага лейтэнанта Сценгарыева. У школу правялі тэлефонную сувязь, паставіўшы свежыя ачэсаныя слупы і нацягнуўшы на іх дрот. Лазуцін не адыходзіў ад апарата, баючыся, каб хто не абарваў дрот і не папсаваў сувязь з Камянцом. Папярэдзіў і Сценгарыева:

— Тады застанемся без указанняў, а гэта — усё, канец, паляцяць галовы.

Чаму канец, не патлумачыў, але ўсёй сваёй каржакаватай постаццю выказваў трывогу і заклапочанасць.

Выбіралі Сталіна і нейкага начальніка з Мінска Здаравеніна, іхнія партрэты былі расклееныя на выбарчым участку, на школе, і над прылаўкам у магазіне, дзе гандляваў Салівэсь. Абое кандыдаты — і Сталін, і Здаравенін — ад аднаго блока камуністаў і беспартыйных. Зрэшты, другога і не было. Газеты пісалі, што гэтага цалкам дастаткова, каб пад сталінскім сонцам расквітнела жыццё працоўных мас.

Склалі спіс выбаршчыкаў. Са свежых аполкаў пазбівалі кабіны для галасавання, занавесіўшы іх прыгожымі тканымі посцілкамі. Чырвонай матэрыяй абабілі урну. Прыгатаваліся як след. Выбарчы ўчастак адчыніўся ў прызначаны дзень, у нядзелю, у чатыры гадзіны раніцы. Лазуцін з Сценгарыевым зверылі гадзіннікі. Тут жа, каля іх, знаходзіўся і дырэктар Рыбак. Ксенафонт Іванавіч бездакорна выконваў свае абавязкі. Яго тоўстая чырвоная шыя пачырванела яшчэ больш.

Асаблівы гонар таму, хто прагаласуе першы, і такія, жадаючыя прагаласаваць першымі, знайшліся. Гэта былі Гамон і Хвядзюшка Шпунт. Баючыся праспаць, яны вырашылі на выбарчым участку заначаваць, каб назаўтра першымі атрымаць бюлетэні і першымі прагаласаваць. Гамон нават абдумваў прамову, якую ён скажа перад тым, як апусціць бюлетэнь у чырвоную урну. Гамон заставаўся такім жа неўтаймоўным, якім быў заўсёды.

Лазуцін са Сценгарыевым паставілі задачу апавясціць выбаршчыкаў з такім разлікам, каб да раніцы прагаласавалі ўсе. Хай сабе дабравольна-прымусова. Нічога страшнага. Гэта будзе добрым падарункам таварышу Сталіну і паказчыкам узрослай свядомасці. Рыбак з уласцівай для яго службістасцю правёў адпаведную падрыхтоўку. Былі сумненні наконт айца Клаўдзія: каб не праспаў. Усе ведалі, што паспаць бацюшка любіў. Параіўшыся з Лазуціным і Сценгарыевым, Рыбак вырашыў паслаць да святара школьнікаў (тых самых калядоўнікаў), каб своечасова адарваць ад сну і напомніць пра грамадзянскі абавязак. Меў у гэтым патрэбу, на думку

Рыбака, і дзяк Кухта, які таксама любіў паспаць. Заадно трэба было патрывожыць і Амелію.

— Я ў гэтай вёсцы нядаўна, але мясцовых сабатажнікаў ведаю, — сказаў Рыбак.

Будзіць накіравалі прускаўскіх хлопцаў-школьнікаў. Тут былі Гога Пахолак, Жэнік і Віцік Галёнкі, Толік Хомка з Жоржыкам, Іван Каленік, Васька Ламака і Валодзя Платонаў. «Гэта вам піянерскае даручэнне! — сказаў дырэктар. — Гэта не тое, што з «гвяздай» хадзіць ды опіум у народзе сеяць. Паглядзім, як вы апраўдаеце высокае давер'е! — прыгразіў ён. — Піянерскія гальштукі завяжыце!»

Над Прускай завывала злая завіруха, падвышаючы і без таго высокія сумёты. Пад раніцу яна зусім ашалела. Не для каго не было сакрэтам, што завіруха — задавальненне для чорта, што ён яе і распачынае. Пра гэта ведалі ўсе. Мароз хапаў за нос, драў за вушы. Падлеткі нахіляліся наперад сваімі танклявымі постацямі, каб адолець сілу сустрэчнай дуйкі, пракладалі сабе дарогу, правальваючыся ў сумётах. Вецер развяваў чырвоныя піянерскія гальштукі, якія, пасля падказкі Ксенафонта Іванавіча, не забылі павязаць хлопцы, абпякаў шчокі.

У акно святару стукаў Гога Пахолак, стукаў доўга і настойліва, пакуль праз шыбіну паказалася заспанае барадатае аблічча айца Клаўдзія. Накінуўшы на плечы нейкую апранаху, ён выйшаў на ганак.

— Давайце ў школу, — адольваючы посвіст ветру, патлумачыў яму Толік, — бо нам сказалі: дабравольна-прымусова. Пара ўжо галасаваць! Цяпер з гэтым строга, не так, як калісьці.

— Іду, іду! — замітусіўся святар. — А як жа? Трэба...

— Не баўцеся!

— Не, не.

Пасля гэтага пасыльныя накіраваліся да Амеліі. Зімою яна спала ўвесь час і ўставала хіба толькі па якой-небудзь пільнай патрэбе. Калі нейкая кабеціна прыходзіла пагадаць на картах, ці калі ў Пруску прыязджала кінаперасоўка.

— Яна кожнага дня галасуе, — сказаў пра Амелію Толік, маючы на ўвазе яе сварлівы характар, тое, што яна часта і абы з кім скандаліла, крычала, даказваючы нешта сваё, нікому ні ў чым не саступала.

Пастукалі да гадалкі з асцярогай, нават пачціва. Дастукацца да Амеліі няпроста, нават дабрацца няпроста. Перад дзвярыма, там, дзе летам буяў чартапалох, цяпер гара снегу. Да ганка прабіраліся каля самай сцяны, дзе яшчэ захавалася такая-сякая адтуліна.

— Уставайце! — сцішана гукнуў Жоржык. — На выбары! У школе! Не пазніцеся! А то...

Што будзе «а то», Жоржык не ведаў і сам, але для пэўнасці прыгразіў. Пачула яна ці не — невядома. Хутчэй за ўсё не пачула, бо нічога ў адказ не сказала. Нечакана на гэты раз яна паднялася досыць жвава, як бы і чакала, стоячы за дзвярыма. Прыадчыніла дзверы і з цемры агледзела падлеткаў. Пачуўся яе ўдавана-радасны голас:

— Радасць якая! Якое шчасце! Якое шчасце прываліла!

Пасыльныя павесялелі. Але неўзабаве яна перайшла на крык:

— К чорту! К д'яблу! Я ўжо стамілася ад гэтай радасці! Бачыш, што ім трэба! Чаго захацелі! Голасу майго захацелі! Смердзюкі! Акаянцы! Галадранцы! Скулля ім, а не голасу! Так і перадайце! Прэч!

— Там гарачы чай! — выціснуў з сябе Валодзя, успомніўшы, як Сняжана Валер'еўна несла чайнік.

— Не пайду! Не пайду!

Дзверы зачыніліся, і з таго боку бразнула засаўка. Нейкі час панавала цішыня. Потым з-за дзвярэй пачулася:

— Чай? Herbata? — з недаверам перапытала варажбітка.

— Гарбата, гарбата! — нястройна запэўнілі падлеткі, ведаючы, што гэтак яшчэ называюць чай.

— Ну, то калі herbata...

Відаць было, што Амелія памяняла сваё рашэнне і, напэўна, прыйдзе на выбарчы ўчастак.

Пасля Амеліі пайшлі да Лаўра Яўсеевіча, які жыў непадалёку. Паднялі і яго. Лаўр Яўсеевіч не супраціўляўся і не пярэчыў, а адразу пачаў збірацца.

Лазуцін са Сценгарыевым ізноў доўга звяралі гадзіннікі, каб не прапусціць адказны момант.

— Роўна чатыры гадзіны! — суха канстатаваў Рыбак.

Усё было напагатове.

— Можна пачынаць! — скамандаваў Лазуцін, калі раптам ў дзвярным праёме ўзнікла постаць айца Клаўдзія, гаматная, закіданая снегам. З-пад кажуха, як спадніца, віднелася чорная, да пят, папоўская раса.

— Добрай ночы! — зняў шапку, павітаўся першы выбаршчык і рукамі пачаў страсаць снег з касматага каўняра, плячэй і грудзей. Азірнуў абкладзены паперамі стол і членаў выбарчай камісіі, якія за ім сядзелі.

— Добрай раніцы! — паправіла яго Сняжана Валер’еўна, якая адзначала яўку выбаршчыкаў і выдавала бюлетэні. Як заўсёды, выглядала свежай і прывабнай, хоць час быў па-начному няпэўны.

Святару прапанавалі распранiуцца, але ён не стаў гэтага рабіць, а адразу узяў з рук Сняжаны Валер’еўны бюлетэнь і, згледзеўшы ля сцяны чырвоную урну, падышоў і апусціў бюлетэнь у шчыліну. Працэсам апускання бюлетэняў кіраваў дырэктар Рыбак. Ён з прыхлопам паклаў руку на урну, затуліўшы шчыліну, нібы баючыся, што бюлетэнь айца Клаўдзія можа выскачыць адтуль назад. Выканаўшы свой грамадзянскі абавязак, айцец Клаўдзій на развітанне суха кіўнуў галавой і пасунуўся дадому.

У кутку за кабінамі храплі Гамон з Хвядзюшкам. Пабудзіў іх Лазуцін.

— Ну, перадавікі называецца. Праспалі! Поп вас апярэдзіў!

Спрасоння Гамон не мог уцяміць, дзе ён і што адбылося. Не паверыў:

— Не можа такога быць!

Айца Клаўдзія назваў шкоднікам.

Хвядзюшка, які ачомаўся хутчэй, нічога не кажучы, падхапіўся і падбег да стала атрымаць бюлетэнь. Следам за ім кінуўся Гамон. Пачалася спрэчка, каму апусціць бюлетэнь першаму.

— Я за блок камуністаў і беспартыйных! — гучна прамовіў Гамон, падняўшы бюлетэнь над галавой. — За таварыша Сталіна!

— І я за блок камуністаў і беспартыйных! — не саступаў яму Хвядзюшка.

Пачалі адзін аднаго штурхаць, адціскаць ад урны, ледзь не ўсчалася бойка. Памірыў іх Рыбак. Узяў у аднаго і другога бюлетэні, склаў іх разам, перагнуў і ўткнуў у шчыліну.

— Абодва першыя!

— Згодзен! — зіркнуў на Хвядзюшку Гамон. — Хай будзе так, бо спрачацца з табой — што супраць ветру пляваць!

Пайшлі людзі, усё больш і больш. Адным з першых прагаласаваў Васіль Іванавіч Клюка.

Адгаласаваў і Лаўр Яўсеевіч.

Каля стала, дзе раздавалі бюлетэні, стаяў Мікалай Фаміч Шпронька і не то загадваў, не то прасіў тых, хто атрымаў бюлетэнь:

— У кабіны не заходзьце, каб не было падазрэння. Наш выбраннік — таварыш Сталін. У бюлетэні пра гэта напісана. Тут няма чаго думаць, бо таварыша Сталіна ўсе мы добра ведаем.

Лазуцін са Сценгарыевым сядзяць наверсе, у настаўніцкай, каля тэлефона, п'юць чай, але ўсё адно будуць ведаць, калі такое здарыцца, хто заходзіў у кабіну. Можна будзе спытаць, чаго ён туды заходзіў. Ніхто і не заходзіў. Атрымаўшы бюлетэнь, кожны спяшаўся да чырвонай урны, а ў бок кабін нават і не глядзеў. Зрэшты, не было каго і выкрэсліваць. Сталіна ж не выкрасліш — рука не падымаецца, страшнавата, бо што, калі знойдуць, хто выкрасліў? Немагчыма нават уявіць сабе, чаго тады можна чакаць. Здаравеніна ніхто не ведаў — такога таксама чапаць не хочацца: няма за што зачапіцца. Хай ідзе! Хай сядзіць у тым недасяжным Вярхоўным Савеце!

Нехта пастукаў у акно да Кужалёў. Яшчэ не развіднела. Лявон падняў фіранку, але не адразу пазнаў, хто гэта, прыгледзеўся. За акном стаяў Хвядзюшка.

— Чаму не галасуеш? — прабубніў ён.

— Дык яшчэ рана надта.

— Пара!

— Зразумеў.

— Давай!

Давялося Лявону і Фёкле хуценька збірацца і ісці. Снедалі, ужо вярнуўшыся з выбарчага ўчастка.

Прагаласавалі Васіль з Просяй, з'явіліся без дадатковага напаміну. Ашчадна вёў Платонаў сваю цяжарную палавіну праз прускаўскія сумёты. Крыху пазней з'явіўся Мікіта Галёнка, прывёў сваю Таісу, якая, як і Прося, у чарговы раз была цяжарная.

Выбарчая камісія імкнулася скончыць мерапрыемства як найхутчэй і з поспехам, з дадатным вынікам. На санках, з маленькай скрынкай-урнай, паехалі да хворых і нямоглых. Здаровых, хто затрымліваўся з прыходам на выбарчы ўчастак, падганялі пасыльныя — вучні.

— Амелія не хоча ісці! — далажылі яны, вярнуўшыся з чарговага абходу.

— Якая Амелія? — не зразумеў Мурашка.

— Бэська. Адзін раз да яе ўжо хадзілі, быццам бы згадзілася, а цяпер зноў заўпарцілася.

— Воз дроў паабяцайце! — параіў вынаходлівы Шпронька.

— Нашто ёй дровы! — запярэчыла Аляўціна Дзіядотаўна, што разам з іншымі сядзела за сталом і выдавала бюлетэні. — Яна ўсё роўна не топіць. Брат Восіп жыве ў адной з ёю хаце, за сцяною, дык ад яго і Амелія грэецца.

Амелія аднак глыбей насунула капялюшык, туга апнулася коцам, раскрыла свой дзіравы парасон, і, адолеўшы ўсе снежныя сумёты, з'явілася. Адразу спытала пра абяцаную гарбату, і каб з цукрам. Запатрабавала яшчэ і «цястак»[1], але «цястак» не было. Прагаласавала толькі тады, калі выпіла тры шклянкі, з цукрам. Потым адужала яшчэ і чацвёртую.

— Распушчанасць! — зрабіў вывад Лазуцін, калі выбаршчыца пайшла. — Бачыш, як ставіць пытанне: «Без чаю не буду галасаваць!»

---

[1] Пячэнне (*польск.*).

Але, ведаючы сварлівы характар Амеліі, ніхто з ёю не хацеў звязвацца.

Пад раніцу, намёўшы горы снегу, завіруха прыпынілася. Вызірнула з-за хмар сонейка і заззяла на свежых сумётах і доўгіх ледзяшах, што густа звісалі з прускаўскіх стрэх. Усе ўздыхнулі, разняволіліся, бо, што ні кажы, а надвор'е мае вялікі ўплыў і на чалавечы настрой, і на ўчынкі. На выбарчым участку, на другім паверсе, пачаліся музыкі. Весялілася моладзь. Школьныя парты прысунулі да сцен, і закружыліся ў жвавых танцах пары. Іграў усё той жа стары халасцяк з Пакупчыкаў Коля Цыцка, шырока расцягваючы мяхі свайго пастарэлага ўжо і паношанага, як і сам гарманіст, акардэона. Часам Коля давяраў «гармоню» Сяргею Жэшкаму, які ўмеў хвацка на ёй іграць, а сам, каб размяцца, выбіраў партнёршу (не самую маладую) і танцаваў, смешна дрыгаючы карацейшай нагой.

Адмыслова, як заўсёды, з падскокам на абедзвюх нагах, танцаваў Коля-марынчык.

Дзяўчаты кружыліся, не здымаючы кароткіх, аздобленых вышыўкамі кажушкоў. У перапынках спявалі — песні, прыпеўкі. Пачуўся звонкі галасок Сонькі Дземідзюковай, якая ведала шмат прыпевак і ахвотна іх выспеўвала:

Ой, у лузе, пры даліне,
Пяе песні салавей:
Сёння весела жывецца —
Заўтра будзе весялей!..

Суладна, прыгожа танцуюць Параска з Аркадзем. Відаць, што злюбіліся. У Парасці напушчаныя, па модзе, на лоб валасы віліся рудаватымі колцамі. Ззаду ў валасы ўплецена чырвоная стужка. Грудзі аблягаў прыгожы станік. Не шмат часу прайшло пасля вяртання з Германіі, а як акрэпла, выгладзілася, цела стала як налітае. Ад хуткага танца і ўзбуджанасці блішчэлі пад цёмнымі вейкамі яе ўсмешлівыя вочы.

Аркадзь — хлопец відны, высокі, у хромавых ботах, спушчаных гармонікам. Настрой прыўзняты, радасны. Пазіраў на Параску пажадлівымі вачыма. А тая танцуе ды пры гэтым, таксама як і Сонька Дземідзюкова, прыпеўку аброніць:

Мама, чаю, мама, чаю,
З залатога чайніка.
Не хачу я за прастога —
Хачу за начальніка-а!..

Аброніць прыпеўку і залівіста засмяецца. І дзе толькі тым прыпеўкам навучылася? Хіба што калі з Чалябінска дадому дабіралася.

Падлеткі, што ноччу паднімалі электарат ісці на выбары, таксама тут. Гога, які лічыць сябе кавалерам, нават запрашае дзяўчат на танец.

Валодзя пачуў, як пасля танца разгарачаны Аркадзь сказаў Парасцы:

— Смачная ты, як капуста ў канцы кастрычніка!

— А можа, як морква? — рагатнула ў адказ Параска.

Яшчэ пра нешта гаманілі, але гамонку заглушыў наступны танец.

Дачка Паўла Гальяша Зоя — таксама дзяўчына з прыемным голасам:

Ты ігай, ігай, гармошка,
Мне на сэрцы весялей.
Выбіраем у дэпутаты
Замячацельных людзей!

Ахалонуць, абмахацца белымі з карункамі хусцінкамі выходзілі ў калідор. Зноў пацiху гаманілі Аркадзь і Параска.

— Як там нашы кумпячкі? — пацікавіўся Аркадзь і ўшчыпнуў яе ззаду, ніжэй прыгожага станіка.

Параска ўвішна ўхілялася.

— Параша! — звяртаўся ён да яе.

— Што?

— А ведаеш, срака ў цябе ну проста залатая.

— Ну ты і скажаш! — яна не ведала, як паставіцца да гэтакага камплімента, крыўдзіцца ці, наадварот, ганарыцца.

— Хвігу яму пакажы! — вучыла Параску сяброўка Сонька Дземідзюкова, калі разам выходзілі ў калідор і Параска расказвала ёй пра Аркадзевы «кампліменты».

— Нешта губы пякуць, — смяялася Параска.

— Цалавацца будзеш, — адказвала ёй на гэта Сонька.

Па самагонку, каб падтрымаць належны настрой і пачаставаць музыкантаў, бегалі да Галені, якая жыла ў суседняй Выгнанцы.

— У яе пяршак, пад выбары выгнала, — паведаміў Сашка Яўгенін, які добра ведаў усіх самагоншчыкаў у наваколлі.

Галеня — саламяная ўдава, інвалід. Адна нага ў яе свая, другая — драўляная, пратэз. Інваліднасць уплывала, вядома, і на жыццёвы занятак, і на лёс. Яна варажыла, як і Амелія, зводнічала, але жыла галоўным чынам з таго, што гнала самагонку, і ў гэтай справе дасягнула не абы-якога майстэрства. Умела сутыкнуць паміж сабой вольныя стыхіі — агонь, ваду, брагу і пару. У выніку нараджаўся п'янкі, духмяны самагон, здольны цаліць і забіваць, радаваць чалавека і наганяць сум. Фірменнае дасягненне Галені — пяршак, настоены на тытуні. Але гэта для аматараў. На гэты раз самагонка аддавала прэлым жытам і саладжаваю бульбай, але хлопцы былі без прэтэнзіі: на ўсіх магло і не хапіць.

— Піце, калі ласка, пускайце кілішак у рух, а то іншыя чакаюць! — казала Параска.

Прыгубіўшы Галенінага вырабу, зноў пускаліся ў скокі, зноў гучала музыка...

Выбарчае мерапрыемства ўдалося і было скончана яшчэ да абеда. Камісія аднак хвалявалася, асабліва Лазуцін са Сценгарыевым. Пачалі падлік галасоў. Перавярнулі урну дагары дном, вытраслі бюлетэні. Чысценькія, некранутыя. І ўсё ж такі на адным прозвішча Здаравеніна было выкраслена. Хтосьці пусціў у ход аловак, даверыўшы месца ў Вярхоўным Савеце аднаму толькі Сталіну. Сталіна пакінуў, а Здаравеніна выкрасліў.

— Нехта знайшоўся! — дзівілася, пацепвала плячыма Сняжана Валер'еўна. — Чаго яны ад гэтага Здаравеніна хочуць? Добра, што хоць таварыша Сталіна не зачапілі.

— У чым справа? — не адразу зразумеў, пра што ідзе гаворка, Лазуцін.

— Здаравеніна нехта пракінуў, — пашкроб патыліцу Сценгарыеў. — Ну і народ! Хто ў кабіну заходзіў?

— Ніхто не заходзіў, я прасачыў! — далажыў Рыбак.

— Хто ж гэта такі, што ўсё ж такі вычаркнуў таварыша Здаравеніна? Хацеў бы я знаць! — сярдзіта выказаў сваё незадавальненне Лазуцін. Ён курыў, у руцэ дымілася запаленая папяроса, пра якую ён, заняты падлікам галасоў, забыў. — Зноў мне за вас атвячаць?

— Я назіраў самым уважлівым чынам, — апраўдваўся і Шпронька, — ажно хтось, відаць, схітрыўся.

— Знайшлася нейкая паршывая аўца! — гарачыўся Лазуцін.

— Не ўсё бачым, — з дакорам дадаў Рыбак. — Не ўсё...

Зазваніў тэлефон. Званілі з Камянца, з райкома. Трубку ўзяў Лазуцін.

— Усе, як адзін! Сазнацельнасць — высокая, акціўнасць таксама, — далажыў ён, падняўшыся і стаўшы на выцяжку. — Трыста дзесяць чалавек! Поўнае адзінства блока камуністаў і беспартыйных. Як і планавалі.

Затым адказаў на пытанне, якое яму было зададзена па тэлефоне:

— Аднагалосна. Адзін, праўда, знайшоўся, вычаркнуў таварыша Здаравеніна. Хто? Пакуль што не ведаем. Прымаем меры.

Трубка прымоўкла, потым зноў загаманіла, хтосьці даваў новыя ўказанні, на што Лазуцін некалькі разоў казаў: «Слушаюся!»

Вынікі выбараў прызналі ў цэлым станоўчымі.

— Ну, таварышы, выбралі! — з палёгкай выдыхнуў з грудзей паветра Лазуцін.

Шпронька прапанаваў замачыць поспехі. Рыбак прапанову падтрымаў. Лазуцін і Сценгарыеў былі не супраць. Да Салівэся паслалі Ляксандра Гальяша, які жыў побач са школай і к таму часу працаваў вартаўніком і апальшчыкам адначасова, тапіў печы. Стол накрылі ў настаўніцкай, дапамагалі Аляўціна Дзіядотаўна і Сняжана Валер’еўна.

Зноў загаманіў Лазуцін:

— Аказваецца, па нашым участку ўсё-такі хтосьці адзін знайшоўся! Прадстаўляеце? Выкрасліў! Гэта ж, калі ўдумацца, ЧП! Сёння таварыша Здаравеніна выкрасліў, а заўтра… яшчэ каго!

— Хто б гэта мог быць? — у тон яму азваўся Шпронька.

— Разбяромся!

— Ён жа ні ў чым не вінаваты, — сказала, маючы на ўвазе Здаравеніна, Аляўціна Дзіядотаўна.

— Куркуль нейкі! — вырашыў Рыбак.

— Ну, не інакш!

На стале сярод закусак ужо стаяла запацелая ад холаду бутэлька, якую прынёс Ляксандар.

## IV

Яшчэ трывала зіма, у лагчынах ляжаў снег, а на палях белымі прывідамі клубіўся туман, калі ў Прускаўскую школу нечакана наведаўся знакаміты паэт Мікола Засім, вядомы на Берасцейшчыне яшчэ з польскіх часаў. У Пруску ён заглянуў упершыню. Заявіўся разам з Пятром Мачалавым ці, дакладней, у яго суправаджэнні. Легкавушка спынілася каля школьнай брамы, і Мікола, прыгінаючыся і прытрымліваючы на галаве капялюш, доўга выбаўляўся з яе зацеснага для яго нутра. Нарэшце выбавіўся, і ўсе ўбачылі, які гэта мацак. Супраць Мачалава ён больш мажны і дужы. Рослы, з шырокай грудзінай і адкрытым паглядам блакітных вачэй, заўсёды гатовых пасміхнуцца. Як бы адчуваў набліжэнне вясны. Апрануты госць быў далёка не па-тутэйшаму: скураное паліто, жоўты капялюш, стракаты, з перавагай чырвонага і зялёнага, гальштук. «Пры часах!» — заўважыў нехта, калі Мікола адгарнуў рукаў, каб зірнуць на гадзіннік, вызначыцца з часам.

— Марыканец! — сказала прыбіральшчыца цётка Груша, седзячы каля бачка з вадой, калі паэт размашыстым, незалежным крокам прайшоў у настаўніцкую. Яна яшчэ помніла тую мінуўшчыну, калі з Амерыкі вярталіся мужчыны ў капелюшах і з далярамі ў кішэні. Іх называлі «марыканцамі».

На Мачалаве таксама скураная куртка, якімі ў паваенныя гады забяспечвала Амерыка па праграме ЮНРА. Але адзежына на ім была зашпіленая на ўсе гузікі.

— Гэта сустрэча даўно наспела, — сказаў ён, калі яны зайшлі ў настаўніцкую. — Хацелі сустрэцца з людзьмі яшчэ да выбараў, паагітаваць за нашых кандыдатаў, але не давялося. Паэт вершы пісаў, а я работай заняты быў.

У настаўніцкай, у кутку, стаяў батарэйны радыёпрыёмнік «Родина-47».

— Заможна жывяце! — адзначыў Мікола, звярнуўшы ўвагу на гэтую тэхніку. Зняў капялюш, расправуў паліто.

На першым паверсе, як звычайна ў такіх выпадках, рассунулі зборную перагародку паміж класамі, каб большая была зала. Сабралася ўся школа — вучні і настаўнікі. Паклікалі вяскоўцаў. З'явіліся і яны. Некаторыя сядзелі і лузгалі семкі, ціха выплёўвалі шалупінне. На іх з непрыхаванай пагардай пазіраў незадаволены такімі паводзінамі Васіль Іванавіч Клюка.

Лявон з Фёклай сядзелі ззаду, але добра бачылі, як у залу разам з Пятром Мачалавым наспешна, разглядаючы прысутных, увайшоў паэт. Сустрэчу можна было пачынаць. Госць стаў знаёміцца, расказваць пра сябе.

— Я чалавек просты! — гукнуў ён у залу.

Аказалася, што не толькі просты, але і зямляк. Родам Мікола быў з-пад Пружан, з вёскі Шэні, са зразумелага ўсім вясковага асяродку. Пры панах сядзеў, але выпусцілі. У вайну партызаніў, біў ворага і куляй, і радком. Асабліва радком, прыпеўкай.

— Дзе подпіс стаіць «Агонь», альбо «Асот», — гэта мая работа, мой верш. — Псеўданімы ставіў, каб да родзічаў не чапляліся, бо было і такое. Мае вершы ведае ўвесь Пружанскі край, ды што там Пружанскі край — уся Беларусь! У тую, царскую, вайну быў у бежанстве ў Расіі, пад Саратавам, у гэтую — у партызанскім атрадзе. Білі гітлераўцаў, не давалі спакою ні ўдзень, ні ўначы. На «жалезку» хадзілі...

Ён кінуў вокам паверх галоў біткам набітай залы вучнямі, настаўнікамі, вяскоўцамі і працягваў:

— Цяпер працую над падвышэннем свайго творчага багажу, паводле сучасных патрабаванняў. Дапамагаюць вось такія сустрэчы з людзьмі, з чытачамі, натхняюць на новыя вершы, на новыя задумкі і тэматыку. Падумваю, каб паспрабаваць паехаць павучыцца майстэрству ў Маскве, у Літінстытуце. Там вучыўся сам Твардоўскі, аўтар, усе ведаюць яго, «Васіля Цёркіна». Дарэчы, і мой перакладчык перакладае мае вершы на рускую мову, на ўвесь Савецкі Саюз. Гэта, таварышы, калі гаварыць прозай, але прозай не шмат скажаш. Давайце пачытаю. Пачну з даўніх вершаў.

І ён пачаў.

Гэй, паэты вёскі й поля!
Я ваш сябар Засім Коля!
З-пад Пружанаў, з вёскі Шэні.
І ў мяне, браты, у кішэні
Часта грошай брак на марку,
Рэдка ў страве бачу скварку,
Бульбай ўсенька пакрываю,
Гумы цяжкія цягаю...

У зале, у задніх радах, паблажліва засмяяліся, але Мікола не звярнуў на гэта аніякай увагі, чытаў:

Нашы песні з сталі скуты!
Перашкоды ўсе здрузгочуць!
Яны волі, волі хочуць!..

Голас паэта аказаўся, без перабольшвання, проста грамавы. Зазвінелі шыбы ў вокнах. Цётка Груша, якая сядзела ў першым радзе, прыкрыла вушы рукамі. Астатнія таксама былі здзіўлены. Паэт гудзеў, як звон, зрэдку ўдараў кулаком у грудзі, і там нешта яхкала. Калі скончыў чытаць, слухачы, крыху ўразнабой, пачалі пляскаць у далоні. Але папляскалі крыху і аціхлі.

— Не гаворыць, а грыміць, як Ілля-прарок, калі са сваёй калясніцай на калдобіну трапляе, — пракаменціравала Засімава чытанне Параска.

Паэт стаў тлумачыць:

— Гэта напісана за польскім часам.

Затым прачытаў яшчэ адзін верш:

Мы нічым так не багаты,
Як багаты мы бядой,
Нашы хаты — ў шыбах латы,
Сцены сыплюцца трухой.

Зноў зарабіў сцішаныя апладысменты.

— Гэты верш я напісаў таксама яшчэ пры Польшчы, калі Заходняя наша Беларусь знаходзілася ў падняволеным, каланіяльным стане, апісаў усё як ёсць.

«Дзіва што, — сам сабе пасміхнуўся Лявон, — цяпер такое не напішаш. Заграбуць адразу...»

Паміж вершамі Мікола гаварыў ціха, але як толькі пачынаў чытаць верш, голас набіраў такой сілы, што дрыжэлі сцены. Нагадваў артыста: разводзіў рукамі, павышаў і паніжаў голас, часам пераходзіў на шэпт, хапаўся за галаву і паціскаў шырокімі плячыма. У размашыстыя, дынамічныя жэсты ўкладваў шмат энергіі. Але самі вершы былі простыя, даходлівыя. Карову называў каровай, кажух кажухом, махорку махоркай, бяду бядой. Чытаў аўтар не па паперцы, а на памяць. Гэта дзівіла яшчэ больш: усё носіць у галаве.

— Кажа, як вяжа, — пачулася ззаду. Гэта азваўся Прохар Грудка, вядомы сваёй дасціпнасцю.

Калі Мікола заканчваў чытаць, усе і больш гучна, чым спачатку, пляскалі ў далоні. Нярэдка дружна рагаталі. Разам з усімі смяяўся і Мачалаў, які сядзеў у першым радзе, як і цётка Груша. Паэт яшчэ раз на ўсякі выпадак папярэдзіў, што гэта вершы не цяперашнія, а напісаныя яшчэ пры панскай Польшчы, пры панскім рэжыме.

— А цяпер паслухайце некалькі рэчаў, напісаных нядаўна. Верш называецца «Як тавары Дамініку збілі проста з панталыку»:

Магазінныя паліцы
Напаўняюць, як з крыніцы:
Футры, хусткі, драп, галошы,
На сукенкі шоўк харошы.

Дамініка брала, брала —
Аж ёй грошай стала мала.
У суседзяў сотак пару
Захапіла на тавары...

Магазінныя ж паліцы
Напаўняюць, як з крыніцы:
То батысты, то паркалі…
Дадаюць кабеце жалю:

«І навошта ўчора брала,
А да сёння не чакала?»
А што хлеба ў Дамінікі —
Поўных тры мяхі вялікіх.

Нахапала для запасу:
«Мо' не будзе хлеба часам?»
А назаўтра, як з крыніцы,
Поўна булак на паліцы...

Так тавары Дамініку
Проста збілі з панталыку.

Слухачы маўчалі. Неўпапад зарагатаў Гамон ды так голасна, што на яго азірнуўся сам Мачалаў.

— З чаго такі смех? — пацікавіўся ён.

— А што яму! — пасміхнуўся Цярэшка Макацёр, які сядзеў непадалёк. — Напхаў жывот грэчкай і смяецца!

Тут ужо засмяяліся ўсе, з усімі разам засмяяўся і паэт.

— Але ж і Дамініка! — азваўся нехта ззаду. — От нахапала!

Не выпусціў Мікола з-пад увагі і тую акалічнасць, што выступае ён у школе, дзе сярод слухачоў былі настаўнікі, у тым ліку і маладыя.

— Паслухайце верш «Маладой настаўніцы», — прапанаваў ён і зірнуў у бок Сняжаны Валер'еўны, якая з вышчыпанымі броўкамі і нафарбаванымі вуснамі выглядала, як заўсёды, вельмі прывабна.

Калі ты будзеш першы раз
Даваць урокі ў школе.
Ты не забудзь прынесці ў клас
Калоссяў спелых з поля.
Каб дзеткі, гледзячы на іх,
Вучыліся, як трэба
Любіць шум ніваў залатых —
Сваёй Радзімы неба.
Каб каласы для іх былі
Прывабаю, натхненнем,
Каб маладое на палі
З іх выйшла папаўненне.

Запляскала ў далоні Ганна Бочка, якая сядзела за суседняй партай, адкінуўшы крышку, каб было прастарней. Відаць, верш ёй спадабаўся. Лявон спыніў на ёй працяглы погляд.

Быў задаволены і Мачалаў, які пазіраў на паэта. «Някепскі таварыш, — гаварыла яго ўсмешка, — шчыры, талковы, з народам размаўляць умее...»

— Пісаць, вядома, не проста, — зноў пачаў казаць Мікола. — Пісьменнік, таварышы, гэта не той, хто піша, а той, каго чытаюць і слухаюць. Мяне і чытаюць, і слухаюць!

— Кацялок у яго варыць! — пахваліў паэта Мікіта Галёнка, які і сам — пра гэта ўсе ведалі — калісьці пісаў вершы.

— Не задарма ж піша! — з зайздрасцю прамовіў Гамон.

На развітанне Мікола дужа сардэчна, па-таварыску ціснуў руку настаўнікам, а Сняжану Валер'еўну нават па-сяброўску пацалаваў. Усім памахаў жоўтым капелюшом.

Магла крыху сапсаваць уражанне хіба што Амелія, без якой не абыходзілася ні адно вясковае мерапрыемства і якая таксама прысутнічала і на гэтай сустрэчы.

— Пры Польшчы было лепш, — сказала яна невядома каму, можа, нават сама сабе.

Мала хто аднак яе пачуў, бо апятая коцам Амелія сядзела ззаду, у кутку, і рэпліка яе не атрымала розгаласу.

Лявон пасля сустрэчы з паэтам казаў Фёкле:

— Калісьці, пры Польшчы, і наш Мікіта Галёнка пісаў вершы, але ў Засіма атрымліваецца лепш. Дзіву даешся, як у яго складна выходзіць.

— Бо вучоны.

— Відаць.

— А то паглядаеш на Ганну Бочку! — не выцерпела, зрабіла заўвагу мужу Фёкла.

— Усё ты заўважыш! — падзівіўся Лявон. — Адзін раз паглядзеў і то выпадкова...

Вучні разышліся па класах. Васіль Іванавіч, які прысутнічаў на сустрэчы, агульнага захаплення, відаць, не падзяляў, сказаў, агладзіўшы далонню карак, а потым і патыліцу сваёй шырокай лысіны:

— Мікола няблага, але надта гучна гаварыць. Часам хочацца ўсё- такі, каб цішэй.

— Надта гучна, — пацвердзіла Вера Грудка.

— Я чуў паэтаў, але яны чыталі цішэй. А гэты грукаціць, як пустая бочка па маставой. Аляксандр Блок чытаў ціха. Я чуў Аляксандра Блока, мы з ім па Палессі ў адным аддзеле служылі. Гэта яшчэ ў тую вайну было. Ён чытаў ціха. А гэты, ну, проста як труба іерыхонская.

Хто такі Блок і што такое труба іерыхонская, вучні не ведалі, але распытаць пра яго і пра трубу, ніхто не рашыўся.

Вярнуўшыся са школы, Валодзя з захапленнем успамінаў некаторыя радкі, якія пакінуў у памяці Мікола Засім.

— Лоўка піша, — пагаджаліся дзед з бабуляй.

— Я б таксама хацеў бы паэтам быць, — прызнаўся ўнук. — Гаворыш, а ўсе слухаюць. Толькі гаварыць трэба складна. У далоні пляскаюць, хваляць.

— А мы з дзедам пра іншае думаем, — загаварыла Фёкла, папраўляючы на галаве хустку. — Лепш бы, каб ты на папа вывучыўся.

Такое Валодзя не чакаў пачуць.

— На папа?

— А што? І нам бы з дзедам гонар быў. Мы былі б рады, каб на папа вывучыўся.

— Не, у папы не пайду.

* * *

Мікола Засім здзівіў тым, што ўсе вершы чытаў на памяць. Нялёгкая справа вывучыць верш на памяць, а гэтага неадменна патрабаваў Васіль Іванавіч. Васіль Іванавіч — чалавек скрупулёзны, дакладны да дробязей, патрабавальны. Даваў вялікія кавалкі для завучвання — як з паэзіі, так і з прозы. Да завучвання на памяць, уласна кажучы, і зводзіліся ўрокі па літаратуры.

Памяць у школьніка-пачаткоўца яшчэ тусклая, нераспрацаваная, слабая, таму завучванне на памяць давалася з цяжкасцю. Сітуацыя вымагала шукаць выйсця са становішча. Завучвалі па загадзе настаўніка ўрывак з оды Ламано-

сава «О вы, которых ожидает...» Ода засвойвалася цяжка. Старая ламаносаўская мова, хоць забі, не клалася на сучасную свядомасць, запаміналася дрэнна, і большасць спадзявалася толькі на тое, што Васіль Іванавіч не выкліча. Але выйсце знайшлося, і прыдумаў яго Валодзя. Незадоўга перад гэтым з Камянца прывезлі новую парту, зробленую са свежых адгабляваных дошак, але чамусьці непафарбаваную. Валодзя і прапанаваў, каб на гэтай парце, на дошцы, прыбітай спераду, алоўкам напісаць увесь урывак, і, каго выклічуць, будзе чытаць. Так і зрабілі — на перапынку тэкст напісалі буйнымі літарамі, каб прачытаць здалёк.

— Ну, як вам Ламаносаў? Як яго ода? — спытаў Васіль Іванавіч, пачаўшы ўрок. — Вывучылі? Твор выдатны!

Клас сціпла прымоўк, нібы затаіўся, голасу ніхто не падаў. Настаўнік сеў і ўнурыўся ў журнал, стаў перабіраць прозвішчы. Першай выклікаў Веру Грудку — выдатніцу. Паводле ўзросту яна ўступіла ў нялёгкую пару дзявочага даспявання, і гэта адчувалася, але сваіх старанняў у вучобе не збаўляла. Без асаблівых цяжкасцей ёй даваліся і мова, і чытанне, і арыфметыка, і ўсё астатняе. Вершы яна чытала на здзіўленне звонка, выразна і без запінкі. На памяць. Так было і на гэты раз.

О вы, которых ожидает
Отечество от недр своих
И видеть таковых желает,
Каких зовет от стран чужих,
О, ваши дни благословенны!
Дерзайте ныне ободренны
Раченьем вашим показать,
Что может собственных Платонов
И быстрых разумом Невтонов
Российская земля рождать...

Аніякая шпаргалка Веры не спатрэбілася, словы, радкі ажно ад зубоў адскоквалі. На твары Васіля Іванавіча адбілася нехаваемае задавальненне. Ламанасоўскі класічны верш, яго ўзнёслае гучанне лашчылі ягоны слых.

— Гэта вам не Засім, — пасміхнуўся ён, — у Засіма публіцыстыка на злобу дня, а тут, я вам скажу, веліч, бронза! Гэта — як манумент!

Верына чытанне ён пахваліў і паставіў «пяць».

— Вось, дурні, бярыце прыклад з Вярусі! Разумніца!

Веру Васіль Іванавіч надта паважаў і пяшчотна называў «Вярусяй». «Вяруся» пры гэтым апускала галаву і сарамліва міргала доўгімі вейкамі.

— Давайце ўсё ж такі вернемся да Ламаносава, — пахваліўшы Веру, працягваў урок настаўнік, шукаючы вачыма новае прозвішча ў спісе.

— Платонаў! — выклікаў ён.

Валодзя захваляваўся, выйшаў, стаў насупраць парты, але воддаль, зрабіў нават крок назад: усе радкі былі відаць, нібы выгравіраваныя на помніку, на тым мануменце, пра які згадаў Васіль Іванавіч. Засталося толькі прачытаць. Чытаў Платонаў павольна, нават урачыста. Настаўнік сядзеў за сталом, слухаў, зрэдку згодна ківаў лысай галавой.

— Маладзец, Платонаў! Робіш поспехі. Пяць! Бярыце прыклад.

У класе пачуўся лёгкі, незласлівы, нават як бы радасны, смяшок. Настаўнік выклікаў аднаго за другім:

— Дземідзюк Мікалай!

— Хомка Георгій!

— Кандрацюк!

— Шаўчук!

— Занько Грыгорый!

— Мельнічук!

Па прыкладзе Платонава яны з бляскам чыталі, водзячы вачыма па «шпаргалцы». Клас апусціў галовы, хаваючы ўсмешкі. Васіль Іванавіч выклікаў Колю з Млыноў:

— Раманюк Мікалай!

Коля сядзеў на самай задняй парце, апрануты ў руды, выцвілы вайсковы кіцель невядома якой арміі. Перарастак. Паводзіў сябе вельмі салідна. Адгадаваў доўгія, па модзе, валасы; на твары відаць былі дробныя прышчыкі. Напісаны на парце тэкст прачытаў з расстаноўкай, разважліва, з улікам знакаў прыпынку.

Няблага справіўся з вершам гарэзлівы Іван Павалчук, які, заняты працай па гаспадарцы, дома ўрокаў не рыхтаваў і ў школу ішоў як бы адпачыць. Васіль Іванавіч хоць і паглядаў на яго з некаторым недаверам, застаўся задаволены, у яго, відаць было, падняўся настрой.

— Аказваецца, не кожны Іван дурань, — не без некаторай здзеклівасці пахваліў ён Павалчука, якога, можна было заўважыць, недалюбліваў за недахоп дысцыпліны.

Яго чамусьці ніколькі не здзіўляла, што ўсе, каго ён выклікаў, выходзілі і станавіліся ў адным месцы — якраз там, дзе знаходзілася новая непафарбаваная парта.

— Раманюк Іван!

— Ламака Васіль!

Усё ішло самым найлепшым чынам, як лепш не трэба. Дзень між тым схіляўся да вечара. Вечаровае сутонне згушчалася ўсё болей, і такая перспектыва не радавала тых, каго Васіль Іванавіч яшчэ не чапаў, а тыя, хто ўжо «адчытаўся», ціха кіснулі ад смеху.

Цямнела ўсё больш і больш, і тым, каго Васіль Іванавіч выклікаў чытаць верш, даводзілася бліжэй падступаць да парты, каб разабрацца ў тым, што там напісана.

— Каленік!

Вось тут атрымаўся збой. Парадкам ужо сцямнела, ды і Іванавы вочы, відаць, не далёка бачылі. Ён пачаў, як кажуць у такіх выпадках, тыкацьмыкаць і ўсё болей згінацца, каб разглядзець напісанае. Усе насцярожыліся ў прадчуванні бяды. І сапраўды. Васіль Іванавіч зірнуў на чытальніка. Іванава пастава здалася яму падазронай. Ён падняўся да непафарбаванай парты і ад нечаканасці зноў сеў, ледзь не паваліўшыся са столака. Усе — хто гучна, хто нягучна — засмяяліся. Іван болей не стаў чытаць, змоўк і бездапаможна апусціў галаву. Настаўнік абвёў вачыма клас.

— За каго вы мяне прымаеце? Гэт-та што такое!? — Ён з усёй сілы ўдарыў кулаком па стале. — Вы мяне абманвалі? Абманвалі!? Двойкі! Двойкі ўсім без выключэння! Я вам пакажу! Такія паводзіны і ўчынкі ў мяне не пройдуць! Не пройдуць!

І ён, страшэнна абураны, стаў перапраўляць пяцёркі на двойкі. Пераправіў нават Веры, якая сумленна вывучала оду і шпаргалкай не карысталася.

## V

Не вельмі ўцешнай выдалася гэтая, яшчэ адна, чарговая, пасляваенная вясна. Нішчымніца. Прускаўцы, і не толькі прускаўцы, бедавалі. Даўно такога не было. Зерне вымелі на падаткі. Не хапала кармоў. Пахла сенам. Але сена не было, застаўся толькі яго дух. Кармілі скаціну астрэшкамі з саламяных дахаў. Салома са стрэх і ратавала. Некаторыя каровы падтрымліваліся вяроўкамі, падвязанымі да столі. Аднак, як заўсёды, як і кожны раз, людзі радаваліся вясновым зменам, назіраючы, як часцей з-за хмар паказвалася сонца, насычалася цяплом паветра, абсыхала, тужэла зямля. На дрэвах, на вясковых агароджах цінькамі сініцы. Па двары хадзілі і па-красавіцку сакаталі куры.

Радаваліся жыццю, сонцу дрэвы. Першай, як заўсёды, адгукнулася на прыход вясны вольха, затым вярба: распускалася, развешвала свае зялёныя косы. Вярбовая кара, набухлая свежай вільгаццю, здымалася цэлай трубкай, з якой можна было зрабіць звонкі свісцёлак.

У красавіку кароў выгналі на пашу, і яны пачалі аджываць па свежай, яшчэ кволай траве. Горш было з коньмі. Тыя, так-сяк з дапамогаю гаспадара і суседзяў выбраўшыся з хлява, стаялі нерухома, як застыўшыя. Пра такога казалі: «Чытае газеты».

Людзі браліся за працу. Ажывалі палі. Прускаўцы вывозілі гной. Над кучамі, прыгрэтымі сонцам, паднімалася пара.

У былым маёнтку Падгурскага адкрываўся дзяржгас. У Пруску наведалася начальства — загадчык райсельгасаддзела Пятро Мачалаў. Склікалі сход. Сядзелі ў кажушках, ватоўках, апорках. Пазіралі на Мачалава, якога ведалі яшчэ з часу вайны як акружэнца, але цяпер ён выглядаў упэўненым у сабе, нават вясёлым, задаволеным сваім лёсам.

— Работы, таварышы, шмат, — пачаў ён. — Вось у вас дзяржгас адкрываецца. Там, дзе раней ваш памешчык жыў. Есць пастанаўленіе. У Камянцы мы арганізавалі МТС. Будзе абслугоўваць ваш дзяржгас. Дзяржгас — дзяржаўная гаспадарка. Дырэктар будзе наймаць людзей, плаціць ім паложаную зарплату і патрабаваць выканання. Справы павінны пайсці добра.

Прускаўцы ўважліва слухалі, кожны хацеў уцяміць, што з гэтага можа атрымацца. У час вайны тут, у маёнтку, гаспадарылі немцы, а пасля вызвалення ў панскім палацы, які паводле будовы сваёй нагадваў вялікі барак з цёмным калідорам на ўсю даўжыню і анфіладай пакояў па абодва бакі, пасяліліся пагарэльцы з суседняй вёскі Зінькі. Іх так і называлі — зінькаўцамі. Вёску спалілі карнікі, пашанцавала яшчэ, што без жыхароў, што ацалелі людзі. Цяпер Зінькі паступова адбудоўваліся, пагарэльцы з палацавай цеснаты (у адным пакоі па некалькі сем’яў) перасяляліся ў роднае селішча. Палац з прылеглымі да яго паркам і вялікім садам пусцеў, не апрацоўваліся і палеткі вакол былой панскай сядзібы.

— Хай бы падзялілі тую зямлю паміж людзьмі, паміж гаспадарамі, дык дзяржаве і клопату б не было, — разважыў Павал Гальяш.

Павал — мудры чалавек, і логіка ў яго разважаннях была, але хто яго паслухае! Няма, як кажуць, прарокаў у сваім «ацечастве».

— Гэта, таварышы, указанне райкома. Партыі відней.

— Калісьці ў Расіі былі камуны, — прыпомніў Гамон. Ён сядзеў побач з Мікітам Галёнкам.

Мачалаў патлумачыў:

— Камуну арганізоўваць не варта — гэта будзе палітычна памылкова. Камуны адмянілі яшчэ да вайны.

— Адмянілі?

— Няма, на жаль, таго энтузіязму! Да парадку трэба прывучаць, да дзяржаўнага парадку! — сказаў Мачалаў з націскам на слова «парадак». Пераваспітываць трэба.

— Да вайны ў маёнтку дзейнічаў рэўком, у які і нашы людзі ўваходзілі. Парадак быў, сходы праводзіліся! — прыгадаў з задняга рада каваль Цішка Пахолак. — Маёмасць размяркоўвалі...

— Таварышы! Яшчэ раз паўтараю: і камуны, і рэўкомы адменены, і няма сэнсу да гэтага пытання вяртацца. Усё ўжо вырашылі. Дырэктара, таварышы, ужо прызначылі. Райком зацвердзіў. Есць пастанаўленіе.

— І каго? — пацікавіўся Мікіта Галёнка.

— Не з мясцовых. Прыслалі таварыша.

Усе загаманілі, абмяркоўваючы гэтую навіну.

— Дваццаціпяцітысячнік! — удакладніў Мачалаў.

— Выходзіць, багаты, — здзіўлена крутнуў галавой Гамон, — калі дваццаць пяць тысяч у кішэні мае.

— Не багаты. З завода накіравалі. У ліку дваццаці пяці тысяч, якія па-брацку пасылае рабочы клас у дапамогу сельскім працаўнікам. Вам, таварышы.

Прысутныя змоўклі, а потым зноў загаманілі.

— Далей нам і старшыням калгасаў спатрэбіцца, — дадаў Мачалаў, але гэта ці не пачулі ў гамане, ці проста не звярнулі ўвагі. — Нічога, таварышы, усё наладзіцца, устаканіцца, і жыццё будзе харошае, нармальнае! — гэтак закончыў сваё паведамленне госць з Камянца.

Са сходу Лявон ішоў побач з кавалём Цішкам Пахолкам. Цішка быў чымсьці незадаволены, чутно было, як ён шумна дыхае. Закурылі. Каваль змоўк, аднак маўчанне яго гаварыла, што ён нешта маракуе.

— Нешта ты задумаў! — няўцямна крутнуў галавою Кужаль.

— Задумаў.

— Што?

— З’еду куды-небудзь адсюль. Можа, у Камянцы на прамкамбінаце ўладкуюся. А потым і сям’ю забяру.

Лявон паглядзеў на Цішку з усмешкай.

— Якая муха цябе ўкусіла?

— А ніякая. Нешта надакучыла на адным месцы.

Але выкладваць свае меркаванні каваль не стаў.

Праз тыдзень на маянтковым полі, каля панскага саду, ужо стаяў калёсны «ХТЗ», прысланы Камянецкай МТС. Трактар прывалок за сабою чатырохлямешны плуг. Навокал стоўпіліся цікаўныя пruскаўцы. Трактар яны бачылі ледзь не ўпершыню і ад здзіўлення хіталі галовамі.

— Адно жалеззе! — моршчыўся Фэдар-японец. — Нічога драўлянага няма.

— Паслухай, — прычапіўся Гамон да маладога хлопца-трактарыста, які, запыханы, круціў рукаятку, каб завесці свайго сталёвага каня, — а чаму ў цябе на задніх калёсах ёсць зубы, а на пярэдніх няма? Згубіў ці што?

— Не згубіў, дзядзьку, — апраўдваўся трактарыст, — так трэба! Заднія калёсы з маторам звязаныя! Перадача — на заднія калёсы!

— А вось, — не сунімаўся Гамон, — калі ён сам, тарабан гэты, завядзецца ды паедзе, ды ноччу скажам, на тваю хату наедзе, ды на цябе — ты спаць будзеш, не прачнешся. Тады што?

— Сам не завядзецца. Для гэтага завадная ручка ёсць. Крутну ручкай, тады завядзецца, а без ручкі стаяць будзе.

Трактарыст агледзеў машыну, праверыў рулявое ўпраўленне, дросельную засланку, цягі.

— Як жа ён араць будзе? — пазіраў на жалезную машыну Павал Гальяш. — Столькі плугоў! Ці пацягне?

— Як ні ары, абы чорным дагары, — пажартаваў трактарыст.

— Дык што ты, зямлю псаваць?

— А вам што, шкада? Яна ж не ваша!

— А чыя?

— Нічыя!

— Калі б яна мая была, дык я б цябе ў такім разе прыбіў! — засердаваў Павал.

— Вядомая справа, агрэхаў не робіць той, хто не арэ, — разважліва адзначыў Лявон, жадаючы памірыць спрачальнікаў.

— Трактар — гэта добра, — азваўся Лявонаў сусед Апанас, — бо як паходзіш за плугам гадзін восем-дзесяць, дык назаўтра ног не чуеш.

— Песню каля трактара ўжо не заспяваеш, — пасміхнуўся, пазяхнуўшы, Павалаў сын Ляксандар.

— Яго не перакрычыш! — павёў галавой і ашчэрыўся Гамон.

Назаўтра трактар выехаў у поле і пачаў сваю работу. Вакол яго, не баючыся, бегалі жвавыя падлеткі, спаборнічаючы, хто смялей, хто ўвішней прабяжыць перад трактарам. Галёнкаў Валодзька ледзь выхапіў нагу з-пад гусеніцы, задзела толькі ступню, але і ступня, і пальцы засталіся цэлымі.

Трактар аднак дзень паараў і заглох, азваўшыся дробным раскацістым гулам, нешта зламалася. Паклікалі Цішку Пахолка, але ён не мог даць рады, хоць і каваль. «Матор не мая сціхія», — патлумачыў ён. Дапамога прыйшла з МТС: замянілі клапаны ў маторы, і трактар зноў стаў араць.

Праз колькі дзён вярхом на кані прыехаў прызначаны дырэктар дзяржгаса, пра якога казаў Мачалаў, агледзеў будынкі, сад. Расшпіліўшы гузікі і рассунуўшы полы шыняля, пахадзіў вакол былога панскага палаца. На галаве роўна сядзела пляскатая, падобная на блін, зялёная фуражка. У руцэ замест партфеля трымаў кірзавую палявую сумку. Дырэктар тупаў па зямлі клышаватымі нагамі, аглядаў наваколле, як бы да чагосьці прымяркоўваўся. Пад нагамі суха шастала няскошаная на зіму трава. Абуты быў у старыя боты з брызентавымі халявамі, над халявамі звешваліся штаны-галіфэ.

Потым заявіўся ў Пруску. Падышоў да купкі мужчын, што стаялі на вуліцы, каля Галёнкавай хаты, спыніўся, шырока расставіўшы клышаватыя ногі, зухавата агледзеў прысутных. Мужчыны мелі магчымасць зблізу паглядзець на дырэктара.

— Ну, как дзялішкі?

Прускаўцы прымоўклі, ніхто не знайшоў што адказаць.

— Карачымся патроху, — пачуўся нарэшце голас Гамона, які любіў сказаць за ўсіх. — Мы людзі памяркоўныя, чакаем, што будзе.

— А што будзе? — пасміхнуўся дырэктар.

Адказу на гэтае пытанне ні ў кога не было.

Каля іх праехаў, з натугай круцячы веласіпедныя колы, Восіп Дзванарык. Ехаў на службу. Пад яго кіраўніцтвам сцягвалася з палёў каменне, уздоўж камянецкага гасцінца складваліся крушні. Меліся брукаваць гасцінец.

— А гэта хто? — пацікавіўся дырэктар, правёўшы веласіпедыста вачыма.

— Дарожны майстар, — зняважліва прамовіў Цішка Пахолак.

— Давайце, таварышы, знаёміцца. Фамілія мая простая. Прыбылоў Арбітр Аўдзеевіч, — адрэкамендаваўся дырэктар і казырнуў, прыклаўшы руку да фуражкі.

— Вы здзешнія? — пацікавіўся ён.

— Здзешнія, — за ўсіх адказаў Мікіта Галёнка.

Нешта хацеў сказаць Оргій Ламака, але змоўк, нібы папярхнуўся.

— Дзіва што! — дакінуў Гамон.

Прыбылоў уважліва на яго паглядзеў, не ўтрымаўся і спытаў:

— Чаму ў вас такія вялікія вушы?

— Вялікія вушы — прыкмета розуму, — важна адказаў Гамон, які быў гатовы да такога пытання, таму што задавалі яго яму не ў першы раз.

— Нада, таварышы, глядзець далей сваіх вушэй, нада глядзець упярод!

— Нада, — згадзіўся Гамон і ў сваю чаргу запытаў: — Скажыце, а дзе вы ў вайну былі?

— Далёка.

— Дзе — далёка?

— Тут, таварышы, ёсць сакрэт. Я не ўсім пра гэта кажу, каб чужое вуха не пачула. Пра бдзіцельнасць нельга забываць ні ў коем случае. Аднак раз вы задаеце вапрос, стала быць цікавіцеся. Вам скажу: не адседжваўся ў баку, займаўся ўдарным трудом, працаваў на бальшом абаронным заводзе, таварышы. Я, между прочым, не адступаў, як тыя, што ў першы перыяд вайны на вашай меснасці бяжалі, на мне пятна нет. Я за Уралам быў, каваў перамогу ў тылу.

— Ого! — падзівіўся нехта.

— Случалася ўсякае. Ізгатаўлялі падшыпнікі з жалезнай бярозы.

— З дрэва?! — здзівіўся, не паверыў Цішка Пахолак.

— Есць бяроза такая, на Далёкім Усходзе расце. Нездарма называецца жалезнай — крапчэй за дуб! Куля не праб'е! Чорная, як чыгун, але мацней за чыгун!

Нехта са слухачоў колькі разоў знарок кашлянуў, відаць, сумняваючыся ў пачутым.

— І вось падшыпнікі сталі крышыцца! Аказваецца, завяліся шкоднікі.

— Ха-ха-ха! — невядома з якой прычыны зарагатаў Цярэшка Макацёр. Магчыма, уражаны дырэктаравым аповедам. — Хіба такое можа быць?

Апавядальнік паглядзеў на яго з дакорам і непрыяззю:

— Аднака ты шебутной! — адвярнуўшыся, патлумачыў:

— Пачалі разбірацца, у чом дзела?

— І ў чом? — насцярожыўся Галёнка.

— Цікава! — паждавеў Міхась Тупчык.

— Аказваецца, у адным месцы тайна аташла, таму так і адбылося. Ну, само сабой, прымянілі стаццю-сабатаж, двух-трох чалавек прышлося аддаць пад суд. А як вы думалі?

Прыбылоў змоўк, аднак дадаў:

— Я, таварышы, факцічаскі ўсё жыццё на палігоне — там, дзе нараджаецца новае, — сказаў ён, нібы апраўдваючыся. — Я па суці выпрабавальнік, а вайна ёсць вайна. На вайне ўсе пацеры спісваюцца.

За алешнікам, на маянтковым полі, затрашчаў, завёўся, трактар, які колькі ўжо дзён стаяў без руху. Прыбылоў хітнуў у той бок галавой:

— Да, таварышы, конь сваё аджыў. У будучым ён не спатрэбіцца. Хіба што на калбасу.

— Няўжо гэтак? — усумніўся Оргій Ламака.

— Час іншы, таварыш! Дык гэта і казе панятна.

Прускаўцы дзівіліся, хіталі галавамі — такога яшчэ не чулі.

— Бывалы чалавек! — прамовіў Павал Гальяш пасля таго, як Хвядзюшка павёў Прыбылова кудысьці на сакрэтную размову.

— Імя ў яго нейкае рэдкае — Арбітр, — адзначыў Фэдар-японец.

На наступны дзень, заначаваўшы ў хаце ўпаўнаважанага Хвядзюшкі, Арбітр Аўдзеевіч зноў сустрэўся з прускаўцамі. Як і ўчора, дастаў з кішэні свой «Беламорканал», але ўжо нікога не частаваў, а закурыў толькі сам. Моцна зацягнуўся папяросай, узняў галаву, быццам зазіраючы кудысьці за даляглд, выпусціў густы струмень дыму і нечакана памяняў тэму:

— Будзем, таварышы, сеяць кок-сагыз! — абвясціў ён. — Есць указаніе.

— А што гэта такое? — пачуліся галасы.

— Пра такое мы не чулі, — сумеўся Арцік Каленік, а разам з ім і іншыя.

— Што за трасца такая? — падаў голас і Гамон, здзіўлены такім «указаннем».

— Гэта, таварышы, растеніе. Расліна — як тут кажуць. З віду — адуванчык, але ў ім каўчука шмат. Назапашваецца ў карнях. Асобага ўходу не патрабуе, а рэч вельмі патрэбная. З каўчука робяць рызіну, а следавацельна — калёсы для машын. Без каўчука сягоння далёка не ўедзеш. Дзе сядзеш, там і злезеш. Кок-сагыз — гэта, таварышы, рызіна! Аднак расліна гэтая не тутэйшага паходжання. У Цянь-Шані яна расце, у гарах, але і ў нас будзе расці. Як міленькая! Раз бальшавікі сказалі — будзе! Гэта прадрашано, таварышы.

Прускаўцы моўчкі слухалі.

— Кампазітар Чуркін Мікалай апярэдзіў нас, ужо оперу пра кок-сагыз напісаў! А ў нас, таварышы, яшчэ конь не валяўся. Адстаем, таварышы. Гэта нядобра, за гэта не пахваляць.

— Кок-сагыз — расліна непрыхатлівая, — падтрымаў дырэктара Хвядзюшка, які ўжо, відаць, чуў ад Прыбылова пра гэтую расліну. — Яна нават на каменнях расце...

Грышка Латушка ссунуў аблавушку на лоб, пашкроб патыліцу, уздыхнуў. Прыбылоў паглядзеў на яго з прытоенай усмешкай, нібыта ведаў пра яго нешта такое, што той утойваў:

— Пра што ты думаеш, хазяін? А я знаю, пра што ты думаеш!..

— Можа, я ні пра што не думаю. Пра што мне думаць? — Грышка напалохана паціснуў плячыма. — Нічога я не думаю.

— Думаеш, што мы дрэнныя гаспадары, што ў нас нічога не атрымаецца. Атрымаецца!

Грышка адступіў, зашыўся ў самы задні рад.

— Мы, таварышы, не можам чакаць міласцяў ад прыроды, узяць іх у яе — наша задача. — Прыбылоў гаварыў і ў такт сваёй мове махаў рукой. — Дзеля гэтага я тут, перад вамі, і стаю. Я, таварышы, дзе працаваў, усюды след пакінуў! Не сумнявайцеся, я навяду парадак.

— Аграном трэба, — падказаў Гамон.

— За агранома я сам буду, — зычна абвясціў Прыбылоў, — штука не хітрая. Гэта, да будзет вам ізвесна, паўднёвая культура, палівацьяе неабязацельна, да сухоха клімату яна прывычная. Лагічна я рассуждаю? Лагічна. Я ўжо, да будзет вам ізвесна, агледзеў меснасць і палагаю, што кок-сагыз няплоха будзе адчуваць себя ў памешчыцкім саду. Аднака сад прыдзёцца срубіць. Кок-сагыз — дзела дзяржаўнае, парцейнае, можна сказаць, адказнае, а сад — сушчый пусцяк, хаця па плошчадзі не малы. Апырсквай яго дустам ці не апырсквай — усё адно пладажорка сажроць. А сад, паўтараю, не малы, тут і дусту можа не хапіць. Вось такая мая прапазіцыя. Ну, як?

Для ўсіх гэта сталася вялікай нечаканасцю. Прускаўцы лавілі погляды адзін аднаго, каб уцяміць, што ж такое адбываецца. У садзе можна было сарваць яблык, пажывіцца сліўкай. Вясною з ім звязваліся не абы-якія надзеі. Сад якраз збіраўся на цвет, і яны сталі пярэчыць.

— Саду шкада, — сказаў Міхась Тупчык.

— Малады сад! — дадаў Апанас Хомка.

— А што яго жалець? — калыхнуў плячыма Прыбылоў. — Сад памешчыцкі! Яго так ці інакш рубіць нада, а яшчэ лепш — з корнем выцягваць! Памешчыцкі. Да гэта і казе панятна. А замест яблынь у нас, — прадоўжыў ён сваю думку, — дубы будуць. Прывязём з пушчы жалудоў і пасеем, каб дубы раслі. Гэта, таварышы, вельмі каштоўны матэрыял, у многіх выпадках жалеза замяняе. Два вапроса рашаем: і рызіну будзем імець, і жалеза. Гэта — па-гасударственнаму! Трэба глядзець у будушчае.

Аднак ссякаць сад прускаўцы не пайшлі. Як бы чагосьці пабаяліся. Гэта зрабілі нейкія прышлыя людзі, здалёк, з Камянца. З саду зрабілі поле, разраўнялі зямлю.

А кок-сагыз садзілі, садзілі ўсёй вёскай на месцы былога панскага саду. Кусцікі пасталі роўнымі радкамі, каліва ад каліва на пэўнай адлегласці. І, хоць Прыбылоў казаў, што кок-сагыз «да сухога клімату прывычны», палілі.

Сам Прыбылоў пасяліўся ў хаце Кучэўскага, якая да гэтага часу пуставала. Неўзабаве прыехала жонка з малой дачкою, якая яшчэ не хадзіла ў школу.

Прускаўцы ўспаміналі пра сад.

— Сліўкі надта смачныя былі, — шкадаваў, круціў пахілай шыяй Гамон.

— Рынклёды! — цмокаў поўнымі вуснамі Арцік.

## VI

Павялічылася колькасць упаўнаважаных з раёна, якія займаліся спагнаннем падаткаў і нарыхтоўкамі. Да Лазуціна далучыліся Чарноў, Саляпін і Грыб, а потым яшчэ і фінінспектар Байбаковіч. Прускаўцам яны здаваліся пасланцамі нейкага іншага, грознага і жорсткага свету, прадстаўнікамі невядомай ананімнай сілы, якая ўсім кіравала. У размове з Фёклай, слухаючы яе нараканні, Лявон сказаў:

— Чыноўнікаў цяпер, як у сабакі блох. Дзяржава іх плодзіць, бальшавікі надарылі, развёрстку праводзяць.

— Гэта ў іх як бы продатрад, — успомніўшы колішнія, перыяду грамадзянскай вайны падзеі і парадкі ў Расіі, уздыхнула Фёкла.

У кожнага агента, як называлі ўпаўнаважаных, меўся свой, прызначаны яму «ўчастак». Чарноў займаўся грашовымі падаткамі. Справа ішла туга. Да гэтых падаткаў нечакана дабавілася яшчэ і падпіска на «заём». Дзяржава «пазычала», брала са сваіх грамадзян грошы, на якія выдаваліся аблігацыі з абяцаннем пагасіць іх у бліжэйшым будучым, пагасіць «з працэнтамі». Група «актывістаў» — камісія, як іх называлі, — на чале з Лазуціным хадзілі па Прусцы, з хаты ў хату, праводзілі падпіску. Апроч Лазуціна, у камісіі былі ўпаўнаважаны Хвядзюшка, новы дырэктар школы Рытатуй, Гамон, без якога нічога не адбывалася, і Багатэль.

Лічылася, што савецкая ўлада павінна мець свой актыў, ідэйна згуртаваны і загартаваны, на які можна абаперціся, які зробіць усё, што загадана, чаго запатрабуе момант. Нічога дзіўнага: і французская рэвалюцыя мела сваіх актывістаў, якіх турбаваў грамадскі клопат. Прускаўскія актывісты таксама

трымаліся ўпэўнена, бачылі адзін аднаго здалёк, неслі, як самі казалі, грамадскую «нагрузку». Ад царквы адвярнуліся як бы яе і не было. Ніхто з іх у царкву не хадзіў, не наведваў.

— А чаго я туды пайду? — уголас разважаў Гамон. — Хрыстос — байструк, без бацька нарадзіўся, а вучні яго — блазны несвядомыя, уцяміць нічога не маглі, гісторыю барацьбы класаў не разумелі.

Усе разам актывісты вывучалі кароткі курс гісторыі ВКП(б), знаёміліся з гаротным жыццём працоўных мас, якім яно было да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, і ўсё мацней засвойвалі думку пра камунізм як вышэйшую мэту савецкага народа. Па маёмасным становішчы гэта былі людзі небагатага дастатку, нават, можна сказаць, беднага, як, напрыклад, Багатэль. Якім чынам яны знюхаліся паміж сабой, сталі заадно, таго ніхто не ведаў.

— Ну, Лазуцін — гэты парцейны, — разважаў Павал Гальяш, — Рыта-туй — дырэктар школы, Хвядзюшка — упаўнаважаны, Гамон — мясцовы, а Багатэль?

Чалавек шэры, бясколерны, не тутэйшы, родам з Уладычыц, што пад Берасцем, Багатэль прыстаў да мясцовай прыгажуні, роднай сястры Амеліі Веры яшчэ да вайны — вясною саракавога года. Дзе і як ён надыбаў яе, невядома. Хутчэй за ўсё людзі настрэнчылі. Вера заседзелася ў дзеўках, але замуж ніколі не спяшалася. Некалі, яшчэ ў 30-я гады, не без уплыву Амеліі, яна арганізавала ў бацькавай хаце (праўда, ні бацькі, ні маці к таму часу ўжо не было — памерлі) «лігу сучаснага кахання». На пасяджэнні «лігі» прыязджалі ў асноўным знаёмыя афіцэры з Камянца і Берасця. Што і казаць, паводзіны Веры Канстанцінаўны не былі пазбаўлены легкадумнасці, і мужу, пэўна, цяжкавата было дараваць ёй «лігу». Ён адчуваў сябе пакрыўджаным. На гаспадарку Багатэль прыкметнай увагі не звяртаў, а больш сябраваў з паляўнічай стрэльбай. У Прусцы казалі, хто са стрэльбай па лесе бродзіць, таму загон мятліцу родзіць. У Багатэля якраз гэтак і было. Назіраючы «ўпадак» яго гаспадаркі, Хвядзюшка прызначыў Багатэля на пасаду малачара — прымаць ад падаткаплацельшчыкаў малако, пераганяючы яго праз невялічкі сепаратар. За прынятае малако выдаваў квіткі. Часам, здаралася, браў малако для уласных патрэб, бо карміў парсючка.

— Не чапляйцеся да яго! — бараніла мужа Вера. — Зарплата ў яго маленькая, а работа цяжкая.

У канцы 40-х пачалі знікаць вясковыя сепаратарныя. Зачынілася і «малачарня» Багатэля, які як «актывіст», чакаў новай пасады.

Падпіска на заём — мерапрыемства важнае і адказнае. Камісія хадзіла па вёсцы, па гаспадарах. Члены камісіі былі ў Лазуціна падручнымі і з прыемнасцю гэта адчувалі.

— Дзела, таварышы, сур’ёзнае. Абвешчаны пяцігадовы план, — тлумачыў Лазуцін, заходзячы ў чарговую хату. — Пасля выканання заданняў і паказчыкаў гэтага плана ўсе будуць жыць харашо, недастач ні ў чом не будзе. Факцічаскі будзе камунізм. Хочаш картошку — еш картошку, а хочаш ікру — лопай ікру! З белым хлебам ці з чорным — гэта, таварышы, выбірай сам. Кушай на здароўе! Так, таварышы, будзе. Нет такіх крапасцей, каб бальшавікі не ўзялі! — У гэтым месцы Лазуцін звычайна рабіў паўзу, паднімаў палец угору і строгім поглядам абводзіў прысутных. — Гэта не я сказаў, гэта сказаў таварыш Сталін, а вы ведаеце, як ён сказаў, так і будзе. На гэты счот не сумнявайцеся. Абавязкова будзе. Нават раней срока. Дык яно і панятна. Працоўным не ахвота чакаць пяць лет, таму, ясцественна, ёсць сустрэчныя дзелавыя прапановы — выканаць пяцігодку за чатыры гады, а то, можа, і за тры! Гэта

па-бальшавіцку! Гэта прадрашано, таварышы! Трэба, таварышы, пазычыць. Пабагацее дзяржава і верне. Райком зацвердзіў план. Есць пастанаўленіе.

— За вайну мы вялікія страты панеслі, — напамінаў Рытатуй.

Раман Дарафеевіч Рытатуй — новы чалавек у Прусцы, дырэктар школы. Рыбака ўжо няма — яго не толькі звольнілі з работы, але і пасадзілі. Адкрылася, што пры немцах недзе на Палессі ён быў паліцаем. Рытатуй, як і Лазуцін, — прышэлец, «васточнік», у мінулым вайсковец, які прыстаў да мясцовай, да нейкай камянецкай красуні. Служыў у райваенкамаце, у аддзеле ўліку, адкуль і трапіў у Пруску на пасаду школьнага дырэктара. Цяпер дапамагаў у падпісцы на «заём». Апрануты, як заўсёды, па-вайсковаму: сіняе дыяганалевае галіфэ, афіцэрская гімнасцёрка. Збоку, амаль дастаючы да добра наваксаваных ботаў, блытаецца на доўгім раменьчыку сумка-планшэт.

Зайшлі да Арціка Каленіка, растлумачылі мэту візіту.

— Рускім языком вам гавару, — даводзіў Лазуцін. — Газеты чытаеце? Без газет нашаму брату нельга. — У руках ён трымаў раённую «Іскру». Разгарнуўшы, прачытаў:

— «Во всех населенных пунктах Ратайчицкого и других сельсоветов проходят митинги, посвященные выпуску Третьего государственного займа восстановления и развития народного хозяйства СССР. В своих выступлениях сельские труженики говорят, что средства, которые дают взаймы государству миллионы советских людей, помогают двигать вперед наше сельское хозяйство, нашу промышленность, нашу науку и технику.

Крестьянин деревни Новый Волчин Михаил Корецкий подписался на 400 рублей, Филипп Гупенец — на 300. В первые часы на новый заём в этой деревне подписался 21 человек на сумму около 4000 рублей».

— Вось, таварышы, як ідуць справы па іншых рэгіёнах. Нам трэба браць прыклад з перадавікоў!

Гаварыў Лазуцін голасна і ўпэўнена.

— Што датычыць пазыкі, — увярнуў сваё слова Рытатуй, — дык я прашу ўлічыць, што аб'яўлена яна па просьбе саміх працоўных. Канешна, найбольш сазнацельных.

— Відаць, прапаганда, — невядома чаму ўсумніўся Хвядзюшка, схіліўшы ўбок галаву.

— Якая прапаганда?! — цыкнуў на яго Лазуцін, спапяляючы вачыма. — Вы ў сваём вуме? Вы ў мяне яшчэ пагаварыце!

Хвядзюшка збянтэжана пакруціў галавой, шкадуючы, мабыць, што такой няўдалай атрымалася яго рэпліка. Як не пяўся ён дасягнуць так жаданага для яго «начальніцкага» ўзроўню, усё ж у істоце сваёй заставаўся ўсё тым жа наіўным, прыдуркаватым вяскоўцам. Астатнія маўчалі.

— Арцік — прыжымісты, скупы, хітры, але на пяцьдзясят рублёў падпісаўся.

Падпіска праходзіла вяла, са скрыпам, надта шчодрых, каб пазычыць, не было. Ды і адкуль ім быць, калі вёска, бедная спрадвеку, цяпер, пасля вайны, яшчэ болей падупала, занядужала. «Пра падаткі папярэджваюць за колькі часу, а тут адразу давай», — разводзілі рукамі прускаўцы. На апошнім этапе стала ясна, што план не выкананы, і за гэта ўсім можа здорава нагарэць. Райком прызнаў вынікі падпіскі нездавальняючымі. Выправіць становішча ў Прусцы абавязалі Прыбылова. Той абяцаў пастарацца. Падлічылі, разам з Лазуціным, хто на колькі падпісаўся. Прыбылоў сказаў:

— Слаба вы, аднак, параболі. Давядзецца паўторна ісці. Есць пастанаўленне райкома на падпіску зверхпланава.

— Я ўсё магчымае рабіў, — апраўдваўся Лазуцін.

— Цвёрдасці нам не хапае! — цвердзіў Прыбылоў. — На дабравольнасць паспадзяваліся. Я не дурань, на дабравольнасць не спадзяюся! А што не даюць — гэта чыстай вады сабатаж, аднака я дабяру. Дабяру, што паложана. Абламаю!

Да тутэйшых людзей Прыбылоў ставіўся недаверліва і насцярожана, нездарма, лічыў ён, іх называюць «заходнікамі».

— Не згаджаецца? А ты яго ў Картуз-Бярозу, на вывазку лесу, напраў! Туды яго пашлі! — вучыў Прыбылоў.

Зноў пайшлі ў абход. На гэты раз па просьбе Прыбылова ў камісію кааптавалі супрацоўніка раённай пракуратуры Бублікава. Ён быў, як заўсёды, у сінім дыяганалевым плашчы, пад пахай трымаў партфель. Выраз твару строгі, насуплены, вочы выпраменьваюць падазронасць.

Зайшлі да Кужалёў. Лявон даўно мазоліў вочы прускаўскім актывістам. Хвядзюшка не раз з зайздрасцю казаў:

— Машыны ў яго — якія хочаш: і малатарня, і сячкарня, і прывад, і веялка... Чым не кулак?

— Дак у яго завод раней быў, кажуць, — крухмальня! — дзівіўся Багатэль. — Пан!

Гамон, пасміхаючыся, прыпамінаў:

— Ды і самавар у яго ёсць! Хіба, можа, схаваў дзе...

Адчыніў веснічкі Хвядзюшка. Забрахала Нэрка. Лявон выйшаў, сустрэў нечаканых гасцей, запрасіў у хату. Да гэтага ён у сенцах круціў жорны. Мука сыпалася з жорнаў і ўтварала невялічкі курганок. Вяршыню гэтага курганка Фёкла брала на зацірку, бо мука была ў ім наймякчэй змелена.

Прыйшоўшыя, не распранаючыся, сталі ля парога, шукаючы вачыма, дзе можна было б прысесці. Нарэшце, не вымаючы рук з кішэняў, селі на лаўку каля сцяны.

— Я апяць-такі пра заём, — пачаў Прыбылоў незадаволеным голасам.

— Дык ужо ж Лазуцін адзін раз прыходзіў, — здзівіўся Лявон.

За сталом рыхтаваў урокі Валодзя, чытаў «Роднае слова» — падручнік, які бацька купіў у Берасці, у спекулянта. Сто рублёў, казаў, аддаў. Дарагоўля страшная — і ў магазінах, і на базары. Перабольшыў няйначай Мікола Засім у сваім вершы пра Дамініку, якая накупляла столькі ўсяго. Валодзя стаў прыслухоўвацца да гаворкі.

— Ты, хазяін, — патлумачыў Прыбылоў, сядаючы на лаўку, — падпісаўся, аднака, мала. Жывеш ты нябедна, сельгасінвентар маеш, малацілку і прочае, а падпісацца, як следует, не хочаш. Няўжэлі не жалаеш паддзяржаць гасударства? Есць пастанаўленіе! Хістанняў у правядзенні лініі партыі я не дапушчу.

— Я не адмаўляюся. Колькі мог, даў, — адказаў гаспадар, угнуўшы галаву і пазіраючы на падлогу. Нервова пацёр растрапаны чубчык над ілбом, прыгладзіў. — Я не скупы, але дзе ўзяць?

Арбітр Аўдзеевіч не столькі слухаў, што казаў Лявон, колькі аглядаў яго, нібы ацэньваў. Абмацаў вачыма сцены, куткі, пры гэтым прыкметна моршчыўся, насупліваўся, імкнучыся надаць твару як мага больш суровы выгляд.

— Я абстаноўку ў цябе апішу, — ён кінуў вокам на швейную машынку, што стаяла на стале. — Вось машынка швейная — «Зінгер». Апішу «Зінгер». Падушкі апішу...

— Ой! Машынку не чапайце! — узмалілася Фёкла. — Я сям'ю на ёй абшываю, унукаў.

— А сельгасмашын у цябе вунь колькі! Апішу! Ну, як?

— Давядзецца скласці пратакол, — сціпла адгукнуўся Бублікаў, нібы паабяцаў нешта добрае.

— Якія машыны? Малатарня? Дык у мяне ж адна рука, другая — во, бяссільная! Як я цэп у адной руцэ ўтрымаю? Што вы на мяне? Я Богу душой не вінен.

— Лошадзь апішу, карову, — ціха паабяцаў Прыбылоў, нядобра звузіўшы вочы. — За невыкананне што бывае — вы знаеце.

— Пра гэта мы чулі, — уздыхнуў Лявон. — Апісвайце. Вы ўлада, вам, відаць, дазволена.

Была ў Прыбылова такая асаблівасць, што ён мог імгненна запаліцца гневам, але ён стрымліваў сябе, імкнуўся «пераканаць»:

— Таварыш Сталін даў нам дарагі падарунак — першы том сваіх бяссмертных сачыненій! Першы том! Дык чэм-та нада адказаць на гэты падарунак. Вождзь жа галаву сушыць дзеля нас, нічога нам не жалее, а мы? Ну, напні мазгі!

Лявон і Фёкла маўчалі. Маўчаў і ўнук.

— Ты ж не глупы чалавек, Кужаль. Ты ж ведаеш міжнароднае становішча. А яно сур'ёзнае! Саюзнічкі-то нашы, маць іх так, ніяк не ўймуцца. Пра Фултон і пра атамную бомбу слышал?

Лявон пацiснуў плячыма.

— Не слышал? Вот-та і яно! Чэрчыль апяць аб'явіў крастовы паход супроць СССР! Не нравімся мы яму! Атамнай бомбай хвастаюць! Мускуламі іграюць! Выбух ад атамнай бомбы такі, што нельга нават уявіць: на шэсцьдзясят кіламетраў у акружнасці змятае ўсё! Вы ж ведаеце, што дзве такія бомбы амерыканскі прэзідэнт Трумэн скінуў на японскія гарады Хірасіму і Нагасакі, і нічога ад тых гарадоў не засталося. Роўнае месца! Як бы нічога не стаяла! Хто наш прадпалагаемы праціўнік? — спытаў Прыбылоў і сам жа адказаў: — ЗША! Гэта і казе панятна.

— Вунь амерыканцы яшчэ да чаго дадумаліся — каларадскага жука з самалётаў скідаюць, — прабурчэў Багатэль. — Нам на галовы.

Працягваў казаць Прыбылоў:

— У Югаславіі, у Чарнагорыі засуха. Згарэла ўсё! Нада памагаць? Нада. Мы ў адным лагеры. А тут яшчэ падымаюць галовы бязродныя касмапаліты! Хваляць заграні́чныя парадкі. Нада ім даць па галаве? Нада. Так што клопатаў у парціі многа.

— Многа! — пацвердзіў Хвядзюшка, схіліўшы набок галаву.

— Быў другам Чан Кай-шы, а цяпер здрадзіў! — дакінуў Багатэль, ціха мацюкнуўшыся.

Адзін толькі Рытатуй маўчаў, не мог злавіць сваёй тэмы.

— Усё цічот, усё мяняецца, — невядома ў якой сувязі дадаў Гамон. — Гэта ачавідна, а Масква — усем сталіцам галава!

Хвядзюшка скептычна на яго паглядзеў.

— Вось такія пірагі! — скончыў Прыбылоў і перавёў погляд на чалавека ў плашчы, гэта значыць на Бублікава.

Азваўся і сам Бублікаў:

— Арбітр Аўдзеевіч, ты мне толькі ўкажы, хто ваду муціць...

— Ды ўжо ж таіць не будзем.

— Гэта ж ужо на сабатаж падобна.

Усе аціхлі нібыта ў нейкім одуме.

— Мы — як санітары, — разважыў Гамон. — Нашто чалавеку лішні тлушч, лішнія грошы? Лішняе трэба забіраць. Нашто цырымоніцца?

Не вытрымала, умяшалася Фёкла, якую пакідала ўжо цярпенне слухаць гэта пустаслоўе.

— Зараз атрымаеш у меня квачом па мордзе! — рашуча паабяцала яна.

— Што, грошы шкада? — пасміхнуўся Гамон. На гэтае блазенскае пытанне ніхто нічога не адказаў.

— Запішыце мне яшчэ пяцьдзясят рублёў, — прамовіў Лявон, бо — што рабіць? — вымушаны быў згадзіцца. Але рэакцыя Прыбылова сталася нечаканай:

— Заём — гэта ўжо, таварыш, дазволь мне ведаць, каму якую цыфру пазначыць, — хітнуў ён галавой. — Не пяцьдзясят, панімаеш, а сто пяцьдзясят!

— Што вы! Бог з вамі! Дзе ж іх узяць?

— Бога няма, — пазяхнуў Прыбылоў. — Адкуль яму быць? Саабражайце самі, дзе ўзяць...

— Бог ёсць! — зноў уступіла ў размову Фёкла. — Усе пад ім ходзім.

— Дык яго ніхто не бачыў, — па-блазенску пасміхнуўся Хвядзюшка.

— Ну, як? — вярнуўся да справы Прыбылоў.

— Столькі не адужаем! — напорыста падала голас Фёкла.

— Сто! — грукнуў аб стол кулаком Прыбылоў. — Сто і не рублём меней. Ты што? Не хочаш дзяржаве дапамогу аказаць? Сумленне заржавела?

— Аддай рукамі і хадзі нагамі! — на хаду склаў прымаўку Гамон. Прымаўка як бы бясхітрасная, але ў ёй адчувалася пагроза.

Давялося згадзіцца. Уламаўшы Лявона, кампанія вымелася з хаты. Гамон, які ішоў апошнім, моцна грукнуў за сабой дзвярыма.

— Грошы там у яго — дахалеры! — пакруціў Хвядзюшка.

Валодзя рыхтаваў урокі, аднак не выпускаў з-пад увагі таго, што адбывалася ў хаце.

— Паборы! Паборы! — бедавала Фёкла, калі камісія пакінула хату.

— Каб на іх паморак! — вылаяўся Лявон і таксама выйшаў.

Актывісты, паддаючы адзін аднаму смеласці і ўпэўненасці, бралі ініцыятыву ў свае рукі. Фэдара-японца, які таксама як і іншыя, упарціўся з падпіскай на пазыку, Прыбылоў напалохаў яшчэ больш:

— Ну што? Трумэна жджом? Амерыканцаў?

— Што вы? Бог з вамі! — сумеўся, ледзь не абамлеў стары інвалід.

— Ты, хазяін, хочаш увярнуцца, дык я не саветую. У Брэсце з такіх, як ты, ужо фарміруецца эшалон у мяста аддалённыя, дзе Макар цялят пасёт. Туда хочаш? Есць пастанаўленіе...

Прыбылоў спыніўся пасярод хаты, шырока расставіўшы клышаватыя ногі ў хромавых ботах, пацiснуў плячыма:

— А можа, ты касмапаліт какой? Я чуў, што цябе японцам завуць?

— Гэта мянушка такая, — патлумачыў Гамон.

— Ну, разве што...

— Дайце падумаць, — папрасіў Фэдар, калоцячыся ад страху.

— Думай, толька быстра! На абратным пуці снова зайдзём! — паабяцаў Прыбылоў. Відаць было, што чалавек любіць, каб яго баяліся.

— Нашым людзям дысцыпліна патрэбна, — памахаўшы ля скроні пальцам, сказаў Гамон, калі яны выходзілі ад Фэдара, — каб некага баяліся!

— Абхітрыць нас хоча! — вырашыў Хвядзюшка.

— Выходзіць так! — падумаўшы, згадзіўся Рытатуй.

Гатоўкі[1] Лявон не меў. Трэба было дачасна калоць падсвінака, круціць кілбасы і везці ў Брэст на базар, каб выручыць грошы на пазыку. «Нічога не зробіш, — разважаў ён, — давядзецца рабіць так, як кажуць, а то, чаго добрага, і пасадзіць могуць».

— З уладай жартаваць нельга, — сказаў ён Фёкле, — трэба аддаць, што яна патрабуе, нічога не зробіш. Хацелася б зганашыць на старасць капейчыну, але не атрымліваецца.

На гэта Фёкла нічога не адказала, толькі ўздыхнула.

Не абмінула камісія і Васіля з Просяй, якіх актывісты абаіх засталі ў хаце. Дзяцей дома не было — бегалі недзе на вуліцы. У хаце парадак: памытая падлога, на стале абрус, столак, табурэткі, шафа, ложак. Хвядзюшка загледзеўся на свежыя фіранкі на вокнах, быццам ніколі такога не бачыў. Пасярод хаты вісела падвешаная да бэлька калыска са спавітай у пялёнкі маленькай Ліліянкай. Прося нарадзіла дачку. Хрысціў бацюшка айцец Клаўдзій, даў рэдкае імя — Ліліяна. Малая ляжала і, пускаючы з роціка слюні, няўцямна пазірала вочкамі-гарошынамі на прыйшоўшых дзядзькоў.

— Ты, Платонаў, чалавек сазнацельный, мы цябе ставім у прымер, — пачаў Прыбылоў.

— Не варта, — запярэчыў Васіль, — я як і ўсе. На колькі Мікіта Галёнка падпісаўся?

Прыбылоў зірнуў у ведамасць.

— На пяцьдзясят рублёў.

— Ну і я на столькі ж.

Члены камісіі пераглянуліся паміж сабой і вымеліся з хаты. Амаль следам за імі выйшлі з хаты Васіль з Просяй. Выйшлі і павярнулі за вугал, дзе на сонечным баку ў гародчыку цвілі сціплыя нагаткі і знаходзіліся раскошныя кусты радэндронаў. Прося, звычайна нясмелая і стрыманая, кінула ўслед «заёмшчыкам», калі тыя крыху адышліся:

— Шэльмы!

— Шэльмы, — адгукнуўся Васіль, — вымагаюць грошы.

Ён у каторы раз агледзеў абсаду. Воддаль, за паграбам, стаяла раскідзістая чаромха, а побач рос малады сад. Дрэвы паспелі адцвісці. Яблычная завязь пераўвасаблялася ў невялічкія зялёныя плады, яшчэ кволыя, але абяцаючыя расці, павялічвацца, буйнець. Тут былі розныя гатункі: апорт, каштэля, папяроўка, пепінка, наліў, баравінка. У самым нізе ўчастка, бліжэй да сажалкі, уваходзілі ў сілу і ўжо пладаносілі антонаўкі. Пад восень набрынялыя сокам яблыкі станавіліся такімі празрыстымі, што ажно відаць былі праз скурку семечкі. З краю раслі некалькі маладых грушак — бэры, дзве вінёўкі і сапяжанка, а на мяжы з Восіпам Дзванарыкам — смалянка.

— Хай бог крые! — не сунімалася Прося і зноў махнула рукой у бок камісіі, што праводзіла падпіску, вымагала грошы. Васіль нічога не адказаў, і абое загледзеліся на сонца, якое зырка засвяціла, выкаціўшыся з-за аблокаў. Але трэба было вяртацца ў хату, карміць, перапавіваць Ліліянку.

Назаўтра Мікіта Галёнка першы вычытаў у газеце «Заря» ўрадавае паведамленне.

— Шмат грошы наздавалі! У Варшаве палац ужо будуюць, палац дружбы і культуры. Перавыканалі план.

Жыта выходзіла ў трубку, пачыналася лета...

---

[1] Гатоўка — наяўныя, назапашаныя грошы (*мясц.*).

## VII

Восенню 1947 года адбылася грашовая рэформа. Вядома, праведзена яна была ў інтарэсах дзяржавы. Старыя купюры абменьваліся на новыя ў суадносінах дзесяць да аднаго, і то надта непрацяглы час, літаральна некалькі дзён. Пасля адмены картачнай сістэмы ўзраслі цэны на прамысловыя тавары і прадукты харчавання. Разам з цэнамі ўзраслі і памножыліся падаткі.

Лявон — як і пры паляках, і пры немцах — не дапускаў залегласці ў падатках, імкнуўся выплачваць усё, як ён казаў, «да грама», каб улады не мелі да яго прэтэнзій. Гэтаму, уласна кажучы, і была падпарадкаваная ўся яго гаспадарчая дзейнасць. А якіх толькі падатковых пабораў не даводзілася плаціць! Плацілі, апроч зямлі і жыўнасці, за яблыкі, грушы, вішні, кусты парэчак, пчолы. Але самі яблык, напрыклад, не спажывалі — сад працаваў на падаткі.

Падаткі, натуральныя і грашовыя, браліся планавыя і, калі гаспадар выканаў план, накладваліся звышпланавыя. Нярэдка падвойваліся. Адно толькі — давай. Што і казаць, дзяржава мела ў гэтым надзвычай вострую патрэбу, і цырымоніцца, лічыцца з нейкімі правамі не даводзілася, але ўсяму ёсць, як кажуць, мера, а тут яна яўна парушалася, і парушалася самым нахабным чынам.

Неяк Лявон наведваўся да Пацаў у Альбэрцін. На сваім месцы, на ўзвышшы, воддаль ад ракі, стаяў усё той жа магутны каменны крыж з высечанымі на цокалі словамі:

***Господи заступи***
***и спаси насъ***
***и наши земли***
***отъ града и***
***всехъ напастей***
***1918 Пацъ***

Паставіў гэты абярэг яшчэ бацька, стары Арыстарх.

Лосьну Лявон, і сюды, і ў адваротны бок, пераходзіў па кладцы, прытрымліваючыся за прымацаваныя да слупкоў-балясін поручні з нятоўстых сасновых жэрдак. Слізкія бярвенні пад нагамі хісталіся, але ўсё абышлося.

Сустракалі, як заўсёды, Якаў Арыстархавіч і Амброжый. Лявон з кожным з братоў павітаўся, паціснуў руку. Браты трымаліся спаважна, але сціпла, няйнакш памятаючы, што пыха — першы з сямі галоўных грахоў. Госця пасадзілі за стол. Лявон звярнуў увагу на мноства ікон, якія віселі ў кутку, у покуце. Раней іх не было, вісела адна, з якой Якаў Арыстархавіч і Хвядося, маладымі, вянчаліся (яна знаходзілася ў цэнтры, аздобленая ільняным вышываным ручніком), а цяпер тут было абразоў дзясяткі два, не меней. Цэлы іканастас. Хацелася спытаць, з чым звязана гэткая святасць, але Лявон сціпла прамаўчаў.

Пахла ліпавай квеценню і разнатраўем прынесеная гаспадыняй рамка сотавага мёду. Побач стаяла талерка з тварагом.

— Гэта мэд не абы-які, а з кіпрэю, — патлумачыў Амброжый, калі госць пакаштаваў адно і другое. — Надта карысны!

— Вядомая рэч, — падтрымаў брата Якаў Арыстархавіч. — Каб толькі на спажытак.

— Навіны якія ёсць? — пацікавіўся Амброжый.

— Навін шмат. Грошы памянялі, цэны крыху знізілі.

— Пра гэта мы ведаем, — не здзівіўся Амброжый. — Рэформу зрабілі, але ў чыю карысць? У карысць дзяржавы. Абманулі людзей.

— Чаму мала далі, — дадаў Якаў Арыстархавіч.

— А ў нас вось панскі сад ссеклі, — сказаў Лявон, — той, малады, бо стары яшчэ немцы знішчылі, калі абараняцца рыхталіся, у сорак чацвёртым...

— Ссеклі? — перапытаў Якаў Арыстархавіч і ад здзіўлення ажно захітаў галавой. — Абсурд, як кажуць французы. Гэта ж сам Падгурскі калісьці садзіў!

— На месцы саду кок-сагыз пасадзілі, гуму з яго рабіць маюць.

— Бальшавікі, хоба на іх, хочуць ператварыць камені ў хлеб. Але ці атрымаецца? Гэта толькі аднаму Богу ўдавалася.

— І ў нас сад вялікаваты, — уступіў у размову Амброжый. — Падаткі павялічыліся, і за кожнае дрэва плаціць трэба. Прыязджала з Камянца камісія — усе дрэвы палічыла. Дык што з тым садам рабіць? Пассякаць ці што?

— Не, пассякаць — рука не падымецца! — Якаў Арыстархавіч адмоўна пахітаў галавой.

— Жыць стала цяжэй, — працягваў брат, уздыхаючы. — І за пчаліныя вуллі трэба плаціць. За вуллі, за дрэвы, за парэчкі. А дзе ўзяць грошы?

Слухаючы, што казаў брат, Якаў Арыстархавіч паціснуў тоўстымі плячыма. Гэта, маўляў, і яму невядома.

— Упаўнаважаны быў, — працягваў Амброжый, — дык ажно кіпіць, сліною пырскае: «Я вот у цібя цыбулю палічу! Скока ў цібя кустоў?» Я здзівіўся: «Чаго?» — «Цыбулі!» Ці чуў ты такое?

Якаў Арыстархавіч дадаў, маючы на ўвазе ўпаўнаважанага:

— Пры Польшчы, нябось, кажа, за сабаку плаціў і за дым з коміна. Што праўда, то праўда, даводзілася плаціць, але ж цяпер, выходзіць, яшчэ болей.

Зноў загаманіў Амброжый:

— Не здасі, кажа, калі паложана і колькі паложана, гаспадарку апішам. Пара, кажа, ужо вас, куркулёў, прыціснуць. Куркулямі называюць!..

— Ад іх, хоба на іх, усяго магчыма чакаць. І пад арышт пасадзіць могуць. Могуць! Няма на каго спадзявацца.

— Але! — хітнуў галавою брат. — Няма.

Відаць, браты не раз абмяркоўвалі між сабой гэтае пытанне. Але нейкага выйсця так і не знайшлі.

— Калі будзеш думаць пра дрэннае, дык яно абавязкова здарыцца, — уздыхнуў Якаў Арыстархавіч.

— Думаю, што Бог гэтага не дапусціць, — сказаў Лявон, каб хоць як падтрымаць паніклы настрой фальваркоўцаў.

Нарэшце загаварылі пра надвор'е, пра засушлівае лета. Па вуліцы, паўз плот, ледзь не чапляючыся бакамі за праслы, вярталіся з пашы сытыя каровы. Амброжый паўглядаўся праз акно.

— Калі наперадзе ідуць белая і рудая каровы, будзе дождж! — упэўнена абвясціў ён і дадаў: — Без прыкметы не дойдзеш да мэты!

— Дождж бы не пашкодзіў, — азваўся брат і заўсміхаўся. — Каб Сталін, хоба на яго, загадаў, дык можа б і пайшоў. Сёння Сталін вялікую сілу мае.

— Я чуў, — павёў гаворку Амброжый, — надта за нешта на Жукава засердаваў. Дзень Перамогі адмяніў і самога Жукава кудысьці паслаў. Дзе цяпер той Жукаў — невядома. А кажуць, што ў Маскве, на парадзе, на белым кані ехаў. Медалёў на ім столькі было, што ажно згінаўся. Напачатку нават конь спатыкнуўся...

— А Жукаў жа абяцаў адмяніць калгасы! — напомніў госць. — Зямлю, кажа, назад сялянам аддаць... Сталін за гэта на яго і ўзлаваўся.

Якаў Арыстархавіч колькі разоў кашлянуў і, памаўчаўшы, перайшоў да новай тэмы:

— Зноў бацька стаў прыходзіць. Арыстарх!

— Калі ўночы сабака вые, дык я ўжо знаю — гэта бацька па падворку ходзіць, — згодна кіўнуў галавой Амброжый. — Пасеку наведвае. Я пад раніцу выйшаў, сляды бачу. Ён! Пэўны час быў не з'яўляўся, а цяпер зноў...

— Нешта ён, хоба на яго, чуе. — Якаў Арыстархавіч наморшчыў і пацёр далонню лоб. — А што чуе, невядома.

— Можа, што сказаць хоча? — выказаў сваё меркаванне Лявон. — Бо даўно ж памёр.

Браты, адзін і другі, развялі рукамі. Пагаманіўшы з фальваркоўцамі, Лявон заспяшаўся дадому. Браты праводзілі. Каля хлява нейкая дзяўчына з свежым тварыкам і кароткай чарнавалосай касой зграбала рэшткі саломы. Агледзела Лявона. Яны прайшлі міма.

— Гэта Паўліна, — сказаў Амброжый, — лоўкая дзеўка, усё ўмее.

— Ты, я бачу, трохі яе падвучваеш, — пасміхнуўся Якаў Арыстархавіч.

— Не, сваю справу яна ведае, — адказаў брат.

Спускаючыся да ракі, затрымаліся пад аграмадным раскідзістым дубам, што стаяў воддаль на пагорку і кідаў на зямлю агромністы цень. На тоўстым камлі віднеліся шматлікія, зарослыя цёмнай карой, шраміны. Лявон агладзіў шорсткую каструбаватую кару. У адной з шрамін-расшчэлін заўважыў дубовага жука-вусача з доўгімі, шырока расстаўленымі вусамі, які, вышукваючы для сябе спажыву, тым самым лячыў самога дуба. Прускавец перавёў пагляд уніз, дзе з зямлі вытыркаліся тоўстыя жылы каранёў. «Такія карані ніякая сякера не возьме!» — падумаў ён.

Да іх падышоў Нупрэй — швагер фальваркоўцаў, павітаўся. Гэта быў прысадзісты, яшчэ не стары мужчына вясёлага нораву. Хата яго знаходзілася непадалёк, у лесе.

— Дуб яшчэ не стары, так сабе, сярэдняга веку, — заўважыў ён, акінуўшы вачыма дрэва і здагадаўшыся, што пра яго ідзе гаворка.

— Але, сярэдняга, — пацвердзіў Амброжый, задраўшы ўверх галаву, нібы хацеў дакладней вызначыць век дрэва.

— А мне снілася, — пажвавеў Нупрэй, таксама зірнуўшы ўверх, нібы ў яго, у самую вершаліну, сярод белага дня ляснула чорная маланка. Здрыгануўся дубок, і вершаліна здрыганулася, а потым ураз занялася агнём. Уся выгарала. Ніжняя частка, гляджу, яшчэ зелянее, але і з яе цягнуцца ў неба чорныя, абвугленыя пруты.

— Мусіць, дружа, не на тым баку ты спіш, — пажартаваў Лявон, каб крыху развеяць сумны настрой.

— Маланкі ў яго б'юць часта, — глуха адгукнуўся Якаў Арыстархавіч.

— Дык што чуваць? — папытаў Нупрэй.

— Усё тое ж, — адказаў Лявон.

— Дык гэта і нядрэнна, бо навіны розныя ёсць, — пасміхнуўся хутаранец. — Ёсць такія, што лепш іх і не ведаць.

— Але, але, — пацвердзіў Амброжый.

— Можна яшчэ трываць, — сказаў цярплівы Якаў Арыстархавіч. — Толькі вось падаткі, хоба на іх...

Фальваркоўцы праводзілі да кладкі. Перайшоўшы па кладцы раку, Лявон з другога берага памахаў братам рукой.

На водмелі каля берага пахаджвала, пераступаючы з нагі на нагу, нейкая цыбатая птушка, піла з ракі ваду. Лявон зірнуў на яе і пакрочыў берагам дадому. Пруска недалёка, кіламетр які, не болей.

* * *

Браліся падаткі з халасцякоў і халасцячак, а таксама з маласямейных (тых, хто меў аднаго-двух дзяцей). Халасцяцкі падатак тычыўся і прускаўскай Амеліі, паколькі і яна, як лічылася, належала да гэтай катэгорыі грамадзян. Жыла яна па-ранейшаму ў адзіноце, не абцяжарвала сябе лішнімі клопатамі, ніякай жыўнасці не трымала, апроч катоў, якіх было ажно звыш меры, больш за два дзясяткі. Кармілася з таго, што зарабляла гаданнем на картах. А ішлі да варожкі з трывожнай нагоды жанчыны з усяго наваколля. Кватэра Амеліі — як крэпасць, цытадэль. Сцяжынка да ганка зарасла быльнягом, буякамі, калючым чартапалохам, які цвіў буйнымі чорна-пурпурнымі кветкамі, крапіваю ды магутнымі лопухамі. Усё гэта стаяла, як лес, па якім, як тыгры па джунглях, і хадзілі, задраўшы хвасты, каты, нібы за кімсьці палюючы ці кагосьці выглядаючы. Як бы ахоўвалі гэту цытадэль. Да людзей аднак яе цягнула. Амелія звычайна не прапускала музыкаў. Хоць сама і не танцавала, але заўсёды з'яўлялася, як толькі чуўся рып гармоні. Не прапускала ні хрысцін, ні вяселляў, ні пахаванняў, акуратна наведвала царкву. Адмольвала грахі маладосці, якіх было нямала, і лячыла нервы, што за апошні час ад жыццёвых нягод і нястач надта расхадзіліся, разладзіліся, і не проста было іх утаймаваць. Дапякала многае і найбольш упаўнаважаныя.

Фінінспектар — крыху касалапы мужчына, галамызы з выгляду (не хацелі расці ні барада, ні вусы), па прозвішчы Байбаковіч — займаўся сваёй справай — спагнаннем грашовых падаткаў з падкрэсленай службістасцю і няўмольнасцю. Неплацельшчыка за запазычанасць мог пасадзіць і ў арышт. Ён павольна ішоў па вуліцы, паглядаў па баках, нешта вызіраў і як бы да нечага прыслухоўваўся. Пад пахай меў добра пацёрты партфель, туга набіты паперамі.

«Стась ідзе! Стась ідзе!» — з вуснаў у вусны перадавалі напалоханыя прускаўцы пры з'яўленні фінінспектара. Звалі яго Стасем. Бацька яго некалі быў вядомы камянецкі ліхвяр і мяняла. Абуты Стась у чырвоныя боты, пашытыя з невядома якой скуры. Хадзіў уразвалку, не звяртаючы ўвагі на лужыны. Размаўляў, пасмейваючыся, і справу сваю гэты новасучасны «мытар» ведаў. Даймаў падаткамі ўсіх, у тым ліку і бяздзетных жанчын. Убачыўшы фінінспектара з яго ёмістым казённым партфелем, прускаўскія халасцякі і халасцячкі імгненна знікалі — хто куды. Амелію ратавалі яе «джунглі», якія спынялі фінінспектара ў нерашучасці. Ён іх абмінаў, не спрабуючы пераадолець, а калі стукаў у дзверы, гаспадыня не адчыняла, быццам там яе і не было. Словам, Амеліі шанцавала. Але аднойчы сустрэў «злосную неплацельшчыцу» проста на вуліцы. Яны, як рыбак рыбака, заўважылі адно аднаго здалёк. Прускаўская варожка ішла насустрач фінінспектару як насустрач лёсу. На галаве красаваўся схілены крыху на бок капялюшык з папяровымі кветкамі, плечы абцягнуты выцвілай ад часу вялікай хусткай-апінянкай, на руках пальчаткі-мітэнкі з голымі пальцамі. За ёю, мяўкаючы, ішлі два коцікі. Фінінспектар вытарашчыў вочы, крэкнуў і спыніўся наводдаль, чакаючы, калі Амелія падыдзе да яго. Твар меў выгляд насцярожанай строгасці, але калі неплацельшчыца падышла бліжэй, Байбаковіч крыху памякчэў.

— Ты, дзеўка, што сабе думаеш? — пачаў ён з нейкай нават ноткай лагоднасці ў голасе. — Халасцяцкае ты і пазалетась не плаціла, і за мінулы год. Як гэта загадаеш разумець? Непарадак!

Амелія пазірала на чалавека з ёмістым брызентавым партфелем так, быццам хацела пракалоць яго вачыма. Зборшчык падаткаў быў для яе ўвасабленнем варожасці.

— Гасударства, стала быць, абхітрыць хочаш? Так, што лі?

Амелія маўчала, нічога не казала, а толькі, упёршыся ў фінінспектара позіркам, свідравала яго сваімі шэрымі калючымі вачыма. Яе твар ажно перасмыкнуўся ад нянавісці. Нарэшце не вытрымала, мацюкнулася не то па-польску, не то па-руску, паслаўшы яго далёка

Побач праходзіла Мікітава жонка Таіса, ішла да Каленікаў пазычыць солі. Байбаковіч, каб, пэўна, пачула і яна, павысіў голас:

— Глянь у Таіскі іх колькі — шасцёра! А ты?..

Гэта прагучала як папрок. З Амеліных вачэй па шчаках, як гарох, пакаціліся слёзы. І тут адбылося нешта незвычайнае, чаго прускаўская вуліца, мабыць, ніколі не бачыла. Амелія абедзвюма рукамі задрала спадніцу, агаліўшы свае сухія касцістыя калені.

— На... — залямантавала, загаласіла яна нястрымна-прарэзлівым галасам. — На-а-а! Вось табе падатак, курвель!..

Гэта быў жэст, нават не жэст, а выбух адчаю, роспачы.

— Бачыш ты яго! Парцейны мне тут знайшоўся! Знала я такіх парцейных! А хвігу вам!..

— Жанчына, закрый свае стрыбалкі! — устрапянуўся ад нечаканасці фінінспектар.

— Ну! — наступала Амелія, махаючы падалом. — Ну!

— Ах вось яно што! Правакацыя?

Напалоханыя гэтай сутычкай, разбегліся каты, якія суправаджалі сваю апякунку.

— Замаўчы, дурніца!

— Ну! — рашуча наступала Амелія.

Напалоханы фінінспектар ажно адскочыў убок, кінуўся, заціснуўшы пад рукою партфель, кудысьці ўпрочкі, пабег распырскваючы чырвонымі пляскатымі ботамі хлюпкую вулічную гразь. Гэта, ці што іншае, выклікала ў прускаўскай гадалкі яшчэ большы ўсплёск ярасці:

— Лякаць мяне ўздумаў! Мудак! Асталоп! Плюгаўнік! Шантрапа! — жанчына зноў залямантавала, затараторыла, адчуўшы сябе пераможцай і ўбачыўшы, як палахліва пабег напалоханы чыноўнік.

— Падаткамі душаць! Каб ты спрах, паскуднік! Каб табе язык адваліўся! Акаянец! Тхор смярдзючы! Балдавешка дурная! Бот! — скуголіла яна. Умела лаяць і клясці. — Вымагальнік! Гвалтаўнік! Прэч! Прэч адсюль! Я да Камянца дайду, скардзіцца буду!

Напалоханы інспектар адступіў, борзда адбег да Галёнкавай хаты, якая зусім ужо стала развалюхай, і пачаў крычаць адтуль:

— Ты мне тут анцісавецкую агітацыю не разводзі! Жлябоўка! Бачыш, чаго захацела! Я табе пакажу! Падатак здасі як міленькая! Я яшчэ не з такіх спаганяў! Зара-аза!

З весніц павытаркаліся цікаўныя, назіраючы, як раз’юшаная Амелія, задраўшы падол спадніцы, загаліўшыся, сарамаціла фінінспектара. Грубых, лаянкавых слоў яна ведала процьму. Завялася — цяпер яе было не спыніць. Валодзю, які стаяў з такімі, як сам, падлеткамі на вуліцы, шкада было

адзінокай жанчыны, ён спачуваў ёй. Да Амеліі прывыклі, ні ў кога не было да яе прэтэнзій.

Інспектар адыходзіў, адступаў.

— Лайдак! П’яніца! — не сунімалася варожка. З ёю пачалася істэрыка. Яна прарэзліва крычала, аж запенілася, ахрыпла і пасінела. Нарэшце, апусціла падол.

«Што робіцца! Што робіцца! — жахаліся, хіталі галовамі людзі. — Ачамярэць можна з гэтага ўсяго!»

— Такога яшчэ не было, — упэўнена сказала Ганна Бочка.

— Дзе ж яны навучыліся гэткаму брыдкаслоўю? — жахалася Параска. — Я ў Германіі была, а такога не чула. Ну, і даюць!

Фінінспектар Байбаковіч спыніўся толькі метраў за сто, каля Шведавага калодзежа. Азірнуўся і замахаў правай рукой (пад левай трымаў партфель):

— Лярва! — гукнуў ён здалёк.

— О! — сказаў Гамон, падняўшы ўверх палец. — Знайшоў нарэшце тое слова.

Гэта прагучала як пахвала, але фінінспектар яе не пачуў.

— Срамніца! Срамніца! Бясстыдніца! — крычаў ён. — Паказвае сорам і не стыдзіцца! Сука! Дзе гэта відана? Ні стыда ні сораму. Ты ішчо атвеціш за свае слава! Журжа брэсцкая!

Амелія здалёк з абедзвюх рук тыцкала ў бок фінінспектара адмыслова сашчэпленыя хвігі.

— Распусніца! — гукнуў у яе бок Байбаковіч. — Сцерва! Шалава!

Счакаўшы, дакінуў:

— Ядавітая, як кобра!

— Ненавіджу! Ненаві-іджу-у! Салапяка! Свінтус! Хам! — Амелія верашчала, глытаючы словы і захлёбваючыся. Потым, пэўна, стаміўшыся, жаласна, нібы скардзячыся, ціха завыла, заскавытала, як сабака, нудна заплакала.

Адчуўшы, што небяспека мінулася, Байбаковіч нарэшце ачомаўся, вярнуўшыся да сваіх службовых функцый, якія, мяркуючы па ўсім, паклалі адбітак на яго адносіны да навакольнага свету.

— А страхоўку я з цябе вазьму! На поўную катушку! Распуста! Распуста! Дурніца! Пугала! Здзяру!

Няёмка было ад таго, што трапіў у такую нечаканую сітуацыю, стаў па сутнасці пасмешышчам у вачах вяскоўцаў.

— Я вам усім пакажу! — не таіў сваёй азлобленасці фінінспектар. — На белыя мядзведзі! На белыя мядзведзі! Вы ў мяне яшчэ затанцуеце! Паразявалі, панімаеш, раты!

Потым ізноў, пэўна, у думках, вярнуўся да Амеліі:

— Ну і сцюха! Такой яшчэ не бачыў...

Як бы пачуўшы яго словы, Амелія гукнула яму па-польску:

— Zamknij drzwi, do trzystu dizblów![1]

Пасля гэтага яна змоўкла сама і атрэсла падол. Крыху яшчэ пастаяла і пасунулася дахаты, але ўсё яшчэ мармытала нешта сабе пад нос.

Смеху — на ўсю ваколіцу. Смеху, які аднак пакідаў на душы і нейкую гаркату...

[1] Змоўкні! (*польск.*).

## VIII

Пpускаўская школа расла. Напачатку, у 1944-м, было толькі два класы — першы і другі, а цяпер усяго праз некалькі гадкоў, гэтых класаў стала ўжо пяць, адкрыўся шосты. Летам, як заўсёды, прускаўскія школьнікі станавіліся пастушкамі. Паслі жывёл. Усё лета — басанож, цэлы дзень на свежым паветры. Твары загарэлыя, абветраныя.

Валодзя падлетак ужо — амаль адзінаццаць гадоў. Цяжка было з абуткам, насіў брызентавыя чаравікі. Хадзіць у іх яшчэ можна было, а ў футбол гуляць — не. Але ж хочацца! Пабегчы за мячом ды так ударыць, каб у вароты заляцеў. Аднойчы ён так гвазднуў нагой па мячу, што адстала падэшва і насок ашчэрыўся ўсімі сваімі цвікамі. Давялося доўга рамантаваць. Добра, што летам чаравікі непатрэбныя. Як і ўсе, босы хадзіў з сябрамі па халоднай расе, днём пёкся на сонцы, мок пад дажджом. Лыткі закарэлыя, у драпінах, пяты парэпаныя.

Кароў выганялі з хлявоў на пашу як толькі заяснее. Надта не хочацца раніцай уставаць. Але калі гэтую неахвоту пераадолееш, устанеш на золаку, аблieш твар вадою, выйдзеш на вуліцу, прыхапіўшы з сабою скібіну хлеба, у каго ён ёсць, дык палепшыцца і настрой.

— Ты яе, не забудзь, паганяй! — казала Фёкла, напамінаючы, каб Красуля апаражнілася ў хляве і не забруджвала прыгуменне.

Каровы ішлі на пашу, засяроджана хрумсталі смачную расяную траву. Вось толькі нагам было холадна да нясцерпнасці, таму калі якая кароўка памочыцца, дык надта добра ў той цёплай лужыне пагрэць здубянелыя ногі. Учора Валодзя напудзіў маладзенькага зайца. Заяц спаў пад купінай, цёмны, маленькі, мокры ад расы. Хлопец нагнуўся, каб узяць яго за вушы, але куды там! Заяц пачуў, ускочыў, кульнуўся і даў драла. Толькі яго і бачылі.

— Голымі рукамі зайца не возьмеш! — смяяўся з гэтага выпадку Лявон, калі ўнук расказаў, што з ім здарылася. — Зайца не злапаеш! Надта жвавы, а галоўнае — асцярожны вельмі, спіць з адкрытымі вачыма і баязлівы надта, усяго баіцца, асабліва ліса, за зайцам ліс палюе.

Раніцай жывёлу выганялі, а ў абед, калі чалавечы цень дасягаў двух крокаў у даўжыню, прыганялі дадому, каб гаспадыні маглі падаіць сваіх «лысух» і «пярэстых», і зноў адпраўлялі на пашу. Вечарам буронкі вярталіся ў хлявы нанач, каб назаўтра паўтарыць учарашні дзень. Вечарам пастушку добра выпіць кубак духмянага сырадою — вярталіся страчаныя за дзень сілы і ўраўнаважваўся настрой.

Выладнілася і падужэла на лугавой пашы жывёла. Трымалі прускаўцы па дзве і па тры каровы, рэдка ў каго адна. І ў кожнай жывёліне свой нораў, хоць і ходзяць у агульным статку. Траплялія і надта наравістыя, збродлівыя, як, напрыклад, Валодзева Красуля. За ёю толькі і глядзі. У жыта ўнадзілася, ускалось пасмакаваць, і бяжыць так, што не пераняць. Колькі ні сцябаў яе хлюбай — не дапамагала. Красуля — карова і сапраўды прыгожая, чырвонапярэстая, з доўгай шыяй і какетлівымі рагамі, падласая, і перыць яе шкада, але надта не паслухмяная. Так і наравіць патраву зрабіць, залезці куды-небудзь у шкоду. Учора бег за ёю, ажно засопся.

Адказны момант — сярэдзіна дня, калі сонца дасягала зеніту і пачыналася спёка, жароцце, як у Афрыцы. Гэта бывала, калі красавала і налівалася жыта. У гарачым, тамліва-спякотным паветры з’яўляліся авадні і шэршні. Тады не толькі Красуля, але і многія яе сяброўкі, шукаюць паратунку ў лесе ці ў Лазе. Пазадзіраюць хвасты, што толькі валасня па паветры развяваецца, і бягуць.

Гізуюць так, што нічым іх не стрымаць і потым даводзіцца доўга іх там, у лесе, шукаць.

На Тройцу прускаўскія пастушкі-падлеткі — такі быў даўні звычай — вязалі з тонкіх бярозавых галінак адмысловыя вянкі і чаплялі іх каровам на рогі. Пакуль адзін чапляў, іншыя трымалі карову за галаву і за хвост. Звычайныя, прывычныя жывёліны выступалі ў вянках як нейкія казачныя істоты. Было ў гэтым нешта святочнае і прыгожае.

У гарачыню хлопцы хадзілі купацца на Лосьну. Палова сяброў заставалася пры статку, а другая адпраўлялася на раку. Потым мяняліся. Добра, скінуўшы на беразе адзенне, пялёхацца ў рачной вадзе, песціць сябе прыемнай прахалодаю. Старэйшыя хлапчукі няблага плавалі сажонкамі, папераменна выкідваючы ўперад то адну, то другую руку. Здалёк відаць было, як высока над берагам узляталі белыя пырскі. Маладзейшыя вучыліся плаваць. Валодзік ужо трохі нават умеў. Спачатку вучыўся на плаўках, зробленых з двух снапкоў сітнягу і звязаных паміж сабой вяроўкамі. Клаўся на тыя плаўкі і перабіраў па-сабачы рукамі. Аднак апошнім часам ад плавак адмовіўся. Заходзіў па шыю ў ваду і плыў да берага, заграбаючы рукамі і адштурхоўваючыся нагамі. Звычайна так і рабілі ўсе, хто слаба плаваў і толькі вучыўся. Адштурхнуўшыся ад дна і па-сабачы заграбаючы рукамі, такі плывец марудна набліжаўся да берага.

Аднаго разу пайшлі купацца пасля дажджу. Дождж ішоў усю ноч, Лосьна прыкметна папаўнела і адчувальна паскорыла сваю прывычна няспешную плынь, заструменілася, паблісквaючы на сонцы, быццам спяшаючыся аддаць Бугу прызначаны ёй вадзяны падатак. Паглыбіліся водмелі, пахаваліся ў ваду гарлачыкі, што раслі каля берага. Пастушкі, не марудзячы, распрануліся, агаліўшы худыя, запалыя жываты, і наперагонкі кінуліся ў ваду. Валодзя, распрануўшыся, зайшоў, як звычайна, у ваду па шыю, павярнуўся і, адштурхнуўшыся нагамі ад цупкага дна, перабіраючы рукамі, па-сабачы падграбаючы ваду пад сябе, накіраваўся да берага. Вось ён — бераг. На гэты раз аднак так не атрымалася: стромкая плынь падхапіла і пацягнула назад, на сярэдзіну ракі. Там, дзе была водмель, стала глыбока. Хлопец са здзіўленнем і страхам заўважыў, што бераг не толькі не набліжаецца, а наадварот — прыкметна аддаляецца. З усіх сіл пачаў грэбці рукамі, але хутка адчуў, як усё цела, асабліва спіну і рукі, тупымі абцугамі скавала непераадольная стомленасць, цягнула ўніз. Ён стаў адчайна супраціўляцца гэтай сіле, намагаўся падняцца, выплыць, але вада, якая зрабілася нейкай надта густой і цяжкай, не выпускала са сваіх абдымкаў. Губляючы астатнія сілы, пайшоў на дно. У галаве пранеслася трывожная думка: «Дзед з бабуляй не трапяць у хату, бо не ведаюць, куды я схаваў ключ, ключ ад дзвярэй, ад засаўкі. А я ж пад камень яго схаваў... Каб хоць знайшлі!..» Потым аднак плынь падняла ўверх, вынесла на паверхню, але тут жа зноў— ледзь паспеў выштурхнуць з сябе ваду і ўхапіць ротам паветра — схавала ў сваіх хвалях. Так паўтаралася яшчэ раз ці два. У адно імгненне ў свядомасці, як у кіно, пранеслася ўсё нядоўгае жыццё ад пачатку да канца. Успалохамі, успышкамі святла ўспомніліся родныя, знаёмыя, сябры... «Мама, тата, бабуля, дзед Лявон, брацікі... Ніхто не ведае, не дапаможа. Як шкада іх пакідаць! Вось, аказваецца, як нечакана ўсё скончылася...» Адчуў, як праз рот і праз нос, праз вушы, хлынула вада, ад недахопу паветра страціў прытомнасць. Далей была вельмі небяспечная мясціна, якая называлася Прыдушня — скрэнт рачной плыні з глыбокай завоінай ля берага. Невядома, што б здарылася, каб не Грыша Гальяш, які ўбачыў і кінуўся ратаваць, паднырнуў, схапіў знясіленага тапельца за руку і выцягнуў на плыткае месца, а потым з дапамогай іншых хлапчукоў і на бераг. Ачуняў на беразе. Як праз сон, пачуў:

— Дыхае, здаецца, дыхае...

Адчуў, як нястрымна, нібы ад холаду, ляскочуць зубы і лекаціць усё цела, кожны мускул. Ад неспатольнага страху заняло мову, але надта рады быў, што жывы.

— Грышка Гальяш цябе выратаваў, — гаварыў каля вуха Іван Каленік, які разам з сябрам пераажываў тое, што з ім адбылося.

Чуліся галасы на аддаленні (набралася вады і ў вушы):

— Каб не Грышка, то напэўна б утапіўся...

— Адзін толькі ён не разгубіўся...

Грышка — сціплы падлетак, бледнаваты, з ціхім голасам, трымаўся адчужана, стараўся, каб яго прысутнасць не надта і заўважалі, а на дапамогу кінуўся першы. Пластом лежачы на траве, Валодзя, аслабелы і знямоглы, як тады, калі з дапамогай Міхаля выбавіўся з акопнай каламуці, зразумеў, што пашанцавала, адчуў у душы прыліў радасці, радасці вяртання ад смерці да жыцця. «Другі раз таплюся, — думаў ён, прыгадаўшы гэтае мінулагодняе здарэнне, калі зваліўся ў акоп. — Тады Міхаль выратаваў, цяпер — Грышка». Кашляў, крактаў, з рота лілася вада.

— Гэта русалка цябе на глыбіню пацягнула, — сказаў Сашка Яўгенін. Тапелец нічога не адказаў, не было сіл. За яго адказаў Жоржык Дзякрэцін:

— Выведіся русалкі, за вайну вывеліся, а да вайны іх поўна было.

Побач шамацеў лістотай лазовы куст, хілілася, серабрылася на сонцы пад ветрам трава. Валодзя зірнуў уверх, на неба, на аблокі, на завісшае над зямлёю летняе сонца. У далечыні віднелася атуленая дрэвамі царква, тэлеграфныя слупы ўздоўж камянецкага гасцінца, могліцы, на другі бок Лосьны — Пацаў фальварак. Плылі па ўзгорках і нізінах пералівістыя жытнёвыя хвалі. «Усё б гэта засталося, а мяне б ужо не было. Засталося б усё без мяне». Ад гэтай думкі ўнутры ў яго нешта няўцямна зашчымела і абарвалася...

На луг, да статка, да падапечных цялушак Валодзя вяртаўся разам з усімі. Івану Каленіку нехта са старэйшых завязаў вузлом рукаў сарочкі, не прадзець было рукі. Завязаў ды яшчэ і памачыў у вадзе. Пастухоўскі жарт! Давялося дапамагаць сябру развязваць. Колькі дзён назад такое ж зрабілі і Валодзю. Пакуль купаўся, памачылі і завязалі рукаў кашулі. Доўга давялося развязваць рукамі і зубамі. Потым даведаўся, хто гэта зрабіў, — Сашка Яўгенін. Але не бяды, развязаў.

Дома, вечарам, прыгнаўшы з пашы Красулю і Ланьку, пра тое, што адбылося на рацэ, як тапіўся, не сказаў нічога. Убачыўшы бабулю, заплакаў і адвярнуўся ў другі бок, выціраючы слёзы.

— Ты, я бачу, плакаў? — спытала Фёкла. — Пакрыўдзіў хто?

— Не.

А праз пару-другую дзён і сам пачаў ужо забывацца на гэты прыкры выпадак.

Лета між тым уваходзіла ў сілу. Цешыў вока зялёны прастор. Ужо цвіла канюшына. Тут, на лугавым прыволлі, лёгка дыхаецца, самі сабой прыходзяць думкі, жаданні і памкненні да іх рэалізацыі. Летам няма канца хлапечым прыдумкам і прыгодам. Зрэшты, як і зімою, але кожная пара года мае сваю спецыфіку. Летам падлеткі лазілі ў чужыя сады і агароды. Латашылі гарох, маладыя гуркі, памідоры, моркву. Школьны настаўнік Васіль Іванавіч Клюка абразліва называў такіх «агароднікамі», моцна ўшчуваў і, не вагаючыся, залічаў у разрад злачынцаў. Бабуля Фёкла таксама прасіла ўнука не забірацца ў чужыя сады, пераконваючы, што «нашы яблыкі лепшыя», але як ты пераканаеш, калі,

як здавалася Валодзіку, у суседзяў яблыкі больш чырванабокія і салодкія, чым свае. Галёнкаў Валодзька абтрос у суседа Натолія. Натолій адразу змікіціў, чыіх гэта рук справа. Прыйшоў да Галёнкаў дахаты з хлюбай у руцэ і знайшоў Валодзьку на печы, дзе той схаваўся за комінам з поўным запазушшам ружова-жоўтых яблык.

— Дзе гэта ты нарваў?

Хлопец, стхарыўшыся за комінам, маўчаў. Натолій — баптыст, таму паводзіў сябе стрымана, не крычаў, не павышаў голасу і хлюбу ў работу не пусціў, а толькі скрывіў губы і ад прыкрасці і сораму за грахі чалавечыя заплакаў. Галёнкі даводзіліся Натолію далёкай раднёй, таму ён, прыгадаўшы даўнюю прымаўку, сказаў:

— Радня раднёй, а ў гарох не лезь!

Ушчуваючы віноўніка, дадаў:

— Нарваў бы, але нашто ты галіны ломіш? Ды і яблыкі яшчэ няспелыя, чаго добрага і аскоміну можна нагнаць.

Валодзька, крыху збянтэжаны за свой учынак, маўчаў, стаіўшыся за комінам. Калі Натолій пайшоў, пачаставаў яблыкам старэйшага брата Жэніка.

— Кіслявыя! — паморшчыўся той.

— Кіслявыя, дык і не еш! — пакрыўдзіўся малодшы брат, седзячы за комінам.

Тым усё і скончылася. Малым многае даруецца.

Неяк Сашка, той самы, які завязаў Валодзіку рукаў, і якога, каб адрозніць ад іншых Сашкаў, называлі Сашка Яўгенін, бо маці яго была «марыканка» Яўгеня (муж яшчэ да вайны падаўся на заробкі ў Амерыку), прапанаваў прагуляцца ў Альбэрцін па чарэшні. Восенню ў Паца даспяваюць надта смачныя слівы-рынклёды, а летам зманьвалі чарэшні. Першыя чарэшні ружавеюць у сярэдзіне чэрвеня, а к канцу месяца ўжо і даспяваюць. Словам, самы час. А чарэшань, кажуць, багата, як расы. Сашку падтрымалі іншыя, у тым ліку Вальдэмар — сын Лаўра Яўсеевіча. Прыехаў зімою, у лютым. Паспеў яшчэ і ў школу пахадзіць, у шосты клас, хаця па гадах быў старэйшы. Адразу па прыездзе адолела Вальдэмара шкарлятына. Маючы абутак, выбег неяк на вуліцу, каб здзівіць сяброў, босы, пакоўзаўся на лёдзе, але хутка вярнуўся ў хату. І ўсё ж такі захварэў. Лаўр Яўсеевіч паклікаў Фёклу. Быў самы пік хваробы. Фёкла нацёрла Вальдэмару падэшвы ног шкіпінарам. Хворага захуталі ў коўдру — «хай прэе!» Ачуняў хлопец хутка. Ачуняў і паправіўся. Рабіў на ўсіх добрае ўражанне. Вясёлы, усмешлівы, тэмпераментам у бацьку: увішны і росту невялічкага, як бацька Лаўр Яўсеевіч. Валасы ў Вальдэмара папялястыя, кучаравыя. На шыі насіў сярэбраны ланцужок, але без крыжыка.

— А канты ў яго на штанах так напрасаваны, што муха, здаецца, каб стукнулася, то рассеклася б папалавіне, — дзівілася назіральная Вера Грудка, якой Вальдэмар, мяркуючы па ўсім, вельмі падабаўся.

У перапынках ён хадзіў па калідоры на руках, што таксама ўсіх вельмі дзівіла. Прапанову наведацца да Паца ў чарэшні ён ухваліў. «Рызыкнём!» — сказаў. Выбралі — нядзелю, калі Якаў Арыстархавіч, чалавек набожны, з раніцы накіруецца з Хвядосяй і з Амброжыем у царкву, так што самы раз наведацца ў яго сад. Сын Мірык у Берасці, дадому наведваецца рэдка. Пярэчыць ніхто не стаў. Счакаўшы трохі, пайшлі. Статак пакінулі на Мішу Ярыя, які, дарэчы, і не ўхваляў намер сябрукоў, адмоўна круціў галавой, нешта намагаўся сказаць, але ў яго, як заўсёды, не атрымлівалася. Адно толькі

«яр-яр-яр». Пайшлі потаптам, нацянькі. Валодзя не адставаў, таксама хацелася пакаштаваць салодкіх чарэшняў, хоць было ніякавата ад таго, што даводзіцца тыя чарэшні красці. Ды яшчэ ў каго! У сваяка! У якога не адзін раз гасцяваў. Цётка Хвядося заўжды частавала «мэдам з тварагом», а часам і з перапечкамі, таксама на мёдзе. Але не збяднее хросны, калі ў яго садзе крыху чарэшняў нарваць. Можна было б паспрабаваць адмовіцца, спаслаўшыся на нейкую прычыну, але тады баязліўцам палічаць, трусам. Словам, ад кампаніі адставаць нельга. Гэта была б здрада сябрам. За такую правіннасць маглі б выдаць «воўчы білет». Той, каму выдаваўся такі «білет», адваджваўся ад кампаніі. Не меў права знаходзіцца разам з усімі ў адным гурце. Такому кожны раз кіямі адмяралі адлегласць ад таго месца, дзе сядзелі астатнія, — у дваццаць кіёў ці больш, як вырашыць грамада, і ён падпарадкоўваўся гэткаму пакаранню. Так працягвалася тыдзень або болей — на тэрмін дзеяння «воўчага білета».

Ішлі карацейшым шляхам — праз зараслую хмызнякамі ды алешнікам лазу, збіваючы босымі нагамі ранішнюю расу. Была ў гэтым нейкая няўцямная дзёрзкасць, нават адвага.

Паперадзе ўсіх — Вальдэмар. Пырскала пад яго нагамі раса. З-пад куста выскачыў заяц і паімчаў упрочкі. Гэтая сустрэча нічога добрага не абяцала, нервы напружыліся яшчэ больш. Далей да ракі вёў шырокі, парослы вастралістай асакой луг. Тут патрэбна асцярожнасць, асака жартаваць не любіць — рэжа, як брытва. Яе стараліся абмінуць. Лосьну пераходзілі не па кладцы, бо гэта небяспечна: кладка якраз насупраць Пацавага фальварка, — а ўброд, на плыткім месцы, зняўшы нагавіцы і абутак. Перайшоўшы, апрануліся.

Стаяла цудоўная летняя раніца. Над чаратамі насіліся чыркі, робячы раптоўныя крутыя павароты. Фальварак акружаны каменнай агароджай, пад якой густа ўзняліся лопухі, дзядоўнік, крапіва ды яшчэ нейкія сцяблістыя расліны і зблытаная трава. З аднаго боку дзве хаты — Якава Арыстархавіча і Амброжыя — з гаспадарчымі пабудовамі, з другога — сад. Чарэшні стаяць асобна, дрэў з дваццаць пяць, пад імі — вуллі, пасека. Ціха. Змоўк ужо птушыны шчэбет. Паселі певуны на гнёзды, яйкі выседжваюць. У Валодзі зноў трывожна забілася сэрца. «А можа хросны сядзіць недзе за кустом, падпільноўвае? Ну, што будзе, тое будзе! Тады давядзецца ўцякаць...» Пералазячы праз агароджу, Валодзя абпёк у крапіве галёнкі. «Ой, як пячэцца!» — схамянуўся ён і ўспомніў, як Якаў Арыстархавіч хваліў крапіву, казаў, што яна добра аберагае пчэльнік ад кепскага вока і слова. Стала аднак яшчэ болей сорамна. Але ж не вяртацца назад! З гэтай думкай ён перабраўся праз агароджу і апынуўся ў садзе. Спяшаючыся, зноў наткнуўся на кусцік і зноў адчувальна абпёк нагу, але ж гэта ўсё дробязі ў параўнанні з тым, каб адведаць смак даспелых чарэшань. Некаторыя з дружбакоў апярэдзілі і, канчаткова забыўшыся на асцярогу, ужо нагіналі галіны з чарэшнямі, ласаваліся ягадамі. Ніякай небяспекі не прадбачылася. У садзе панавалі святло і цішыня. Ад даспелых, сакаўных ягад чырванелі і абвісалі галіны.

Паміж чарэшневых камлёў густа стаялі вуллі, каля лётак таўкліся пчолы, спраўлялі нейкі свой рытуальны танец, нібы нешта расказвалі адна адной, аб нечым раіліся. Пчолаў-такі варта было апасацца. Фальваркоўскія пчолы моцна джалілі, асабліва таго, як сцвярджаў Якаў Арыстархавіч, чый пах ім не падабаўся.

Ад веснічак у плоце праз сад вяла акуратна пратаптаная вузкая, як нітка, сцяжынка, аточаная з абодвух бакоў зялёнай муравой. Падумалася, што гэтаю

дагледжанаю сцяжынай ходзіць сам хросны Якаў Арыстархавіч. Хлопец таксама знайшоў разложыстае дрэва, нагнуў ніжнюю галіну, сарваў і кінуў у рот некалькі сакавітых ягад. Танкаскурыя чарэшні здаліся надзвычай пяшчотнымі і смачнымі, але гэтага паказалася мала і ён рушыў далей. На сцяжынцы невядома адкуль з'явілася басаногая дзяўчына ў лёгкай паркалёвай сукенцы, з кароткай чорнай касой. «Гэта, пэўна, Паўліна», — здагадаўся Валодзя. Дзяўчына прайшла спешным крокам, кіруючыся ў глыбіню саду і хутка схавалася за дрэвамі. Раптам ён пачуў, як рыпнулі веснічкі, зірнуў і вачам не паверыў, калі ўбачыў, як, мусіць, добра паснедаўшы, з іх павольна і вальяжна выйшаў Якаў Арыстархавіч у палатняным гарнітуры, без заўсёднага капелюша, без кульбы, але пры гальштуку, залажыўшы за спіну рукі, няспешна накіраваўся ў сад, аглядаючы пчаліныя вуллі. Ішоў, відаць, следам за Паўлінай. Магчыма, прызначыла недзе спатканне. Магчыма, у іх любошчы. Паблісквала на сонцы лысая, падобная на вялікі більярдны шар, галава. Здзівіла, што ён не ў царкве, куды штонядзелі наведваўся разам з сямейнікамі. Разлік быў, што і на гэты раз гаспадары не захочуць прапусціць імшу, але не, Якаў Арыстархавіч аказаўся дома і не прымусіў доўга сябе чакаць. Зваліўся, як снег на галаву. Угледзеў яго не толькі Валодзя, але і Сашка Яўгенін, і Валодзя Хлябіч, і Болік Латушка, і Коля Дземідзюк, і Гога Пахолкаў, і ўсе астатнія. Ну, і, вядома, ногі ў рукі і далі драла. Імчаліся, як зайцы, абганяючы адзін аднаго, ратуючыся ад пераследавання, але ніхто за імі не гнаўся. Валодзя таксама разгубіўся: калі ўцякаць, дык трэба было прабегчы якраз перад самым носам хроснага, які лавіць бы, вядома, не стаў, але напэўна б пазнаў. Пазнаў і сказаў бы бацьку, а той не пахваліць... Рашэнне ўзнікла імгненна. Замест таго, каб уцякаць, ён палез на дрэва, на самы верх, у гушчыню чарэшневых галін. З верхавіны ўзнялося некалькі птушак, — гэта былі дразды, якія, відаць, таксама ласаваліся спелымі чарэшнямі. Хлопец ажно здрыгануўся ад нечаканасці і схаваўся за ствол. Пашкадаваў, што ствол у чарэшні тонкі, не надта за ім схаваешся. І яшчэ: каб не зваліцца!

Якаў Арыстархавіч, вядома, заўважыў няпрошаных гасцей, але гвалту не ўзнімаў і паставіўся да іх нядзельнага «набегу» спакойна. Гукнуў, пляснуў колькі разоў у далоні, і напалоханыя хлапчукі далі лататы, у адзін момант былі ўжо за агароджай, як ветрам здзьмула, а паважны фальварковец павандраваў далей. Валодзя стаіўся на чарэшні і зверху сачыў за тым, што адбываецца. Гулка білася сэрца, баяўся: «Надта сорамна будзе, калі хросны заўважыць...» Зірнуў уверх: скрозь праглядаўся далёкі і чамусьці надзвычай спакойны блакіт і рэдкія купкі воблачкаў. «На чарэшні і заспее...» Але ўсё, дзякуй богу, неяк абышлося. Праз колькі часу ўбачыў расчырванелую Паўліну, якая тым жа таропкім крокам кіравалася да веснічак. Якаў Арыстархавіч той жа сцяжынай вярнуўся ў хату. Адчыніў і зачыніў за сабой веснічкі. Тады хлопец ссунуўся з чарэшні і, пералезшы праз агароджу, пакінуў сад. Да кладкі не пайшоў, баяўся, каб не заўважылі з фальварка, а перайшоў Лосьну ўброд. Насупраць Бранавіч яна шырокая, але плыткая. Тут звычайна пераязджае яе з возам дзядуля Лявон, калі вязе ў Брэст на продаж яблыкі. Валодзя распрануўся, зайшоў у ваду і пабрыў, супраціўляючыся хуткай плыні. Пасярэдзіне было па пахі.

Сябры ўжо скупіліся ў гурт, сустрэлі жартамі.

— А мы ўжо думалі, што Пац злавіў цябе, — сказаў Вальдэмар.

Валодзя яшчэ доўга не мог ачухацца пасля таго здарэння. Думалася: «А можа, хросны бачыў яго на той чарэшні, бачыў, але наўмысна не звярнуў увагі?..»

## IX

Моцна здзівіў Пруску Вальдэмар, закахаўшыся на злом галавы ў Сняжану Валер'еўну, настаўніцу. Гэта ўсе заўважылі, калі пачалі выводзіць коней у начное, на пасвішча. Спачатку ніхто нават не даваў веры, а потым пераканаліся, што гэта сапраўды так.

— Такі, як і бацька! — казала Амелія, маючы на ўвазе любоўныя прыгоды нястомнага Лаўра Яўсеевіча і забыўшы пры гэтым пра колішнія ўласныя «грашкі», якіх у яе хапала.

Тое ж самае цвердзіла і Волька, з якой Лаўр Яўсеевіч жыў у адной кватэры: «Які бацька, такі і сын». Спачатку Лаўр Яўсеевіч і Волька жылі ў поўным узаемапаразуменні, аднак усяму прыходзіць канец, наступіў канец і іхняму паразуменню, з'явіліся, з абодвух бакоў, незадаволенасць, крыўды, нараканні. Вядома, на ўсё былі свае прычыны. Таму і да Вальдэмара Волька ставілася без спагады і паблажкі.

Любімым захапленнем прускаўскіх падлеткаў было весці коней у начное. Не адставаў ад гурту і Вальдэмар, апякуючыся бацькавым Мінёрам. Конь быў у кожнай гаспадарцы, і ў Лаўра Яўсеевіча таксама. Конік маленькі, нізенькі і надта жвавы, рыхтык як сам Лаўр Яўсеевіч, які даў яму мянушку Мінёр, у памяць аб тым выпадку, калі па загадзе немцаў давялося баранаваць камянецкі гасцінец, абясшкоджваць яго ад мін, што засталіся пасля рэйда каўпакаўцаў.

Гэтым летам начлежнікам стаў і Валодзя, вадзіў пасвіцца дзедаву кабылу. Жывёліна была рослая і прыгожая, і мянушку мела адпаведную — Паня. Разумная істота! Калі Паня хацела пагуляць па прыгуменні, дык адсоўвала зубамі засаўку, галавою адчыняла дзверы і выходзіла на паветра, ласавалася травой. Пагуляўшы, вярталася ў хлеў. Праўда, дзверы пры гэтым, на жаль, не зачыняла. Ездзіць верхам хлопец умеў, але ўзабрацца наверх, сесці, было няпроста. Падсаджваў Лявон або, калі побач быў плот, сядаў з плота. Але на лузе плота няма і дзядулі няма, каб дапамагчы. Дружбакі ля сваіх коней. Тут Валодзя знайшоў арыгінальнае выйсце: надзяваў кабыле вуздэчку, распраўляў аброць, і калі яна зноў апускала галаву, каб паскубці траву, ён хуценька ўскокваў ёй на шыю, і яна прывычным рэзкім рухам закідвала яго на спіну. З цягам часу прылаўчыўся ступаць адной нагой Пані на каленны, вышэй шчыкалаткі, сустаў, а другую нагу, адштурхнуўшыся ад зямлі, закідваў наверх і нацягваў аброць.

— Глядзі, каб не ўбрыкнула! — перасцерагаў Лявон.

Паня, відаць, адчувала яго кволасць, але, разумніца, можа, таму і слухалася. Калі ён завязваў ёй на пярэднія ногі пута, яна дыхала яму ў плечы цёплай даверлівай пысай: путаеш, маўляў, мяне, не давяраеш, а я нікуды не збіраюся ўцякаць.

Ехалі начлежнікі з песнямі. Часцей за ўсё спявалі «Там вдали за рекой загорались огни...» Песня хвалявала, абвастрала пачуцці. Валодзя ўяўляў сябе маладым, адданым рэвалюцыі коннікам, гатовым на ўсё дзеля яе перамогі. Запяваў звычайна Гога Пахолак.

Апошнім, замыкаючым, звычайна ехаў Міхась Тупчык у зашпіленым на ўсе гузікі кажуху, ашчаперыўшы нагамі сяннік, які ён клаў на спіну каню замест сядла. Дзяцей у Міхаля і Гапы не было і па гаспадарцы даводзілася ўсё рабіць бедалагам самім.

— Ну, дзядзьку, вы на кані сядзіце, як сабака на плоце, — жартаваў з яго з'едлівы Сашка Яўгенін, але Міхаль рабіў выгляд, што не чуе.

На выгане коней путалі і адпускалі, сачылі толькі, каб не забраліся кудынебудзь у шкоду. Распальвалі касцёр. Навокал рассаджваліся начлежнікі, і пачыналіся росказні. На тварах адлюстроўваўся водсвет вогнішча, якое паступова ўваходзіла ў сілу, грэла, чырвоныя іскры ляцелі ўверх і знікалі ў цёмнай вышыні. Болік Латушка смажыў на ражне сала, частаваў сяброў.

— Хлопцы! — прапанаваў Валодзька Хрысцінін. — Пайшлі картопляў накапаем!

— Картоплі яшчэ, як боб, — спыніў яго ініцыятыву Міхаль, — дробныя надта і вадзяністыя.

Начлежнікі замаўчалі, быццам да нечага прыслухоўваліся. Блішчэлі ў святле вогнішча іх твары. Усе адчувалі сябе маладымі і шчаслівымі, нават дзядзька Міхаль, які выбіраў месца, дзе б прылегчы.

Стаяла зорная ноч ва ўсёй сваёй велічы і прыгажосці. З сенажаці, з лонкі, даносіўся пах скошанай і прывялай на сонцы травы. Добра ў начным. Коні скубуць траву, а ты ляжыш сабе, падаслаўшы гэтай травы, глядзіш у неба, зоркі лічыш, думаеш. А навокал — цішыня. Часам толькі пачуеш, як каля самага вуха на пранізлівай ноце звініць камар. Ад ракі паўз лес па сенажаці ў бок поля насоўваўся туман, набракаў расою, цяжэў, асядаючы ў лагчынах, хаваючы ў сваім густым белым марыве і людзей, і коней, і кусты нізкарослага альшынніку.

Начлежнікі вядуць гамонку. І чаго толькі не пачуеш каля вогнішча! На гэты раз у іхняй кампаніі быў хлопец з Брэста Лёнька Куліч, які прыехаў у госці да дзядзькі Мікіты Галёнкі і цяпер, каля кастра, вёў рэй. Лёнька распавядаў цікавую кнігу — «Таямнічы востраў» Жуль Верна, якую нядаўна браў у гарадской бібліятэцы і якая дужа ўсіх уразіла. У прускаўскай школе такой кнігі не было.

Пяць амерыканцаў ды яшчэ сабака ўцяклі з палону (дзея адбывалася падчас грамадзянскай вайны паміж Поўначчу і Поўднем у Амерыцы) на паветраным шары. Бушаваў страшэнны тарнада, але яны не паглядзелі на гэта, паскідалі на зямлю мяшкі з пяском і паляцелі. Ураган пагнаў іх на захад, у бок Ціхага акіяна. Доўга іх насіла над акіянам, пакуль нарэшце не прызямліліся на невядомым востраве.

Слухаючы надта суперажывалі Сайрэсу Сміту і яго таварышам, якім давялося абжываць гэты невядомы востраў. Прыгоды і выпрабаванні адбываліся з імі такія, што мароз хадзіў па спіне. Душа, сярод начной цішы, ажно замірала ад тых незвычайных падзей і здарэнняў, якія адбываліся з героямі кнігі. А калі Лёня пачаў расказваць пра падводную лодку капітана Нема, гатова было спыніцца сэрца.

Расказваў берасцеец з працягам у наступную ноч. Валодзя пазіраў на месяц, думаў, як гэта ён кіруе акіянскімі прылівамі і адлівамі, якія здараліся на тым таямнічым востраве і якімі карысталіся Сайрэс Сміт і яго таварышы, і чаму такіх прыліваў і адліваў няма на Лосьне, вада і месяц адны і тыя ж. Непадалёку спаў Міхаль, паклаўшы на дол сяннік і не здымаючы кажуха. Стомлены працоўным днём, ніякай цікавасці да падзей, што разыграліся на далёкім востраве, не праяўляў.

— Вальдэмара зноў няма, — падзівіўся Іван Каленік, агледзеўшы прысутных.

— Да Сняжаны пайшоў, — пасміхнуўся Галёнкаў Жэнік. — Прасіў за Мінёрам прыглядзець.

— Да вучыцелькі! — дадаў Жоржык.

Пад раніцу халаднела, агонь аднак бадзёрыў, грэў, разганяў цемру. Але да раніцы яшчэ далёка.

— Ці спутаў ён свайго Мінёра? — устрывожыўся Васька Ламака.

— Спутаў.

— А то сам у шкоду пойдзе і іншых за сабой павядзе.

Валодзя Хрысцінін кінуў у вогнішча бярэма шыгалля, і яно ўспыхнула зыркім полымем, узляцеў пучок іскраў і згас у чорнай цемені ночы. Дымілі дагараючыя галавешкі, тлеў прысак. Хлопцы палягалі на цёплай траве паблізу вогнішча і пазіралі на зоркі. Лёнька Куліч сказаў, што кожная з зорак такая ж вялікая, як сонца.

— Не паверу, — азваўся Міхаль, які паспеў ужо прачнуцца і слухаў. — Зоркі маленькія, як цвічкі ў столі, а сонца вялікае, як пляцак, як добры праснак.

Гурт стрымана зарагатаў, потым аціх, але ненадоўга.

— У іх цяпер самыя любошчы, — мройліва заўважыў Гога Пахолак.

— Прыйдзе дык раскажа, — пасміхнуўся Коля Дземідзюк.

Летняя ноч кароткая, але пад раніцу туман стаў быццам яшчэ гусцейшы. Разліўся па лонцы, па карчах, як малако. У тумане шарэлі старыя вербы, заіржала чыёсьці жарабя. Пачало світаць.

— Ну, хлопцы, давайце спаць! — прапанаваў Іван Каленік.

Але дзе ж ты паспіш, калі на ўсходзе ўжо разгараўся золак. Прачнуўся ветрык і стаў радзець туман.

Здалёк пачулася песня:

> Ты не лякайся, што змерзнеш, лэбэдонько, —
> Тыхая нічка без хмар.
> Я прыгорну тэбэ до свого сэрдэнька,
> Бо воно палкэ, як жар...

У лазняках рыпучым здаўленым голасам азвалася нейкая птушка. Спяваў Вальдэмар, вяртаючыся ад «вучыцелькі». Ішоў у вясёлым настроі, насунуўшы набакір кепку. Далёка чуваць была яго песня. Падышоў да амаль патухлага вогнішча, агледзеў хлапечую кампанію, пацягнуўшыся, шырока разняўшы рукі, на ўсе грудзі ўздыхнуў і шумна выдыхнуў. Успамінаў, мусіць, Сняжану. Потым прысеў каля кастра, шырока раскінуўшы калені, і стаў глядзець у агонь. Усе заўважылі, што вочы яго свецяцца нейкім ненатуральным бляскам. Так яно і было, думкі запоўніла Сняжана...

...Надта яна яму падабалася: гладкія плечы, тонкая талія, моцныя круглыя калені, залацістыя шоўкавыя валасы, які стрымліваў бліскучы абручык. Калі яна здымала гэты абручык, светлыя валасы прыгожымі хвалямі абрамлялі лоб і шчокі. Панадна выглядалі крыху падфарбаваныя поўныя чырвоныя вусны. Убачыўшы яе ў першы раз, ён анямеў ад нечаканасці. Яна выглядала, як каралева, з бліскучым абручом на галаве, які злёгку прыціскаў залацістыя, крыху завітыя валасы, з тонкімі, шнурочкамі, броўкамі, прыемна акрэсленымі румянымі вуснамі. Пад бялюткай кофтачкай таямніча пукліліся востранькія, паўнаватыя грудзі. Вальдэмар у адначассе апынуўся ў свеце мрояў, няпэўных летуценняў і надзей. Блізкасць з ёю абяцала нейкае неймавернае шчасце. На ўроках не спускаў з яе вачэй і марыў, каб яна зірнула на яго. Калі яна набліжалася, ён удыхаў прыемны пах яе парфумы і адчуваў, як густа чырванее. Часам яму вельмі чагосьці хацелася, але не мог даўмецца, у чым справа, чаго яму хочацца.

Каб звярнуць яе ўвагу, трэба было чымсьці яе здзівіць. Ён пачаў хадзіць на руках. Не кожны гэта зможа, а Вальдэмар мог, вывучыўся яшчэ ў Драгічыне, дзе жыў пры маці. У калідоры, дзе ён хадзіў на руках, тоўпіліся вакол

яго вучні, падыходзілі і настаўнікі. «Ну, Кухту толькі ў цырку выступаць», — гаварыў Васіль Іванавіч Клюка.

Характар Сняжана Валер'еўна мела надта цікаўны, па-жаночы няўстойлівы, схільны да спакус. Як і кожнай жанчыне, хацелася падабацца. Яна таксама заўважыла яго, вылучыла з гаманкога вучнёўскага гурту, але маўчала. Толькі вочы яе, шырока расплюшчаныя, глядзелі на яго радасна і крыху здзіўлена, як бы чакаючы ад яго чагосьці неверагоднага, што неўзабаве павінна было адбыцца. Але баялася стрэцца з ім поглядамі, не хацела паказаць, што ён ёй неабыякавы. Напачатку яна адчувала сваю віну за тое, што выклікала ў ім гэткае пачуццё, цікавасць, аднак па часе адчуванне віны прайшло. Аднойчы яна папрасіла яго дапамагчы ёй несці сшыткі. Ён нёс тыя сшыткі, хвалюючыся, колькі разоў нават спатыкаўся на роўнай, як кажуць, дарозе. Сняжана Валер'еўна жыла ў былым панскім палацы, мела там невялікі пакойчык з рыпучай падлогай і адным вузенькім акном. Калі Вальдэмар прынёс тыя сшыткі, яна запрасіла яго прысесці адпачыць. Ён сеў на столак, які, здаецца, і быў адзін у пакоі. Яна прысела на ложак і так закінула адну нагу на другую, што ў яе там нешта «свіснула», — гэта, хутчэй за ўсё, шоўкавыя панчохі церліся адна аб адну. Яна гэтага нават не заўважыла і пазірала на яго шырока адкрытымі вачыма, удзячная за аказаную дапамогу і за ўвагу з яго боку. Зубы іскрыліся ў паблажлівай усмешцы, якая яму вельмі падабалася. У яе была нейкая асаблівая пяшчота — мяккая ўсмешка, і калі яна вось так усміхнецца, дык разам з німбам яе залацістых валасоў гэта стварае ўражанне чагосьці сонечнага, цёплага, ласкавага, невымоўна прыемнага, у яго ажно замірала сэрца. Потым яна неяк дэманстратыўна дастала з пачка «Беламора» папяросу і, пазіраючы на яго, закурыла, зацягнулася і выдыхнула блакітны струмень дыму.

Утварылася працяглае маўчанне, якое ніхто не перарываў. Ён узяў са стала нейкую кнігу. Гэта быў падручнік па рускай літаратуры для пятага класа.

— Гэтую кнігу я яшчэ ў Драгічыне чытаў. Падручнік.

— Ты з Драгічына?

— З Драгічына, з таго, што за Бугам. Я сюды да бацькі прыехаў. Мама ў Драгічыне засталася, там у нас родзічы.

— Лаўра Яўсеевіча я ведаю. Ну, добра, — спахапілася яна, прытушыўшы ў попельніцы недакураную папяросу, — дзякуй за дапамогу. Ідзі ўжо, а то ён непакоіцца будзе. Дзе сын прапаў — падумае.

— А можна я калі да вас яшчэ зайду?

Яна акінула яго трывожным пазіркам.

— Можа, па ўроках незразумелае што, дык раскажаце, каб я лепш засвоіў.

— Ну, калі што, то прыходзь.

Ён пачаў хадзіць да яе. Не часта, але раз у тыдзень бываў. Яна частавала яго чаем з шыпшыны, сцвярджала, што ён вельмі карысны і што яго трэба піць без цукру. Пусты, несалодкі чай не надта падабаўся Вальдэмару, але ён піў і хваліў. Сняжана сказала, што шыпшына надзвычай прыгожая і прыгадала чуты ў інстытуце верш пра шыпшыну: «зялёны ліст, чырвоны цвет».

Потым сустрэчы сталі часцей і нарэшце — амаль штодня. Ім авалодвала любоўнае нецярпенне, і вечарам ногі самі неслі да яе.

У пытаннях інтымных адносін ён быў яшчэ зусім не дасведчаны, але яму падабалася яе спелае цела дарослай жанчыны, вочы якой выказвалі таемную жарсць і жаданне. Яна крыху прымружвала іх, апускала доўгія вейкі. Ёй хацелася зваблiваць яго вачыма, хацелася і большага: распранууцца, распусціць

валасы, — але гэтага сабе не дазволіла, устрымалася. Ён літаральна знемагаў ад наплыву пачуццяў, ад доўгага тамлення, унутраных пакут. Сняжана адчувала ўздзеянне сваіх чараў. Аднойчы яна сказала:

— А ты мне падабаешся, ты смелы.

Ён быў на сёмым небе ад такога кампліменту.

— А ведаеце, я яшчэ там, у Драгічыне, пра вас думаў.

Гэта яе здзівіла.

— Як ты мог пра мяне думаць, калі ты мяне ніколі не бачыў, не ведаў і не чуў пра мяне?

— А я вас уяўляў, прыдумаў. Прыдумаў — і ўсё. А калі сустрэў, тут, у школе, дык убачыў, што гэта вы і ёсць!

— Ну дык пацалуй мяне! — нечакана прамовіла яна загадным тонам.

Папраўдзе, ён яшчэ ніколі нікога не цалаваў, і яго п’яніла чырвань яе вуснаў. І ён паслухаў яе і пацалаваў у гэтыя чырвоныя панадныя вусны, нечакана адчуўшы іх дрогкую напружанасць. Потым нават як бы асмялеў, памкнуўся абняць, але яна рэзка выбавілася з яго абдымкаў. Наступіла паўза.

— Што ты зараз пра мяне думаеш? — запытала яна.

— Лепш за вас ва ўсім свеце няма! — адказаў ён з усёй уласцівай яму шчырасцю, нутраным напалам і перакананнем. Ён узяў яе за рукі, якія аказаліся гладкімі і пяшчотнымі.

— Я дзеля вас усё зраблю, чаго толькі не пажадаеце, усё, што скажаце. Няма такога, што б я ні зрабіў для вас...

У той раз яны да самага світанку не раздымалі абдымкаў. Праз акно роўна лілося святло ад вастрарогага маладзіка, і пяшчотна песціла яе прыгожы твар. Адно толькі замінала. Перад ад’ездам у начное ён, можа, шчыльней, чым трэба было, павячэраў і цяпер пакутаваў. У кішках бурчэла, туга, да болю.

Развітаўшыся, ішоў праз пахілы, як бы нейкі нікому непатрэбны коксагыз, думаючы пра сваё, пра яе, Сняжану...

Сустрэчы сталі часцей, штоночы.

Сябрукі пазіралі на яго з захапленнем. Ходзіць да вучыцелькі! Убіўся ў ласку, злюбіліся! Нехта, магчыма, і зайздросціў.

У кастры затрашчала падкінутае чыёйсьці рукою галлё.

— Ну, як яна? — пацікавіўся Хрысцінін Валодзька.

— Пагаманілі мы з ёй. — Вальдэмар адагнаў ад вуха камара. — Пагаманілі і толькі, нічога не было. А Мінёр дзе?

— Разам з усімі, у табуне.

У вогнішчы тлелі апошнія вугельчыкі.

— Пайду пагляджу свайго коніка...

Там-сям пад месячным святлом заіскрыліся плямы начной расы. Узыходзіла сонца, і мяняўся колер неба, ружавелі на ім рэдкія аблачынкі. Вогнішча дагарала, чэз і гаснуў агонь. Коні збіліся ў гурт, і пара была вяртаць іх дадому, у гаспадарку.

Ранішняя раса пасівела і была такой густой, што, калі нагнуцца, можна было ўбачыць сваё адлюстраванне. Здавалася, што Вальдэмар не раз углядаўся ў свой адбітак у расе, цікавіўся, відаць, як выглядае.

Валодзя злавіў сваю Паню, зняў пута, накінуў вуздэчку і, калі яна нагнула галаву, каб яшчэ раз скубнуць травіцы, ушчаперыўся ёй на шыю. Кабыла так матлянула галавой, што перакінула няўдачлівага седака сабе ажно на круп, а потым падбрыкнула задам, і хлопец падляцеў спачатку ўверх, а потым уніз, якраз Пані на спіну. Астатнія таксама паселі на коней. Забрытаў свайго Мінёра, надзеўшы на яго вуздэчку і аброць, Вальдэмар. Спачатку ехаў, як і ўсе,

але калі параўняліся з «палацам», дзе жыла каханая, пусціў каня наўскачкі, трымаючы ў руцэ аброць, стаў яму на спіну і імчаўся стоячы. Іншыя гэтак не ўмелі або не мелі стымулу, як Вальдэмар, але таксама з усіх сіл, стрымгалоў гналі коней, якія адпачылі за ноч, каб не адстаць, не апынуцца ззаду. Хутчэй, як мага хутчэй! Яны імчаліся так, што ляцела з-пад капытоў зямля, свісцеў увушшу вецер і спявала душа. Апераджаючы сябрукоў, стоячы на спіне сваго Мінёра, не зважаючы ні на што, нёсся Вальдэмар. Ці бачыла яго ў гэтую мінуту каханая — невядома. Калі не спала, дык пэўна ж бачыла. Тупат коней разлягаўся далёка.

Яны былі яшчэ падлеткі, але ўжо і вершнікі. Збавілі тэмп толькі перад мосцікам праз Плісу. У Плісе паілі коней.

Ззаду мерным крокам, не падганяючы каня, паклаўшы яму на спіну сяннік, ехаў Міхаль Тупчык. Дома яго чакала Гапа.

Каля хаты сына сустрэў Лаўр Яўсеевіч, якому ўсё было ўжо вядома, але размову адкладваў. Нарэшце пачаў:

— Што гэта ты сабе надумаў?

«Яно, канечне, і я не святы, далёка не святы, — падумаў ён пра сябе, — але...» Зірнуў на сына, які маўчаў, і ўспомніў сябе ў гэтым узросце: «Шаснаццаць гадоў... Узрост, калі толькі і турбот, каб гуляць з дзеўкамі, не звяртаць увагі на павучанні старых, красці ды з равеснікамі біцца. Але ж я бацька, я не магу гэтаму патураць!..» З прыкрасцю ўспомніў, што сам спрабаваў аказваць гэтай асобе, гэтай самай Сняжане, знакі ўвагі, даваў зразумець, што сімпатызуе, а яна нават не хацела заўважаць.

— Ну і што рабіць будзем? — зноў запытаў ён. — Абзадачыў ты мяне!

— А што, хіба я не магу з ёю сябраваць?

— Не чакаў я, што ты на такое здольны.

— Дык я ж твой сын.

— Што ты гэтым хочаш сказаць?

— Здольнасці перадаюцца.

— Дык яна на дзесяць гадоў за цябе старэйшая. Я даведваўся пра гэта ў Рытатуя.

Але пераканаць у чым-небудзь закаханага, як вядома, цяжка. Вальдэмар маўчаў.

— Зелля якога прываротнага дала ці што? Гэткая звада табой авалодала...

— Апроч таго, ты яшчэ і хаваешся.

— Я не хаваюся.

— Збіраешся з Мінёрам у начное, а бавіш час у яе. Нядобра.

Лаўр Яўсеевіч напомніў і, можа, не толькі сыну, якіх гэтых радкоў не ведаў, колькі сабе:

— У святым Пісанні сказана: «Лепш казнь адкрытая, нежлі любоў патаённая». Апроч таго, радасці кахання хутка праходзяць. Ды яшчэ і прымаўка на гэты конт ёсць.

— Якая прымаўка?

— Народ прыдумаў, не я. А прымаўка такая: «Па любві ажаніўся, з гора ўдавіўся».

— Прымавак шмат.

— Але гэта асабліва ўдалая.

— А ты, папа, па любві ажаніўся ці так, без любві? Нешта я зразумець не магу.

Вальдэмар, відаць, намякаў на адносіны бацькі з Волькай.

— Бабздыр! — не стрымаўся Лаўр Яўсеевіч, перайшоўшы з баса на альт. — Ты дзейнічаеш мне на нервы! Нельга атцу такія пытанні задаваць! Гаварыць такое нельга!

— Чаму?

— Вось зараз вазьму рэмень і пакажу — чаму.

Вальдэмар сцяўся.

— Ты разумееш? Зводзіць яна цябе, з правільнага шляху збівае. У цябе жыццёвая дарога доўгая, табе вучыцца трэба! Ну, але я цябе вылечу. У царкву ідзі, маліся, можа, Бог сцаліць ад гэтай тваёй жарсці, можа, царква вылечыць... Увлёкся ты!

Відаць было, што сын надта пакрыўдзіўся на бацьку, і Лаўр Яўсеевіч, вядома, гэта заўважыў, але не саступаў, яшчэ болей распаліўся:

— Я забараняю табе крыўдзіцца на мене!

Вальдэмар пачаў радзей трапляць бацьку на вочы, казаў сябрукам: «Нервовы ён, хоча, каб усё па яго было. Але ж я ўжо не малы».

Павал Гальяш — чалавек разважлівы, зайшоўшы да Кужалёў, сказаў так:

— Бацькі па гэтым пытанні заўсёды з сынамі не ладзяць. Гэта — як у рускай песні спяваецца: «Отец сыну не поверил, что на свете есть любовь...»

* * *

Стаяў прыгожы жнівень, прускаўцы звозілі з поля снапы, у садах, нагінаючы галіны, даспявалі слівы і познія гатункі яблыкаў. Рыхтаваліся ўжо адлятаць шпакі.

Адсвяткавалі Яблычны Спас.

З каўчуканосным кок-сагызам у Прусцы так нічога і не атрымалася. На пачатку расліна як бы нават умацавала карэнне, пусціла парасткі, але расла, убіралася ў сілу марудна. Ці гэта глеба ёй не прыдалася, ці яшчэ чаго не ставала, але расліна заўпарцілася і не ішла ўверх. Хоць ты яе цягні сілком. Догляду кок-сагыз, відаць патрабаваў не абы-якога. А палівалі яго, трэба сказаць, слаба, не падкормлівалі, і пакрыўджаны кок-сагыз не стаў расці. «Расліну не абманеш, — казаў прускаўскі старажыл Павал Гальяш, — толькі сябе абмануць можна». Арбітру Аўдзеевічу, моцнаму на класавае пачуццё, здавалася, што вінавата зямля. Панская! Савецкай уладзе, яснай і простай, яна, паводле яго «логікі», не спрыяла.

За няўдачу з кок-сагызам Прыбылова знялі з пасады дырэктара дзяржгаса і запісалі вымову ва ўліковую картачку.

***Працяг будзе.***



Людміла КЕБІЧ

# У АБДЫМКАХ ЛЕТУЦЕННЯЎ

## БЭЗАВЫ ДОМ

Завядзі мяне ў бэзавы дом,
дзе ўспаміны жывуць дарагія,
дзе пад маміным цёплым крылом
мы былі незваротна другія.

Завядзі мяне ў бэзавы дом,
дзе надзейныя татавы рукі
нас звязалі сямейным вузлом,
дзе жыцця спасцігалі навукі.

Завядзі мяне ў бэзавы дом,
дзе сустрэне мяне мая вішня,
што расце і цяпер пад акном
і красуе духмяна і пышна.

Дзе гарыць жыццядайным агнём
сэрца светлай, як мара, радзімы,
дзе яшчэ мы ўсе разам жывём
на зямлі сваёй роднай, адзінай.

Дзе за круглым вялікім сталом
ні сябрам, ні суседзям не цесна,
дзе людзей памінаюць дабром,
і бяседа ліецца, як песня.

Кожны міг занатую радком,
каб у бездань цябе час не зрынуў.
Завядзі мяне ў бэзавы дом,
і я болей яго не пакіну.

## ЦЮЛЬПАНЫ

Час не дарэмна скарыстаны:
мінаю наш універмаг,
а ля яго — гарой цюльпаны,
у шклянках, вёдрах, на сталах…

З чаго яны? З вясновай пены?
Пяшчоты сонечных вышынь?
І ўжо пяюць, звіняць катрэны
маёй абуджанай душы.

---

*__Кебіч (Вайтулевіч) Людміла Антонаўна__ нарадзілася 17 ліпеня 1951 года ў гарадскім пасёлку Краснасельскі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла аддзяленне тэорыі музыкі Маладзечанскага музычнага вучылішча (1971), філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (1981). Працавала выкладчыкам музычна-тэарэтычных дысцыплін у Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў. Цяпер — старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Па музычных законах» (1996), «Зялёная рутвіца» (2001), «На беразе белай ракі» (2003), «Ключы ад Неба» (2005), «Светач мастацтва» (2008), «Непераможны колер охры» (2008), «Дамінанты лёсу» (2014) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010). Узнагароджана нагрудным знакам «За ўклад у развіццё культуры Беларусі» (2009), медалём Францыска Скарыны (2014).*

Бяру шчасліва, як каханне,
як сэнс жыцця, як цэлы свет,
як сімвал весніх спадзяванняў
на лепшы лёс, жывы букет.

## З КРАСНАСЕЛЬСКІХ КРЫНІЦ

Куды вы мяне прывялі,
сцяжыны маёй маладосці?
З крыніц Краснасельскай зямлі
я п'ю неспатольна, як госця.

Бяжыць гэтак сама рака —
што ёй да жыццёвага тлуму?!
І ранішні спеў жаўрука
вітаць немагчыма без суму.

Лячу, нібы той матылёк,
да роднай прыветлае брамы,
ды вось ён, знаёмы кіёк! —
чакае старэнькая мама.

А там, дзе густыя лясы
зачыняць вясну на засоўку,
ірдзеюць яшчэ верасы
і б'е ў берагі Верасоўка.

Парушу люстраны блакіт —
плывуць над ім іншыя хмары…
Я тут — экскурсантка, і гід,
і новага часу ахвяра.

Былое дымком занясло —
дымка мне заўжды не хапала!
Чырвонае наша сяло
Савецкаю вуліцай стала.

Тут іншыя кветкі цвітуць,
другія тут прозвішчы, людзі…
Калі мяне ўсё ж пазнаюць,
напоўніцу дыхаюць грудзі.

Куды вы мяне завялі,
маёй маладосці сцяжыны?
З крыніц Краснасельскай зямлі
я п'ю дарагія ўспаміны.

## ЗБЯГАЮ Ў ВЁСКУ

У горадзе і сонца не відаць…
Таму збягаю ў вёску па натхненне
і падаю ў абдымкі летуценняў,
як падае раса на сенажаць.

Напісаныя ў горадзе радкі,
бы ў конаўцы глыбокай, ціха вянуць.
А ў вёсцы, як па жыце васількі,
бягуць да рэчкі — у люстэрка глянуць.

Які прастор! Які густы блакіт!
Не абхапіць ні розумам, ні сэрцам.
Узгорак вунь — лясісты сіні кіт —
за полем лёг на сонейку пагрэцца.

Стракаты луг сваім жыццём жыве:
брыльянтава, пахуча, галасіста…
Не наступіць бы толькі дзе ў траве
на коніка — скрыпічнага саліста.

Люблю блукаць па ранішнім ляску
ці сесці ў прыдарожнай каляіне
і патануць вачыма ў зеляніне,
нагамі — у падсмажаным пяску.

І ўсё сваё жыццё перагартаць,
наслухацца, напіцца, наталіцца…
А ў горад трэба ездзіць, каб стаміцца,
бо ў горадзе і сонца не відаць…



**Мішэль ЛУЁ**

# НАВЕЛЫ

## Папярэдні мінулы час

Яна пазваніла здалёк, з пэўнай настойлівасцю. Ёй карцела пераадолець увесь гэты шлях, адзінаццаць гадзін самалётам, каб вывучаць нюансы французскай граматыкі. «Стараннасць і цярпенне», — адказаў я ёй, хутчэй падбадзёрваючы, чым адгаворваючы. «Праграма навучання, якую Вы прапануеце, мне цалкам падыходзіць». Што ж яе падштурхоўвала вучыць французскую мову так, як іншыя вучацца граць на скрыпцы? Пераменна жыццярадасны і мяккі, гулкі, нібыта з прышчоўкваннямі, як у бушмена, яе голас адразу ж пранік у маё нутро, каб пасля прасякнуцца мной, стаць часткай майго жыцця, суправаджаць мяне цягам шматлікіх дзён. Я дрэнна расчуў яе прозвішча, яна яго не прамовіла па складах. Нешта накшталт Байкіе? То яна мне ўяўлялася адной з ндэбеле[1], што жыве ў драўляным пафарбаваным доме, то бачылася апранутай у сары ў сваёй бабулі ў Дурбане. Баючыся прапусціць яе на вакзале Страсбурга, я перазваніў ёй, каб спытацца прыкмету, па якой яе можна пазнаць. «Пазнаеце па доўгіх валасах, але хутчэй нават — па зялёнай валізцы», — адказала яна, прыглушаючы смех.

На тыдні перад яе прыездам мне прысніліся ўзвышшы, шырокія прасторы, запоўненыя бясконцымі гужамі вазоў. Часам вазы выстройваліся ў кола, каб абараняцца ад атак зулусаў. Пасля ўжо англічане акружалі вазы бураў. Змесціва зялёнай валізкі мянялася са сну ў сон, толькі колер заставаўся тым самым. Унутры валізка была заўсёды чырвонай, як кроў, якая пралівалася людзьмі, жывёлай і драпежнікамі, чырвонай, як афрыканскае сонца.

«Я гатова паглынаць веды». Толькі-толькі я пазнаў яе ў вакзальным буфеце (зграбная бландзінка з малочнай скурай), як пачуў гэтыя словы, адрасаваныя мне, і тут жа ажылі сны, натхнёныя зялёнай валізкай. Я ўявіў, як яе далёкая сваячка кіруе абозам, што падымаецца па Трансваалі, і не спускае вачэй з валізкі. Падняўшы валізку і адчуўшы яе неверагодна цяжкую вагу, я адразу ж выключыў магчымасць таго, што тут можа знаходзіцца ўсяго толькі труп чалавека, антылопы або льва. Калі не труп, то гэтая дзіўная валізка з Ёханесберга, можа, утрымлівае брыльянты, што перавозяцца кантрабандай? І тады тая, якую я прымаў за старанную студэнтку, насамрэч авантурыстка, палюбоўніца, што раскідваецца брыльянтамі? Маё мірнае жыццё выкладчыка ўскладнялася. Калі мы прыехалі на кватэру, высветлілася, што Мата Хары з Паўднёвай Афрыкі забыла ключы, якія я ёй перадаў на вакзале. Мая студэнтка рассыпалася ў выбачэннях. Тады я заўважыў, якія блакітныя вочы ў Тамі і якая бледная скура.

[1] Ндэбеле — назва адной са шматлікіх народнасцей Паўднёвай Афрыкі, прадстаўнікі якой маюць надзвычайныя мастацкія здольнасці.

«Там у ліпені зіма», — адказала яна на мой погляд. Яна хацела скарыстацца сваімі вакацыямі, каб удасканаліць сваё веданне марфалогіі і сінтаксісу дзеясловаў. Шчыра кажучы, гэта мяне інтрыгавала яшчэ болей, чым змест яе валізкі. Пад гэтым Байкіе ці не хавалася Бек'е, французскае прозвішча? Ці не спадзявалася Тамі, абапіраючыся на французскія словы, слова за словам, фраза за фразай, павярнуць час назад, сцішыць у сабе глыбокія слаі падсвядомага, мову сваіх продкаў гугенотаў, што аднойчы размясціліся ў Кейптауне, каб пазбегнуць драганадаў Людовіка XIV? Ці яна чакала маёй дапамогі, каб абудзіць словы, што спалі на працягу сямі або васьмі пакаленняў? Якую кнігу тады чыталі гэтыя ўяўныя продкі, калі толькі не тую, Галоўную Кнігу? Нашым падручнікам будзе Біблія? Якія спевы там я знайду і, галоўнае, якім чынам мне за гэта ўзяцца, каб, пранізліва дэкламуючы, пранікнуць праз сцяну забыцця ці гісторый, што нашэптваліся на вуха, пра пустыні, аазісы, мёд і дзікіх жывёл?

На стале з дапамогай фламастараў зялёнага, чырвонага, жоўтага колераў Тамі малюе мапу сваёй краіны. Гэтыя палоскі, як у зебры, сціраюць адлегласць і падаюцца мне гульнёй у маршруты, шляхам, які трэба вынайсці, паляваннем на скарб, што недзе побач. Прыйшоў час перадаць ёй мае простыя сакрэты, мае сціплыя веды. Тамі шалее ад граматыкі мінулага часу. Ці яна такім чынам хоча адмяніць і сам час? Яна дэгустуе, як віно, імперфект, мінулы час незакончанага трывання, імперфект апавядальны або апісальны, цяперашні час у мінулым, непазбежны імперфект, імперфект ускоснага вольнага стылю. На яе прыемна глядзець: хутчэй ласуецца, чым аб'ядаецца. Плюсквамперфект, даўномінулы час, яе весяліць, а адштурхоўвае яе папярэдні мінулы час, «гэты страшны звер». Ці павінен я стаць дрэсіроўшчыкам? Я незаўважна дадаю новыя элементы. Пасля таго, як мы авалодалі простым мінулым часам, я ўстаўляю ў фразу адзін папярэдні мінулы час, такі бясшкодны. «Пасля таго, як сям'я Б. нарэшце адшукала лагчыну, каб усталяваць сваё жытло, усе астатнія сем'і зрабілі па іх прыкладзе». Завершаны працэс у закончаным мінулым, ці гэта палохае Тамі ў папярэднім мінулым часе? Справа ў тым, што раптам яна пачала мне расказваць гісторыю сваіх далёкіх продкаў, што прыехалі насамрэч з Шатландыі і высадзіліся ў Кейптауне, каб там знайсці запаветную зямлю. О, яна не так шмат і кажа. Мне падаецца, што, каб лепей мяне ўвесці ў чароўнае кола закончанага мінулага часу, яна павольна перамяшчае свае доўгія ногі і свае доўгія белыя рукі паўднёвай зімы ў нечым накшталт танца ветразяў. Саламея, як сапраўдная котка, уцягвае кіпцюры, хавае свае намеры. Яна жадае зусім не галавы свайго ворага, яна намагаецца толькі ашукаць гэты папярэдні мінулы час, час сваёй сям'і, сваёй краіны, жадае звесці яго на яе літасць, зрабіць яго сваім.

«Я б хацела жыць у Еўропе, але там я хацела б памерці». Тамі адсюль, але з прамінулага адсюль, звязанага з біблейскім Усходам, які ў сваю чаргу злітаваны з папярэднім мінулым Еўропы, знятай з магутнай спіны мінойскага быка, яе Еўропа — гэта Еўропа кніг, Еўропа, што прыемна пахне пылам і паперай. Аднак больш чым верагодна, што полымя, якое тлее пад гэтым попелам, павінна знайсці выйсце, і вось яна пачала ажыўляць дэфектыўны дзеяслоў краіны, дзе за ноч у пустыні распускаюцца кветкі, краіны, што залізвае свае раны, зашывае іх, спрабуючы злітаваць тое, што было падзелена, звяртаючыся да будучыні, беручы курс на Добрую Надзею, краіну, якой яна патрэбная, якой заўсёды патрэбныя яе жанчыны, каб узнавіцца пасля страт, прынесеных мужчынамі.

Пасля таго, як яна расказала мне пра сваю далёкую сваячку, усе валасы якой раптам выпалі і засталіся ў белым рукамыйніку, Тамі мне падалася разняволенай, ні такой грознай, ні такой баязлівай, якой яна хацела падацца мне або

сабе самой. Страшны монстр яе не паглынуў. Прыручаны папярэдні мінулы час сядзеў у яе нагах.

Ці гэта было здабыткам вандроўкі ў Еўропу? Вынік, якога яна чакала ад заняткаў граматыкай? Я не надта асмельваўся ў гэта верыць, але ў той жа час гэта было відавочным. Мая студэнтка мела самыя розныя таленты, каб дасягнуць сваіх мэт. Ювелір, Тамі ўмела ўставіць камень у аправу. Ніхто не мог з ёй зраўнавацца, калі трэба было размягчыць пялёсткі руж і здабыць з іх гаючае варэнне, якое надае сіл. Яна мела таксама і здольнасці да моў.

Ці толькі мне было вядома, што яна піша кароткія навелы на вострапачуццёвай французскай мове? «Французская мова, — казала яна мне, — гэта мова, якая найбольш падыходзіць для такога жанру. Гэта аксамітная мова, якая кусаецца і драпаецца». Ці з-за гэтага яна так моцна прагнула авалодаць усімі яе нюансамі і нават прапанавала мне месца на дрэве ў яе садзе ў Ёханесбургу, адкуль я мог бы даць важны ўрок усім навакольным птушкам?

Што з ёй сталася? Я развітаўся з ёй на вакзале. Пазней мы размінуліся ў Мюнхене. Яна паехала адтуль у Гамбург, каб там сесці ў самалёт. Вярнулася яна ці не ў Паўднёвую Афрыку, не раскрыўшы мне сакрэт зялёнай валізкі, гэта мяне цікавіла нашмат меней, чым тое, дзе яна была зараз у сваім разворванні часоў спражэння і ў стасунках са сваім папярэднім мінулым часам.

**Белы матылёк**

Пражыўшы некалькі гадоў у Японіі, я наважыўся нарэшце вывучыць японскую мову. «Канвеерныя» метады, якімі карыстаюцца спецыялізаваныя школы, выклікалі ў мяне непрыязнасць. Адна сяброўка, што здагадалася пра мае ваганні, прыдумала прадставіць мяне аднаму манаху Кафуку-дзі. «Вось Настаўнік, які Вам падыходзіць!» Гэта было ўсё, што сказала яна, і больш ніякіх прадстаўленняў.

Вось ужо больш за год, як я пачаў браць урокі. Першыя два месяцы заняткаў зводзіліся то да шпацыраў у адным з пышных паркаў, што нагадвалі пра Гаваі або Каліфорнію, то ўздоўж алей Юсентэі, японскага саду. Якімі б прыемнымі ні былі гэтыя прагулкі, паколькі мы шпацыравалі ў цішыні, я не дасягнуў аніякага прагрэсу ў далікатнай марфалогіі прыметнікаў. Па прыходзе вясны мой настаўнік вырашыў далучыць мяне да майстэрства кампанавання кветак. Пасля захаплення, моцнага і хуткаплыннага, я адчуў жывую варожасць да free style, але жывую схільнасць да ікеноба, кампанавання кветак у старадаўнім стылі, якое я суаднёс бы з мастацтвам рамана, а free style — да кітчу. Да маіх безупынных памкненняў мой настаўнік быў абыякавы, як мармур. «Ну як, ёсць поспехі?» — спытала мая сяброўка. Баючыся яе пакрыўдзіць, я не наважыўся прызнацца, што ведаю пра ўжыванне функцыянальных суфіксаў не болей, чым ад пачатку заняткаў. Я адказаў напеўным «так», абмежаваўшыся няяснымі танальнасцямі. Аднак я стаў заўважаць, што мая французская мова пачала выгінацца, я ахвотна стаў ужываць апісальныя выразы, стаў аддаваць перавагу ладу дапаўняльнаму перад ладам выключальным. Хутчэй «і…і…», чым «або…або». Але я па-ранейшаму не размаўляў па-японску. І зусім не ў цёплай сернай лазні, куды мяне павёў Настаўнік зімой пасля практыкі ў кампанаванні кветак, мне належала навучыцца вызначаць ролю энклітыкаў. Усё навучанне з боку прафесара складалася ў тым, што, выходзячы з лазні, ён груба буркатаў нешта, затым адкашліваўся і сплёўваў. Ніводнага незабыўнага ўражання для мяне на гэтым этапе заняткаў не было. Чытайце далей, каб дазнацца, чаму ўсё ж я працягваў урокі! Наступны сезон заінтрыгаваў мяне яшчэ болей. Мы сустракаліся ў чайнай, дзе кожны раз мне належала ацаніць смак новага піражнага, запіваючы яго

маленькімі глыткамі зялёнай пенай гарбаты. Піражныя мелі ўсё меней і меней смаку, усё танчэлі і танчэлі. Я пачаў быў ужо злавацца на свайго настаўніка. Чаго ён, у рэшце рэшт, дамагаўся? Ці хацеў ён паздзекавацца з мяне, выпрабаваць мяне? Чаму ён рабіў выгляд, што смяецца цішком? І гэта той, хто адварочваўся ад кандытарскіх пап’е-машэ спадара Даню, які смак ён мог знайсці ў гэтых рэдкаватых піражных? Мой Настаўнік, які абагаўляў Чжао Мэнфу, вялікага кітайскага каліграфа, няўжо ён не ведаў, што ў Кітаі дэсерты прыносяць добры настрой, падбадзёрваюць, дораць смакавае задавальненне, у той час, як гэтая напаўвадкая маса можа быць прыдатнай для задавальнення хіба толькі стомленага паднябення надзьмутай старой дзевы! Як можа падабацца гэтая вяласць, гэтая  саладжавасць, гэты саладкаваты жэлацін? Я працягваў сердаваць, але стрымліваў сябе і прыходзіў зноў. Аднойчы пасля таго, як мы выпілі зялёнай гарбаты, мой настаўнік змайстраваў з паперы нешта падобнае на сетку, пераплеценую шматлікімі маленечкімі вузельчыкамі, паклаў яе перада мной, пасля падняўся і сышоў назаўсёды. Што да мяне, я працягваю наведвацца ў чайную. Звычка засвоена. Кожны раз мне прыносяць новае піражнае, у форме кветкі, фрукта або птушкі. Я доўга яго сузіраю, затым рэжу на дробныя фрагменты, якія кладу на кончык языка, не шукаючы там ніякага смаку; затым мой язык слізгае па цесце, абводзіць яго, абкручваецца вакол яго, абмацвае яго, каб адчуць алеістасць, вызначае яго кансістэнцыю. Апошнім разам піражнае мела форму белага матылька. Пакаштаваўшы яго, прыпадабніўшы яго да сябе, я падняўся вясёлы, выйшаў з чайнай, лёгкі, нібыта лісце на ветры, вольны, гатовы абысці любыя перашкоды, падрыхтаваны да разумення ўсяго. І тады я ўзгадаў пра сплеценую вяроўку з вузельчыкамі. Усё стала зразумелым. Ёсць мовы ўкладзеныя, прэстыжныя архітэктурныя канструкцыі, як нямецкая, а ёсць мовы, якія ідуць да падмурку і вас глыбока закранаюць, як руская. А гэты вобраз сплеценай вяроўкі нічым не нагадвае японскую мову? Мова-засцераганне, да якой можна прывязацца, як да страховачнай вяроўкі, мова, якая прыдае ўпэўненасці, таму што яна апісальная, мова, якая супакойвае са сваім пастаянным намаганнем вызначыць узровень у адносінах, для чаго ўжываецца цэлы набор прыставак і суфіксаў, якія перадаюць пашану або сціпласць. Мова, абазначаная часціцамі, празмерна выразная, але ў той жа час якая асцерагаецца ўсё выдаць, знаходзіць задавальненне ў тым, каб пакідаць нявысветленым род, мець на ўвазе асобу, якая культывуе нявызначанасць, круціцца вакол пустэчы, прычэпліваецца, згортваецца, дазваляючы ўбачыць і зразумець усё і нічога і пакідаючы пасля сябе асаблівае адчуванне прыналежнасці, як крохкае і бледнае цеста таго белага матылька, аўсяніка, якога я падносіў да рота, асцярожна клаў, пасля таго як мае вусны абрывалі яго крыльцы, ледзь датыкаючыся, і які ўзлятаў там, дзе ўсё ўсмоктваецца, там, дзе ні прамовы, ні смак болей не патрэбныя, там, дзе няма болей ні французскай, ні японскай мовы…

*28.09.1996 г.*

## Сіні Капялюш

Адзін раз не лічыцца, я зараз вам пакажу адваротны бок медаля. Ён піша, кажуць яны, скрывіўшыся ад зайздрослівага захаплення, яму шанцуе добра-такі, і гэтак далей. Няхай яны тады ўтыкнуць свой нос у маю падсобку, я ім жадаю атрымаць сапраўднае задавальненне: няскончаныя карэктуры, папера, што набіваецца ў сметніцу, натхненне, падлюга, якое прыходзіць, калі яго не чакаеш болей, калі дрыхнеш, змардаваны, галава на пісьмовым стале, чорт, якога цягаюць за хвост… Шчасце, калі не трэба друкавацца за кошт аўтара! Выдаўцы, рэдактары-выдаўцы, галоўныя рэдактары, усе яны пацукі, драпеж-

нікі, што смокчуць вашую кроў, трэба ім казаць дзякуй, цалаваць ім руку, пасля чаго вас жа абарвуць часцей за ўсё ў сваю чаргу: «Яшчэ адзін пісака, які лічыць сябе Бальзакам!»

«Але ж у Вас ёсць Вашыя чытачы!» — мне запярэчыце вы. І гэта праўда! Як бы ні падавалася гэта дзіўным, ёсць яшчэ людзі, якія мяне чытаюць: на першы погляд, людзі звычайныя, як усе, чытачы, якія карыстаюцца сацыяльным забеспячэннем, ездзяць у метро, задавальняючы свае маленькія дзівацтвы; насамрэч, гэта асобная раса, чытачы, небяспечныя вылюдкі. Не праходзіць і тыдня, каб не знайшоўся адзін ці адна такая, што сябе пазнае ў адным з маіх персанажаў. Той чытач ці чытачка тэлефануе Спадару Галоўнаму Рэдактару, каб адрасаваць яму свае кампліменты, калі ўяўны партрэт прыемны, і свае скаргі, калі вышэйназваны партрэт не падабаецца. Праблема ў тым, што Галоўны Рэдактар перадае мне не кампліменты, а толькі скаргі. Я дарэмна паўсюль абвяшчаю, як ніхто, што «Бавары, гэта я!», але колькасць званкоў у Рэдакцыю толькі памнажаецца. У гэты час Рэдактар настойліва выказвае мне свае шанаванні, што, на яго мове, а я пра гэта ведаю ад аднаго шпіка, азначае: «Яму пашанцавала трапіць на нас, хто яшчэ пагадзіўся б выдаць яго бязглуздзіцу!» Але яны робяць выгляд, што не ведаюць таго, што да мяне ўсё часцей і часцей звяртаюцца з просьбай важныя людзі, якія хацелі б, каб яны самі або хтосьці з іх сваякоў увайшоў у мае навелы. «Мая жонка хацела б запрасіць Вас на вячэру, Вы ёй цікавы як пісьменнік», — сказаў мне нехта, чыё імя я аднойчы назаву. Заўсёды можна дамовіцца, на мае паслугі ёсць зніжкі, Рэдактар ні пра што не ведае, суп з локшынай за невялікую ролю ў навеле, казуля ў чарніцах у рэстаране Пон дё Сьель, каб увайсці праз галоўны ўваход у мой наступны раман.

Усё пачыналася няблага, я паверыў, што мае справы палепшацца, як у дармаеда, якім я стаў, калі напярэдадні Новага года са мной адбылася адна паскудная гісторыя. Адзін з другарадных персанажаў кароткай навелы, якую я аддаў у свой улюбёны часопіс, убіў сабе ў галаву выйсці за межы сваёй ролі і пачаў мяне пераследаваць. Дзяўчына, бо гэта была дзяўчына, жадае маёй пагібелі, нападае на мяне на тэлебачанні, піша скаргу супраць X (а X — гэта я). Яна папракае мяне ў тым, што я яе прыдумаў, але не даў ёй імені, што праўда, бо я задаволіўся тым, што апісаў яе праз прафесію — сцюардэсы або ліфцёркі, ужо не памятаю нават, але прафесію, якая становіцца ўсё больш папулярнай, не так, як мая, але яе самая вострая крытыка скіравана на капялюш, яна хацела сіні капялюш, а я ж апрануў персанаж у ружовы… Сапраўды, падсудная справа. Яе адвакат тэлефануе мне штодня, патрабуе для яе галоўнай ролі ў маёй навеле, не менш за дзве старонкі толькі пра яе адну, больш ніякіх маніпуляцый, яна патрабуе хэпі энд, асобы рэжым на пенсіі і, вядома ж, знакаміты сіні капялюш.

У рэшце рэшт я здаўся. Я ўзяў назад свой план і аддаў ружовы капялюш у Emmaüs. Дзяўчына выступае ў галоўнай ролі ва ўсіх маіх тэкстах, мінулых і будучых; гэта вызначана ў дамове, падпісанай па ўсіх правілах паміж выдаўцом, персанажам, пра якога ідзе гаворка, і X (X- гэта я). Яна вярнулася на сваё месца, апранутая з іголачкі, у сваім ліфце або самалёце, я ўжо не дазнаюся, але вымушаны прызнаць, што ініцыятыва гэтай напорыстай дзяўчыны мае і карысць. Чым болей я адступаю перад персанажам, тым болей растуць тыражы! Галоўны Рэдактар трыумфуе, навелы прадаюцца, як булкі: Сіні Капялюш на Эйфелевай вежы, Зялёны яблык і Сіні Капялюш, Каханні Сіняга Капелюша, Сіні Капялюш у Японіі, Пахаванне Сіняга Капелюша, Сіні Капялюш і Чырвоны Гальштук, Сіні Капялюш на моры… (версія з пампонам і без). Поспех не спыняецца. Відаць, сам чорт гэтага жадае!

*У самалёце і ў ліфце, студзень 1996 г.*

***Пераклад з французскай Юліі НОВІК.***

# ДЗВЕ СУСТРЭЧЫ З МІШЭЛЕМ ЛУЁ

***Проза і паэзія французскага пісьменніка Мішэля Луё нібыта ўвабралі ў сябе асаблівасці жыцця ў краінах, дзе аўтар жыў і працаваў. Ён шмат гадоў адпрацаваў у дыпламатычных прадстаўніцтвах Францыі ў розных кутках свету, навучыўся заўважаць дробныя дэталі, адчуваць асаблівасці светаўспрымання прадстаўнікоў розных народаў. Напэўна, таму яго тэксты хочацца чытаць павольна, заўважаць драбніцы, запамінаць усё, што прамаўляе голас аўтара. Творчы здабытак Мішэля Луё немалы: ён выдаў зборнік вершаў, п'есу для тэатра, казку, два эсэ, тры зборнікі навел і дзевяць раманаў.***

***Адметна, што беларускія чытачы праз сённяшнюю публікацыю навел спадара Мішэля ў перакладзе Юліі Новік на беларускую мову, ужо другі раз сустракаюцца з творчай асобай гэтага пісьменніка. Давайце прыгадаем імпрэзу, што прайшла летась у сталічным «Кніжным салоне», а таксама яшчэ раз пагутарым з аўтарам ужо напярэдадні публікацыі яго тэкстаў у «Полымі».***

### Сустрэча першая

Мішэль Луё — вельмі цікавы суразмоўца. Яго расповеды, разважанні можна слухаць бясконца. Здаецца, на сустрэчы з чытачамі ў Мінску пісьменнік зусім не стаміўся ад доўгіх прамоў, ён з радасцю падзяліўся вопытам, перажываннямі, распавёў пра сваё пісьменніцкае крэда і цікавыя выпадкі, што здараліся падчас працы на розных кантынентах. Мішэль Луё зазначыў:

— У маім жыцці былі пісьменніцкія поспехі і творчыя няўдачы. Аднак, на шчасце, кнігі не з'яўляюцца асноўнай крыніцай прыбытку. На сваіх творах я грошы не толькі не зарабляю, але нават губляю. У Францыі склалася такая сістэма: калі пісьменнік вядомы, то яго кнігу публікуе буйное выдавецтва, прадумвае сістэму прамоцыі, аплачвае вандроўкі, гатэлі, рэстараны… Калі аўтар не такі паспяховы, то ён працуе цалкам за свой кошт. Да прыкладу, калі вы публікуеце кнігу ў вялікага выдаўца, то яна будзе распаўсюджвацца па ўсіх бібліятэках і кнігарнях краіны, у прэсе з'явяцца артыкулы пра вас, і вы станеце вядомым чалавекам. Вас будуць запрашаць на тэлебачанне, будуць пазнаваць на вуліцы, а на кніжных салонах усе будуць імкнуцца атрымаць менавіта ваш аўтограф. Дакладней, не ваш, а таго ўяўнага «чалавека з экрана».

Магчыма, менавіта па гэтай прычыне пісьменніцкі талент — зусім не асноўная ўмова камерцыйнага поспеху ў Францыі. Спадар Мішэль распавёў:

— Літаратуру можна параўнаць з айсбергам. Тая частка, што бачная, — аўтары, якія навідавоку, іх усе ведаюць нават у твар. Сярод іх ёсць добрыя пісьменнікі, але ёсць і тыя, хто атрымаў проста масавы поспех. Крыўдна, што гэтыя не вельмі якасныя творы з ліку запатрабаваных перакладаюць на замежныя мовы, іх прадстаўляюць за мяжой, і толькі яны будуць вядомыя ва ўсім свеце. Але ёсць і схаваная пад вадой частка айсберга — кнігі, што дру-



*Мішэль Луё і Юлія Новік.*

куюцца ў малых выдавецтвах ці нават самвыдатам, і фактычна не трапляюць на рынак, не адпавядаюць яго патрабаванням. Іх аўтараў не паказваюць па тэлевізары. Нават калі такія пісьменнікі і пішуць вельмі якасныя тэксты, то ўсё роўна яны на ўсё жыццё застаюцца «ў сутарэннях» і не могуць узняцца на ўзровень папулярных аўтараў.

Сваё пісьменніцкае крэда Мішэль Луё бачыць у пэўным супрацьстаянні гэтай сістэме. Па яго меркаванні, важней прыслухоўвацца да ўласнага голасу, чым імкнуцца адпавядаць крытэрыям і патрабаванням кніжнага рынку:

— Я проста вельмі цвёрда рухаюся па шляху, што сам сабе абраў, і пішу менавіта тыя кнігі, якія мне самому падабаюцца і якія хочацца пісаць. Мне падаецца, што жаданне пісаць — гэта нават больш глыбокае пачуццё, чым каханне. Калі не дасягну поспеху — тым горш, але я не хачу адаптавацца да нейкіх правілаў рынку і гуляць у адпаведнасці з імі. Усё ж варта верыць і ў тое, што мары і жаданні здзяйсняюцца. Мне падаецца, што імкнуцца да пісьменніцкага поспеху — рабіць выбар на карысць жыцця паводле чужых правілаў. У такіх умовах трэба і кан’юнктуру рынку ўлічваць, і арыентавацца на ўмоўнага чытача, і прыслухоўвацца да меркавання выдаўцоў. Мне ж хочацца жыць, проста звяртаючы ўвагу на свае адчуванні і жаданні. Можа быць, мае кнігі стануць запатрабаванымі гадоў праз трыста. Гэтага будзе дастаткова. Я не хачу гнацца за поспехам. Нават калі мае кнігі не будуць папулярнымі ў Парыжы, то застануся сабой.

**Сустрэча другая**

*Магчыма, менавіта ў гэтым упартым жаданні быць сабой — сакрэт поспеху Мішэля Луё. Яго кнігі выходзілі ў дробных і буйных французскіх выдавецтвах, а некаторыя з іх атрымлівалі прэстыжныя літаратурныя прэміі. Напярэдадні публікацыі беларускага перакладу навел спадара Мішэля мы зноў звярнуліся да аўтара, але ўжо з новымі пытаннямі.*

— **Спадар Мішэль, вы працавалі ў дыпламатычных прадстаўніцтвах у розных краінах, ці дамапагала схільнасць да пісання мастацкіх тэкстаў у гэтай працы?**

— Так. Я не быў прафесійным дыпламатам і заўсёды глядзеў на сваіх партнёраў не як на чыноўнікаў, а як на чалавечыя істоты. Увогуле, «чалавечая істота» — гэта асноўны сюжэт пісьменніка.

— **Як зразумелі, што хочаце пісаць? Што натхніла на напісанне першага твора і што натхняе сёння?**

— Першы тэкст, які памятаю, быў напісаны, калі мне было дзевяць гадоў. Ён пра газавую лямпу, якая асвятляла нашу хаціну зімнімі вечарамі, пасля вайны. Я лічу, што менавіта тады адчуў, што такое «літаратура», стварэнне іншага свету. І гэтае адчуванне стала ўсвядомленым, калі пісаў свой першы раман «Lorraine» («Латарынгія»). А пра тое, што натхняе мяне ў дадзены момант, не магу казаць, пакуль яно не ўвасобіцца ў пэўную форму.

— **Вы ўспрымаеце напісанне літаратурных твораў як хобі, прыемнае баўленне часу ці вельмі сур'ёзны занятак?**

— Гэта тое, для чаго я жыву.

— **Наколькі аўтабіяграфічныя вашы тэксты? Ці адлюстроўваюцца ў творах вашыя ўласныя веды, перажыванні, досвед? І ў цэлым, ці павінен пісьменнік распавядаць пра сябе?**

— Успаміны і прыдуманае цалкам зліваюцца, ствараючы новы свет, свет літаратуры.

— **Ці робіце сваіх сяброў і знаёмых героямі літаратурных твораў?**

— Бывала і такое, напрыклад, мая апошняя кніга напісана ў болі пасля смерці майго сына. Я таксама напісаў раман пра сваіх бацькоў, які складаецца з дзвюх частак: адна прысвечаная маці, другая — бацьку, таму што яны разышліся.

— **Вы часта пішаце навелы, а гэта не вельмі запатрабаваны сёння жанр. Чаму абіраеце менавіта яго для выказвання ўласных думак?**

— Я, насамрэч, лічу сябе хутчэй аўтарам апавяданняў, чым навелістам ці раманістам. Але я пісаў навелы і апавяданні, адносна кароткія. Мой тэмперамент, напэўна, схіляе да пэўнай сцісласці. Але гэта можа змяніцца…

— **Які са сваіх твораў вы назвалі б самым любімым? Ці атрымалі пасля яго публікацыі чаканую рэакцыю ад чытачоў?**

— Мая ўлюбёная кніга — гэта тая, якую цяпер пішу… Я не аўтар на плыні поспеху, таму не маю шмат водгукаў, але пасля кожнай кнігі атрымліваю лісты ад чытачоў, якія ўражвалі. Дарэчы, я якраз збіраю фонд, які будзе перададзены на захаванне ў Бібліятэку Страсбургскага ўніверсітэта, другую па велічыні бібліятэку ў Францыі.

— **Восенню мінулага года вы былі ў Мінску. Якія вашыя ўражанні ад знаёмства з беларускай сталіцай? Магчыма, ужо напісалі навелу пра паездку?**

— Маё наведванне Мінска было непрацяглым, але поўным кантактаў. Я нешта запісваў, але ўвогуле пакідаю свае чарнавікі адпачываць цягам гадоў перад тым, як пачаць пісаць, зусім як рабіў мой продак з вінóм…

***Марына ВЕСЯЛУХА***
***Фота Наталлі Асмола.***

**Мікола ЛОБАН**

# ДЗЁННІКІ ЗА 1953—1965 ГАДЫ



*Мікола Лобан, 1960-я гады.*

*Апошняя частка пасляваенных дзённікаў Міколы Лобана ўяўляе сабой агульны сшытак у мяккай вокладцы памерам 20, 5 на 16, 5 см з надпісам «фискал» (назва апавядання Лобана) на вокладцы. Запісы зроблены пёравай ручкай чарнілам фіялетавага, сіняга і чорнага колераў. На лісце 46 напісана: «План штодзённай работы. Студзень 1952 г.». На другой старонцы гэтага ж ліста запісаны наступны рэжым дня:*

*«Пад'ём роўна ў 7 г., зарадка 10 хв., туалет 20 хв.*
*7.30—8.30 чытанне 50 стар.*
*8.30—9.00 снеданне.*
*10.00—14.00 работа над дысертацыяй.*
*14.00—15.00 адпачынак, полуднік.*
*15.00—18.00 работа над дысертацыяй.*
*18.00—20.00 абед, адпачынак.*
*20.00—24.00 работа над раманам, апавяданнямі.*
*Рэжым выхаднога дня:*
*Пад'ём роўна ў 7 г., зарадка 10 хв., туалет 20 хв.*
*7.30—8.30 чытанне 50 стар.*
*8.30—9.00 снеданне*
*9.00—20.00 адпачынак, чытанне, кіно, лазня.*
*20.00—24.00 работа над раманам, апавяданнямі.*
*Пісаць дысертацыі ў сярэднім 2 стар. у дзень.*
*Пісаць мастацкага твора 2 стар. у дзень.*
*Чытаць рознай літаратуры 50 стар. у дзень».*

*На лістах з 47-га па 53 запісаны планы штодзённай работы. Для прыкладу прывяду запісы з ліста 47:*

*«6.1.52. а) Геннадий Фиш «Мы обновляем землю» 154—209.*
*б) Парыкмахерская, кіно, лазня.*
*в) Работа над апавяданнем, раманам.*

*7.1.52. а) Ген. Фиш «Мы обновляем землю» 210—273.*

*б) Работа над дысерт. Папоўніць каранёвыя пазіцыі з Корнеслова Шымкевіча. Выпісаць і расквалiфікаваць усе назоўнікі мужчынск. р.*

*в) Вычытаць 100 стар. «Новай зямлі» Я. Коласа. 118—218.*

*г) Работа над апавяданнем, раманам.*

*8.1.52. а) Ген. Фиш «Мы обновляем землю» 274—331.*

*б) Напісаць 3 стар. дысертацыі аб каранёвых наз.*

*в) Вычытаць 100 стар. «Новай зямлі» Я. Коласа 219—318.*

*г) Работа над апавяданнем, раманам.*

*9.1.52. а) Ген. Фиш «Мы обновляем землю» 335—385.*

*б) Напісаць 3 стар. дысертацыі аб каранёвых наз.*

*в) Вычытаць «Сымон-музыка» 319—450.*

*г) Работа над апавяданнем, раманам.*

*10.1.52. а) Ген. Фиш «Мы обновляем землю» 386—422.*

*б) Напісаць 3 стар. дысерт.*

*в) Вычытаць 100 стар. «Рыбаковай хаты».*

*г) Работа над апавяданнем, раманам.*

*11.1.52. а) Ів. Шамякін «Блізкі час». 50 стар.*

*б) Напісаць 3 стар. дысерт.*

*в) Вычытаць 100 стар. «Рыбаковай хаты».*

*г) Работа над апавяданнем, раманам.*

*12.1.52. а) Ів. Шамякін «Блізкі час». 50 стар.*

*б) Напісаць 3 стар. дысерт.*

*в) Вычытаць 100 стар. «Рыбаковай хаты».*

*г) Работа над апавяданнем, раманам.*

*13.1.52. а) Ів. Шамякін «Блізкі час». 50 стар.*

*б) Кіно, лазня.*

*в) Работа над апавяданнем, раманам».*

*А ўжо з ліста 54 пачынаюцца непасрэдна дзённікі. У адрозненне ад дзённікаў 1943, 1944, 1946 і 1947 гадоў, дзе запісы рабіліся рэгулярна, дзённікі 1953—1965 гадоў уяўляюць сабой фрагментарныя і неперыядычныя запісы. Падаецца, што частка з іх проста згублена, бо сам Мікалай Паўлавіч пры перадачы дзённікаў у архіў сказаў: «Гэта ўсё, што змог знайсці». Але для нас каштоўнае і тое, што засталося...*

***Аляксандр ВАШЧАНКА***

## 1953 год

*1.I.1953.*

Вынікі 1952 года мяне задаволіць не могуць. Я ў асноўным скончыў дысертацыю[1], якая не прыносіць мне ніякай радасці. Не ў гэтай файнасці я бачу сваё прызванне. З-за дысертацыі я адстаў ад літаратуры, амаль нічога не чытаю, нічога не пішу, а пісаць так хочацца! Яшчэ месяц на дапрацоўку і напісанне рэферата і больш ні аднаго дня, а потым — пісаць і чытаць, пісаць і чытаць. Трэба правесці гэты год як ніколі прадукцыйна. Адмовіцца ад усяго, што бескарысна адымае час. Абавязкова ў гэтым годзе напісаць 200—250 старонак рамана «Лета». Правесці збор матэрыялаў для рамана пра інтэлігенцыю. Скласці план работы і ў абавязковым парадку выконваць яго.

*3.I. 53.*

К. К. склікаў вучоны савет і прапанаваў пакласці мне і Н. Г. дысертацыі на стол. Гэта было ў літаральным сэнсе слова зроблена. Зацвярджалі справаздачу аб рабоце за год. Прызналі работу завершанай. Прыйдзецца садзіцца за новую тэму,

відаць, за беларуска-рускі слоўнік. Ужо П. Ф. рабіў намёк. Падаспела яшчэ карэктура «Маладой гвардыі»; некалькі дзён прыйдзецца патраціць на яе.

*4.І.53.*

Увесь дзень крукам прасядзеў над карэктурай. Броня з дзецьмі пайшла на ёлку ў Саюз пісьменнікаў.

*5.І.53.*

Яшчэ раз усвядоміў сваё раздвоенае становішча: ведаючы, што не буду працаваць у галіне мовы, рыхтуюся да абароны дысертацыі. Была ў сувязі з гэтым хандра, увесь вечар нічога не рабіў. Быў настроены, каб пакінуць Акадэмію зусім.

*6.І.53.*

Хандра не спыняецца. На рабоце расказаў некаторым аб сваіх намерах. Расказаў і Ілью Данілавічу. Не раіць пакідаць дысертацыю, не завяршыўшы яе. Яго слова некалькі пераканала мяне, і я паступова стаў набываць ранейшае становішча. Дзень, праўда, прайшоў амаль бескарысна. Вечарам пачаў пісаць уступны раздзел дысертацыі. Мучыць кватэрнае пытанне.

*4.3.53.*

У аўтобусе, едучы на работу, я даведаўся аб страшнай навасці: адзін грамадзянін у кожаным паліто паведаміў аб смерці І. В. Сталіна[2]. Так, сёння нешта затрымалася перадавая «Праўды», яе не перадавалі як звычайна ў 8 гадзін. Я не верыў гэтаму паведамленню, але ў інстытуце даведаўся, што не памёр, а знаходзіцца ў цяжкім стане пасля кровазліцця ў мозг. Слухаў у міліцэйскім пакоі паведамленне ЦК КПСС і Савета Міністраў. Стан здароўя ўжо трэці дзень застаецца цяжкім.

Партыя і ўрад заклікаюць да адзінства і пільнасці.

*5.3.53.*

Перадалі бюлютэнь аб стане здароўя на 4 гадзіны. Рэзкае пагаршэнне. Увесь час сумныя мелодыі Балакірава, Грыга, Чайкоўскага. Ні за што нельга ўзяцца.

*6.3.53.*

Раніцай перадалі, што ўчора ў 9-50 скончаўся Сталін. Усё патанула ў глыбіні траура. Каля манумента сплашной плынню праходзяць людзі. Людзі плачуць. Быў агульнаакадэмічны мітынг. Вечарам перадалі аб рашэнні аб'яднанага пагаднення Цэнтр. Камітэт. КПСС, Савета Міністраў і Прызідыума Вярх. Сав. Старшынёй Савета Міністраў назначан Маленкоў. Вельмі вялікія змены ва ўрадзе. Кожны тлумачыць гэтыя змены, паскольку Партыя і ўрад заклікаюць да адзінства і непахіснай веры ў справу Леніна і Сталіна.

*7.3.53.*

Кожныя паўгадзіны перадаюць Пастанову Цэнтр. Камітэта, Сав. Мін. і Прэз. Вярх. Савета, а затым зноў і зноў траурныя мелодыі. У гэты дзень больш ні аднаго слова. У інстытуце ўсе засмучоныя: зойдзе хто паздаровацца, пастаіць, памаўчыць і пойдзе. Каля манумента несціханая плынь людзей з вянкамі і кветкамі. Чарга працягнулася да Камсамольскай. Іра расказвае, якое цяжкае ўражанне наклала смерць Сталіна на дзяцей у школе.

*16 кастрычніка, пятніца.*

Перад пачаткам работы збіраемся «абмазгаваць» апошнія шахматныя навіны. Суднік асабліва выхваляецца, што ён адгадаў наперад пра поспех Васіля Смыслова[3].

З'явілася ідэя хуткага стварэння мільённай картатэкі для тлумачальнага слоўніка — раздаць выпіску картак філфаку ўніверсітэта і педінстытутаў у якасці

курсавых работ. Якая б гэта была эканомія сродкаў і часу. Можна было б праз год-паўтара пачаць работу над тлумачальным слоўнікам. Але дзе там! З паваротлівасцю К. К. толькі…

*19 кастрычніка, панядзелак.*

Заўтра адсылаем апошнія лісты карэктуры слоўніка. У сераду хочам адзначыць гэту дату — заканчэнне работы над слоўнікам. Шкада, што не будзе Кандрата Кандратавіча, паехаў на пленум ССП у Маскву.

*20 кастрычніка, аўторак.*

Учора прыходжу з работы — чакаюць Жэня з Аняй. Калі ні сустракаемся, заўсёды псуецца настрой — вечныя стогны, вечнае папрашайніцтва. Броня расказала, што яны прама напалі на яе за тое, што я ім мала дапамагаю.

З раніцы зачытаўся і ледзь не спазніўся на поезд: прыбег у самую апошнюю хвіліну. У калгасе «Сталінскі шлях» сустрэўся са старшынёй, сакратаром партарганізацыі і аграномам. Аграном у іх дзелавы, добра пагутарыў з ім аб стане гаспадаркі, аб ураджаях.

На станцыі Памыслішча пабудаваны вакзальчык. Маленькі, але прыемны: светла, чыста і добра. Добра падрыхтаваны пасадачныя пляцоўкі. Наогул тут за гэтыя два гады вялікія змены.

У калгасе непрыемнасць: учора шафёр, які вазіў старшыню, напіўся і ўваліўся з машынай у кювет. Машына (Пабеда) уся зломана і скарабачана. У канторы праўлення толькі і гаворкі, што пра гэту аварыю. Старшыня калгаса расстроены. Дамовіўся ў суботу прачытаць у Волчкавічах даклад аб рашэннях вераснёўскага пленума ЦК КПСС.

## 1954 год

*1.1.54.*

Сядзім з налітымі чаркамі. Па радыё музыка. Застаецца хвілін 8 — і раптам пазыўныя. Выступае з віншавальным словам ад імя Камуністычнай партыі старшыня прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР К. Я. Варашылаў. Выпілі чаркі, ва ўсіх радасць ад таго, што выступіў т. Варашылаў. Як гэта добра, як цёпла! Чаму б заўсёды так не выступаць? Як у гэту хвіліну адчуваецца блізасць правадыра! Гені і Іры не было, яны пайшлі на складчыну. Абедалі ў мамы. Атрымалі за 1-е газеты. Адказы Маленкова на пытанні Кінгсбэры Сміта. Навагодняя ёлка і бал-маскарад моладзі ў Вялікім Крамлёўскім палацы. Гэтае паведамленне было нечаканасцю для ўсіх. Можа, не дрэнна было б, каб у Крамлі наогул быў музей, а не рэзідэнцыя ўрада.

*2.1.54.*

З раніцы схадзіў узяць білеты для Броні, Ірынкі і Іры ў Маскву. Зноў нечакана без усякай чаргі. З Геняй праводзілі жонак. Ірынка вельмі задаволеная. Людачка пакрыўджана, што яе не ўзялі з сабою ў Маскву. Яе супакойваюць кіно. Яна была ў кіно, але яе не зацікавіла карціна. Схадзілі з Геням таксама ў кіно на фільм «Франц Шуберт» у Дом афіцэраў.

*3.1.54, нядзеля.*

Сёння працуем, адпачывалі ўчора. Ж. сёння мілая як ніколі, яна ў розавай кофтачцы і ў цёмна-карычневай клёшнай спадніцы. Хочацца адносіцца да яе ласкава і нежна. Выйшаў нарэшце слоўнік[4], прыгожы, тоўсты, складны. Суднік пабег паказаць у партком, Крапіва — Коласу і прэзідэнту. К. К. склікаў вузкую нараду аб тым, як пачаць працу над беларуска-рускім слоўнікам[5]. Рашылі склікаць нараду, на якой мне даручана пазнаёміць усіх, як пачынаць працу.

*6.1.54.*

Папрасілі расказаць аб сваіх меркаваннях адносна таго, як пачаць работу над беларуска-рускім слоўнікам. Рыхтаваўся. Насіў у рэдакцыю «Беларусі» паказаць слоўнік. Уражанне вельмі добрае. «Советская Белоруссия» нешта марудзіць з артыкулам.

*7.1.54, чацвер.*

Абмяркоўвалі інструкцыю па ўкладанні беларуска-рускага слоўніка. К. К. настойвае аб пераходзе ў пакой сектара слоўнікаў. Абмяркоўвалі методыку работы. Тое, супраць чаго мінулы раз выступалі, сёння аказваецца правільным.

*26.1.54, чацвер.*

Учора пачалася нарада міністраў замежных спраў СССР, США, Англіі і Францыі ў Берліне. Выступілі з заявамі В. М. Молатаў, <…> і Ідэн. Далес будзе выступаць сёння. Атрымалі заўвагі аб інструкцыі з Масквы ад Мядзведкавай. Многія заўвагі супярэчаць слоўніку Ушакова. Прэзідыум высоўвае наш слоўнік на Сталінскую прэмію. Сёння не курыў і не іграў у шахматы — дасягненне! Не, рашуча трэба спыніць гэту бяздзельную трату часу. Малайчына Красоўскі. Вывучае іспанскую мову.

*2.5.54.*

На двары пацяплела, але амаль без перапынку імжыць дождж.

*23.5.54.*

Выхадны дзень. Свята ўз'яднання Украіны з Расіяй. Дзень выдаўся на дзіва добры. З раніцы дзецям паабяцаў пайсці гуляць. Дружна і хутка паснедалі і пайшлі ўсёй сям'ёй. Маршрут: сквер на Бабруйскай, на вуліцу Свярдлова, стадыён «Дынама» (на жаль, аказаўся закрытым — павінна адбыцца сустрэча футбольных каманд), парк імя Горкага. Зелень на рэдкасць чыстая і маладая. У парку тысячы людзей. Гушкаюцца на гушканцы. Людачка пачала плакаць. Здала і Ірынка. Дзень правялі ў парку вельмі добра. Тут паабедалі ў рэстаране і яшчэ адпачывалі. Спрабаваў чытаць, але не хацелася. Гадзінам к пяці вечара пачаў накрапваць дожджык. Сабраліся ісці. Давялося хавацца пад ліпамі. Улучыўшы перапынак, пайшлі далей. На праспекце свежа і прыгожа. Які стаў Мінск! З Броняй прыглядаемся да расцветак крэпдэшыну на плаццях. Цяпер модна кароткае з кароткімі рукавамі квятастае крэпдэшынавае плацце. Броня надзела светлае штапельнае плацце і адчувала сябе не надта добра.

*24.5.54.*

Пагода цудоўная. З задавальненнем іду пад вакзал на тралейбус. Сёння зрабіў намечаную норму. М. Р. выказаў жаданне ехаць на лета ў Геленджык. Броня пазваніла ісці ў кіно. Прыходзіў М. Лужанін. Пад канец дня спусціўся дождж. Дома былі Ліля з Маркам і дзецьмі. Падвезлі нас да кінатэатра «Цэнтральны». Апазніліся: пачалася ўжо хроніка. Глядзелі «Анну на шее» па Чэхаву. Харошая карціна. Да адзінаццаці былі ў мамы.

*1.6.54.*

Некалькі дзён назад памерла Дорачка. Прыйшла пасля работы да ўрача і ў кабінеце сканала ад інфаркту. Сёння выдаўся дзень на здзіўленне. Крыху горача. Адбыўся піянерскі парад. Некалькі дзяцей атрымалі сонечны ўдар. На стадыёне папярэдзілі па радыё, каб знялі свае гальштукі або фартушкі і накрылі галовы. Сёння выклікалі ў ЦК. Заг. с-гасп. аддзелам знаёміў з лепшымі калгасамі і саўгасамі, іх людзьмі. Трэба выбраць аб'ект і ехаць пісаць нарыс. Глядзелі футбольны матч. Гулялі мінскія спартакаўцы з маскоўскім «Дынама». У шэсць гадзін нельга было прайсці па вуліцы. Нарады міліцыі і НКУС не маглі падтрымаць парадак. Гавораць, прадалі 30 тысяч білетаў. Стадыён бясіўся, калі спартакаўцы забілі

першы гол. Ён і астаўся адзіным да канца. Маскоўскае «Дынама» пацярпела першае паражэнне. Пасля матча на вуліцах толькі і размоў, што пра гульню.

*13.11.54.*

У Англіі працягваецца кампанія па забароне амерыканскіх «коміксаў».

Васілій Ажаеў[6] выступіў у «Літ газ.» з вялікім на два падвалы артыкулам «Уважать свой «литературный цех», у якім даў водпаведзь пісьменнікам, выступіўшым з калектыўным пісьмом за рэарганізацыю Саюза. Ці згодзен Ажаеў, каб і надалей панавала такая апека пісьменніка?

Перад з'ездам пісьменнікаў многа гавораць аб праблеме станоўчага героя. Думаецца, што ў спрэчках і дыскусіях па гэтым пытанні многа схаластыкі. Хіба можна сур'ёзна гаварыць аб «стварэнні» станоўчага героя? Пісьменнік не павінен канструяваць вобраз, ён павінен браць яго з натуры. Маючы жывога чалавека, пісьменнік можа па сваім жаданні ўзмацняць або паслабляць тыя ці іншыя рысы характару і такім чынам дасягаць патрэбнага. Заўсёды пытаюцца: ці абавязкова патрэбны адмоўныя рысы ў станоўчым вобразе? Не, не абавязкова, адказалі б мы. Ці могуць быць станоўчыя героі без адмоўнага — наўрад, бо няма ідэальных людзей у жыцці. Хіба канструяваць, ствараць схемы? Так, як стварыў Шамякін Л-на? Гавораць, нашто ствараючы вобраз Арлоўскага, абавязкова выстаўляць яго адмоўнае, ці не лепш гэта адмоўнае не заўважыць. Тады не атрымаецца Арлоўскага і, наогул, не чалавек, а абстракцыя, бо вобраз згубіў цэласнасць.

Многа размоў ідзе пра канфлікт. Лічу, што ў нашым грамадстве асноўным канфліктам яшчэ з'яўляецца сацыяльны канфлікт. Усё, што выходзіць за рамкі сац. канфлікту (вытворчы і інш.), дзіцячая забава, глупства, нікчэмнасць, якая нікога не кранае і не цікавіць. Творы на сацыяльных канфліктах жывучыя.

*14.11.54.*

Працаваў у акадэміі. Там у выхадны дзень ціха. Стаў на чаргу з Куляшовым на «Масквіча». Пакуль дойдзе чарга, к таму часу, можа, як будзе і кватэра.

У «Літ. газеце» Яшын[7] змясціў вялікі артыкул «Жизнь требует» аб сувязі паэта з жыццём народа. Прыводзіць некалькі вельмі цікавых фактаў з жыцця на Алтаі, дзе ён быў усё лета. У канцы ён сказаў цудоўныя словы, не магу іх не выпісаць:

«Единственный источник счастья для нас — это настоящий, упорный труд на благо Родины. А работать для Родины, любить ее — значит, прежде всего, любить людей, желать добра им! Смысл всей великой работы нашей партии — внимание к человеку, к народу. И не отвлеченно надо любить людей и желать им добра. Надо постоянно делать людям добро, где только это представляется возможным: своим товарищам по работе, своим близким, своим друзьям. Нельзя равнодушно проходить мимо советского человека, который попал в беду или терпит лишения. И такой активности требует от нас народ. Без заинтересованности в судьбе отдельного советского человека нельзя стать писателем, «инженером человеческих душ».

Благоустроить жизнь, обеспечить народу удовлетворение всех его высоких материальных и духовных потребностей, помочь партии избавить общество от всевозможных родимых пятен капитализма — значит научить людей жить лучше, красивее, больше беречь и любить друг друга.

Вот счастье! Вот поэзия!»

## 1955 год

*1.2.*

Не іду другі дзень на работу — грып. Хадзіў да доктара ў Лечкамісію. Заходзіў да начальніка АТС адносна ўстаноўкі тэлефона. Начальніка, як і ўчора, не аказалася. Гавораць, паехаў на лінію. Хадзіў ва ўніверсітэт да прарэктара па гаспадарчай частцы. Цікавы тып: ён заўсёды сцвярджае, што першы раз мяне бачыць: «Вы ў мяне былі? Не помню».

Каля кітайскіх берагоў неспакойна. ЗША падагналі свой флот да вострава Тайвань (Фармозы). Робяць ля берагоў Кітая правакацыйныя дэманстрацыі. Засядае Савет бяспекі з прычыны напружанага становішча ў раёне Тайваня.

## 1961 год

*18.10.61.*

Ідзе XXII з'езд КПСС. Усюды праходзяць мітынгі. Быў мітынг у Саюзе пісьменнікаў. Выступіла многа прамоўцаў у падтрымку рашэння з'езда. Кляймілі фракцыянераў Молатава, Маленкова, Кагановіча[8]. Патрабавалі іх пакарання. Патрабавалі знясення помніка Сталіну[9] і перайменавання праспекта. На мітынгу выступілі Кобец, Пестрак, Міронаў, Майхровіч, Сабаленка, Адамовіч.

Адбыўся сход секцыі прозы і паэзіі. Броўку і Лынькова вылучылі на Ленінскую прэмію. Па пытаннях мовы я выступіў з уступнай прамовай. Чытаў па канспекце. Гэта яўна не спадабалася. Гаварыў аб перспектыве развіцця нацыянальных моў. Брыль абвінаваціў мяне ў нелюбві да роднай мовы за тое, што я заклікаў пісьменнікаў смела браць тое, што шырока ўвайшло ў мову народа з іншых моў. Гэта на мяне балюча падзейнічала. Мяне, хто 16 год аддаў на стварэнне беларускіх слоўнікаў, абвінаваціць у нелюбві да сваёй мовы. Я хачу бачыць сваю родную мову не вузка сялянскай, а магутнай літаратурнай мовай, якая я б здольна была абслугоўваць усе сферы грамадскай дзейнасці беларускага народа. Хто ж больш любіць яе, той, хто хоча замкнуцца ў шкарлупіне народнай (сялянскай) мовы ці той, хто хоча, каб яна, узяўшы ўсё прыгожае, усё здаровае з народнай, напоўнілася ўсім, што не пярэчыць яе словатворчым законам і з'яўляецца недастаючым, з іншых моў, перш за ўсё з рускай. Ну што ж, пацягаемся, хто лепш любіць бел. мову. Любіць той, хто ёй дабра жадае і робіць усё для яе ўмацавання.

Перадалі па радыё прамову Хрушчова на закрыцці работы з'езда. Перадалі таксама вынікі выбараў у Прэзідыум ЦК.

*3 ліст.*

Затрымаўся, каб скончыць артыкул для «ЛіМа». Артыкул яўна не ўдаўся. Што зробіш, не магу пераключыцца, раман у галаве. Буду прасіць, каб артыкул не друкавалі. Прайшоў на праспект, каб паглядзець, як разбураюць помнік Сталіну. На пытанне: «Што гэта робяць?» — старушка адказала: «Сталіна рушут». Квартал ацэплены салдатамі. Тралейбусы праходзяць, не прыпыняючыся. Міліцыя і ваенныя не даюць прыпыняцца. Дзівакі, думаюць, што ёсць такая бяспека, што могуць выклікаць непарадкі. Фігура была павергнута ўжо. Дзяўблі пастамент. Вакол абгароджанага месца стаялі краны. Кажуць, што <…>, баючыся, каб не дай божа помнік не даў накол, разлічыў у дзесяць разоў больш трываласць асновы. Праспект перайменавалі ў Ленінскі, раён у Заводскі. З кім не пагаворыш, усе абураны Сталіным.

Вельмі разумны і аўтарытэтны чалавек. Ён валодае выдатнай здольнасцю пераконваць. Ён падбівае двух чалавек на нейкае прадпрыемства. Яны вераць і ідуць за ім. І чым далей, тым больш пераконваюцца ў яго праваце. Яны ўжо блізкія да мэты. Нехта збоку гаворыць, што ён сумашэдшы. Яны не вераць. Ён сам стаў абвяргаць сваё ранейшае. Тады яны не паверылі яму і сталі самі пераконваць яго ў праваце ідэі і пераканалі яго. Наступае рэакцыя, роспач.

## 1965 год

*5.1.65.*

З 11 г. быў у Акадэміі на ўсесаюзнай канферэнцыі па пытаннях сацыяльнай структуры нашага грамадства. Выступіла чалавек 10—12 філосафаў. Уражанне такое: быццам гэта плыўцы на вяровачках, плыве-плыве і схопіцца за нататку як за вяровачку, ці не перарвалася хаця. Дагмацік на дагмаціку. Ні кроку без касты-

лёў. Да таго, як у Празе не ўзнікла дыскусія аб гэтым пытанні, у нас было вядома, што існуюць два класы (рабочыя і сяляне) і праслойка, ці як цяпер кажуць, слой — інтэлігенцыя. Ніхто не задумваўся, да каго аднесці такіх людзей, як ваенныя, міліцыя і інш. Хапіліся — што ж такое інтэлігенцыя? Аказваецца, што да інтэлігенцыі адносяць усіх тых, хто не рабочы і не селянін. Жах! Па пераліку 1958 года латошнікаў, прадаўцоў таксама залічылі ў інтэлігенцыю. Дагматыкі! Ніхто ж не сказаў, што акрамя інтэлігенцыі ёсць яшчэ іншыя сацыяльныя праслойкі, ні Ленін, ні Маркс, ні … Сталін. Паспрабуй скажы, што акрамя інтэлігенцыі яшчэ ёсць нехта. І вось сабраліся з усяго Саюза сотні філосафаў, эканамістаў і ламаюць галаву ці можна міліцыянераў да інтэлігенцыі аднесці ці не можна.

Учора збіраліся ў М. А. Ж. аднакурснікі даваенныя і пасляваенныя. Як усё перамянілася! Было даволі цікава. Мележ не пажадаў прысутнічаць.

У нас без усякай патрэбы і без усякага повадў ужываюць выраз: «вам аказваюць давер», «трэба быць дастойным давер'я чытача». Мяне заўсёды крышку каробяць гэтыя выразы. Чаму трэба гаварыць пра нейкае давер'е чалавеку, пэўна простаму грамадзяніну, які не зрабіў ніякага злачынства. Няўжо людзі з <…> патэнцыяльныя злачынцы, што трэба вырашаць пытанне: давяраць яму ці не давяраць. Жудасць!

*12.3.65.*

Прыйшло пісьмо ад Людачкі — яна ў Артэку. Мы супакоіліся, што яна з-за гэтых праклятых аналізаў не вернецца. У сённяшнім «ЛіМе» артыкул Броні — яе з задавальненнем друкуюць. Малайчына. Сёння пазваніў Максім Лужанін: нарэшце яны рашылі паказаць мне сцэнарый па рамане. У аўторак будзе канкрэтная размова на студыі. Вазьмуся пісаць з задавальненнем. Відаць не абысціся без сакратара. Гэта будзе яшчэ адным фактарам, які будзе спрыяць майму развітанню з Акадэміяй. Праз два тыдні мне на працу. Як падумаю — што ў пятлю. Як можа апрацівець работа, якую раней я так любіў. Дваццаць гадоў над слоўнікамі! Жах! Шкада, вядома, зарплаты, 340 р. Усе мяне перасцерагаюць рабіць гэты крок, а я, здаецца, упёрся канчаткова. Не магу я за грошы прадаць свае апошнія гады, не магу не займацца тым, чым мне хочацца займацца да душэўнага болю. Вечна над галавою тваёй вісіць дамоклаў меч — як пражыць. Праклясце.

Доўга хадзілі з Л. па ўзбярэжжы Свіслачы. Зноў тэма перараджэння. Аб гэтым гавораць усе, пры любых абставінах, з любога повадў.

Кітайцы зноў задраліся, наладзілі перад пасольствам ЗША дэманстрацыю пратэсту з хуліганскімі выпадамі. Міліцыя пачала стрымліваць іх, дайшло да сутычкі, былі з ушыбамі як з аднаго, так і з другога боку. Кітайцы сімулявалі цяжкі стан, калі паглядзелі ўрачы — то нават не знайшлі патрэбным пакінуць у бальніцы. Паследаваў кітайскі пратэст і наш адказ.

*13.3.65.*

Мазалькоў прыслаў рукапіс для <…>. Абяцае надрукаваць «Дружба»[10].

Пасля першых пяці раздзелаў, якія мне здаюцца ўдачнымі, тэкст не пайшоў. Сёння не напісаў ні радка. У панядзелак паспрабую пранікнуць у партархіў, калі дазволяць. Спадзяюся, што там знайду тое, што ў мяне адсутнічае ў раздзеле — дух таго часу.

Глядзеў увечары арабскі фільм «Чорныя акуляры». Уражанне такое, што гэты фільм ствараўся не ў Егіпце, а на Даўжэнкаўскай ці Адэскай студыях. Узаемнае перавыхаванне. Да прыкрасці тэндэнцыйна, у нашым духу. Трэба было б, каб мастацтва непраўдзівае (у тым сэнсе непраўдзівае, што яно не выклікае даверу ў гледача, чытача) забаранялася. Гэта халтура, якая прыносіць толькі шкоду і ніякай карысці. Дзіўна, як гэта не разумеюць! Такое мастацтва стварае ўяўнасць барацьбы, фальшывасць барацьбы. Але не толькі тое, што сапраўдныя сродкі выхавання падмяняюцца халтурай — гэта абяззбройванне, але і тое, што гэта халтура выклі-

кае пачуццё незадаволенасці. Няма нічога горш як цудоўныя ідэі, паднесеныя ў агіднай форме. Мастацтва мае вялікую сілу выхавання. Халтура выклікае моду і да такіх пытанняў, якія яна абараняе. Гэта тое самае, што даручыць дурню сябе абараняць. Ох, як у нас гэтага не разумеюць.

*14.3.65.*

Прагаласавалі. Чарговая камедыя. Назывецца — у нас тайнае галасаванне і называецца гэта камедыя выбарамі. Гэта таксама акт выхавання мас у духу недавер'я. І гэта не разумеюць. Важна, каб у савет прайшоў Іваноў, Сідараў, Папоў, якія ўстаўлены ў рэкамендацыйны спіс рукою самога сакратара абкома ці гаркома, а можа, і ЦК. І ні ў якім разе не самой масай. Якое недавер'е к людзям! Усё робіцца фармальна. Каму патрэбны такія выбары? Каму патрэбны гэтыя дэпутаты, якія не маюць ніякіх правоў, акрамя аднаго: прыводзіць у жыццё ўказанні зверху. Дзе свая думка? Дзе яе можна выказаць? На прагулцы ў парку? На бяседзе? У гутарцы з сястрой і жонкай? І толькі.

*26.3.65.*

Адбыўся пленум ЦК КПСС. Разглядалася пытанне «Аб неадкладных мерах па далейшым развіцці сельскай гаспадаркі». На словах развіццё ўсё далейшае, а на справе топчамся на месцы. Ды і якія ж патрэбны неадкладныя меры, калі с/г няспынна развіваецца? Кажуць, што даклад Брэжнева па гэтым пытанні быў ужо набраны і чамусці зняты У друку яшчэ не з'явіўся. Відаць, такія факты даюцца, што боязна публікаваць. Калі пачнеш думаць пра ўсё, што робіцца навокал, то прыходзіш да высновы, што ніхто не ведае, што такое камунізм і як да яго ісці. І тыя, хто вядзе, самі не вераць у магчымасць яго пабудовы.

Адбылася прэс-канферэнцыя касманаўтаў Бяляева і Лявонава.

*30.3.65.*

Учора адбыўся пленум ЦК КПБ. У сувязі з пераходам Мазурава на працу ў Савет Міністраў СССР пленум вызваліў яго ад абавязкаў першага сакратара і члена прэзідыума ЦК КПБ. Першым сакратаром ЦК КПБ выбраны Машэраў. Кажуць, ён сціплы і дзелавы чалавек. І мне ён такім здаецца.

Даваў Я. чытаць 78 ст. першай часткі. Адзываецца добра.

*3.4.65.*

Учора вечарам мне пазванілі з універсітэта, ці не даў бы я згоду прыйсці на сустрэчу са студэнтамі. Я думаю, што трэба будзе прачытаць урывак з новага рамана, і адразу даў згоду. Аказалася, што гэта вечар сустрэчы выпускнікоў розных гадоў. Запрасілі ў прэзідыум і далі пасля невялічкага ўступнага слова М. І. Жыркевіча мне слова. Я гэтага не чакаў і нават разгубіўся. Іду на трыбуну і не ведаю, пра што я буду гаварыць. Я нешта пачаў нязвязна расказваць пра вучобу маю ў гады вайны і закончыў чамусьці сваімі раманамі. Настрой сапсаваўся. Жыркевіч падсеў і сказаў, што добра. Відаць, ён не слухаў, што я гаварыў. Вельмі не прывык я быць уперадзе. Я ўсё жыццё саджуся пасярэдзіне ці ззаду. А гэты раз давялося быць наперадзе, пачынаць. Для гэтага павінна быць нейкая ўпэўненасць, а ў мяне яе заўсёды не хапае.

Жыркевіч скардзіўся, што дужа цяжка працаваць ва ўніверсітэце, дысцыпліна вельмі распусцілася, студэнты п'янствуюць, займаюцца дрэнна, асабліва студэнткі. Адрыгаецца хрушчоўская выдумка.

Пасля ўрачыстай часткі быў самадзейны студэнцкі канцэрт. Адна дзяўчына хараша пела. Пад канец бедная збілася і збегла са сцэны.

Пайшлі ў дэканат апранацца, а ключа не было: сакратар парткома факультэта, у якога быў ключ, недзе знік. Знайшлі яго ў кампаніі з выкладчыкамі ў адным з кабінетаў, дзе яны распівалі шампанскае.

*4.4.*

Прыйшоў «Н. М.» № 2 з працягам «Люди, годы, жизнь» Эрэнбурга. З задавальненнем прачытаў. Многа і шчыра гаворыць аб яўрэйскім пытанні, аб змрочных гадах культа. Праўда лезе як праз дзіркі падранага мяшка.

*8.4.*

Пераварочваю брудную бялізну 30-х гадоў у партархіве. Эпоха ўстае ва ўсёй яе прыгажосці. Усё было засакрэчана, нават прагнозы надвор'я. А раптам вораг падложыць другі прагноз. Што тады? Ніхто нікому не верыў. Пры палітаддзелах <…> былі аператыўнікі, зам. дырэктары на рабоце ГПУ. Кожны такі работнік меў сваю агентурную сетку, сетку асведаміцеляў. Перыядычна начальніку палітаддзела пісаў данясенні аб людзях. Напр.: пры абмеркаванні пытання аб падрыхтоўцы да святкавання Кастрычніка т. К. сказаў, што нам няма калі святкаваць, будзем працаваць. Другі сказаў: «Галоднаму не да свята». Ужыванне слоў «кулацкі, контррэвалюцыйны, варожы» на кожным кроку. Як у такую атмасферу ўсеагульнай падазронасці паставіць цвярозага разумнага чалавека? Ці не будзе ён белай варонай? Яго ўмомант заклююць чорныя вароны? А трэба, іначай няма патрэбы пісаць.

Тры дні таму падаў заяву аб вызваленні з работы. Вельмі цяжка было адважыцца на такі крок. Але, здаецца, я раблю правільна. Я не магу ўжо больш сумяшчаць тыя дзве работы. Трэба засяродзіць свае сілы і ўвагу на рамане. Да гэтага часу я яшчэ сур'ёзна не працаваў.

*9.4.*

Сёння раніцай пазваніла жонка Мазалькова (ён сам у Перадзелкіне). Раман ідзе ў «Дружбе народов» у № 7, 8. Просяць змяніць назву і тэрмінова пазваніць. Вось ужо ў чым я бяздарны, то ў выбары назвы.

*16.5.65.*

Ніяк не навучуся сістэматычна рабіць дзённікавыя запісы. Прайшло больш за месяц, колькі падзей і ніводнага запісу. Паспрабую па памяці аднавіць самае істотнае.

Тыдні два, калі не больш, пражыў у хваляванні: ці не зрабіў я глупства, падаўшы заяву аб вызваленні мяне ад работы ў Акадэміі. Падаў заяву, у сувязі з заканчэннем майго чарговага водпуску, аб вызваленні мяне з работы і не пайшоў на работу адзін, другі дзень, тыдзень, два тыдні. Баяўся нават пазваніць. Нарэшце паехаў. Аказваецца, нікога не назначыў дырэктар. Угаворвае вярнуцца. Але жадання вяртацца няма. Наогул у Інстытуце нейкі разброд. Я ўжо шосты кандыдат з тых, хто пакінулі працу ў інстытуце мовазнаўства. Падаў на конкурс Булахаў — сёмы. Чым растлумачыць? Рознымі прычынамі. Але, мне здаецца, самая галоўная — абыякавыя адносіны да сваёй нацыянальнай культуры. Уся ўвага накірункам навукі, якія не звязаны з беларускай мовай. За гэта хваляць — і ён гатоў увесь вылажыцца. Беларусізм С. ідзе не ад перакананняў, а ад абавязку. Скажы сёння ў ЦК: «Далоў беларускую мову», — і С. стане ярым прыхільнікам яе выкаранення. С. не карыстаецца павагай ні як вучоны, ні як чалавек, і гэта таксама адштурхоўвае ад інстытута. Не маючы вялікага свайго розуму, ён жыве чужым. Для гэтага ў яго ёсць вузкі круг асоб, якія жывяць яго ідэямі, думкамі, поглядамі. У С. з'явіўся новы цікавы выраз — так і ведай. Гэта гадзіну назад недзе ў прэзідыуме, парткоме ці яшчэ дзе ён пачуў. Страшна любіць паўтараць чужое трапна сказанае слова ды яшчэ ці не да месца. Да гэтага часу ён не ведае, што такое «абструкцыя» і ўжывае ў самых неверагодных выпадках, у значэнні «авацыі» і нечага падобнага. Якія нікчэмныя трэскі не паднялі на свае грэбні хвалі 30—40-х гадоў! Студэнт станавіўся міністрам, рабочага цягнулі за вушы ў інстытут, рабілі яго кандыдатам, дырэктарам. Партыя загадае — і будзем кіраваць Акадэміяй.

Здаецца, так сказалі ў свой час цудоўнаму чалавеку, але дрэннаму вучонаму Г. Так з рабочага ён стаў акадэмікам, прэзідэнтам Акадэміі навук. Так замешчаны пасады дырэктараў інстытутаў, загадчыкаў лабараторый, вучоных сакратароў, так <…> кадры кандыдатаў, дактароў, каб запоўніць дзіры пасля «касавіцы». Апошні час павялося так: што кожнага сакратара парткама вытуралі ў члены-карэспандэнты, калі малады гадамі, або ў акадэмікі, калі пажылога ўзросту. На працягу многіх гадоў не маглі раскусіць, чаму Акадэмія не дае харошых творчых работ, адкрыццяў, вынаходстваў. Але ці могуць даць што-небудзь харошае для навукі, для гаспадаркі, для духоўнага жыцця дундукі-вылучэнцы, хоць яны і савецкія, хоць яны і з партыйнымі білетамі? Гэта не толькі ў Акадэміі, гэта ва ўніверсітэце, інстытутах, тэхнікумах, школах, у дзяржаўным апараце. Ох, як гэта гразь, што наліпла на ногі, марудзіць наша развіццё! Сапраўднаму няма месца. У барацьбе з хамствам у навуцы інтэлігент заўсёды ўступаў грубай неабузданай сіле. У навуковую барацьбу прыцягваліся паклёп, данос, падседжванне.

У гэтыя дні пазваніў С. Падчас размовы адчуў, што ён хоча нешта цікавае сказаць. Ён хварэе нетрыманнем. Так і адчуваецца ў яго на языку нешта такое, што вось-вось павінна зляцець, як навіслая капля.

— Слухай, хочаш прачытаць аўтабіяграфію Е.[11]?

— Вядома хачу.

— Прыйду сёння, прачытаем. Табе ж трэба ведаць.

Пахвальна, калі гэта клопат аба мне. Але гэта прадыктавана не клопатам, а нейкім своеасаблівым красаваннем, імкненнем праслыць у вачах блізкіх ілжывым вальнадумцам. Яму надта хочацца, каб на яго глядзелі як на чалавека, якому ўсё даверана, якому да ўсяго ёсць доступ.

Прачыталі. Яна старонак 80—90. Мяне ўразіла сіла і шчырасць гэтага твора. Яшчэ з большай сімпатыяй я думаю аб гэтым выдатным паэце. Хочацца напісаць яму самае цёплае слова, каб падтрымаць у яго душы гэту чыстую грамадзянскую свядомасць. Гэта камуніст як я разумею камуніста. Якое перараджэнне ў нас зараз! Першыя баяцца як чорт ладану ленінскай думкі. Аўтабіяграфія таленавіта выкрывае перараджэнства партыі, і гэта наводзіць страх. Еўтушэнка астаецца сабою. У 4 нумары «Юности» апублікавана паэма «Братская ГЭС». Таленавітая, вельмі таленавітая паэма! Якімі смарчкамі выглядаюць літаратары, падобныя Пракоф’еву. Намаганні Е. сапраўды гіганцкія. Радуе, што ў сувязі з апублікаваннем іезуіцкіх артыкулаў у адносінах аўтара «Баб’яга яра»[12] Е. атрымаў 20.000 пісем, падтрымліваючых яго і толькі 30 ананімак, дзе іезуіты лаюць аўтара. Гэта радуе. Якое харошае паляванне нашага народа! Ленінскія ідэі перамогуць!

Ад хвалявання за лёс маёй кнігі у СП і «Дружбе», выкліканай працяглым неатрымліваннем новых вёрстак, напісаў пісьмы. Некалькі дзён таму назад пазваніў Яўгеній Сямёнавіч, супакоіў, што ўсё ідзе добра. Пазваніла і рэдактар выдавецтва СП Ч-ва. Здаюць у вытворчасць у гэтым месяцы[13]. Прыйдзецца паехаць у Маскву недзе каля 20 мая. Можа, адначасова пабуду і на пасяджэнні савета па правапісе ў Саюзе пісьменнікаў.

*18.5.65.*

Пайшла новая пошасць — школы ствараюць літаратурныя музеі. І як усё ў нас: цяп-ляп — і гатова. Нашы школы не маюць ніякіх традыцый. Школьныя музеі павінны ствараццa на працягу дзесяткаў гадоў з лепшых работ за кожны год, са знаходак гістарычнага характару, з сувеніраў, з фатаграфій цікавых сустрэч і інш. Тут жа можа быць і куток літаратуры. І трэба, каб усё гэта рабілася рукамі вучняў. У нас нідзе ні ў чым няма самастойнасці. Відаць, так і з музеямі: ніхто нічога не рабіў, пакуль не паступіла ўказанне зверху. А паступіла — праз месяц музей павінен быць ужо адкрыты. Не разумеюць, што сам працэс падрыхтоўкі экспазіцыі мае не меншае выхаваўчае значэнне, чым сама экспазіцыя.

*8.12.65.*

К 12 гадзінам паехаў у Акадэмію паслухаць інфармацыю К. П. Буслава[14] аб пасяджэнні ідэалагічнай камісіі ЦК КПСС. Да чаго ж мы заблыталіся! Кітай канцэнтруе свае войскі на граніцы з намі, з польскай, чэшскай, італьянскай, французскай кампартыямі ў нас разнагалоссі па ідэалагічных пытаннях, не гаворачы пра югаслаўскую, албанскую і, відаць, румынскую кампартыі. Гэта што? Поўны разброд? Нашы дагматыкі лічаць, што Маркс непаграшымы на тысячагоддзі ўперад. Сучаснае становішча — ва многім плод нашага дагматычнага мышлення.

Занёс Ігнату чытаць раман. Крычу СОС і дрыжу. Вельмі ж ён адкравенны. Зрэшты, ён яшчэ не дапрацаваны. Я і сам ведаю, што трэба рабіць. Яшчэ і яшчэ месяц і, можа, дам чытаць у рэдакцыю «Полымя» і выдавецтва.

Быў у сваім сектары, сядзеў за сваім сталом[15]. Думаў, пацягне. Не, не цягне. Больш таго, відаць, я ўжо не мог бы працаваць над слоўнікам. А дваццаць жа год працаваў. Чакаю кніжку ў «Сав. пісьм.». Можа, Гарбачоў прывязе?

*9.12.65.*

Глядзеў у Саюзе амерыканскі фільм «Скаваныя адным ланцугом». Пра ўцёкшых негра і белага, закаваных адным ланцугом. Калі не лічыць некаторых нацяжак і выразнай тэндэнцыйнасці, што не так характэрна для заходняга кінематографа, то карціна ўвогуле нядрэнная.

*10.12.65.*

Аддаў Цімаху чытаць раман.

***(БДАМЛМ, фонд 148, вопіс 2, справа 110, лісты 46—66).***

## Каментарыі

[1] У 1953 годзе М. П. Лобану пасля абароны дысертацыі на тэму «Ударение имен существительных в белорусском литературном языке» была прысвоена вучоная ступень кандыдата філалагічных навук.

[2] 1 сакавіка 1953 года Сталіна, які ў непрытомнасці ляжаў на падлозе ў малой сталовай Бліжняй дачы, убачыў супрацоўнік аховы Лазгачоў. Раніцай 2 сакавіка на Бліжнюю дачу прыехалі дактары і дыягнаставалі параліч правага боку цела. 4 сакавіка было аб'яўлена аб хваробе Сталіна і па радыё перадаваліся бюлютэні аб стане яго здароўя, узгадваліся такія праявы цяжкага стану, як інсульт, параліч цела, дыханне Чэйн-Стокса. 5 сакавіка ў 21 гадзіну 50 хвілін Сталін памёр. Аб яго смерці паведамілі ў той жа дзень. Згодна з медыцынскім заключэннем, смерць здарылася ў выніку кровазліцця ў мозг. Пахаванне адбылося 9 сакавіка.[3]

Васіль Смыслоў у шахматным турніры на вызначэнне саперніка Міхаіла Батвінніка на званне чэмпіёна міру, які праводзіўся ў Швейцарыі з 28 жніўня па 24 кастрычніка 1953 года, заняў першае месца сярод 15-ці ўдзельнікаў.

[4] Маецца на ўвазе «Руска-беларускі слоўнік» 1953 года пад рэдакцыяй акадэмікаў АН БССР К. М. Міцкевіча (Якуба Коласа), К. К. Атраховіча (Кандрата Крапівы) і членакарэспандэнта АН БССР П. Ф. Глебкі. Нягледзячы на тое, што слоўнік ствараўся ў цяжкіх умовах ваеннага часу, калі ні ў складальнікаў, ні ў рэдактараў не было ні картатэкі, ні даведнікаў, невялікі аўтарскі калектыў у складзе навуковых супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства АН БССР Броўкі, Вайтовіча, Лобана, Мацкевіч, Судніка, Язвіцкай пад кіраўніцтвам Пятра Глебкі ў параўнаўча кароткі тэрмін падрыхтаваў да друку слоўнік, да выхаду якога ў свет у беларускім мовазнаўстве не было такога поўнага (каля 86 тысяч слоў) дыферэнцыяльнага слоўніка, які б характарызаваў семантыку і ўжыванне такой колькасці лексічнага і фразеалагічнага матэрыялу.

[5] «Беларуска-рускі слоўнік» выйшаў у свет у 1962 годзе.

[6] Ажаеў Васілій Мікалаевіч (1915—1968) — рускі савецкі пісьменнік. Лаўрэат Сталінскай прэміі першай ступені (1949).

[7] Яшын Аляксандр Якаўлевіч (сапр. прозвішча Папоў, 1913—1968) — рускі савецкі празаік і паэт. Лаўрэат Сталінскай прэміі другой ступені (1950).

[8] Фракцыйная група, якая ўтварылася ўнутры Прэзідыума ЦК пасля XX з'езда КПСС (1956). Уваходзілі: В. М. Молатаў, Г. М. Маленкоў, Л. М. Кагановіч ды інш. Група супрацьдзейнічала ленінскаму курсу XX з'езда КПСС па ўсіх асноўных пытаннях унутранай і знешняй палітыкі, ставіла сваёй задачай змяненне палітычнай лініі партыі і змяшчэнне 1-га сакратара ЦК КПСС М. С. Хрушчова. У выніку Пленум вывеў са складу ЦК і Прэзідыума ЦК КПСС Маленкова, Кагановіча, Молатава і Шэпілава.

[9] Помнік Сталіну на Цэнтральнай плошчы ў Мінску быў створаны аўтарскім калектывам скульптараў З. І. Азгура, А. А. Бембеля, А. К. Глебава і С. І. Селіханава. Бронзавая фігура Сталіна ўзносілася на вышыню каля 10 метраў. Афіцыйнае адкрыццё адбылося 21 верасня 1952 года. На Цэнтральнай плошчы сабралася каля 10 тысяч чалавек. Мітынг, прысвечаны адкрыццю манумента, адкрыў сакратар Мінскага абласнога камітэта КП(б)Б К. Т. Мазураў. Праз 8 гадоў пасля смерці Сталіна, 3 лістапада 1961 года помнік быў дэмаціраваны.

[10] Раман Лобана «Земля моя — судьба моя» ў перакладзе на рускую мову Яўгена Мазалькова быў надрукаваны ў № 9, 10 за 1965 год часопіса «Дружба народов».

[11] «Аўтабіяграфія» Яўгена Еўтушэнкі — вельмі папуляны ў свой час твор «Самвыдата», у якім паэт значнае месца адвёў развенчванню культа Сталіна. Пазней ім быў створаны фільм «Пахаванне Сталіна».

[12] «Бабій яр» — паэма, якую Еўтушэнка напісаў у Кіеве ў 1961 годзе па матывах дыскрымінацыі і генацыду яўрэяў. Паэма была перакладзена на 72 мовы і зрабіла Еўтушэнку сусветна вядомым паэтам.

[13] Раман Лобана «На пороге будущего» ў перакладзе на рускую мову Яўгена Мазалькова выйшаў у свет у 1965 годзе ў выдавецтве «Советский писатель».

[14] Буслаў Казімір Паўлавіч (1914—1983) — беларускі савецкі філосаф. Акадэмік АН БССР (1972), доктар філасофскіх навук (1965), прафесар (1966). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978).

[15] У 1964—1966 гадах Мікалай Паўлавіч Лобан займаўся творчай працай. З 1966 па 1968 быў загадчыкам рэдакцыі мовы, літаратуры і фальклору ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. У 1968 годзе ён вяртаецца ў Інстытут мовазнаўства на пасаду загадчыка сектара лексікалогіі і лексікаграфіі. З 1976 па 31 сакавіка 1978 года працаваў там жа старшым навуковым супрацоўнікам. З 1 красавіка 1978 года Мікалай Паўлавіч пайшоў на пенсію.

***Апрацоўка тэксту і каментарыі Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

# НІЛ ГІЛЕВІЧ: «СУР'ЁЗНЫ ТАВАРЫШ МІКОЛА ЛОБАН»

**Аляксандр Вашчанка:** Ніл Сымонавіч, як кажуць, вялікае бачыцца на адлегласці. Мабыць, таму з цягам часу асоба пісьменніка і навукоўца Мікалая Паўлавіча Лобана ўсё больш прыцягвае да сябе ўвагу даследчыкаў і чытачоў. Таму вашы ўспаміны, як успаміны аднаго з бліжэйшых яго сяброў, будуць вельмі запатрабаванымі. Раскажыце, як адбылося ваша знаёмства з Міколам Лобанам і як яно перарасло ў сапраўдную дружбу.

**Ніл Гілевіч:** Сваім пытаннем вы ставіце мяне ў тупік, бо канкрэтнай даты нашага знаёмства я не памятаю. Відавочна, гэта адбылося на нейкіх сходах, дзе мяне прадставілі Мікалаю Паўлавічу, бо я ж быў на дваццаць гадоў маладзейшы за яго. Але я помню нашы сустрэчы і размовы, калі мы былі ўжо добра знаёмымі і адзін аднаму давяралі. І ведаеце: «быў час, была эпоха», бо гэта былі 60—70-я гады мінулага стагоддзя. Наша грамадства пасля ХХ і ХХІІ з'ездаў было даволі «ўзварушана» ў палітычным плане, быў перыяд так званай «хрушчоўскай адлігі», і ўсе нашы адносіны і размовы з Мікалаем Паўлавічам будаваліся на ўзаемным даверы. Тады гэта было архіважна. Можа, з адной ці дзвюх сустрэч можна і зразумець чалавека, але я адразу пераканаўся, што з Лобанам магу размаўляць па шчырасці на любыя тэмы, як з равеснікам майго бацькі Юрыем Паўлавічам Гаўруком і Сяргеем Грахоўскім, якія шмат ведалі пра «тыя часы». Вось так мы з Лобанам сышліся і нам пры сустрэчы заўсёды было прыемна пагаварыць. Дарэчы, ніколі не сядзелі, а хадзілі.

**А. В.:** Давайце прыгадаем некаторыя эпізоды без перабольшвання гераічнай біяграфіі Мікалая Паўлавіча. На другі дзень вайны студэнт трэцяга курса БДУ Мікола Лобан з натоўпам бежанцаў падаецца на ўсход. Пакутніцкія сцежкі вялі галоднага і знясіленага студэнта праз Магілёў, Клімавічы, Рослаў на Арол і Ліпецк. Ён успамінае, што ў раённым гарадку «Адна жанчына выйшла на сярэдзіну вуліцы, расставіла рукі: «Куды ж вы, мужчыны? На каго нас пакідаеце?» Крыўда, боль і сорам прывялі белабілетніка Лобана на Волхаўскі фронт. У кастрычніку 1941-га каля станцыі Мга ён быў паранены ручною гранатаю. «Адзін з асколкаў і цяпер сядзіць у шыйным пазванку, прылашчыўшыся да сардэчнага нерва, а другі выйшаў праз правую шчаку і на ўсё жыццё пакінуў глыбокі след».

У санітарны цягнік па дарозе ў Валагодскі шпіталь трапіла авіяцыйная бомба, і з усяго вагона з параненымі абедзвюма нагамі жывы выпаў адзін Мікола Лобан. Відаць, лёс збярог яго дзеля нашай мовы, літаратуры і культуры. Пасля лячэння ў Іркуцкім шпіталі і працы настаўнікам мовы і літаратуры ў Казахстане, ён, абапіраючыся на мыліцу, з неймавернымі цяжкасцямі прыязджае на станцыю Сходня пад Масквой, дзе аднаўляе работу Беларускі ўніверсітэт. М. Лобан ходзіць на лекцыі разам з Іванам Мележам, выкладае студэнтам тапаграфію і ваенную справу, а крыху пазней у складзе камісіі на чале з Пятром Глебкам уключаецца ў працу па складанні «Руска-беларускага слоўніка». І вось тут, як мне здаецца, пачынаецца «будаўніцтва» чалавека, асобы, пісьменніка і навукоўца Міколы Лобана, які дае клятву аддаць усе сілы на карысць роднай Беларусі, яе навукі і культуры.

Ён устае а чацвёртай-пятай гадзіне раніцы і кладзецца спаць апоўначы. І ні слова скаргі на боль ад ран і знешнія нястачы.

Як вы лічыце, Ніл Сымонавіч, ці важна творцу ў самым пачатку свайго шляху вызначыцца з мэтай і, не збочваючы з дарогі, ісці да яе?

**Н. Г.:** Бяспрэчна, тут можа быць толькі адзін адказ, і многія вялікія людзі гаварылі аб гэтым, бо гэта надзвычай важна. Я нават не ўяўляю, ці можна без такога пачатку стаць сур'ёзным літаратарам, пісьменнікам, навукоўцам і галоўнае — годным чалавекам. Падчас нашых размоў у Каралішчавічах Мікалай Паўлавіч іншы раз успамінаў тыя эпізоды, якія вы зараз прыгадалі. Яго шрам на шчацэ, яго паходка давалі зразумець, колькі выпрабаванняў і нястач выпала на долю гэтага чалавека. Такіх людзей, як ён, называлі «сур'ёзны таварыш»: сур'ёзны навуковец, сур'ёзны чалавек, сур'ёзны літаратар. Ён абсалютна не здольны быў на нейкія літаратурныя забавы, гульні, віхлянні. Ён быў чалавекам, які ў свой час зразумеў, што такое жыццё і як ім трэба даражыць, як трэба паважаць сябе і людзей. У маім уяўленні, ён усё гэта сцвердзіў.

**А. В.:** У «Дзённіку» за 1944 год, які я нядаўна расчытаў, Мікалай Паўлавіч піша: «Пакончыць са сваёй расхлябанасцю! У мяне тры асноўныя недахопы: 1) адсутнічае цвёрдасць характару (слабаволле), 2) нерашучасць, 3) губляюся ў дробязях. Пакончыць з гэтымі недахопамі раз і назаўсёды. Штодзённа кантраляваць сябе, лавіць на праступках і прысякаць! Мала працую!»

Самакантроль — гэта важна для творцы, асабліва празаіка, ці ўсё павінна быць на эмоцыях: прыляцела муза ці не?

**Н. Г.:** Не толькі для празаіка, але і для паэта. Не толькі на эмоцыях. Не-е. Вядома, для паэта эмоцыі неабходны, бо якая лірыка без эмоцый? Хаця ёсць філасофская лірыка без эмоцый. І празаіку эмоцыі патрэбны, але не гэта галоўнае. Эмацыянальныя адносіны да таго, пра што пішаш, гэта значыць, твае асабістыя ацэнкі: прымаеш ці не прымаеш ты гэтага чалавека, гэту рэчаіснасць. Гэта вельмі важна. Таму думаю, што ў тым, што я чытаў у Мікалая Паўлавіча, а трылогію «Шэметы» я ў свой час прачытаў, ён гэта сцвердзіў і паказаў, як важна не быць расхлябаным. У тых яго недахопах, што тут пералічаны, можа, ёсць і перабольшванне, гэтая самакрытыка празмерная. Ужо адно тое, што ён падымаўся а чацвёртай-пятай гадзіне раніцы, каб пісаць, паказвае яго «слабаволле». Ён жа проста катаржнік. Я па сабе ведаю.

**А. В.:** Пасля вайны Мікола Лобан складае наступны рэжым дня, якога прытрымліваецца ўсё жыццё (гл. у прадмове да дзённікаў за 1953—1965 гады. — **А. В.**).

Складае план на кожны наступны дзень і ўвечары аналізуе яго выкананне.

Як вы лічыце: падобная планавасць больш падыходзіць навукоўцу ці пісьменніку? Або ўсё залежыць ад асобы творцы, яго тэмпераменту і таленту?

**Н. Г.:** (*смяецца*) Перш-наперш скажу, што гэта сто на сто не ў маім характары. Ні ў адной кроплі гэта не адпавядае майму жыццю, маёй працы, майму раскладу жыццёваму. Нічога падобнага! Я думаю, што для навукоўцаў такая самаарганізацыя больш падыходзіць, таму што навуковец не можа кіравацца эмоцыямі. Аб'ектыўная рэальнасць — вось што. Можа, гэта падыходзіць да некаторых празаікаў, але не для ўсіх. Ну, якая самаарганізацыя была ў Уладзіміра Караткевіча? А пісьменнік геніяльны, вялікі. І працаўнік. Во які працаўнік! Але мог тыдзень-два запоем працаваць. А тады — ніяк. Даваў волю, так сказаць. Гэта вельмі індывідуальна. Пэўна, для натуры Мікалая Паўлавіча, яго характару гэта не падыходзіла. Я толькі ведаю, што, бывала, мая Ніна Іванаўна ў чатыры гадзіны раніцы загляне ў мой кабінет, а я яшчэ за сталом. Яна прыадчыніць дзверы і кажа: «Божа, мой Божа! Што гэта ты сабе думаеш? І на колькі ж цябе так хопіць?» Я кажу: «Усё. Зараз, зараз лягу». Яна пойдзе, ляжа, а я гэта «зараз, зараз» расцягваю да шасці, да паловы сёмай раніцы, пакуль сын не пачне збірацца на працу. Вось мой рэжым! Таму рэжым дня Лобана ніяк для мяне не падыходзіць, але такая ўнутраная дысцыпліна Мікалая Паўлавіча мне вельмі падабаецца і калі б яго зараз пабачыў, то паціснуў бы руку і сказаў: «Малайчына, Мікалай Паўлавіч, малайчына!» (*Смяецца*).




*Сяргей Грахоўскі, Мікола Лобан, Ніл Гілевіч. 1960-я гг.*

**А. В.:** Сяргей Грахоўскі ў сваіх успамінах «Пакуль памятаюць — жывеш» узгадвае: «Часцей за ўсё мы сустракаліся зімою ў Каралішчавіцкім доме творчасці. Двухпавярховы будынак з сасновага кругляка, памаляваны светлаю вохраю, па-хатняму быў утульны і гасцінны, сагрэты творчаю атмасфераю даверу і шчырае дружбы. У нас склалася трыа лыжнікаў — Гілевіч, Лобан і я, часам — Хадкевіч, Бураўкін, Караткевіч, Герчык, а нязменнымі былі мы. Пасля доўгіх прабежак па лясных сцежках і ўзгорках, стомленыя, але шчаслівыя, завальваліся ў чый-небудзь пакой. Там ужо чакаў нас тэрмас гарачага чаю, а часам і глыток «аквавіты» для пашырэння сасудаў і сугрэву. І пачыналіся гаворкі, чытанне яшчэ не астылых старонак і ўспаміны, успаміны. Асабліва захапляла пярэстае жыццё Міколы Лобана. Ён ніколі не выхваляўся сваім ветэранствам, не насіў ордэнаў і медалёў, не расказваў пра подзвігі. Гаварыў, як пра самае звычайнае і будзённае.

У гаворцы, як і ў паводзінах, як у хадзе, у грунтоўнай разважлівасці ён быў нетаропкі і дасціпны. Высокі, статны, у пукатых акулярах з прысоленым сівізною густым вожыкам над высокім ілбом. Сапраўдны *Лобан.* Яму было што ўспомніць і расказаць».

Ніл Сымонавіч, прыгадайце тыя часіны.

**Н. Г.:** Усё правільна. Часцей за ўсё на лыжах мы хадзілі з Мікалаем Паўлавічам, але часта далучаўся і Сяргей Грахоўскі. Я зімой амаль не вылазіў з гэтага лесу. Хаця на хлеб зарабляў чытаннем лекцый ва ўніверсітэце, але пры любым зручным выпадку прыязджаў у Каралішчавічы, бо гэта ж недалёка ад Мінска. Вельмі добра Сяргей Іванавіч Грахоўскі напісаў, як мы хадзілі, а потым на гарбату заходзілі да яго, ды і па маленькай ён быў не супраць. Лобан ніколі не быў аматарам гэтай справы, а ў астатнім Грахоўскі вельмі дакладна абрысаваў яго постаць і яго паводзіны. Ён быў негаваркі, належаў да той катэгорыі людзей, якія ініцыятыву ў свае рукі не бяруць: калі ў іх спытаеш, адкажуць, а калі не спытаеш, дык будуць і маўчаць.

**А. В.:** Грахоўскі прыгадвае, што калі з друку выйшаў першы том трылогіі «Шэметы», то, каб адзначыць гэту падзею, яны з Лобанам на лыжах ездзілі ў бліжэйшую вёску па пачастунак.

**Н. Г.:** Гэта вёска называлася Абчак, гэта кіламетры тры ад Дома творчасці. Там была крама. Некалі Барадулін пасылаў у гэту краму Караткевіча. І тады папулярнай была эпіграма:

«Па дарозе чак-чак-чак,
Валодзя чэша ў Абчак».

Былі часы…

**А. В.:** Яшчэ цытата з Грахоўскага: «Пасля лыжаў у зацяжным чаяванні мы з Нілам Сымонавічам захоплена слухалі павольныя, без знешніх эмоцый, успаміны Міколы Паўлавіча, як лёс ударыў па ім і надоўга адарваў ад літаратуры: у 1939 годзе неадольная хвароба забрала самую дарагую і каханую Любоў Іванаўну. «Гора прамусіла мяне з'ехаць у Кіеў на філфак універсітэта, а потым вярнуцца ў Мінск, у БДУ». Потым была напісана шчымліва-лірычная аповесць «Любка», але яна так і не пабачыла свету».

Як вы думаеце, чаму аповесць «Любка», якая была ў выдавецкіх планах часопіса «Полымя» на 1969 год так і не была надрукавана? А тады ў рэдакцыі працавалі Пташнікаў і Кавалёў. Што вам вядома пра Любоў Іванаўну Маркаву — першую жонку Лобана? Што здарылася з ёй і дзецьмі.

**Н. Г.:** На жаль, нічога канкрэтнага пра лёс першай жонкі Лобана я не ведаю. Сам Мікалай Паўлавіч падрабязнасцей не расказваў, можа, яму было балюча ўспамінаць, а я не люблю лезці ў душу чалавеку. Я бліжэй ведаў яго другую жонку Браніславу Леапольдаўну. Яна была добра вядома ў журналісцкіх і літаратурных колах.

**А. В.:** На жаль, у маі 2014 года Бранiслава Леапольдаўна памерла, а ў верасні за ёй пайшла і яе малодшая сястра Ірына…

**Н. Г.:** А я вось нічога пра гэта не ведаў, бо даўно ўжо не выходжу з дому. Мае спачуванні сем'ям і сваякам памерлых…

**А. В.:** Асноўныя творчыя дасягненні Міколы Лобана — гэта трылогія «Шэметы» і аповесць «Іркуцянка». Але гэта малая частка з задуманага. Ён пачынаў яшчэ шэраг раманаў і аповесцей, яго першы пасляваенны раман «Ліхадзеі» так і не быў надрукаваны. Яго аўтограф знаходзіцца ў фондзе 148 Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва і чакае свайго расчытвання.

Чым была выклікана такая нерашучасць у друкаванні ўласных твораў, бо з яго імем і пасадамі (я маю на ўвазе рэдактарства) гэта было зрабіць не так і цяжка?

**Н. Г.:** Тут, я думаю, дзве прычыны. Першая: павышаная сціпласць Мікалая Паўлавіча і высокая патрабавальнасць да сваіх твораў, самакрытычнасць. Можа, ён лічыў, што яшчэ рана друкаваць, хай твор адлежыцца. Другая прычына ў асаблівасцях нашага часу. Можа, раман «Ліхадзеі» і аповесць «Любка» былі не ў духу патрабаванняў партыі да літаратуры. Вось што. Можа, яны былі занадта рэалістычныя, праўдзівыя, можа, там было шмат жыццёвай праўды.

**А. В.:** Існуе не менш як шэсць варыянтаў аповесці «Любка», два з іх я прачытаў, і ў мяне засталося пачуццё нейкай незавершанасці сюжэта, нейкай недапрацоўкі… У адным з варыянтаў рэдактарскай рукой напісана: «Любовь оказалась какой-то назойливой, тягостной. Это пересчет примет любви. А в сущности анализа отношений самой любви нет».

**Н. Г.:** Так, вось і Мікалай Паўлавіч, пэўна, адчуваў, што ў яго не атрымалася тое, што ён хацеў сказаць. А што тычыцца рамана «Ліхадзеі», то я добра памятаю тыя часы, калі ў мяне на вачах на сходзе ў ЦК, а туды запрасілі вельмі шмат пісьменнікаў, скінулі Кулакоўскага з «Маладосці». Як тады дасталося Кулакоўскаму за аповесць «Дабрасельцы»! Казалі, што яна чарніць нашу рэчаіснасць. А калі паглядзець сённяшнімі вачыма, то гэта вельмі бяскрыўдная рэч, ніякай там празмернай крытыкі, каб падымаць такі шум, не было. Але па тым часе і таго было дастаткова. Мікола Паўлавіч не мог падыгрываць, не мог дагаджаць, не мог прыстасоўвацца, не мог лізнуць. Ну, такім ён быў *чалавекам*!



*Мікола Лобан, 1970-я гады.*

**А. В.:** А, магчыма, прычыны нерашучасці маглі быць і наступнымі. Пра першую ён піша ў «Дзённіку» за 1944 год: «Мая творчая хвароба — не магу перапісваць. Як толькі вазьмуся за перапісванне, абавязкова знаходжу штонебудзь няладнае. Перарабляю адну за другой фразы і нарэшце пішу па старой канве зусім новае апавяданне. Можа, гэта і добра, але надта замаруджвае канчатковую рэдакцыю. Напэўна, у аўтара ніколі не бывае гэтых канчатковых рэдакцый. Тое, што з'яўляецца ў друку, гэта проста апошні варыянт, вырваны з рук аўтара нейкай знешняй сілай».

Пра другую паведамляе ў лісце да Мазалькова ад 8 сакавіка 1964 года: «Я уже выболтал Вам свою сокровенную мечту: хочу хоть на время уйти на творческую работу. Вот уже 20 лет я работаю над словарями. Вы не представляете, как они мне осточертели! Ведь это не наука, а чудовищно изнурительный и опустошающий труд, как копать заступом землю или ручной пилой валить лес. Все эти годы я жил с неудовлетворенной жаждой творческой работы».

Можа, гэта былі некаторыя з прычын няпоўнай творчай самарэалізацыі выдатнага празаіка?

**Н. Г.:** Вось бачыце, што адкрываецца… Ён працаваў у Акадэміі, але не быў мовазнаўцам-тэарэтыкам, не пісаў абагульняючых прац, а рабіў тое, што робіць карэктар у рэдакцыі — «ловіць блохі». Тое ж і са слоўнікамі: слоўца да слоўца, картка да карткі — гэта знясільваючая, марудная і карпатлівая праца, якая не прыносіла асалоды творчаму чалавеку, а Мікалай Паўлавіч быў перш за ўсё творцам. Канешне, ён жа пісьменнік, ён хацеў вырвацца на вольную працу. Я таксама хацеў. Але ніводнага дня, ніводнага месяца я не быў вольным літаратарам. Я працаваў педагогам, чытаў студэнтам лекцыі і рабіў пры гэтым навуковую працу. О, колькі я напісаў манаграфій па фалькларыстыцы, па літаратуразнаўстве! І тут не толькі праца за кавалак хлеба, але і ўсведамленне таго, што гэта праца патрэбна: не зробіш ты, гэта можа так і застацца (тут я маю на ўвазе фальклорныя зборнікі). Вось я думаю, што і Мікалай Паўлавіч, якому, пэўна, і збрыдзела ўсё гэта і сумна было корпацца ў складанні слоўнікаў, але ўсведамленне, што гэта трэба зрабіць, дапамагала яму рухацца далей. А тым больш, што калі такія свяцілы, як Кандрат Кандратавіч Крапіва, казалі (*імітуе голас Крапівы*): «Мікола Паўлавіч, я разумею, але ўсе мы нявольнікі, папрацуйце…» (*агульны смех*).

**А. В.:** І тады, каб вас больш не стамляць, апошняе пытанне. Зноў цытата з Грахоўскага: «Але я не самотны. Адгортваю любую старонку першага Лобанавага дня на світанні і, здаецца, чую яго разважлівы голас: «Калі пачынаецца вырай, то ў месцах, дзе пралятаюць дзікія качкі ці гусі, свойскія, як магнітам прыцягнуты да гэтага трыкутніка ў паветры, нязграбна спрабуюць узляцець за імі, узмахваючы крыламі, падаюць долу. Даўні покліч гарпуном чапляе іх непазбыўныя інстынкты». І развагі. Развагі, аналогіі, назіранні і на кожнай старонцы — россып моўных перлаў. Я некалі захапляўся «скрыганізмамі», а «лабанізмы» дапаўняюць і аздабляюць іх.

Чаго варты: «памыдліны», «вілястая сцежка», «рады няма», «не адманьвайся», «аблежваеш кусты», «у захапы цягалі сушняк», «пахілая цявіна». І так на кожнай старонцы — навіны яскравыя, крынічныя, з народных глыбіняў.

**Н. Г.:** Так, мова Лобана — о! Што тут казаць! Гэта мова Кузьмы Чорнага, мова яго роднай Случчыны.

**А. В.:** Ён лічыў Кузьму Чорнага лепшым беларускім празаікам.

**Н. Г.:** Дык так і ёсць! Купала і Колас моцныя ў сваіх геніяльных паэмах, а вось былі геніяльныя празаікі: Максім Гарэцкі, Кузьма Чорны, і яшчэ я б сюды спакойна паставіў Івана Мележа. Не пастаўлю ў гэты спіс Быкава, бо ў яго мова літаратурная. У Быкава ніводнага слоўца не знойдзеце вось такога. Ніна Іванаўна, мая мовазнаўца, якая ведала мову як дай бог кожнаму, казала: «Ну, што: цікавы сюжэт, псіхалагізм характараў, але мне трэба хоць адно слоўца, якое можна ўзяць «на зуб» і як цукерачку пасмактаць. У Брыля на кожнай старонцы бяру такое слова і смакчу. У Мележа бяру, у Чорнага. У Быкава няма такіх слоў». Затое там, дзе трэба перакладаць, Кузьму Чорнага не перакладзеш дакладна ні на рускую, ні на іншыя мовы. І Мележа не перакладзеш. Дзе дзеўся колер? Дзе фарбы? Дзе смак мовы? А Быкаў сто на сто перакладаецца. Выдатна перакладаецца. І яго геніяльны псіхалагізм, сюжэтнасць — усё гэта спрыяе дакладнаму перакладу. А ў Лобана моўныя перліны на кожнай старонцы.

**А. В.:** Цалкам з вамі згодны. У прадмове да «Паэмы майго маленства» Лобана я пісаў: «Што мяне ўразіла падчас працы над тэкстам успамінаў? Канешне, мова! Гаючая і непаўторная мова Случчыны, асаблівасці якой ашчадна і з любоўю захаваў і перадаў нам загадчык сектара лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства АН БССР Мікалай Паўлавіч Лобан». Дадам, што я раблю пэўныя захады для таго, каб творчая спадчына Мікалая Паўлавіча знайшла свайго чытача. Матэрыялу набіраецца на добрую кнігу, якую можна было б назваць «Невядомы Лобан».

***Гутарыў Аляксандр ВАШЧАНКА.***

# НЕ РАЗМІНУЦЦА З АТЛАНТЫДАЙ КЛАСІКІ

## «Круглы стол» па выніках акцыі «Топ-10 любімых твораў беларускай класікі»*

Людміла СІНЬКОВА, прафесар

## Быкаў супраць Бэтмэна, або Пра элітарнае і масавае ў літаратуры

На фоне нашай пастаяннай трывогі за лёс беларускай кнігі вынікі акцыі-апытання ***«Любімыя творы беларускай літаратуры XX стагоддзя»*** на першы погляд усцешваюць: чытачы назвалі творы Купалы, Коласа, Багдановіча, Мележа, Быкава, Шамякіна, Караткевіча; не абмінулі Танка, Крапіву, Барадуліна, Гілевіча, і яшчэ **53** прозвішчы аўтараў, чые творы называлі радзей, але ўсё ж хтосьці ўганараваў іх як свае любімыя. Відавочна, аднак, што апытанне выявіла найперш павагу да хрэстаматыйнай беларускай класікі і ўдзячную памяць пра яе — з тых часоў, калі яна вывучалася ў школе — сярэдняй або вышэйшай, і калі яна мела статус неабходнага складніка нашай адукацыі і нашага жыцця.

Варта, аднак, зайсці ў Цэнтральную кнігарню на мінскім праспекце і зірнуць на яе паліцы, каб упэўніцца, што названыя творы насамрэч займаюць вельмі сціплае месца сярод той кніжнай прадукцыі, якая запатрабавана сённяшнім чытачом, пакупніком. Стаіць ён найбольш ля паліц з зусім іншай літаратурай — так званай масавай. І пра суадносіны масавага і элітарнага на кніжным рынку варта сказаць больш падрабязна.

## Што такое масавая літаратура?

Гэта кнігі, у якіх пра што заўгодна расказваецца элементарна, «на пальцах»: гэта папулярныя думкі ў папулярных формах, гэта «простыя словы, простыя рэчы» для «простага» чытача.

Варта, аднак, агаварыцца. Калі дасціпны Лявон Вольскі, аўтар знакамітага слогана пра простыя словы і простыя рэчы, мае на ўвазе «хлеб на стале і полымя ў печы», дом, сям'ю, наш беларускі свет, то мы разумеем: сапраўды гэта зусім няпроста — пабудаваць свой дом, вырасціць сына, зладзіць агмень. І мы адчуваем усмешку аўтара, перажываем эйфарыю, слухаючы NRM: як гэта здорава, што Вольскі змог перафармаціраваць у папулярны слоган нашы (бо па-беларуску!) сакральныя сэнсы. Гэта «проста» — і як аўтэнтычная вышыванка, і як майка з вышытым знакам *Свамовы* Міхася Баярына адначасова.

Аналагічна: чытаючы Быкава, ніхто не думае, што «У тумане» — гэта толькі дэтэктыў. Любому ясна, што тут форма дэтэктыва абслугоўвае Быкава, а не наадварот (і ў фільме Сяргея Лазніцы па Быкаву, трыумфатары Канскага фестывалю, той жа дэтэктыў абслужыў арт-хаус). Банальны прыклад такога ж кшталту — амаль увесь Дастаеўскі.

І наадварот: кароткі слоган на тэму «Нигде, кроме / как в Моссельпроме» (нават калі яго аўтар — сам Маякоўскі) — гэта ўсяго толькі масавая рэклама.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 3 за 2015 г.

А дэтэктыў, у якім няма нічога звыш таго, што нехта некага забіў, у кагосьці штосьці скраў ці падмануў чужую жонку — гэта толькі масавае чытво: разгадванне крыжаванкі, скакалка для мазгоў, вінпацэцін.

## Калі з'явілася масавая літаратура?

● найперш тады, калі з'явіліся масы, здольныя яе чытаць, спажываць. Калі з'явіўся не толькі элітарны чытач, але больш ці менш адукаваная дэмакратычная публіка, чый вольны ад працы час мог быць аддадзены кнізе;

● канешне, тады, калі з'явіліся тэхналогіі: і вытворчыя — каб чытанне зрабілася банальна-зручным, і інтэлектуальныя — каб цэлая сістэма лёгкіх жанраў, аднойчы шчасліва вынайдзеных пэўнымі творцамі ўпершыню (дэтэктываў і меладрам, трылераў і фантастыкі, коміксаў і фэнтэзі), набліжала кніжны свет да чытача;

● тады, калі з'явілася дастаткова шмат аўтараў, якія пачалі штампаваць па вядомых жанравых схемах самую розную літаратурную прадукцыю, г. зн., калі з'явіліся прафесійныя вытворцы на гэтым полі;

● і, галоўнае, тады, калі з'явіліся грошы, эканамічныя магутнасці, каб «Забойства на вуліцы Морг» (напісанае Эдгарам По ў 1841 г.) і Шэрлак Холмс (першае апавяданне пра яго Конан Дойль напісаў у 1891 г.) змаглі заваяваць чытачоў усяго свету і натхніць цэлую армію эпігонаў Эдгара По і Артура Конан Дойля.

Пасля гэтага — тэхналагічна — ужо адзін крок заставаўся да глабальнай экспансіі амерыканскіх коміксаў і японскіх манга, герояў фэнтэзі ад англічан Толкіена і Роўлінг, а затым — цацак і камп'ютарных гульняў накшталт Бэтмэна, Барбі, Тамагочы і Пакемонаў…

## Чаму літаратура для мас такая папулярная ва ўсім свеце?

Вядома, у іншых народаў таксама ёсць свая міфалогія, казкі, літаратура і культура — але няма такіх тэхналагічных і фінансавых магчымасцей, каб трансляваць уласнае светабачанне ўсім і кожнаму, хто ахвочы спажываць прафесійна прыгатаванае і ўпакаванае.

Але, можа, нават больш важная за эканоміку тут псіхалогія: масавая літаратура актыўна і наўпрост звяртаецца да нашага ўнутранага жыцця — да нашых патаемных жаданняў, мар, нашай фантазіі, уяўленняў пра будучыню, нашай прагі незвычайных прыгод і асалод, яскравых эмоцый… Не толькі да свядомага, але і да падсвядомага, да інстынктаў, страхаў і комплексаў. Фрэйд з яго тэзісамі пра сублімацыю ў XXI стагоддзі аказаўся суперактуальным.

І калі чалавек не хоча засмучаць сябе надзвычай траўматычнай праўдай пра рэальныя войны і чарнобылі, сацыяльны гвалт і абсурд, тоідовішчы гвалту ў трылерах, дзе брутальнага героя лупяць жалезным прэнтам па галаве, а ён пасля гэтага ўсіх лупіць двума прэнтамі, якраз глядзіцца ледзь не з катарсісам.

## Ці вінаватыя людзі ў тым, што любяць масавую літаратуру?

У любові, кажуць, ніхто не вінаваты. Сярэднестатыстычны чытач вінаваты хіба ў тым, што ён *лэйзі* — гультай. Ён хоча толькі пасіўна спажываць, стоячы ля прыгожай вітрыны, інфантыльна ідучы за мерчандайзерам (тавараведам-рэкламшчыкам), не даючы сабе працы задумацца, **што** можна шукаць у кніжнай краме…

Ён падатлівы, ён гатовы саступіць: нашто чытаць «У тумане» (эзістэнцыйную драму), калі можна — Марыніну (мікс дэтэктыва з жаночай прозай)? Нашто глядзець яшчэ і нізкабюджэтны «Салярыс» (філасофскую прытчу), калі можна — толькі найвысокабюджэтны «Аватар» (казку-фэнтэзі)?

Але чытацкая падатлівасць — якасць перспектыўная, яна дазваляе чытачу расці. Асабліва, калі рост пачынаецца ў юнацкія гады і з такіх выдатных аўтараў, як Эдгар По і Уладзімір Караткевіч, Агата Крысці і Людміла Рублеўская, Баляслаў Прус і Уладзімір Арлоў… Такое чытанне выхоўвае густ і вучыць выбіраць!

## Чаму мы аднойчы ўсё ж абавязкова выбіраем класіку?

Чаму аднойчы абавязкова запальваем свечку? Таму што ў душы кожны ведае, што ёсць на свеце рэчы вялікія, абсалютныя, светланосныя, пра якія гаворыць нам Слова. Слова — гэта Бог (так запісана Янам Багасловам). Ніякі рэнтген не можа выявіць у чалавечым целе душу. Гэта можа толькі слова. І калі мы захочам адчуць трывалае апірышча для сваёй душы, прыгадаць некалі перажытую асалоду ад досціпу, гармоніі і хараства, якія схаваны ў слове, мы адкрываем такія кнігі, як «Новая зямля» Якуба Коласа. Пра яе Алесь Адамовіч напісаў (у артыкуле «А што там далей?»):

«Ну, а калі б паўстала пытанне пра адзін-адзіны твор, які павінен паказаць чалавецтву як мага паўней «вобраз» нейкага народа, цэлага народа, краю, — які са сваіх твораў назвалі б мы, беларусы?

Падумаўшы, паразважаўшы, паўздыхаўшы, перабраўшы ўсё, што ў нас ёсць, але, відаць, — усё тую ж «Новую зямлю» Я. Коласа. І гэта пасля такіх значных паэм Куляшова, лепшых раманаў і аповесцей Чорнага, Мележа, Брыля, Быкава, Шамякіна, Кулакоўскага, Навуменкі, Стральцова, Сіпакова...

У тым якраз і справа, што сярод самых значных, прыкметных твораў сучаснай беларускай літаратуры (будзем гаварыць аб прозе), здаецца, няма таго, які здольны гаварыць за ўсіх і сказаць усё, як сказала «Новая зямля» пра цэлы народ, яго лёс, яго тагачасны сацыяльны, нацыянальны, псіхалагічны, этычны, эстэтычны воблік».

Алесь Адамовіч не памыліўся; і вынікі апытання сучасных чытачоў пацвердзілі: мы выбіраем «Новую зямлю»...

## Чаму Бэтмэн ніколі не пераможа Быкава?

І яшчэ адну рэч пацвердзіла апытанне. Рэспандэнт, калі трэба выказацца публічна, выбірае, называе сярод значных для сябе творы аўтарытэтныя, замацаваныя грамадствам у высокім аксіялагічным рэгістры. Інстынктыўна кожны адчувае: кругагляд сучаснага чалавека не павінен быць абмежаваны толькі нейкім культурным фаст-фудам.

Ды і яшчэ адно тлумачэнне такому выбару ёсць.

Літаратура для мас ніколі не пераможа класіку, не зможа заняць яе месца. Найперш таму, што кожнаму чалавеку наканавана расці і сталець.

Няхай сабе многія школьнікі з Пушкіна найтрывалей запамінаюць фразу «выпьем с горя; где же кружка? / Сердцу будет веселей», а выраз «и мальчики кровавые в глазах» звязваюць выключна з якімі-небудзь разборкамі. Аднак гэта ж не азначае, што трэба выкінуць са школьнай праграмы пушкінскага «Барыса Гадунова» на карысць якой-небудзь «Гаўрыіліяды», або пакінуць толькі верш «Зімні вечар».

Калі з «Палескай хронікі» вучні найлепш запамінаюць гісторыю кахання Ганны і Васіля, то гэта яшчэ не значыць, што настаўнік павінен трактаваць Меле-

жа як «Богатые тоже плачут», каб навучыць любові да беларускай літаратуры і культуры, развіць інтэлект.

Няхай у купалаўскай страфе — «Сярод раз'юшаных сатрапаў / Крывавы зладзіўшы хаўрус, / Свае таргуюць і чужыя / Табой, няшчасны беларус» — хтосьці напачатку будзе разумець толькі адно словазлучэнне: «няшчасны беларус»… няхай напачатку з кімсьці будзе менавіта так.

Але ж усе школьнікі абавязкова вырастуць. І важна, каб будучыя дарослыя з гэтай страфой, з цэлай Атлантыдай літаратурнай класікі проста **не размінуліся**. Тады ў іх застанецца шанс яшчэ з ёю сустрэцца, многае зразумець.

Бо ў дарослым жыцці менавіта сур'ёзнае, культурай напоўненае слова дае сэнс, апірышча, арыенціры для быцця ў гэтым свеце. Такую функцыю пісьменства для рэлаксу (таксама ж патрэбнае!) выконваць не здатнае. Яно, як правіла, якраз дэзарыентуе — на карысць таго, хто «трымае бізнес».

Калі ж чытач хоча ўсё жыццё заставацца інфантылам, выключна звяном у «харчовым» ланцужку, то гэта яго асабістая праблема. Класічная культура тут ні пры чым. А вось інтэлігенцыя — «пры чым»: сцвярджаць сапраўды вартае належыць у першую чаргу ёй, нацыянальнай інтэлігенцыі.

**Анатоль ВЕРАБЕЙ, дацэнт**

## РЭЙТЫНГІ ШМАТ У ЧЫМ ПАКАЗАЛЬНЫЯ…

На самым пачатку XXI стагоддзя газеты «Наша Ніва» і «Звязда» правялі апытанні чытачоў, папрасілі назваць лепшыя творы беларускай літаратуры XX стагоддзя. Паводле рэйтынгу, у «Нашай Ніве» наперадзе былі Уладзімір Караткевіч (277), Васіль Быкаў (209), Янка Купала (129), Якуб Колас (120). Чытачы газеты «Звязда» самымі значнымі творамі беларускай літаратуры XX стагоддзя назвалі паэму Якуба Коласа «Новая зямля», «Палескую хроніку» Івана Мележа і раман Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».

Паказальныя ў гэтым плане і апытанні часопіса «Полымя», праведзеныя ў 2014 годзе. Тут самы высокі рэйтынг у паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». І гэта апраўдана. Веліч і каштоўнасць славутага твора ў энцыклапедызме, у шматгранным і глыбокім выяўленні духоўнага багацця народа, яго этычнага, эстэтычнага свету, філасофіі, у высокім мастацкім узроўні пры паказе беларускага краю, людзей, пейзажу, у раскрыцці патрыятычных пачуццяў аўтара, у гістарызме, паліфанічнасці, маштабнасці і народнасці твора, у яго гарманічнасці і годным месцы сярод лепшых твораў айчыннай і сусветнай літаратур.

Другое месца паводле рэйтынгу ў аповесці Васіля Быкава «Знак бяды» абумоўлена, думаецца, тым, што пісьменнік пасля Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага плённа і па-наватарску асэнсаваў веліч і трагізм лёсу беларускага народа, раскрыў у філасофска-псіхалагічных і сацыяльна-гістарычных адносінах повязь часоў і эпох, стварыў змястоўныя вобразы «разбуранага гнязда», і «знака бяды», а таксама вобразы Петрака і Сцепаніды Багацькаў як два адметныя нацыянальныя варыянты характару беларуса.

Высокі рэйтынг у твораў Янкі Купалы (п'есы «Паўлінка», «Тутэйшыя», «Раскіданае гняздо», паэмы «Бандароўна», «Курган»), Якуба Коласа (трылогія «На ростанях», паэма «Сымон-музыка»), Максіма Багдановіча (кніга паэзіі «Вянок», вершы «Зорка Венера», «Пагоня»), Івана Мележа («Палеская хроніка»), Васіля Быкава (аповесці «Альпійская балада», «Дажыць да світання», «Сотнікаў»), Івана Шамякіна (раманы «Сэрца на далоні», «Вазьму твой боль», «Глыбокая плынь», «Злая зорка», «Атланты і карыятыды», аповесць «Гандлярка і паэт»), Уладзіміра Караткевіча (аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», «Ладдзя Роспачы», раманы «Чорны замак Альшанскі», «Каласы пад сярпом тваім») вынікае з глыбокага і па-мастацку дасканалага выяўлення пісьменнікамі душы беларускага народа, развагамі

творцаў над яго шляхамі гістарычнага развіцця. Кожны з гэтых аўтараў у адпаведнасці з асаблівасцямі таленту ставіў адвечныя пытанні быцця, раскрываў багацце і непаўторнасць навакольнага свету, стварыў адметныя мастацкія вобразы.

Згадаем тых пісьменнікаў, творы якіх набралі 5 %. Гэта Максім Танк (вершы), Кандрат Крапіва (п'есы «Хто смяецца апошнім», «Брама неўміручасці», байкі), Рыгор Барадулін (зборнікі «Ксты», «Евангелле ад Мамы», верш «Трэба дома бываць часцей» і інш.), Ніл Гілевіч (раман у вершах «Родныя дзеці»), а таксама тых, у якіх названа некалькі твораў: Алесь Адамовіч, Анатоль Сыс, Андрэй Федарэнка, Юры Станкевіч, Леанід Дайнека, Святлана Алексіевіч, Кузьма Чорны, Людміла Рублеўская, Змітрок Бядуля, Аркадзь Куляшоў, Максім Гарэцкі, Янка Брыль і інш. Адзначым, што Аркадзь Куляшоў прадстаўлены вершамі «Алеся», «Камсамольскі білет», паэмамі «Сцяг брыгады», «Цунамі», Пятрусь Броўка — вершам «Пахне чабор» і раманам «Калі зліваюцца рэкі», Янка Брыль — апавяданнямі «Галя» і «Memento mori».

Добра, што згаданыя творы Леаніда Дранько-Майсюка (зборнік «Стомленасць Парыжам»), Уладзіміра Арлова (аповесць «Сны імператара»), Янкі Сіпакова (аповесць «Блуканне па іншасвеце»), Андрэя Макаёнка (п'есы «Лявоніха на арбіце» і «Зацюканы апостал»), Георгія Марчука (раман «Крык на хутары»), Паўлюка Труса (паэма «Дзясяты падмурак»), Мікалая Матукоўскага (п'еса «Мудрамер») і інш.

Многае ў прыведзеным рэйтынгу заслугоўвае ўхвалы, а нешта выклікае нязгоду, пярэчанне, патрабуе ўдакладнення. Думаецца, што гэты рэйтынг вызначалі пераважна школьнікі і студэнты. У ім выявіліся традыцыйныя і адначасова наватарскія, сучасныя падыходы. Напрыклад, згаданыя тыя творы, якія былі забароненыя ў савецкі час: п'еса Янкі Купалы «Тутэйшыя» і паэма «На Куццю», верш Уладзіміра Дубоўкі «За ўсе краі, за ўсе народы свету…», Раман Андрэя Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя», верш Наталлі Арсенневай «Магутны Божа», аповесць Вацлава Ластоўскага «Лабірынты», аповесць Францішка Аляхновіча «У кіпцюрох ГПУ» і інш.

Праўда, засмучае, што згаданыя толькі тры творы Максіма Гарэцкага: «На імперыялістычнай вайне», «Дзве душы», «Ціхая плынь». Алесь Адамовіч параўнаў беларускую літаратуру са сталом, у якім было тры ножкі — Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч. А Максіма Гарэцкага, чыя творчасць вярталася да чытача ў другой палове ХХ стагоддзя, ён параўнаў з чацвёртай ножкай да стала беларускага прыгожага пісьменства. Гэтая чацвёртая ножка надавала беларускай літаратуры ХХ стагоддзя большую моц і трываласць. І слушна, бо імя Максіма Гарэцкага сёння ставіцца побач з імёнамі такіх сусветна вядомых пісьменнікаў, як Кнут Гамсун, Эрых Марыя Рэмарк, Эрнэст Хемінгуэй. Думаецца, што наспела выданне новага, найбольш поўнага выдання Збору твораў гэтага класіка.

Шкада, што не згаданыя творы Міхася Зарэцкага і Янкі Маўра.

З твораў Уладзіміра Караткевіча сёння, паводле рэйтынгу, большай павагай карыстаюцца дэтэктывы «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Чорны замак Альшанскі». Магчыма, тут выявілася большая схільнасць сучаснага чытача да дэтэктываў. Магчыма, гэта абумоўлена і тым, што згаданыя творы больш перакладзены на іншыя мовы, што паводле іх пастаўлены кінафільмы. Аднак і ў дэтэктывах Уладзіміра Караткевіча дасканала раскрылася майстэрства пісьменніка, гуманістычны і патрыятычны пафас яго творчасці.

Ірына ЧАСНОК, аспірант

## КАЛІ НЕ ЗАПЛЮШЧВАЦЬ НА ПРАЎДУ ВОЧЫ

Калі быць рэалістамі і не заплюшчваць на праўду вочы, атрыманыя дадзеныя сведчаць найперш пра тое, што сярэднестатыстычны чалавек у нашай краіне не абцяжарвае сябе выхадам за межы школьнай праграмы, што тычыцца беларускай літаратуры. Дзякуй, калі і так яшчэ можа адразу назваць 10 айчынных паэтаў,

пісьменнікаў, драматургаў (напэўна, таму аўтары анкеты перастрахаваліся і прапанавалі сем пазіцый).

Безумоўна, творы, якія атрымалі найбольш высокі рэйтынг у праведзеным апытанні, вартыя. Але не факт, што вынікі былі б такімі ж, калі б у анкеце не падаваліся канкрэтныя імёны і чытачы цалкам самастойна ўпісвалі прозвішчы любімых аўтараў. На мой погляд, такі падыход да апытання нельга лічыць карэктным. Атрымліваецца, што ўжо загадзя вырашана, творы якіх класікаў беларускай літаратуры павінны быць любімымі. І чамусьці дзесьці па-за спісам засталіся не менш класічныя класікі.

Калі б, напрыклад, у спісе падаваўся У. Дубоўка, то вельмі верагодна, што яго верш «О Беларусь, мая шыпшына», які ўсе ведаюць яшчэ са школы, займеў бы высокі рэйтынг у выніках. Тое ж і з творамі многіх іншых аўтараў. Таму дадзеныя анкетаванне не паказваюць, каму з беларускіх творцаў аддае перавагу чытач (хіба каму з пададзеных), а хутчэй ілюструюць, якія творы пералічаных сямі класікаў маюць найбольшую вядомасць. Пра гэта і мае далейшыя развагі.

Відавочна, абіралі найперш тое, што на слыху, тое, што чыталі ў школе. Ні ў якім разе не хачу сказаць, што, напрыклад, першае месца «Новай зямлі» неаб’ектыўнае. У маю залатую дзясятку гэта паэма таксама б увайшла. Бо важна не тое, наколькі твор адпавядае сучасным рэаліям (а многія лічаць, што беларускай літаратуры не хапае якраз асучасненасці), а тое, колькі ў ім закладзена таленту і колькі сапраўднага пачуцця. І шчыра здзіўляюся, калі чую, што класічная беларуская літаратура не можа адпавядаць запатрабаванням сучаснай моладзі. Не думаю, што ў Англіі сталі лічыць «Трагічную гісторыю пра Гамлета, прынца дацкага» менш актуальнай з-за адсутнасці ў героя мабільнага тэлефона або з-за таго, што Афелія ў п’есе не карысталася інтэрнэтам.

Іншая справа, што гадзін на вывучэнне беларускай літаратуры ў школах не так і многа. І пэўных аўтараў калі і праходзяць, то па вярхах. Таму некаторыя выдатныя творы прапанаваных сямі пісьменнікаў не былі названыя, ці называліся невялікай колькасцю людзей.

Думаю, калі б правялі акцыю «10 любімых твораў рускай літаратуры», вынікі былі б падобнымі. Калі Дастаеўскі, то «Злачынства і пакаранне», а не «Браты Карамазавы», «Ідыёт»... Калі Тургенеў, то «Бацькі і дзеці», а не «Дваранскае гняздо»… Не таму, што іншае горшае, а таму што іншае менш вядомае.

Усё ж «распіяранасць» шмат што вызначае. Бо якімі б геніяльнымі ні былі творы, калі іх не прапагандуюць належным чынам, то іх і не разгортваюць, каб прачытаць. А калі не прачытаць — то як палюбіць?

На жаль, мяне ўжо не здзіўляе, што не пералічаныя загадзя аўтары набралі не больш за 5 %. Думаю, такая сітуацыя магла б скласціся і з кімсьці з сямі фаварытаў, не апыніся яны з самага пачатку ў анкеце.

Не назвалі ж М. Гарэцкага нават 5 % апытаных. І «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя ўвайшлі толькі ў ранг «яшчэ некаторых названых твораў». А, напрыклад, М. Зарэцкага ўвогуле ніхто не ўзгадаў. І не таму што менш любяць, а таму што менш пра іх гавораць, у выніку менш памятаюць, менш ведаюць, менш чытаюць, таму што, калі яшчэ можна знайсці сшыткі ў кнігарнях з выявамі Купалы і Коласа на вокладках, калі нават у анкеце складальнікі самі іх прозвішчы прапісваюць, то, напрыклад, Чорнаму пашчасціла не ў такой ступені.

Пра вынікі анкетавання можна разважаць бясконца. Але хачу яшчэ прывесці факты з уласнага досведу.

Я мела шчасце працаваць у музеі-дачы Васіля Быкава, які адчыніўся 19 чэрвеня 2013 г. у Ждановічах-6 да 90-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

Гэта быў толькі самы пачатак, першы сезон працы музея. Касу яшчэ не паставілі, уваходных квіткоў таксама не патрабавалі. Прымусовых мер па прыцягненні ў музей, як часта бывае ў іншых, ужо бюракратызаваных установах, прыняць не паспелі.

Але наведвальнікі былі. І іх было нямала.

Людзі даведваліся пра існаванне музея з сеціва, з прэсы, адзін ад аднаго.

І прыязджалі па сваім уласным жаданні, нягледзячы на тое, што музей знаходзіцца за горадам.

Вядома, значная частка наведвальнікаў — пісьменнікі, настаўнікі, філолагі, міністры, людзі са сферы культуры. Але шмат было і тых, хто прамога дачынення да літаратуры не мае.

Паколькі кантынгент такі разнастайны, кожны раз трэба было высветліць, наколькі чалавек ужо знаёмы з Быкавым. Бо, пагадзіцеся, праводзіць экскурсію для літаратуразнаўцы і для таго, хто пра В. Быкава чуў і паважае за грамадскую дзейнасць, але чытаў толькі ў школе і ўжо мала памятае — розныя рэчы.

Вялікую частку наведвальнікаў складала моладзь, што не можа не радаваць. Па сваёй ахвоце (яшчэ раз гэта падкрэсліваю, бо часта ў музеі ходзяць «таму што трэба», а не «таму што хочацца») прыязджалі і студэнты, і школьнікі.

Такая цікавасць выклікана не толькі геніяльнасцю быкаўскіх твораў, але і тым, што імя Быкава для большасці беларусаў з'яўляецца культавым. Васіль Быкаў — Асоба з вялікай літары, і гэта вымушаны прызнаць нават тыя, хто прызнаваць і не хацеў бы.

Па маіх назіраннях, большасць тых, хто прыходзіў у музей з выразным уяўленнем пра творчасць пісьменніка (і разам з тым быў не настаўнікам, не філолагам), адносіліся да ўзроставай катэгорыі ад 40 гадоў і больш.

Пераважная колькасць маладых наведвальнікаў чыталі толькі творы са школьнай праграмы. Звычайна ўзгадвалі «Жураўліны крык», «Знак бяды». Праўда, калі развітваліся, выходзячы з музея, абяцалі, што абавязкова пачытаюць яшчэ.

Усё ж, як ні балюча гэта прызнаваць, далёка не ўсе чытаюць беларускую літаратуру па-за школьнай праграмай. І добра, калі яшчэ ў школе чытаюць творы цалкам, а не ў кароткім змесце.

Але гэта не азначае, што ў людзей няма цікавасці да беларускай літаратуры. Яна ёсць. Але да таго, пра што яны не раз чулі, што нават у масавай свядомасці з'яўляецца аўтарытэтным. А каб зрабіць аўтарытэтным — у гэтым заключаецца на сёння задача не толькі настаўнікаў, выкладчыкаў, супрацоўнікаў музеяў, але і прэсы, увогуле дзяржавы.

Калі пашырыцца спіс аўтараў, уведзеных у шырокі культурны кантэкст (а не вузка-прафесійны ці школьны), тады, напэўна, пашырыцца і кола прозвішчаў і твораў у выніках анкетавання.

## Марына БАХІР, студэнтка 5 курса

## ДЗЕЯСЛОВЫ «ВЕДАЦЬ» І «ЛЮБІЦЬ» НЕ З'ЯЎЛЯЮЦЦА СІНОНІМАМІ

Адказаць на пытанне, які літаратурны, музычны, жывапісны твор з'яўляецца для цябе самым любімым даволі складана. Захапленне тым ці іншым творам залежыць ад шэрагу акалічнасцей: узрост, асаблівасці псіхікі чалавека, яго погляд на свет, нават настрой. Любоў чытача да твора, да творчасці пэўнага пісьменніка з'яўляецца адной з галоўных умоў наладжвання дыялога паміж чытачом і аўтарам, але, на маю думку, не з'яўляецца галоўным паказальнікам мастацкай якасці твора. Любімы твор павінен выбірацца не розумам (бо мае дзяржаўныя ўзнагароды, высока ацэнены крытыкамі і літаратуразнаўцамі, яго аўтар — нобелеўскі лаўрэат і г. д.), а сэрцам (той твор, чытаючы які атрымліваеш асалоду ад аўтарскага стылю пісьма, створаных вобразаў, калі яго праблематыка блізкая і важная для цябе; твор, які перачытваеш у розных узростах і кожны раз адкрываеш у ім нешта новае). Варта мець на ўвазе, што чытацкія густы з узростам могуць змяняцца. Але ёсць творы, якія цікавяць чытачоў розных эпох і розных пакаленняў. Думаецца, акцыя «Любімыя творы беларускай

літаратуры ХХ стагоддзя» менавіта і была скіравана на выяўленне такіх твораў, хаця б у межах аднаго стагоддзя.

Самымі любімымі беларускімі творцамі аказаліся Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч — класікі беларускай літаратуры, што паставілі беларускую літаратуру поруч з літаратурамі сусветнымі; Васіль Быкаў, Іван Мележ, Іван Шамякін, Уладзімір Караткевіч — пісьменнікі, творчасць якіх найбольш плённа развівалася ў пасляваенныя гады. Непрыемна здзівіла адсутнасць у гэтым спісе такіх імёнаў, як Кузьма Чорны (названы больш, чым адзін твор, але ніводзін з іх не набраў 5 %), Ніл Гілевіч (раман у вершах «Родныя дзеці» набраў больш за 5 %, вершы, многія з якіх сталі песнямі, не згаданы), імёны Міхася Стральцова, Уладзіміра Дубоўкі, Міхася Лынькова, Янкі Маўра і інш. не згаданы ўвогуле. У чым жа прычына? Калі прасачыць творы, якія найбольш часта называліся рэспандэнтамі, атрымліваецца, што гэта перш за ўсё тыя, якія вывучаюцца ў сярэдняй школе. Бясспрэчна, у школьную праграму ўключаюцца творы найвышэйшай мастацкай вартасці, але каб мець уяўленне пра творчасць пісьменніка недастаткова прачытаць адзін ці два яго творы. Напрыклад, той жа Кузьма Чорны. Раман «Пошукі будучыні» чытаецца ў школе, у даволі юным узросце. Камусьці падаецца, што ў творы складанае перапляценне сюжэтных ліній, стыль «не з лёгкіх». І з гэтага можа скласціся ўяўленне пра ўсё творчасць Кузьмы Чорнага. Чытач можа абмінуць увагай раманы «Млечны шлях», «Трэцяе пакаленне», аповесць «Люба Лук'янская», апавяданні, якія раскрываюць творцу з розных бакоў, паказваюць яго тонкае разуменне жыцця і чалавека…

Самым любімым творам у беларускага чытача стала паэма «Новая зямля» Якуба Коласа. Здавалася б, гэта натуральна: першы маштабны твор беларускай літаратуры ХХ ст., сцвярджае існаванне беларусаў як асобнай нацыі са сваімі традыцыямі, мовай, духоўнымі каштоўнасцямі і поглядамі на свет. На першы план выйшла этнагенетычная функцыя літаратурнага твора: захаванне гістарычнай памяці, абуджэнне нацыянальнай свядомасці народа, аб'яднанне нацыі. Магчыма, тут зноў жа паўстае праблема размежавання паняццяў «любімы» твор і «значны» твор. Прызнаны ўсімі, высока ацэнены, значыць, трэба даверыцца меркаванню большасці. Чытач часта забывае пра свой уласны чытацкі густ, што, можа быць, з'яўляецца адгалоскам яшчэ таталітарнай савецкай сістэмы. Ведаць паэму «Новая зямля» павінен кожны беларус, усведамляць яе значэнне для далейшага развіцця беларускай літаратуры, але густы ў кожнага розныя. Каб ацаніць справядлівасць гэтага выніку, карысна было б задаць рэспандэнтам пытанне: чаму менавіта названы твор з'яўляецца для вас самым любімым?

Паказальнымі ў гэтым плане з'яўляюцца вынікі для творчасці Івана Мележа. Аднолькавая колькасць апрошаных 43,2 % назвалі ў якасці любімых «Палескую хроніку» цалкам і першую яе частку «Людзі на балоце». Трылогія ўяўляе сабой цэласнае літаратурнае палатно, але ўсё ж «Людзі на балоце» маюць сваю адметнасць у параўнанні з іншымі часткамі і з'яўляюцца больш блізкімі і зразумелымі для сучаснага чытача.

Пытанні выклікалі такія аповесці, як «Мы — хлопцы жывучыя» Івана Сяркова і «Лань — рака лясная» Алеся Шашкова. Гэта прыгодніцкія творы для дзяцей. Не павінна бянтэжыць тое, што яны стаяць у адным шэрагу з «Запіскамі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, «Верай беларуса» Цёткі і інш. Менавіта праз дзіцячую літаратуру прывіваецца сапраўдная любоў да роднага слова. Сталыя людзі называлі гэтыя творы, бо аповесці сталі яркім уражаннем дзяцінства, паказалі, што па-беларуску ствараецца шмат цікавага. Я лічу, калі у дзіцяці будзе цікавасць да дзіцячай беларускай літаратуры, то ў будучым яно само захоча прачытаць і «Запіскі Самсона Самасуя», і «Веру беларуса». Дарэчы, тое ж магу сказаць і пра так званую масавую літаратуру (напр., згаданы ў спісе «Крык на хутары» Георгія Марчука). Чытацкі густ, зразумела, выпрацоўваецца пры чытанні літаратуры класічнай, інтэлектуальнай. І гэтую задачу павінна вырашаць школа, а таксама

бацькі. Я лічу, што масавая літаратура (але на літаратурнай беларускай мове!) здольная звярнуць увагу чытача на беларускі літаратурны працэс і беларускую мову, пазбавіць яго ад стэрэатыпу нейкай «закасцянеласці», «элітарнасці» беларускай літаратуры.

Такім чынам, вынікі акцыі «Любімыя творы беларускай літаратуры XX стагоддзя» нельга лічыць канчатковымі для ацэнкі цікавасці і любові чытача да творчасці беларускіх аўтараў, бо, па-першае, часта знаёмства беларуса з роднай літаратурай абмяжоўваецца толькі школьнай праграмай і чытач можа не ведаць усяго яе багацця і шматграннасці; па-другое, важна, каб чытач ставіў перад сабой задачу выпрацоўкі ўласнага чытацкага густу і мог рабіць высновы, зыходзячы з уласнага чытацкага досведу, а не з меркавання большасці; па-трэцяе, каб чытач усведамляў, што дзеясловы «ведаць» і «любіць» не з’яўляюцца сінонімамі.

## Настасся КАРНАЦКАЯ, студэнтка 5 курса

## ШКОЛЬНАЯ ПРАГРАМА АБАВЯЗАНА ЎЛІЧВАЦЬ ТЭНДЭНЦЫІ ЧАСУ

Рэйтынгі і апытанні, якія зрабіліся ў наш час папулярнай і зручнай формай вывучэння грамадскай думкі, маюць вялікую карысць. Некаторыя з іх, натуральна, з’яўляюцца бізнес-праектамі і накіраваны найперш на рэкламаванне пэўных выданняў. На Захадзе такая тэндэнцыя ўзнікла яшчэ ў 80-я гг. XX стагоддзя. З ростам актыўнасці СМІ (асабліва ў інтэрнэце), колькасць рэйтынгаў бясспрэчна павялічылася. Аб’ектыўнасць спісаў, якія фігуруюць у сеціве, накшталт «100 лепшых кніг усіх часоў і народаў», «1001 кніга, якую павінен прачытаць кожны», «200 лепшых кніг па версіі BBC» і многіх-многіх іншых, безумоўна, выклікае пэўны скепсіс, але гэтыя спісы, тым не менш, карыстаюцца ўвагай і прапагандуюць кнігі. Сярод маіх знаёмых не так даўно была папулярнай кніга «1001 books you must read before you die». Прызнаюся шчыра, што сама захапілася спісам, прапанаваным у ёй, і доўгі час мы гулялі ў гульню «а хто колькі кніг прачытаў з тысячы і адной». Такім чынам, можна сказаць, што падобныя рэйтынгі сапраўды матывуюць людзей да чытання, і таму, думаецца, што апытанне, ініцыяванае часопісам «Полымя», пры ўсіх агаворках і дапушчэннях пэўнай суб’ектыўнасці атрыманага рэйтынгу, справа вельмі вартая.

Нягледзячы на тое, што анкета мела на ўвазе «любімыя творы беларускай літаратуры XX стагоддзя», відавочна, што ўдзельнікі апытання не абмежаваліся адно толькі XX стагоддзем. Бо ў спісе мы можам убачыць творы, якія былі выдадзеныя і ў XXI стагоддзі, літаральна некалькі гадоў таму, напрыклад, кніга Ю. Станкевіча «Шал» ці А. Федарэнкі «Ціша», і творы, напісаныя яшчэ ў XIX стагоддзі — «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча і «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча. Гэта натуральна, паколькі гэта сапраўды выбітныя ўзоры ў нашай літаратуры, любімыя многімі чытачамі.

Існуе вядомы жарт, што калі ў рускага спытаць, хто твой любімы пісьменнік, то ён адкажа Пушкін. У беларусаў гэтую цяжкую ролю любімых на сябе бяруць Колас і Купала. Таму я лічу абсалютна заканамерным і правільным знаходжанне Якуба Коласа з яго «Новай зямлёй» на першым месцы ў дадзеным спісе.

Няхай сабе за паэмай «Новая зямля» трывала замацавалася вызначэнне «энцыклапедыя сялянскага жыцця». Безумоўна, гэта абсалютна правамерна, бо паводле маштабнасці і глыбіні выяўлення нацыянальнага менталітэту, а таксама этычнага, эстэтычнага і псіхалагічнага вобліку беларусаў «Новую зямлю» не пераўзышоў ніводзін іншы мастацкі ўзор. Але прыгадваюцца радкі: «Купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут». Для моладзі гэтыя радкі сёння набываюць іншую актуалізацыю, ды і твор у цэлым набывае новае, сама-

стойнае значэнне. Чалавек можа сцвердзіцца ў жыцці, зрабіць вялікую кар'еру, завесці сям'ю, аднак, не будзе адчуваць сябе ўтульна без свайго кутка. У наш час «новай зямлёй» можа стаць і аднапакаёўка ў Шабанах, і пентхаўс у цэнтры сталіцы. Мала хто зараз хоча жыць з бацькамі, моладзь хоча хутчэй выпутацца з тых самых «панскіх», бацькоўскіх пут. Інакш кажучы, «Новая зямля» валодае па-свойму ўніверсальнымі сэнсамі, таму і застаецца чытаемай і актуальнай.

Мае бацькі скончылі школу і ўніверсітэт шмат гадоў таму. Маці — выпускніца мехмата БДУ, бацька — выпускнік радыётэхнічнага інстытута, і ў цяперашнім жыцці яны не сутыкаюцца з беларускай літаратурай (акрамя сустрэч з дачкой-філолагам). Аднак, з лёгкасцю цытуюць вершы, якія вучылі ў школе, прыгадваюць імёны нашых класікаў, творчасць якіх ім найбольш запомнілася: Якуб Колас, Іван Мележ, Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч… Сапраўды, гэта атланты, на мужных плячах якіх трымаецца наша літаратура, таму абсалютна не дзіўна, што ўдзельнікі апытання на першыя месцы паставілі менавіта іх. Трэба сказаць, што не было ў спісе такіх твораў, пабачыўшы якія, я здзівілася. Вядома, большасць названых твораў складае школьную праграму па беларускай літаратуры.

Сярод аўтараў, чыіх твораў было названа некалькі, але яны не набралі больш за 5 %, можна сустрэць шмат імёнаў сучасных пісьменнікаў: Андрэй Федарэнка, Людміла Рублеўская, Юры Станкевіч, Святлана Алексіевіч і інш. Гэта тыя людзі, якія ствараюць нашу літаратуру ў дадзены момант і робяць гэта даволі паспяхова, як паказваюць вынікі апытання. Школьная праграма мусіць улічваць усе тэндэнцыі ў сучаснай літаратуры і не абмінаць іх. Вывучэнне новых твораў павінна адбывацца на ўроках беларускай літаратуры, аднак не за кошт выкасоўвання з праграмы класічных твораў.

Вельмі здзівіла адсутнасць у спісе імёнаў Янкі Маўра, Міхася Лынькова, Міхася Зарэцкага, Францішка Багушэвіча. Мне здаецца, што так напісаць для дзяцей, як гэта зрабілі Маўр і Лынькоў, не змог яшчэ ніхто. Таму крыўдна, што апытаныя абмінулі іх сваёй увагай. Міхась Зарэцкі ўзбагаціў нашу літаратуру сваімі рамантычнымі творамі: «Кветка пажоўклая», «Бель», «Дзіўная»… Усе гэтыя творы ўваходзілі ў нашу ўніверсітэцкую праграму па курсе беларускай літаратуры, чыталіся і перачытваліся. Ну і немагчыма было абмінуць творчасць класіка беларускай паэзіі Францішка Багушэвіча, які даў нам наказ «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

Некаторыя сучасныя аўтары, такія, як Уладзімір Сцяпан, Адам Глобус, Андрэй Хадановіч, таксама былі незаслужана праігнараваныя. Застаецца спадзявацца, што ў наступных апытаннях такога кшталту мы сустрэнем больш твораў сучаснай беларускай літаратуры, якія да таго часу трывала ўвойдуць у школьныя і ўніверсітэцкія праграмы.

**Ірына КУПЦЭВІЧ, студэнтка-завочніца 6 курса**

## УДАСКАНАЛІЦЬ МЕТАДАЛОГІЮ

Рэйтынгі — гэта добра. Вы заўважалі, што нават самая нудная або далёкая ад нас інфармацыя, калі яна прадстаўлена ў выглядзе рэйтынгу, можа нас зацікавіць? Напрыклад, пры чытанні навін на любімым сайце наша ўвага міжволі спыняецца на артыкулах кшталту «Найгоршыя серыялы года па версіі клуба аўстралійскіх хатніх гаспадынь» або «Топ-10 здагадак, чаму дагэтуль не працуе Вялікі адронны калайдар». Хаця, вядома ж, інфармацыя пра любімыя ў народзе творы беларускай літаратуры якраз-такі цікавая, і не толькі філолагам. Але сутнасць рэйтынгаў у тым, што яны заўжды не толькі інфармуюць, але і ненавязліва рэкамендуюць — бо кожнаму, па-першае, цікава ведаць, наколькі яго меркаванне ў той ці іншай сферы супадае з меркаваннем большасці людзей, а па-другое, хочацца зразумець, што ж такога доб-

рага знайшлі людзі ў нечым, што апынулася на першым месцы. У выпадку з нашым літаратурным рэйтынгам, спадзяюся, хаця б некаторыя людзі, якіх творы з першых пазіцый у жыцці абмінулі, зацікавяцца і пажадаюць іх прачытаць.

Але вынікі гэтага рэйтынгу павінны працаваць і ў іншы бок — бок пісьменніка і выдаўца. Толькі так яны могуць даведацца, што чытаюць і любяць беларусы, у якім напрамку лепш працаваць, на якія ўзоры класікі арыентавацца. Вядома, можна доўга спрачацца, ці трэба аўтару пісаць свае творы з аглядкай на чытача або пісьменнік мусіць быць свабодным творцам, вольным ад усяго, і грамадства ў тым ліку. Але гэтая спрэчка можа мець месца ў душы асобнага аўтара, але нават не паміж пісьменнікамі і тым больш не ў маштабах усёй літаратуры. А якраз гэта ў нас часам і адбываецца. Лёс склаўся так, што беларуская мова па звычцы лічыцца мовай інтэлектуальнай эліты, адпаведна і літаратура павінна быць спрэс глыбока інтэлектуальнай, і кожны аўтар спадзяецца напісаць выбітны твор і атрымаць Нобеля ці прынамсі Гедройца. А пісаць па-беларуску дэтэктывы і жаночыя раманы лічыцца справай несур'ёзнай, дрындушкамі. У выніку шараговы спынены на вуліцы чалавек з імавернасцю 95 % скажа, што беларуская літаратура нецікавая і чытаць у ёй няма чаго. Бо кожнаму сваё — як аўтару, так і чытачу. Не ўсе здольныя ці жадаюць пастаянна разбірацца з аўтарскай гульнёй сэнсамі, расчытваць алюзіі, дэкадзіраваць мнагапланавыя сімвалы і г. д. Пераважная большасць людзей чытае кнігі дзеля адпачынку і забавы, а таму ім патрэбны ўніверсальная праблематыка, цікавы дынамічны сюжэт, эмацыянальная напружанасць. Чым гэта кепска? Здавалася б, усе мы, беларускамоўныя людзі, жадаем, каб беларуская мова панавала ў грамадстве, дык чаму мы абмяжоўваем сферу яе літаратурнага выкарыстання? Ісціна ў тым, што павінна быць і элітарная літаратура, і масавая. І пісьменнікі мусяць ведаць запатрабаванні чытачоў, ад адказу на якія залежыць, між іншым, і камерцыйны поспех твораў, што таксама з'яўляецца сёння вострай праблемай. І толькі праз апытанне мы можам пра гэтыя самыя густы і патрэбы грамадства даведацца.

Такім чынам, рэдакцыя часопіса «Полымя» зрабіла вельмі важную па ўсіх параметрах працу, за што гэтым людзям вялікі дзякуй. І калі цяпер нарэшце падведзены вынікі, мы можам зрабіць высновы.

Я не буду ацэньваць творы, якія ўвайшлі ў рэйтынг, бо, па-першае, гэта справа больш дасведчаных людзей, па-другое, можна спрачацца бясконца, варты ці не той ці іншы твор той ці іншай пазіцыі. Мяне больш турбуе іншае: наколькі атрымалася выканаць задачу, наколькі вынікі адпавядаюць мэце даследавання? І вось тут — гэта маё асабістае меркаванне — паўстаюць пэўныя праблемы. І я буду пра іх казаць не дзеля пустой крытыкі, а дзеля вырашэння іх у будучыні.

Пачнём з фармулёўкі самога пытання. Людзям прапаноўвалася назваць любімыя творы беларускай літаратуры XX стагоддзя. Не найлепшыя, не найважнейшыя, не самыя рэпрэзентатыўныя — любімыя. Праблема ў тым, што якраз азначэнне «любімы твор» максімальна расплывістае з усіх магчымых. А таму і вынікі атрымліваюцца трохі няўцямныя. Калі чалавек чытаў многа, яму цяжка вызначыць некалькі любімых твораў з мноства такіх. Калі чытаў мала — ён назаве той твор, які хаця б трохі запомніўся. У выніку сярэдняя тэмпература па бальніцы аказваецца вельмі дзіўнай. Розных непаразуменняў можна было б пазбегнуць, калі сфармуляваць пытанне, напрыклад, так: «Якія творы беларускай літаратуры вы перачытвалі некалькі разоў або хочаце перачытаць?» І вось тут ужо дакладна былі б названы самыя любімыя, дарагія сэрцу творы. А калі б некаторыя рэспандэнты не маглі назваць такіх твораў, сам гэты факт таксама мусіў бы быць уключаным у рэйтынг, бо ён вельмі сімптаматычны.

Мне здаецца, раз ужо такая аб'ёмная праца была распачата, раз ужо рассылаліся анкеты ў самыя розныя арганізацыі, раз ужо там людзі сядалі над гэтым апытаннем і задумваліся, што б адказаць — дык лепш было б задаць некалькі пытанняў, каб мець цікавейшыя і дакладнейшыя вынікі. Напрыклад, можна было прапанаваць назваць любімыя творы са школьнай праграмы, любімыя творы не са

школьнай праграмы, любімы паэтычны твор, любімы празаічны твор, можа быць, нават і нелюбімы твор; твор, які найлепш прадстаўляе Беларусь для замежнікаў... Гэта было б яшчэ больш цікава і, галоўнае, паказальна. Бо усё ж такі павінны быць крытэрыі выбару; а ставіць у адзін шэраг вершы і раманы, на мой погляд, наогул некарэктна.

Нават калі пакінуць пытанне такім, як ёсць, даследаванне атрымалася б больш змястоўным, калі б трэба было назваць не 10 твораў, а менш, 1—3. Давайце не будзем адмаўляць відавочнае: большасць беларусаў ведаюць беларускую літаратуру даволі кепска, знаёмы толькі з тым, што праходзяць у школе, ды і тое слаба памятаюць. У многіх няма ніводнага любімага беларускага твора. А нават калі і ёсць парачка, то, назваўшы іх, далей, каб запоўніць усе 10 пазіцый, чалавек пачынае ўзгадваць ледзь не ўсе творы, назвы якіх са школьных гадоў яшчэ не забыліся. Бо, як мы бачым, у топе рэйтынгу якраз творы школьнай праграмы, амаль без выключэнняў. Я абсалютна не аспрэчваю таго, што гэта выдатныя творы, але ўсё ж вельмі многія з найлепшых твораў беларускай літаратуры ў школьную праграму не трапляюць. А потым і ў рэйтынгі — хіба што недзе ў сярэдзіну спісу. Яшчэ заганнасць вялікай колькасці варыянтаў выявілася ў тым, што названа многа твораў, якія мне вельмі цяжка ўявіць у ролі любімых у нармальнага чалавека. Возьмем Янку Купалу. Я вельмі люблю яго лірыку, але не магу ўявіць таго чалавека, які назваў сваім любімым творам, напрыклад, верш «Хлопчык і лётчык» або «Мужык». Або апавяданне Змітрака Бядулі «Пяць лыжак заціркі». Я гатовая паспрачацца, што гэтыя творы — так, выдатныя, але ж не любімыя! — трапілі ў спіс толькі таму, што рэспандэнты, якія іх называлі, ужо ніяк не маглі прыгадаць што-небудзь цікавейшае для пунктаў 9 і 10.

Дарэчы, у гэтым аспекце вынікі апытання павінны абавязкова зацікавіць метадыстаў, якія распрацоўваюць школьныя праграмы і падручнікі па літаратуры. Я лічу, яны павінны задацца пытаннем, чаму, напрыклад, паэмы Купалы людзі пасля школы памятаюць, а апавяданні Міхася Стральцова — не. Чаму «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча набралі толькі 16 %? Чаму вельмі мала людзей назвалі творы Кузьмы Чорнага? І вось калі літаратуразнаўцам над гэтым рэйтынгам няма прычын спрачацца, то ў метадыстаў гэтых прычын процьма, і столькі ж павінна быць працы па карэкціраванні праграмы і метадычных комплексаў.

Яшчэ трэба заўважыць, што ў падведзеных выніках ёсць пэўныя недагляды — хай не крытычныя, але іх трэба пазбегнуць пры публікацыі. Рэспандэнтаў прасілі назваць творы з 20 стагоддзя, але ў спіс пры гэтым неяк трапілі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч на пару з Адамам Міцкевічам. Безумоўна, яны вечна жывыя ў нашых сэрцах, але факт ёсць факт. Хай нават людзі іх і назвалі па памылцы, але з вынікаў рэйтынгу, думаю, правільней было б гэтыя пазіцыі прыбраць.

Пры знаёмстве з вынікамі сацыяльнага апытання заўжды хочацца даведацца, якая ж была яго аўдыторыя, наколькі рэпрэзентатыўнай можна лічыць выбарку. Я ведаю, што ўдзел у апытанні прыняла вельмі вялікая колькасць людзей, лік ідзе на тысячы. Але хто гэтыя людзі? Наколькі прадстаўлены розныя ўзроставыя, сацыяльныя, прафесійныя групы, розныя рэгіёны? Думаю, пры публікацыі вынікаў гэтае пытанне будзе асветлена. Але па саміх адказах мне здаецца, што збольшага гэта інтэлігенцыя, прычым гуманітарная, многа школьных настаўнікаў. Зразумела, што сярод такіх людзей абазнанасць у літаратуры будзе вышэйшай. Але цікава было б даведацца пра густы і іншых — скажам так, «звычайных людзей». Спадзяюся, у апытанні ўдзельнічалі і праграмісты, і эканамісты, і рабочыя, і міліцыянеры і г.д., ці хаця б студэнты адпаведных устаноў адукацыі — бо ў іх, канечне, арганізаваць апытанне нашмат прасцей. Бо калі гэта не так, то даследаванне дае нам даволі мала: мы проста працягваем круціцца ў адным і тым жа моўным і культурніцкім гета, у якім самі пішам кнігі пра наша жыццё, самі іх чытаем, самі крытыкуем, а потым яшчэ і самі сябе апытваем. А для навакольнага свету «звычайных людзей» усе гэтыя падзеі часцей за ўсё застаюцца незаўважанымі.

Тым не менш, думаю, арганізатары даследавання пастараліся, у меру сваіх магчымасцей, ахапіць розныя групы насельніцтва. І зноў жа, раз ужо рабілася такая вялікая праца, то можна было б зрабіць і трошкі больш: падлічыць і адсартаваць вынікі апытання паводле сацыяльных груп. Было б вельмі цікава параўнаць, якія творы падабаюцца школьнікам, а якія — пенсіянерам, мінчанам і людзям з перыферыі, інтэлігенцыі і рабочым, бізнесменам і хатнім гаспадыням, людзям, блізкім да філалогіі, і людзям, бясконца ад яе далёкім. Гэта быў бы зрэз грамадства, і пры карэктна сфармуляваных пытаннях анкеты гэта дало б поўную карціну таго, якія адносіны складваюцца ў беларусаў з беларускай літаратурай.

Трэба сказаць, што для падрыхтоўкі сённяшняга абмеркавання вынікі апытання былі прадстаўлены ўдзельнікам у вельмі сціслай і малаінфарматыўнай форме — спадзяюся, што пры публікацыі ў часопісе яны будуць выглядаць больш змястоўна і разгорнута. Аднак і з таго, што ёсць, можна зрабіць высновы.

Што ж мы бачым з вынікаў даследавання пра любімыя ў народзе творы беларускай літаратуры? На маю думку, бачым мы толькі дзве рэчы. Гэта а) многія апытаныя больш-менш памятаюць, што яны праходзілі ў школе і б) некаторая апытаныя, даволі малая колькасць ад усіх, чытаюць сучасную літаратуру. Сумняваюся, што менавіта гэтага хацелі дасягнуць арганізатары. На жаль, метадалогія правядзення апытання аказалася недасканалай, як гэта часта бывае, а таму атрымалася не ўсё і не зусім так, відаць, як хацелася. Тым не менш нельга не прызнаць, што праведзена каласальная праца. І няхай у ёй былі хібы, але яна, безумоўна, была не дарэмнай. Фактычна, гэта была першая спроба высвятлення літаратурных густаў і ўпадабанняў беларусаў, ад якой ужо можна адштурхоўвацца ў далейшых даследаваннях, якія абавязкова павінны быць. Можна сказаць, гэта пачатак усталявання нармальных узаемаадносін паміж аўтарам і чытачом у маштабах краіны. Першая цагліна, вынятая са сцяны нашага гета і пакладзеная ў падмурак новага моста паміж літаратурнай супольнасцю і астатнім грамадствам — моста, які мы павінны пабудаваць замест некалі зруйнаванага.

## Настасся ЯКУБА, студэнтка 5 курса

## АНКЕТАВАННЕ — СПРАВА КАРЫСНАЯ

Беларуская літаратура XX стагоддзя сапраўды багатая на выбітныя творы, разнастайныя паводле жанрава-стылёвых асаблівасцей, разнастайныя паводле тэматыкі і праблематыкі. Вылучыць з гэтага вялікага мноства толькі дзесяць твораў мне падаецца дастаткова складанай задачай. Нават калі назваць адно толькі творы класікаў, якія мы вывучалі ў школе і якія паўплывалі на наша жаданне вучыцца далей на філалагічным факультэце, то спіс атрымаецца значна большы за дзесяць пазіцый. Бо апроч Коласа, Купалы і Багдановіча, гэта будуць і Кузьма Чорны, і Максім Гарэцкі, і Андрэй Мрый, і Міхась Зарэцкі, і Лукаш Калюга, і іншыя. Тое ж датычыцца і другой паловы XX стагоддзя. Натуральна, у кожнага з нас ёсць любімыя творы Караткевіча, Шамякіна, Быкава, Мележа, але ж таксама і Брыля, і Стральцова, і Навуменкі, і Адамчыка і іншых таленавітых празаікаў. Альбо як абысці ўвагай паэзію? Напрыклад, творчасць усімі намі любімай Яўгеніі Янішчыц? Усе гэтыя мастакі слова захапляюць нас у роўнай ступені, усе яны на нас тым ці іншым чынам паўплывалі.

Аднак вынікі апытання атрымаліся, на мой погляд, дастаткова аб’ектыўныя. «Новая зямля» Якуба Коласа набрала 73,9 %. Гэта не дзіўна, бо думаецца, што няма ніводнага беларуса, які б не ведаў славутых радкоў «Мой родны кут, як ты мне мілы…», хто адразу ж не згадваў бы настальгічна свой асабісты любімы куток — той куток, з якім звязаны светлыя ўспаміны дзяцінства, памяць пра родных і любімых людзей. Коласаўская «Новая зямля» шануецца не толькі беларусамі, ёю захапляюцца ва ўсім славянскім свеце.

Што датычыцца творчасці Янкі Купалы, па выніках акцыі п’еса «Паўлінка» набрала толькі 48,9 %, што, на маю думку, вельмі дзіўна. Бо для мяне гэты твор асацыюецца не толькі з найвыбітнымі дасягненнямі нашай літаратуры, але і найлепшымі пастаноўкамі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра Янкі Купалы.

Міжволі прыгадваюцца вядомыя радкі з ліста Максіма Горкага, які датуецца 1910 годам, да ўкраінскага рэвалюцыянера-дэмакрата Міхаіла Кацюбінскага (адно трэба зрабіць агаворку, што слова «прымітыўна», выкарыстанае рускім пісьменнікам, відавочна не нясе негатыўнага сэнсу, яно выступае не надта ўдалым сінонімам да слова «проста»): «В Белоруссии есть два поэта: Якуб Колас и Янка Купала — очень интересные ребята! Так примитивно просто пишут, так ласково, грустно, искренне. Нашим бы немножко сих качеств. О, господи! Вот бы хорошо-то было!» Апроч таго, крыху пазней, Горкі напісаў Аляксандру Чарамнову: «Кстати, спрошу Вас: знаете Вы белорусских поэтов Якуба Коласа и Янку Купалу? Я недавно познакомился с ними — нравятся! Просто, задушевно и, видимо, поистине — народно. У Купалы есть небольшая поэмка «Адвечная песня» — вот бы перевести ее на великорусский язык!» Доля пыхі ў гэтых радках ёсць, але пры гэтым рускі пісьменнік не можа не прызнаць генія нашых выбітных паэтаў.

Было трохі прыкра ўбачыць, што «Каласы пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча назвалі толькі 16 % апытаных. Чаму так мала рэспандэнтаў узгадалі гэты шматпланавы твор пра гістарычнае мінулае беларускага народа і яго неадрыўнасць ад сучаснасці і будучыні? Буйны па памеры? Складаны для ўспрымання? Чаму пазбавілі ўвагі такога яскравага твора, можна толькі гадаць…

Напрыканцы лічу неабходным заўважыць, што справа, распачатая рэдакцыяй часопіса «Полымя», вельмі карысная. Хочацца спадзявацца, што яна будзе мець плён. І магчыма, некаторыя рэспандэнты яшчэ адкрыюць для сябе творчасць Цёткі (Алаізы Пашкевіч), В. Ластоўскага, Ядвігіна Ш., А. Макаёнка, А. Міцкевіча, М. Гарэцкага, М. Стральцова, паэзію Н. Гілевіча, А. Лойкі, В. Зуёнка, Я. Янішчыц, А. Вярцінскага, Е. Лось, іншых выдатных пісьменнікаў, пра якіх сёння тут ішла гаворка.

**Лада АЛЕЙНІК, дацэнт**

## РАЗМОВА ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЕЦЦА

Наўрад ці памылюся, калі заўважу, што фактычна кожны рэйтынг можа быць падставай для дыскусіі. Рэйтынгамі з’яўляюцца не толькі апытанні і анкетаванні, але і вылучэнні кніг на якія заўгодна прэміі, і ўганараванні аўтараў «паводле сукупнасці дасягненняў» спецыяльнымі літаратурнымі ўзнагародамі, і г. д. Вакол твораў-лідараў амаль заўсёды разгортваецца палеміка, нярэдка — вельмі вострая. І гэта датычыцца, безумоўна, не толькі нашых, беларускіх, рэйтынгаў, апытанняў ды ўсялякіх «намінаванняў».

Згадаем, напрыклад, адносна нядаўнюю гісторыю, якая адбылася ў Расіі. У 2012 г. прэм’ер-міністр РФ У. Пуцін у артыкуле «Расія: нацыянальнае пытанне» («Независимая газета», 23 студзеня 2012 г.) прапанаваў скласці спіс з сотні кніг, якія б вызначалі айчынны «культурны канон». Выступоўца падкрэсліў, што аналагічны вопыт маецца ў ЗША: «У некаторых вядучых амерыканскіх універсітэтах у 20-я гады мінулага стагоддзя склаўся рух за вывучэнне заходняга культурнага канона. Кожны студэнт, які паважаў сябе, павінен быў прачытаць 100 кніг па спецыяльным спісе. У некаторых універсітэтах ЗША гэта традыцыя захавалася і сёння». А далей прапанаваў: «Давайце правядзём апытанне нашых культурных аўтарытэтаў і сфармуем спіс 100 кніг, якія павінен будзе прачытаць кожны выпускнік расійскай школы. Не вызубрыць у школе, а менавіта самастойна прачытаць. <…> Выбар адукацыйнай праграмы, разнастайнасць адукацыі — наша

несумненнае дасягненне. Але варыятыўнасць павінна абапірацца на трывалыя каштоўнасці, базавыя веды і ўяўленні пра свет. Грамадзянская задача адукацыі, сістэмы асветы — даць кожнаму той абавязковы аб'ём гуманітарных ведаў, які складае аснову самаідэнтычнасці народа. І ў першую чаргу размова павінна ісці пра павышэнне ў адукацыйным працэсе ролі такіх прадметаў, як руская мова, руская літаратура, айчынная гісторыя — натуральна, у кантэксце ўсяго багацця нацыянальных традыцый і культур».

Здавалася б, ініцыятыва зусім нядрэнная. Аднак вакол яе разгарэліся надзвычай гарачыя спрэчкі, у якіх узялі ўдзел і шараговыя грамадзяне, і вядомыя культурныя дзеячы краіны. Меркаванні разышліся кардынальна. Пісьменнік Захар Прылепін, напрыклад, запатрабаваў выключыць са школьнай праграмы «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцына, «як і іншую літаратуру, якая адназначна негатыўна асвятляе міфалогію краіны», спявак Іосіф Кабзон засведчыў, што такі спіс павінен скласці ні хто іншы, як сам Пуцін, кампазітар Георгій Гладкоў выказаўся за тое, каб у школьную праграму была абавязкова ўведзена «Біблія», а яшчэ некаторыя ўдзельнікі дыскусіі ўвогуле прапанавалі скласці не «спіс», а «антыспіс».

Што ж, у кожнага з нас — індывідуальныя густы і погляды, асабістыя прыярытэты і перакананні, сімпатыі і антыпатыі. Прызнацца па-шчырасці, калі ўбачыла вынікі анкетавання «Любімыя творы беларускай літаратуры ХХ стагоддзя», міжволі пачала найперш шукаць імёны менавіта тых пісьменнікаў, чыёй творчасцю захапляюся сама. Магу засведчыць, што наконт лідараў у мяне не ўзнікла ніякага пярэчання. Абсалютна заканамерна, што творы Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, І. Мележа, В. Быкава, І. Шамякіна, У. Караткевіча — вядомыя нам з дзяцінства, засвоеныя яшчэ ў школе, занялі вядучыя пазіцыі. Але засмуціла, што ў лік пісьменнікаў, «любімых рэспандэнтамі», не ўвайшлі некаторыя аўтары, любімыя асабіста мной (да прыкладу, найвыбітнога мастака слова Лукаша Калюгу ўвогуле ніхто не згадаў).

Аднак хачу засяродзіць увагу на бягучым літаратурным працэсе, бо вынікі апытання мне падаліся шмат у чым паказальнымі.

Нельга не заўважыць, што сярод сучасных пісьменнікаў, названых чытачамі «любімымі», не фігуруюць ні «модныя» аўтары, ні вядомыя «тусоўшчыкі», ні «аблаўрэачаныя» прэстыжнымі літаратурнымі прэміямі. Як ні парадаксальна, імёнаў у сучаснай літаратуры — процьма, а вартых твораў — адзінкі.

З прыемнасцю адзначу, што сярод сучасных пісьменнікаў прыкметна вылучаецца «пазіцыя» А. Федарэнкі. Рэспандэнты згадалі не толькі ранейшыя творы аўтара — аповесці «Вёска» і «Нічые», але і «Цішу», якая была надрукавана літаральна нядаўна, і «Афганскую шкатулку», адрасаваную дзецям. З майго пункту гледжання, гэта абсалютна правамерна — талент А. Федарэнкі бясспрэчны. Шчыра радуюся, што творы пісьменніка карыстаюцца ўвагай і любоўю чытачоў.

Не менш прыемна было ўбачыць, што сярод узораў прозы Л. Рублеўскай названы менавіта раман «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» — мне здаецца, гэта адзін з лепшых твораў пісьменніцы. Лічу, што яго абавязкова трэба ўводзіць у школьную праграму.

Гэтаксама паказальна, што сярод твораў Ю. Станкевіча чытачы перадусім адзначылі аповесць «Любіць ноч — права пацукоў» і раман «Шал» (а не «Эрыніі» ці «П'яўку»), а ў А. Бравы — аповесці «Каменданцкі час для ластавак» і «Рай даўно перанаселены» (а не раман «Менада і яе сатыры»). Карацей, не ўсё ў нас так сумна, як часам можа падацца. Чытаюць людзі кнігі, і дастаткова годны выбар робяць!

А напрыканцы хачу заўважыць, што вынікі анкетавання, праведзенага часопісам «Полымя», гэта перадусім добрая нагода для канструктыўнай гаворкі пра ўсю айчынную літаратуру — пра класікаў і сучаснікаў, пра набыткі і перспектывы, пра вучэбныя праграмы і агульныя адукацыйныя стратэгіі. Спадзяюся, што матэрыялы нашага «круглага стала» — толькі пачатак размовы…

**Сяргей КАРБОЎСКІ**

# ВЕРА РЭДЛІХ: ПАЭЗІЯ ПЛЮС ПСІХАЛОГІЯ

Дарагая Вера Паўлаўна… Менавіта так узгадваюць пра яе вучні, усе тыя, хто меў дачыненне да гэтага незвычайнага чалавека, Майстра Тэатра.

Я ганаруся тым, што цеплыня яе таленту накрыла, як крылом, і мяне ў цяпер ужо далёкія 80-я гады мінулага стагоддзя. Народная артыстка Расіі Вера Паўлаўна Рэдліх была педагогам па майстэрстве акцёра і кансультантам у кіраўніка нашага курса Яраслава Аляксеевіча Громава.

Памятаю заняткі па майстэрстве, калі яна вобразна распавядала, што такое сцэнічныя адносіны: «Гэта, дзетачка (яна так усіх ласкава называла. — **С. К.**), калі, уяві сабе, ты ўкалоў пальчык, табе баліць, ці цябе ўдарылі, ты ўспрымаеш удар і адказваеш крыўдзіцелю». Гляджу на свечку, што гарыць, і нібыта вяртаюся ў нашу 24-ю аўдыторыю, дзе мы рэпеціравалі ўрывак з п’есы Аляксея Талстога «Пётр Першы»… Я іграю ролю Аляксея, сына Пятра. Чую голас Веры Паўлаўны: «Ты, дзетачка, запальваеш свечку і пішаш ліст да імператара, а Фроська (Надзя Драмакова. — **С. К.**) адцягвае тваю ўвагу і раздражняе цябе».

Гэта былі незабыўныя ўрокі вучаніцы Станіслаўскага: стварэнне атмасферы спектакля. Я памятаю пра іх усё жыццё і прымяняю на практыцы як рэжысёр тэатра, тэлебачання і радыё.

Прайшло трыццаць гадоў, і лёс звёў мяне ў Маскве з дачкой Веры Паўлаўны — Елізаветай Сяргееўнай Біруковай. Сціплая двухпакаёвая кватэра на ўскраіне сталіцы, нас з Верай Бяловай (спявачка і пляменніца Елізаветы Сяргееўны) сустракае гаспадыня. Пазнаю пранізлівы запытальны позірк Веры Паўлаўны, але адчуваю пэўнае хваляванне ад сустрэчы з незнаёмым чалавекам. Верачка лёгка здымае бар’ер адчужанасці, і я прагна задаю пытанне за пытаннем, імкнуся зразумець, якой была Вера Паўлаўна Рэдліх у вачах яе дачкі: актрысай, рэжысёрам, маці…

— Мама вучылася ў Станіслаўскага. Разам з Алай Канстанцінаўнай Тарасавай — яны былі блізкімі сяброўкамі, увайшлі ў адзін дзень у дзверы студыі МХАТа і ўсё жыццё сябравалі, хаця працавалі ў розных гарадах і тэатрах. Сонечка Галідэй — другая блізкая сяброўка маці — была цікавым чалавекам (пра яе Марына Цвятаева напісала аповесць). Яна прыйшла ў студыю, дзе ўжо вучыліся Тарасава, Хмялёў, Зуева, Прудкін, праз тры месяцы пасля таго, як пачаліся заняткі. Кіраўніком іх курса быў Мчадзелаў, а над усім, канечне ж, стаяў Станіслаўскі. Ён прывёў у студыю маленькую, вялікавокую, чорненькую дзяўчынку. Яна вельмі сарамліва ўвайшла ў гэту каманду. Станіслаўскі сказаў: «Я прашу вас усіх з вялікай увагай аднесціся да гэтай дзяўчынкі, яна каштуе дарагога, паслухайце яе». Паставіў крэсла, Сонечка села і запытала: «Вы будзеце распавядаць ці я буду распавядаць?» Нехта хацеў ёй адказаць, але аказалася, што яна пачала расповед Насценькі з «Белых начэй» Дастаеўскага. Усе былі зачараваны ёю. Яна засталася на курсе. Станіслаўскі вельмі любіў яе, сачыў за поспехамі. Канстанцін Сяргеевіч курыраваў пастаноўку Мчадзелава і іншых педагогаў. Студыйцы ўдзельнічалі ў спектаклі МХАТа «Сіняя птушка» — дзяўчатыігралі душы. Сонечка выбегла ў грымёрную і ўсхвалявана сказала: «Я ведаю, што Канстанцін Сяргеевіч цяпер

тут, ён ува мне расчараваўся, зараз я яму пра гэта скажу і скончу сваё жыццё». Усе кінуліся яе суцяшаць, але яна вырвалася і ўцякла. Яе доўга не было. Потым праз акно дзяўчаты пабачылі, як Сонечка выскачыла на вуліцу, апрануўшы паліто, а Станіслаўскі — за ёй у пінжаку, нешта гаворыць ёй, потым абдымае за плечы, вядзе назад… Сонечка Галідэй засталася ў іх студыі, скончыла яе разам з маці і была вельмі добрай чытальніцай.

*— Елізавета Сяргееўна, а як маці прывіла вам любоў да тэатра?*

— Як усе акцёрскія дзеці я вырасла за кулісамі тэатра і палюбіла яго. Пра адносіны Веры Паўлаўны да тэатра… Яна патрапіла ў новасібірскі «Чырвоны факел» выпадкова. Калі яна закончыла студыю, то паехала працаваць у Яраслаўль і там сустрэлася з Сяргеем Сяргеевічам Біруковым, маім татам. Яны ўдваіх патрапілі ў вандроўны тэатр. У іх быў вагон, дзе жылі. З Яраслаўля даехалі да Уладзівастока, праз Харбін, праехалі ўвесь Далёкі Усход. Яны спыняліся ў вялікіх гарадах, ігралі спектаклі і ехалі далей. А потым, калі даехалі да Уладзівастока, іх тэатр расфарміравалі. Мама і тата тады ўжо былі жанатыя. Выпадкова на адной з вуліц Уладзівастока маці сустрэла Кацю Карнакову. Яна таксама была студыйкай, вельмі здольнай, але досыць хутка сышла з тэатра. Нейкі час была жонкай рэжысёра Аляксея Дзікага, ён яе абажаў і называў мяне «карнаковачкай», бо Каця была маёй хроснай маці ва Уладзівастоку. А Каця яго кінула і выйшла замуж за Леаніда Юр'евіча Брынера. (Тады быў НЭП, ён быў суднабудаўніком і цудоўным чалавекам; Ала Тарасава, пазнаёміўшыся з ім, сказала: «Вось гэта Вяршынін!») Брынер прыняў папу на працу ў сваю кантору, а мама і Каця час ад часу здымаліся ў фільмах на Далёкім Усходзе. Калі скончыўся НЭП, Брынер з Кацей з'ехалі ў Лондан. Брынер сказаў тату на развітанне: «Калі ў вас будуць нейкія непрыемнасці з-за таго, што вы працавалі ў маёй канторы, дашліце фотаздымак дачкі, і мы вас забяром». Непрыемнасці пачаліся адразу пасля ад'езду Брынераў: тату арыштавалі. Мама была вельмі рашучым чалавекам, яна сказала татавым сёстрам: «Усё прадаём і едзем у Маскву, трэба Бірукова ратаваць!»



***Вера Паўлаўна РЭДЛІХ (1894—1992)***

*Актрыса, рэжысёр, педагог. Народная артыстка РСФСР (1956). Нарадзілася ў сяле Мікалаеўка Сумскага павета Харкаўскай губерні (Украіна). У 1914—1917 гадах вучылася ў школе пры МХТ. Працавала актрысай у Маскве, Яраслаўлі, Харбіне, Уладзівастоку, Кастраме, Чыце, Томску. З 1932 года была рэжысёрам, а з 1943 па 1960 гг. галоўным рэжысёрам тэатра «Чырвоны факел» у Новасібірску. У 1960—1965 рэжысёр Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя Максіма Горкага. З 1960-га выкладала ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.*

*Сярод пастаўленых спектакляў: «Дзядзька Ваня» А. П. Чэхава (1940), «Зыкавы» Максіма Горкага (1943), «Чайка» А. П. Чэхава (1952), «Гамлет» У. Шэкспіра (1952), «Тры сястры» А. П. Чэхава (1960), «Сяло Сцяпанчыкава» паводле Ф. М. Дастаеўскага (1956), «Беспасажніца» А. М. Астроўскага, «Антоній і Клеапатра» У. Шэкспіра (1964) і інш.*

*Пахавана на Усходніх могілках г. Мінска побач з мужам, народным артыстам РСФСР Сяргеем Біруковым.*



*Вера Рэдліх у «Чырвоным факеле». 1950-я гг.*

Генрых Ягода родам з Ніжняга Ноўгарада, як і тата. А татавы сёстры былі неверагодныя прыгажуні, дочкі прадвадзіцеля дваранства. Ягода сустракаўся з імі на балах і закахаўся ў адну з іх. Варвара Сяргееўна (татава сястра) і мама пайшлі дабівацца сустрэчы з Ягодам. Канечне, гэта было неверагодна складана, але ў іх атрымалася. Ён прыняў іх і сказаў: «Яшчэ не позна, я пастараюся вам дапамагчы!» І літаральна праз тры дні званок з Уладзівастока: «Выязджаю, сустракайце цягніком». Тата прыехаў у Маскву, яны з мамай пайшлі на акцёрскую біржу, спрабуючы ўладкавацца ў які-небудзь тэатр (мне тады было гадоў шэсцьсем), і сустрэлі там рэжысёра Фёдара Літвінава, які набіраў трупу ў Новасібірск. Так яны патрапілі ў «Чырвоны факел». У выніку там сабраліся акцёры высокага класа.

— *Колькі ў гэтым тэатры прапрацавала Вера Паўлаўна?*

— Больш за трыццаць гадоў: з іх 18 яна была галоўным рэжысёрам. Яна шмат зрабіла для таго, каб у тэатры панавала сямейная атмасфера; і калі яны прыехалі ў Маскву на першыя гастролі, то адзін з крытыкаў сказаў, паглядзеўшы «Зыкавых»: «Мы тут пабачылі Тэатр сяброў, Тэатр аднадумцаў». Тое, што Веры Паўлаўне ўдалося стварыць чароўную атмасферу, сыграла грандыёзную ролю ў «Чырвоным факеле». Некаторыя гаварылі: «Вера Паўлаўна, вы занадта добрая!» А можа, гэта якраз і аб'ядноўвала калектыў? Мама гаварыла, што ніколі не была добранькай. Аднак слова «дабрыня» заўсёды было галоўным у яе жыцці. Да яе не падышоў ніводзін чалавек, каб нешта шапнуць, як бывае ў тэатры, на вуха наконт другога акцёра. Ніколі. Таму што ўсе ведалі, што яна слухаць не стане, і нічога добрага для шаптуна не будзе.

Вялікую ўвагу яна надавала вучобе акцёраў: усе займаліся ў тэатры голасам, сцэнічным рухам, танцамі, рытмікай. Усе акцёры, нягледзячы на ўзрост і званні, займаліся, і гэта таксама яднала і трымала. Дух студэнцтва панаваў у «Чырвоным факеле»! Новы год усе разам сустракалі ў тэатры.

Вера Паўлаўна была нецярпімай да хамства. Нейкі час трымалася мода на гастралёраў. Для ўдзелу ў дзесяці спектаклях «Жывога трупа» быў запрошаны вядомы акцёр Мікалай Сіманаў — ён сыграў у кіно ролю Пятра Першага. Акцёр з раніцы прыехаў у тэатр на цягніку, усе сабраліся на рэпетыцыю. Сіманаў, які іграў Федзю Пратасава, сказаў, што рэпеціраваць будзем не ўсе сцэны, толькі цыганскую. Сядзіць ён на банкетцы на авансцэне і пытаецца: «Вера Паўлаўна, з якога боку ў вас дзверы?» — «Злева». — «Я прывык выходзіць справа». — «Добра, прарэжам справа». Рэпеціравалі, рэпеціравалі… Маша (актрыса Факетчанка), выходзіць і абдымае яго за плечы. Яна гаворыць, ён маўчыць… У яе ўжо вочы

спалоханыя, а Сіманаў раптам кажа: «Вера Паўлаўна! А гэтая Маша і на спектаклі будзе да мяне, як конь падыходзіць?» У актрысы слёзы пакаціліся градам. Поўнае маўчанне ў зале, дзе сядзела шмат людзей: глядзелі рэпетыцыю. Вера Паўлаўна парушыла маўчанне і громка сказала: «Рэпетыцыя скончана. У нас акцёры вельмі прафесіянальныя, яны будуць іграць ва ўсіх вашых мізансцэнах, усё тое, што вам належыць у гэтым спектаклі. Рэпетыцыя скончана. Да вечара!» Усе як сядзелі так і сядзяць, ніхто не сыходзіць… Сіманаў доўга маўчаў, потым пабег у залу, кінуўся на калені, стаў цалаваць рукі маці: «Вера Паўлаўна, даруйце! Я проста стаміўся — усю ноч не спаў у цягніку. Даруйце! Я па-хамску сябе павёў. Давайце працягнем рэпетыцыю, я выйду з левага боку, я ж вопытны акцёр!»

Вось дабрыня Веры Паўлаўны, яна не сварылася, не ўчыняла скандалу.

*— А хто з акцёраў «Чырвонага факела» стаў знакамітым на ўсю краіну?*

— Аляксей Глазырын. Мама яго вельмі любіла, шмат што даравала. Скрупулёзна працавала з ім над роляй у нас дома. Гэта быў адзін з яе метадаў працы над роляй: яна патрабавала, каб акцёры вучылі ролі, не ўткнуўшыся носам у тэкст (ад гэтага церпяць зносіны герояў на сцэне). Правінцыйны тэатр, а было шмат народных артыстаў, добрых артыстаў.

Серафім Ілавайскі, Мікалай Міхайлаў ігралі ў яе спектаклі «Гамлет». Гэта быў неверагодны спектакль. Паэзія плюс псіхалогія — гэта яе формула тэатра. Канечне, найбольшую вядомасць сярод яе вучняў па «Чырвоным факеле» займеў Яўген Сямёнавіч Мацвееў, выдатны акцёр і кінарэжысёр. Ён незабыўна іграў Улдыса ў спектаклі «Вей, ветрык!».

*— А якія спектаклі галоўныя для Веры Паўлаўны ў Новасібірску, як вы лічыце?*

— Гэта «Зыкавы», «Беспасажніца», «Жывы труп», «Гамлет» і, канечне, «Фельдмаршал Кутузаў» Уладзіміра Салаўёва. У гэтым спектаклі былі цікавыя акцёрскія работы Напалеона і Кутузава, эфектнае мастацкае рашэнне.

*— Елізавета Сяргееўна, як сустрэлі Веру Паўлаўну ў Мінску, калі яна прыйшла ў Рускі тэатр?*

— З «Чырвонага факела» яна сышла з-за дырэктара, адносіны ў іх не склаліся. У гэты час маці ставіла ў Чэхаславакіі спектакль «Тры сястры». Рэжысёр Энвер Бейбутаў клікаў у Растоў, а мы паехалі у Мінск — паглядзець. Я, мой муж, ваенны будаўнік (яму патрэбна было перавесціся) і мой тата. Уладкавалі нас у гасцініцы, паглядзелі мы адзін спектакль, другі, трэці… Тэатр нам спадабаўся, прымалі цёпла. А Растоў не прыйшоўся нам даспадобы. Мы прыехалі ў Мінск. Вера Паўлаўна адразу пайшла выкладаць у Тэатральна-мастацкі інстытут і была мастацкім кіраўніком Рускага тэатра, галоўным рэжысёрам якога быў Міхаіл Співак. Працаваць з ім было цяжка, паразумецца немажліва. Першы спектакль, які яна паставіла, — «Дванаццатая гадзіна» (галоўную ролю выконвала Аляксандра Клімава — цудоўная актрыса), спектакль прагучаў вельмі добра. Потым маці ставіла «Беспасажніцу», зноў з Клімавай. А найлепш, мабыць, удаўся спектакль «Антоній і Клеапатра» з Клімавай і Расціславам Янкоўскім…

Марыла паставіць і спектакль «Фельдмаршал Кутузаў», але не было патрэбных мужчынскіх акцёрскіх фактур — усё ж такі французскі і рускі генералітэт. Яна заўсёды працавала з вялікай аддачай, а потым прыйшоў новы дырэктар… Я атрымоўвала ў тэатры свой і мамін заробак. Прыходжу, пытаюся, а мне адказваюць, што ў Веры Паўлаўны заробку няма: яна звольнена з тэатра. Я пытаюся: як? Вось загад дырэктара: звольнена. Я падумала, якое шчасце, што не мама атрымоўвала заробак у гэты раз. Мы з маёй дачкой Наташай сталі думаць, што рабіць, і вырашылі яе пераканаць, што ёй нельга працаваць па стане здароўя і ў тэатры, і ў інстытуце: «Табе трэба выбіраць! Ты больш патрэбная ў інстытуце». Яна напісала заяву. Вера Паўлаўна так і памёрла, не ведаючы, што яе звольнілі з тэатра. Для яе гэта было б неверагодным узрушэннем.

*— Так, гэта жахліва. А хто быў любімым вучнем Веры Паўлаўны ў інстытуце?*

— Яна вельмі любіла Валерыя Шушкевіча, ён іграў князя Мышкіна ў «Ідыёце».

*— І з гэтым спектаклем курс Веры Паўлаўны паехаў у Бабруйск, каб стварыць новы тэатр. Вера Паўлаўна сачыла за поспехамі сваіх выхаванцаў, за тым, як яны развіваюцца. Неспрактыкаваныя маладыя артысты прыехалі ў незнаёмы горад. Прыехалі, паказалі тры спектаклі. Але ўмоў ім не стварылі ніякіх, кватэр у іх не было. Дагэтуль там быў толькі музычны тэатр, які стаў асновай тэатра музычнай камедыі. Сутыкнуліся дзве трупы: старая і новая, выхаваная Верай Паўлаўнай у традыцыях псіхалагічнага тэатра. Я ведаю, што у Бабруйску і сёння ў прыярытэце музычна-драматычны спектакль. Гэта завядзёнка, якую цяжка змяніць…*

— Мажліва, гэта і правільна для Бабруйска.

*— Я зараз пакажу вам фотаздымак Леаніда Кучко, адзінага выпускніка Веры Паўлаўны 1970 года, які застаўся верным бабруйскаму тэатру, а ўвесь выпуск раз'ехаўся (у асноўным вярнуліся ў Мінск). А вось Жанна Зарэмба, якая дзякуючы даверу Веры Паўлаўны сыграла галоўную ролю ў спектаклі «Дом Бернарды Альбы». Спектакль адкрыў невядомыя грані таленту маладой артысткі. Негледзячы на тое, што кіраўнік курса Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў абураўся самаўпраўствам, кафедра і студэнты пабачылі бліскучую акцёрскую работу Зарэмбы, якая ўзгадвае пра гэты выпадак са сваёй творчай біяграфіі з удзячнасцю: «Дзякую! Вера Паўлаўна Рэдліх дапамагла!» Дарэчы, Елізавета Сяргееўна, а як склаўся ваш акцёрскі лёс?*

— Іграла ў «Чырвоным факеле», Рускім тэатры. Увогуле, я ніколі не была па-сапраўднаму добрай актрысай. Як і ў многіх акцёраў, ёсць нейкія ўдалыя ролі. У мяне за ўсё жыццё іх тры, гэта: Ірына ў «Трох сёстрах», Меля — «Мараль пані Дульскай» (хворая дзяўчынка Меля — гэтая роля мне вельмі ўдалася). Яшчэ была французская п'еса «Шосты паверх», дзе я іграла галоўную ролю. Ёсць у мяне вельмі цікавы фотаздымак: у «Антоніі і Клеапатры» я іграла жонку Антонія. Маленькі эпізод, але я вельмі любіла гэтую ролю… Вось тата мой быў акцёрам, гэта да! Фама Апіскін ў «Сяле Сцяпанчыкава» Дастаеўскага. Які ён быў цудоўны Дорн у «Чайцы»! У таты пыталіся: «Як вы працуеце над роляй?» «Напэўна, няправільна, — адказваў ён. — Для мяне вельмі важна ўбачыць знешні воблік свайго героя. Калі я апрануў халат, падышоў да люстэрка і крыху прысеў…» І ён ўваходзіў у вобразе Фамы на напаўсагнутых нагах. Знайшоў зерне ролі!

*— А у чым творчы метад Веры Паўлаўны?*

— У яе рэжысуры была глыбокая прастата. Са школы МХАТ Вера Паўлаўна прыйшла ў «Чырвоны факел» асістэнтам рэжысёра, і першы спектакль, які яна паставіла, — «Тарцюф». Яна не любіла ўзгадваць пра гэту пастаноўку, называла яе фармалістычнай. Потым вярнулася да псіхалагічнай праўды ў сваіх спектаклях. Галоўнае для яе было стварыць атмасферу спектакля, і я з радасцю думаю пра тое, што спадчына Веры Паўлаўны неацэнная і будзе адкрывацца кожным новым тэатральным пакаленнем. Тое зерне праўды, якое яна пасеяла ў душы сваіх вучняў, штодня прарастае новымі спектаклямі, прэм'ерамі, пакутлівымі рэпетыцыямі, за якія аддаецца ўтрая больш усхваляванымі сэрцамі гледачоў.

***Фотаздымкі прадастаўлены***
***Новасібірскім дзяржаўным акадэмічным тэатрам «Чырвоны факел».***

**Вольга ЛЫНША**

# ХАРАКТАР ТЭКСТАВАЙ ПРАСТОРЫ Ў ВАЕННАЙ ПРОЗЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Творчасць Васіля Быкава традыцыйна разглядаецца ў рэчышчы рэалістычнай мастацкай літаратуры. Пры гэтым асобна агаворваецца пра пэўную эмацыянальную танальнасць, рамантычнае напаўненне яго аповесці «Альпійская балада». У творах пазнейшага часу звяртаецца ўвага на экзістэнцыянальнае напаўненне яго прозы. У прысвечаных тэме вайны вылучаюцца тэксты, тэматычна звязаныя з партызанскім рухам. Адпаведна гэтыя творы залічваюць да так званага партызанскага цыкла. Мяркуем, што падзел гэты вельмі ўмоўны. У прыватнасці, В. Быкаў як мастак-рэаліст не адмаўляўся ад рамантычных прыёмаў не толькі ў «Альпійскай баладзе», але таленавіта спалучаў рэалістычныя фарбы з рамантычнымі, узнаўляючы рэчаіснасць і ў іншых сваіх творах. За дамінантнасцю антымілітарысцкай тэматыкі даследчыкі да гэтага часу не разгледзелі яшчэ адну важную тэму — тэму беларускай вёскі, хаця такі ўдумлівы літаратуразнавец, як Алесь Адамовіч, яшчэ ў 1970-я гг. заклікаў вывучаць пісьменніка «ў сувязі з народнай глебай, якая жывіць яго творчасць».

У рускай літаратуры творы, звязаныя з даследаваннем праблем нацыянальнага быцця, атрымалі выразную назву «деревенской прозы». У гэтым кірунку працавалі такія выдатныя майстры слова, як В. Астаф'еў, В. Бялоў, У. Крупін, В. Распуцін, У. Салаухін і інш. Нацыянальны характар беларусаў даследавалі беларускія празаікі В. Адамчык, І. Пташнікаў, І. Чыгрынаў, В. Карамазаў, В. Казько і інш. В. Бароўка, аналізуючы этнаграфічна-бытавы фон у прозе В. Быкава, слушна заўважае: «У партызанскіх аповесцях пісьменніка («Круглянскі мост», «Сотнікаў», «Пайсці і не вярнуцца») бытавы фон тыпізуе абставіны, выступае сродкам псіхалагічнай матывацыі ўчынкаў персанажаў» [1, с. 59]. У той жа час уважлівае прачытанне партызанскага цыкла твораў В. Быкава дазваляе таксама выявіць балючы нерв пісьменніка адносна жыцця беларускай вёскі, беларускай нацыі ўвогуле.

Такія нацыі, як беларуская, украінская, польская, якія ў сваім развіцці некалькі са спазненнем выйшлі на шлях эканамічных пераўтварэнняў, прынята лічыць вяскова-аграрнымі. Паказальна, што ў Польшы ўжо на пачатку XXI ст. было праведзена сур'ёзнае сацыялагічнае даследаванне. Вучоныя розных гуманітарных галін праводзілі апытванне, анкетаванне, іншыя формы зрэзу, у выніку чаго была зроблена наступная высновa: «ідэнтычнасць палякаў пачатку III тысячагоддзя можна назваць ідэнтычнасцю сялянскай» [3, с. 52]. Пацвярджаецца думка знакамітага Генрыка Сянкевіча: «У гербе кожнага паляка павінен быць выпісаны плуг!»

Ураджэнец, гадаванец беларускай вёскі на Віцебшчыне Васіль Быкаў паспеў адчуць на сабе праблемы вяскоўцаў даваеннага часу. Паказваючы ў творах яе жыццё ў час акупацыі, ён задумваўся над перспектывамі вёскі, а, значыць, і будучыні нацыі. Вёска спазнала ўсе формы руйнацыі, звязаныя з савецкімі навацыямі перадваеннага часу. Вайна яшчэ больш жорстка нішчыла яе фізічна і маральна. І гэты татальны негатыўны працэс не дабаўляў аптымізму пісьменніку-аналітыку. Аднак і песімістам Быкаў не быў. Даследуючы адмоўнае ў паводзінах людзей,

ён заўсёды акцэнтаваў увагу на вядучых станоўчых рысах характару беларусаў, на тых, на якіх трымаецца ментальнасць народа, што складаюць яго духоўнае кагнітыўна-псіхалагічнае ядро.

Глыбіня распрацоўкі вясковых матываў у прозе В. Быкава дазваляе, на нашу думку, асобна вылучыць наступны аспект даследавання: «Вёска як этнакультурны кантэкст ваеннай праблематыкі ў творчасці Васіля Быкава». Зразумела, вёска — паняцце шырокае, зборнае. Гэта і сам чалавек з яго «прыродным характарам», асаблівасцямі светабачання і духоўнага свету, адметнасцямі ладу жыцця, гэта і спецыфічныя формы жыццядзейнасці чалавека. Логікай жыццёвай рэальнасці апраўданы той факт, што пісьменнік не ўкладвае характарыстыку сваіх герояў-вяскоўцаў у іх ўласныя вусны. Як пішуць навукоўцы, «маўклівасць, скрытнасць з'яўляюцца вельмі характэрнымі, сутнаснымі рысамі сялянскай культуры. Іерархія каштоўнасцей тут не выяўляецца вонкава, не ўсё можа быць вербалізаваным, застаецца шмат нявыказанага неўсвядомленага зместу» [13, с. 25]. Менавіта таму В. Быкаў шукае іншыя формы і спосабы атэстацыі беларусаў-вяскоўцаў, перакладваючы вырашэнне гэтай задачы на самога сябе, скіроўваючы на высвятленне сутнасці нацыянальнага характару сюжэтна-структурныя падыходы.

Сучаснае літаратуразнаўства прапануе даследаваць у мастацкім творы ўласна тэкст і мікратэкст, адрозніваць у творах дынаміку асобных тэкставых складнікаў. Пры гэтым тэкстам лічацца як вялікія па аб'ёме закончаныя творы (аповесць, раман), так і асобныя іх фрагменты. Прадметам філалагічных даследаванняў могуць станавіцца: сюжэтна-наратыўная структура тэксту, маўленчы дыскурс пісьменства, прадметна-вобразны, ідэйна-выяўленчы аспекты. Сам тэкст можа складацца з асноўных і другасных элементаў, якія пры добрым мастацкім выкананні маюць выхад у шырэйшую прастору культуры. Як лічыць М. Бахцін, семантыка тэксту скіравана на «дыялагічныя адносіны» з разнастайнымі суб'ектамі яго ўспрыняцця. «Даследаванне тэксту адбываецца на стыку навукі пра тлумачэнне (напрыклад, герменеўтыка), літаратуразнаўства і мавазнаўства. Структура мастацкага тэксту асабліва складаная, поліфункцыянальная, шматпланавая, ёй уласцівая іерархічнасць кампанентаў твора, з'яднаных аўтарам, які напаўняе яе living рознымі ідэямі, канцэпцыямі, сэнсамі. Межы тэксту залежаць ад прыстасаванасці камунікатыўнага поля да элементаў кампазіцыі: абзацаў, раздзелаў, загалоўкаў і інш.» [10; т. 2, с. 466]. Паводле Ю. Лотмана, асобныя элементы мастацкага тэксту пры выхадзе ў культурную прастору могуць адмяжоўвацца ад аўтарскага першатэксту і спрыяюць узнікненню ў чытача, у выніку сваёй «ісціннасці», сапраўднасці, «эфекта расшыранай інфармацыі».

А. Адамовіч, Ю. Пшыркоў і некаторыя іншыя даследчыкі лічылі, што ваенныя аповесці В. Быкава можна разглядаць як цэласную эпапею народнага жыцця. «Быкаўская мастацкая практыка не адмяняе і не перакрэслівае сапраўдную эпапейнасць, калі, вядома, мець на ўвазе перш за ўсё не фармальны бок справы, а маштабнасць у асэнсаванні рэчаіснасці» [2, с. 17], — сцвярджае Д. Бугаёў. На выяўленне глыбіні, праўдзівасці паказу народнага жыцця спрацоўвае і дынаміка тэкставай прасторы ў антымілітарысцкай прозе В. Быкава. Улічваючы спецыфіку почырку пісьменніка, звязаную з ашчаднасцю экстэр'ерных апісанняў пры паказе баёў, калі падзея лакалізуецца ў часе і прасторы, увядзенне мікратэксту ў тэксты, прысвечаныя франтавым падзеям, не магло быць апраўдана ні на жыццёвым, ні на мастацкім узроўнях. У іншых творах пісьменніка, так ці іначай звязаных з праблемамі вайны, у тым ліку і ў яго партызанскім цыкле, назіраецца актыўнае ўвядзенне матэрыялу, які ўспрымаецца як метанарацыя. Гэты матэрыял насычаны спецыяльнымі ведамі, В. Быкаў укладае ў яго дадатковую канцэпцыю, метанаратыў у такіх выпадках можа асацыявацца з міфам. Пры гэтым варта ўлічваць наступныя меркаванні тэарэтыкаў: «Міф сцвярджае мінулае, наратыў скіраваны ў сучаснае і будучыню, дзе сапраўдная ідэя мусіць абавязкова рэалізавацца» [10; т. 1, с. 33].

Дзейнасць ваенных на лініі фронту і існаванне людзей на акупаванай тэрыторыі пазначаны аднолькава трагічнымі абставінамі. Тэксты ўсіх ваенных твораў ідэйна аб'яднаны. У той жа час нельга не заўважыць: пры іх мастацкім асэнсаванні аўтар абапіраецца на адрозныя акалічнасці, што спрыяе і пашырэнню палітры мастацкіх сродкаў. Найперш нас цікавяць мастакоўскія прыёмы, скіраваныя на паглыбленую перадачу этнакультурнай атмасферы. Знешне яны зусім не кідкія. В. Быкаў, здаецца, спецыяльна не вылучае беларускай падзейнасці сваіх тэкстаў. Але ўважлівае мэтанакіраванае іх прачытанне сведчыць, што ён імкнуўся насычаць свае творы нацыянальным каларытам. Амаль усе яны змяшчаюць часам сціплыя, у іншых выпадках больш прасторныя, але заўсёды дакладныя апісанні краявідаў, што ўказваюць чытачу на адметнасць беларускай прыроды, беларускага ландшафту. Пісьменнік робіць украпленні ў тэксты фальклорнага матэрыялу, уводзіць у простую мову, маўленне сваіх герояў прымаўкі, прыказкі, знаходзім у яго і выкарыстанне народных прыкмет, забабонаў. У творах, дзе ўзнята не толькі ваенная праблематыка, але гучыць яшчэ і тэма вёскі, абавязкова падаецца характарыстыка побыту селяніна, найперш хатняга жытла, падворка, прылад працы. Мастацка-выяўленчыя магчымасці этнакультурнага матэрыялу падмацаваны майстэрствам падначальваць яго задачам псіхалагічнай характарыстыкі персанажаў.

Лес як архетып беларускай культуры з'яўляецца ці не галоўным персанажам твораў В. Быкава. Пісьменнік узнаўляе ў выразных дэталях выявы лясной расліннасці бясконцую колькасць разоў. Узятая наўскідку цытата сведчыць, як глыбока ведаў і любіў ён родную прыроду. «Даніла, які тут ведаў усе закуткі, неяк дзіўна круціў: то ішлі алешнікам, то, зрабіўшы дугу, улезлі ў роў, выбраліся на яго круты бок і зашыліся ў дробненькі, але густы беразняк, нібы апырсканы зялёнай першых лісточкаў. Потым хуценька перабеглі пыльны ўзараны лапік пашы і ўвайшлі ў поўны смалістага паху сасоннік» [4, с. 372]. Малюнкі прыроднага наваколля — гэта і ландшафтныя асаблівасці, і рознага гатунку дрэвы, і кустоўе, і травяністы покрыў. «Лес быў саюзнік, ахоўнік. Лес быў абаронца» [4, с. 363], — гэтае выказванне аўтра з аповесці «Круглянскі мост» гучыць як абагульненне яго шматлікіх метанаратываў, звязаных з ідэяй беларускасці. «Лес — гэта наша ўсё!» Такая канцэпцыя спрадвеку ўваходзіла ў свядомасць беларусаў, замацаваўшыся на ўзроўні народнай ментальнасці.

Як своеасаблівы метанаратыў могуць успрымацца старонкі, дзе гучыць філасофія асэнсавання Палесся. Урочышча, грэбля, балота… Балота — гэта бяда, гэта і паратунак, — сцвярджае В. Быкаў. Апісанне аўтарам балот, багны, дрыгвы, рознага стану вады, грунту, флоры балотнай мясцовасці выклікае вялікае здзіўленне, абумоўленае і майстэрствам пісьменніка, і выключна шырокімі навуковымі ведамі яго. Відавочна, адпаведныя старонкі тэкстаў Быкава могуць мець свой самастойны, ізаляваны ад мастацкай структуры твораў выхад у «шырокую культуру». Такія мікратэксты ўспрымаюцца як старонкі энцыклапедыі беларускага краю, яны прыносяць не толькт эстэтычную асалоду, яны нясуць безумоўную «інфармацыйную карысць» чытачу, далучанаму да пэўных колаў галіновых спецыялістаў.

Васіль Быкаў як моўнік-энцыклапедыст карыстаецца адпаведнымі лексічнымі пластамі, што знаходзіць выяўленне ў звароце да прафесійнай лексікі не толькі з прыродазнаўства, але і народнага будаўніцтва. Вясковая архітэктура — яшчэ адна сфера, што знайшла выдатнае адлюстраванне ў творах В. Быкава. Зразумела, ён не бачыў самамэты ў дэманстрацыі сваіх ведаў у гэтай галіне. Вясковая хата ў падачы пісьменніка заўсёды нясе філасофскую нагрузку, што абапіралася на сакральна-практычнае разуменне хаты як сімвала жыцця. Як адзначаюць даследчыкі, «кожная эпоха прыўносіла сваё ў архітэктуру жытла чалавека, аднак архаічныя элементы народнага густу, закладзеныя яшчэ ў дагістарычны час, спрыялі і працягваюць спрыяць выпрацоўцы мастацкага пачуцця этнасу, нацыі» [7, с. 75].

Зыходзячы з разумення таго, што хата — гэта і міфічны, і практычна-магічны абярэг, В. Быкаў атаясамліваў вобраз роднай сялібы з вобразам роднага краю, роднай Беларусі. Вельмі часта гучыць у яго тэма вёскі, знішчанай фашыстамі. Ужо ў першым творы, які адносяць да партызанскага цыкла, у аповесці «Воўчая зграя» паўстае жудасная карціна разбуранага гнязда чалавека. «Ляўчук чакаў убачыць, якія будынкі ці, можа, каміны на саламяных стрэхах — звыклыя азнакі вёскі, — але ён толькі пазнаў яе колішнія тут сляды — некалькі высокіх дрэў, што стаялі воддаль за жытлом. Вёскі не было. Падышоўшы бліжэй, яны ўбачылі за ўрослымі ў пустазелле платамі абкураныя рэшткі печаў, дзе-нідзе недагарэлыя, абвугленыя вуглы, раскочанае бярвенне ў зарослых травой падворках. Ад многіх будынкаў засталося толькі каменне падмуркаў» [4, с. 55].

Хаты спаленыя. Таму ў падзейнасці аповесці «Воўчая зграя» вялікую ролю адыгрывае вясковы хлеў, дзе знайшлі прытулак некалькі партызанаў. Тая акалічнасць, што ў хляве на саломе радыстка Клава нарадзіла дзіця, выклікае асацыяцыю з гісторыяй Божага нараджэння. Навокал вайна, аднак з’яўляецца на свет новы чалавек, якому даецца імя Віктар. Віктар — пераможца!

Пісьменнік ведае ў дэталях асаблівасці будаўніцтва гумна, тока, асеці і выкарыстоўвае гэта пры апісанні абароны партызанскай групы ў час яе абстрэлу ворагам. Так, у прыватнасці, пакрыты саломаю дах тока загарэўся ад нямецкіх стрэлаў. Тое ж, што столь асеці была падсыпана зямлёю, на пэўны час затрымала пашырэнне агню, дазволіла вырвацца з пекла радыстцы з дзіцем.

Асобныя дэталі вясковых збудаванняў можна ўспрымаць як метанаратыўны знак. Яны працуюць на ўвыразненне метанаратыву, бо аўтар падае іх у кантэксце народнай міфатворчасці, народнага самаўсведамлення. З асаблівай выразнасцю В. Быкаў карыстаўся з крыніц нарадазнаўства пры напісанні аповесці «Бліндаж». У спаленай паліцаямі вёсцы гераіня твора Серафімка імкнецца выратаваць жыццё тым, каму пашэнціла застацца ў жывых і каго яна схавала ад варожага вока ў бліндажы. Як справядліва адзначае Т. Кабржыцкая, «канцэпцыя Беларусі ў творы «Бліндаж» падаецца праз матыў хрэснай дарогі паміж Усходам і Захадам. Філасофія аповесці паглыбляецца яшчэ і праз свядомае звяртанне пісьменніка да нацыянальнай этнакультурнай атрыбутыкі. Тканіна твора насычаная вобразамі-сімваламі з народнай міфалогіі — гэта хата, печ, парог, жорны» [9, с. 3].

Ці можа клопат спагадлівай, чуйнай да чужога гора вяскоўкі Серафімкі мець добрыя вынікі? Надзея на станоўчае бачанне будучыні абумоўлена наступнымі акалічнасцямі. Пісьменнік паказвае, што ўзнаўленне жыцця на прынцыпах гуманізму магчыма, хаця і патрабуе вялікіх, самаахвярных намаганняў. Бо не да канца яшчэ знішчана жытло самой Серафімкі. Абгарэла страха, гарышча будыніны, зруйнаваны комін, аднак застаўся ніз, а яна ж зусім нядаўна памяняла падрубы ў хаце. Не пашанцавала і суседзям. І ўсё-такі там на падворку пасярэдзіне пагарэлішча чарнела яшчэ не разваленая печ, застаўся цэлым парог, не згарэў да канца і куфар з зернем. Серафімка ашчадна сабрала жытняе зерне, адшукала жорны. І ўзрадавалася. Бо паверыла, што зможа выратаваць жыццё мужчын, якія засталіся ў траншэі. Яна змеле зерне, спячэ хлеб, зварыць зацірку… Хата, печ, парог, жорны — галоўныя сімвалы жыцця. І звязаны яны, зразумела, з сацыяльна-побытавымі функцыямі менавіта вёскі. Жыццё ж напаўняецца маральнымі прынцыпамі, носьбітамі якіх з’яўляюцца такія шчырыя і высакародныя вясковыя жанчыны, як Серафімка з «Бліндажа», як Сцепаніда са «Знака бяды».

У аповесці «Знак бяды» В. Быкаў асабліва падрабязна апісвае здабыткі беларускай народнай культуры: «У куце туліліся нізкія старасвецкія жорны з тонкімі, сцёртымі ўжо камянямі, густа абсыпаныя шэрым мучным пылам. Тут пыліліся і Сцепанідзіна прасніца, калаўрот, святлеў асінавым бокам навейшы кубёлак з іржавымі абручамі, стаялі большай часткай пустыя кадкі; пры сцяне састаўленыя парадкам некалькі год чакалі сваёй працы Сцепанідзіны кросны з бёрдамі, нітамі і навоямі…» [6, с. 39]. Гэты метанаратыў, вылучаны ў асобны тэкст, падказвае

некалькі яго прачытанняў. З аднаго боку, у ім месціцца інфармацыя, датычная побыту беларускай вёскі, яе спрадвечнага ладу жыццядзейнасці, скіраванай на «натуральную гаспадарку», на самазабеспячэнне. З другога, тэкст дапаўняе характарыстыку творчых здольнасцей Сцепаніды. З трэцяга, пісьменнік, працуючы над сваімі творамі ў канцы XX ст., адчувае тыя пагрозы, што нясуць чалавецтву працэсы глабалізацыі, індустрыялізацыі, разумее тую адказнасць, якая стаіць перад мастацкай літаратурай: выконваць функцыю і прапаганды народных каштоўнасцей, і «кансервацыі нацыянальнай старажытнасці».

Паказальна, што беларускую ментальнасць В. Быкаў часта раскрывае пры паказе асноўных рыс нацыянальнага характару праз жаночыя вобразы. Гэта і згаданая працавітая, сціплая і чуйная Серафімка з «Бліндажа». І сумленная, непакорная, споўненая пачуцця чалавечай годнасці Сцепаніда са «Знака бяды». Гэта і маці ў апавяданні «Незагойная рана», якая, не перастаючы чакаць сына з вайны, бярэ на сябе абавязак падтрымліваць памяць пра ўсіх воінаў, нават зусім не знаёмых ёй, загінулых смерцю мужных, абараняючы родную зямлю. З думкай пра нацыянальны характар выпісаны і вобраз Зоські ў аповесці «Пайсці і не вярнуцца». Ён падаецца як па кантрасце з такой ганебнай з'явай, як здрада. Праз вобраз Зоські таксама праходзяць адзначаныя раней высакародныя рысы вернасці роднаму краю, смеласць і свабодалюбства, давер да чалавека, шчырасць у пачуццях, жаночая спагада…

Як своеасаблівыя тэксты ў тэксце ўспрымаюцца апісанні снабачанняў герояў. Пры гэтым важна адзначыць, што такі прыём дазваляе выявіць паглыблены псіхалагізм аўтарскага раскрыцця характараў. Вядома ж, мастацкае мысленне пісьменніка знаходзіцца ў адпаведнасці з жыццёвай праўдай: на фронце, у час баёў такая фізічная з'ява, як сон, паўнавартасна не магла знайсці сваё выяўленне. Да гэтых прыёмаў В. Быкаў шырока звяртаецца ў ваеннай прозе, звязанай з распрацоўкай тэмы вёскі. Падкрэслім таксама, што майстэрства яго ў звароце да прыёмаў снабачання раскрываецца не толькі праз паглыблены аналіз псіхалогіі герояў, іх учынкаў і думак. Пісьменнік застаецца верным сваёй канцэпцыі нарадазнаўства. Яго індывідуальна-аўтарскія падыходы да метанаратыўных частак твора спалучаюць у сабе і псіхалагічны, і этнакультурны аспекты.

Снабачанне — гэта яскравыя візуальныя вобразы, суб'ектыўна перажытыя ўяўленні, што ўзнікаюць у чалавека ў час так званага «хуткага сну». «Сюжэты снабачанняў як правіла адлюстроўваюць у сімвалічнай форме асноўныя матывы і перакананні індывідуума, фрагменты яго душэўнай дзейнасці» [10; т. 2, с. 414]. Над вызначэннем прыроды снабачанняў шмат працавалі З. Фрэйд, К. Г. Юнг. Філосаф-псіхааналітык З. Фрэйд называў снабачанні «царскім шляхам да пазнання пазасвядомага ў чалавеку». Сон разглядаўся З. Фрэйдам як феномен падсвядомага. К. Г. Юнг падкрэсліў, што сон — выяўленне «натуральнага чалавека», адпаведна, сны, як прыродныя з'явы, не змяшчаюць у сабе ніякай няпраўды, нічога не дэфармуючы і не руйнуючы, выконваюць толькі ролю кампенсацыі. Сон раскрывае неўсвядомленыя яшчэ чалавекам аспекты ўласнага псіхічнага жыцця, выяўляе яшчэ не да канца раскрытыя жыццёвыя канфліктныя сітуацыі.

З гісторыі сусветнай літаратуры вядома, што актыўны зварот да прыёмаў снабачання распачаўся яшчэ ў час рамантызму. Сёння як сродак псіхалагізацыі персанажаў, дзейных асоб гэтыя прыёмы выкарыстоўваюцца пісьменнікамі-рэалістамі і постмадэрністамі. Існуе меркаванне, што ўвядзенне снабачанняў у аўтарскі твор спрыяе ўзнікненню «свабоднай стыхіі аповеду» [11, с. 8]. Што датычыць творчасці В. Быкава, то ў яго згаданыя прыёмы, як і іншыя, заўсёды падпарадкаваны логацэнтрычнаму крэда пісьменніка. Разглядаючы ягоныя апісанні сну як асобныя тэксты, заўважым у іх прыкметы метанаратыву, канцэптуальна звязанага з ідэяй тутэйшасці. Мы пагаджаемся са спецыялістамі ў галіне навуковага асэнсавання прыроды сну чалавека: тыповых ключоў расшыфроўкі снабачанняў не існуе. І кожны выпадак мастацкага выкарыстання пісьменнікамі прыёмаў снабачання павінен разглядацца ў адпаведным рэцэптыўным аспекце.

Увогуле снабачанні — вельмі складаны, заблытаны комплекс псіхічных перажыванняў. І напаўненне гэтых начных візій, гульні ўявы чалавека пісьменнік павінен суадносіць з многімі паказчыкамі характарыстыкі персанажаў. Так, М. Булгакаў у рамане «Майстар і Маргарыта», уводзячы ў тэкст апісанне снабачанняў паэта Івана, сюжэтна звязвае іх з Бібліяй і тэмай Масквы. Інтэлектуальнае напаўненне тэксту і падтэксту ў гэтым творы абумоўлена ўсімі ўзроўнямі яго ідэйна-філасофскіх калізій. В. Быкаў падначальвае сваё майстэрства суровым мастацкім законам побытавага праўдападабенства. Ён звяртаецца да канкрэтыкі сумяшчэння найбольш важкіх для яго як творцы псіхалагічнага і этнакультурнага аспектаў і ў апавяданні «Незагойная рана», і ў больш аб’ёмных творах, як «Знак бяды», «Пайсці і не вярнуцца».

З асаблівай канатацыяй падаецца «дзівосны сон», як характарызуе яго пісьменнік, у апавяданні «Незагойная рана». Маці, якая бясконцымі днямі і начамі чакае любага сына Васільку з фронту, сасніла такое, што не магло прынесці ёй канчатковага заспакаення, не падмацоўвала веру ў магчымасць гэтага. Спачатку Тэкля бачыла ў сне, «нібы настае новы, заўтрашні дзень — дзень нараджэння Васількі. Яна нешта завіхаецца на панадворку і ўсё пазірае на дарогу, чакае і пэўна ведае, што сёння павінен з’явіцца ён, яе надзея». Аднак далейшае развіццё ўяўнай рэчаіснасці снабачання набліжае празарэнне, абумоўленае цвярозасцю лагічнага мыслення. Чытачу ўжо зразумела, што сын жанчыны загінуў. «Маці, ахопленая нястрымным роспачным хваляваннем, наўпрасткі, праз бульбянішча і гразь у адной кофце, без хусткі, бяжыць насустрач сыну. Яна ўжо ведае, што нешта страшнае, непапраўнае здарылася з яе Васількам. Жанчына, галосячы, падбягае да сына… Але што гэта? Чаму ў сына няма ні рук, ні ног, замест іх адны толькі кароткія кульцяшкі? І чаму кроў на яго пілотцы з маленькай зялёнай зорачкай, якую насілі франтавікі? Маці, млеючы ад жаху, хапаецца за сына, спрабуючы ўзняць, і галосіць, а ён спакойна так кажа: «Нічога, мама, усё благое скончылася. Цяпер будзем жыць…» [5, с. 469—471].

Містыка начнога ўспрыняцця рэчаіснасці падказвае чытачу, што ў гэтай вясковай жанчыны павінны адбыцца нейкія перамены. І, як кажуць, «сон у руку». Зусім знямоглая ад гора Тэкля ідзе за вёску і нечакана знаходзіць брацкую магілу. І ажывае, бо адкрывае для сябе новую мэту свайго існавання: яна павінна клапаціцца аб памяці ўсіх, што загінулі, змагаючыся з фашысцкай навалай. Здавалася, яе пакідаюць апошнія сілы, але яна змагла адрадзіцца для новай высакароднай мэты. Нельга не прызнаць, што менавіта прыём сну псіхалагічна абгрунтаваў гуманістычны пафас апавядання. Снабачанне падобнага тыпу можа трактавацца як крызіснае, бо яно выконвае ролю своеасаблівага кульмінацыйнага акцэнта ў творы, паколькі выступае як вырашальная сітуацыя: мяняецца жыццё індывідуума.

Рэчыўная канкрэтыка сноў абапіраецца на рэальнае наваколле. Тут і выявы беларускай прыроды, што раскрываюць псіхалагічны стан герояў: старыя дрэвы, хмары, вецер, драпежныя птушкі (вароны). Побытавая неўладкаванасць жыцця беларускай вёскі перадаецца і ў рэальным жыцці, і ў сне гераіні: незашклёныя разбітыя шыбы, холад у хаце, гразкая дарога. Неаднаразова рэаліямі наваколля «аздабляецца» апісанне сноў і ў «Знаку бяды».

Майстэрства псіхалагічнай матывацыі паводзін герояў В. Быкава прасочваецца таксама пры разглядзе калізій, якія складаюць сон Зоські з аповесці «Пайсці і не вярнуцца». Гэта апісанне сну якраз найбольш разгорнутае і можа ўспрымацца як мікратэкст у аповесці. Дзяўчыне снілася, што яна лётае над зямлёй, дрэвамі, людзьмі, дахамі. Але ў адзін момант нешта змянілася, цела стала цяжкае, Зоську пацягнула ўніз, «дзе ўжо бегалі, крычалі і махалі рукамі людзі ў чорным, яны ўжо гатовы былі ўхапіць яе, і ёй патрэбна было вялізнае намаганне, каб ухіліцца ад іх доўгіх пагрозлівых рук. Прадчуваючы, што яе чакае на зямлі, яна з усяе сілы працавала рукамі, і гэтыя яе рукі раптам ператварыліся ў крылы — шырокія, чорныя крылы птушкі, якой стала яна сама. Крылы, аднак, не памаглі ёй узняцца, яна ўжо

была на зямлі, сярод снежнага поля і, б'ючыся грудзьмі аб дол, адчайна спрабавала ўзляцець. Вялізныя яе крылы толькі размяталі вакол рыхлы марозны снег, махаць з кожнай хвілінай рабілася ўсё трудней, сілы яе канчаліся і ў свядомасць шыбануў страх ад думкі, што яна гіне.

Пасля яна нібы аддзялілася ад той чорнай птушкі і ўбачыла яе збоку — распластанай на снезе з апушчанымі, перасыпанымі снегам крыламі і апалай галавой на схіленай, з ускудлачаным пер'ем, шыі. Птушка рабіла апошнія канвульсіўныя рухі, і роспачна білася вострымі грудзьмі аб снег. Яна ўжо не ўзлятала — яна памірала, гэта вялізная чорная птушка ў заснежаным полі, і з ёй разам у невыразнай роспачы, здаецца, канала Зоська…» [4, с. 225].

Разгорнуты сюжэт сну — папярэджанне таго, што адбудзецца нешта вельмі кепскае і жахлівае ў рэальным жыцці. Гераіня ўбачыла сябе вольнай птушкай, якая, аднак, пасля ўпала на зямлю і пачала гінуць. Так адбылося і з Зоськай: спачатку паверыла Антону, паверыла ў яго шчырасць і жаданне дапамагчы, потым нават у яго каханне, але пасля зразумела, што памылілася ў ім. Антон ашукаў яе, зганьбіў, хацеў прадаць немцам. Але самае страшнае — каб засцерагчы ўласнае імя і не патрапіць пад суд за самаволку, ён хацеў забіць яе, дзеля чаго і стрэліў. Аднак не забіў…

Сон Зоські можна ахарактарызаваць як літаратурны прыём, мэта якога — паяднаць уяўнае і рэальнае. Сон максімальна набліжае гераіню да таго, што адбываецца. Паводле З. Фрэйда, узнясенне чалавека ў сне ўверх звязана з актывізацыяй яго сексуальнай энергіі. Нездарма ў народзе лічыцца, што лётаць у сне — быць закаханым. В. Быкаў, таленавіта раскрываючы сумяціцу ў душы гераіні, аднак выкарыстаў яшчэ некалькі апорных вобразаў, сімвалаў. Убачыць у сне царкву, узняцца над ёю — прадказанне суму, адчаю. Вялікая колькасць людзей адлюстроўвае страх, заглыблены ў падсвядомасці чалавека.

Як вядома, вучэнне З. Фрэйда пра снабачанні абапіралася на матэрыял розных фальклорных крыніц, на казкі, міфы, жарты, досціпы. «Калі мы будзем падрабязна вывучаць гэтыя крыніцы, то знойдзем у сімволіцы снабачанняў так шмат паралелей, што ўпэўнімся ў правільнасці нашых тлумачэнняў», — адзначаў ён [12, с. 98]. Аўтар працы «Сны і снабачанні Яна Баршчэўскага» З. Тычына лічыць, што варта разрозніваць народнае тлумачэнне сноў, зафіксавана ў сонніках, і навуковае [11, с. 22]. У прынцыпе з даследчыцай трэба пагадзіцца. Аднак, зразумела, расшыфроўкі сноў З. Фрэйд здзяйсняў не толькі як гуманітарый, але і як медык, псіхолаг, фізіёлаг — з улікам сваіх навуковых доследаў над зменлівасцю псіхікі чалавека. Што ж датычыць дадатковай формы сэнсаўтварэння праз прыём сну ў творах В. Быкава, то ў гэтым выпадку вартая ўвагі арыентацыя пісьменніка менавіта на народнае ўспрыняцце і тлумачэнне сноў. Яны пад пяром пісьменніка атрымліваюць дадатковы, высокі статус. Бачыцца адзін са спосабаў аналізу ментальнасці беларусаў, іх спрадвечнай знітаванасці з прыродай, адчуванне наваколля на ўзроўні пачуцця, душы, інтуіцыі.

Зосьцы, скіраванай усім сваім папярэднім жыццём на чысціню пачуццяў і высакароднасць дзеянняў, вайна падрыхтавала цяжкія выпрабаванні. Таму сон яе адносіцца да разраду жахаў, выяўляючы адмоўнае, гідкае, руйнавальнае ў характары Антона, з якім звёў дзяўчыну няшчасны выпадак.

Праўда, заключныя сцэны снабачання нівелююць адназначнасць трактоўкі яго сімволікі. В. Быкаў дае магчымасць Зосьцы вызваліцца ад свайго папярэдняга самаўспрыняцця: «Пасля яна аддзялілася ад той чорнай птушкі і ўбачыла сябе збоку». Гэты сюжэтны ход адкрывае шлях для новых інтэрпрэтацый у асэнсаванні снабачання і рэальнасці. Пісьменнік яшчэ раз па-майстэрску ўводзіць чытача ў псіхалогію гераіні ў канцы твора, дзе снабачанне, трызненне параненай Зоські паглыбляе яе псіхалагічную характарыстыку. Менавіта ў апісанні другога сна дзяўчыны В. Быкаў робіць акцэнт на галоўным у яе духоўным партрэце. Рысы характару Зоські — працяг сямейнага роду, яна — копія сваёй маці. Ад яе

ўспрыняла спагадлівасць і дабрыню — рысы, якія некаторыя людзі ў ваенны час прымалі за слабасць, бо жорсткія абставіны патрабавалі толькі сілы, моцы. І ўсё ж Зоська інтуітыўна «адчувала, што лепей быць добрай. Значыць, быць справядлівай» [4, с. 272].

Архітэктоніка твора таксама працуе на рэалістычны псіхалагізм яго аўтара. Сюжэтна канцоўка аповесці сугучная са зместам сноў, практыка тлумачэння якіх, як ужо адзначалася, дапускае варыятыўнасць, шматпланавасць. Жыццё Зоські залежыць ад дзвюх акалічнасцей. Па-першае, ёй патрэбна пераадолець наступствы ранення. Па-другое, унікнуць праследу здрадніка. Заключныя фразы твора — праз вельмі скупое слоўнае афармленне — даюць надзею на выратаванне светлага і чыстага чалавека. Чым жа падмацавана гэтае кволае пачуццё? Спагадай і дабрынёй вяскоўцаў. Моцна рызыкуючы, яны ўсё-такі вязуць дзяўчыну да ўрача і вераць, што ўдасца яе «перахаваць у добрай мясціне». «Не век жа гэтай праклятай вайне доўжыцца», — чуе Зоська. «Як са свежай крынічкі летнім поўднем абнадзейна гучыць побач» [4, с. 274].

Слушна адзначаў В. Каваленка: «Вайна адкрывала самыя апошнія кулісы жыцця, за якімі ўжо знікалі ўсякая ўмоўнасць і штучнасць, дзе чалавек заставаўся самім сабой, дзе ён мог быць толькі тым, кім быў у сапраўднасці. Абрушваліся трагічныя падзеі — і ў іх нечаканым, страшным, вірлівым завароце праглядвалі такія рысы жыцця, якія былі да часу не выяўлены, захаваны» [8, с. 97].

Такім чынам, праведзены аналіз дазваляе гаварыць пра існаванне ў ваеннай прозе В. Быкава дынамікі ўзаемадзеяння асноўнага аповеднага, сюжэтаўтваральнага матэрыялу і яго асобных матываў, метанаратыўных тэкстаў. Прызнаны майстар ваеннай прозы, ён выяўляе сябе ў творах антымілітарысцкай праблематыкі яшчэ і як філосаф праз розныя формы падачы тэкстаў. Яго заўсёдны клопат — думкі пра нацыю. Пісьменнік, узбагачаючы мастацкія традыцыі, уводзіць у свае тэксты навукова-прыродазнаўчыя наратывы. Традыцыйна этнакультурны матэрыял з'яўляецца асновай вясковай прозы. В. Быкаў па-майстэрску цэласна, у суладдзі распрацоўвае амаль у кожным творы ваеннай тэматыкі антымілітарысцкую канцэпцыю паралельна з тэмай беларускай вёскі. Характар асэнсавання вобраза яе тыпалагічна блізкі да праблемы «раскіданага гнязда», таленавіта ўзнятай яшчэ Янкам Купалам.

Як наватар В. Быкаў выяўляе сябе і ў выкарыстанні прыёмаў снабачання. Традыцыйна сон як мастацкі прыём лічыцца прыярытэтным у практыцы пісьменнікаў-рамантыкаў. В. Быкаў, аўтар рэалістычнай псіхалагічнай прозы, смела ўплятае ў тканіну сваіх твораў рамантычныя прыёмы снабачання. І ў гэтых формах мастацкай рэалізацыі ўласнай задумы пісьменнік, як і ў папярэдніх выпадках, скіраваны на вырашэнне задач нарадазнаўства.

Мастацкі твор Васіля Быкава — цэласная з'ява ў сукупнасці зместавых і фармальна-мастацкіх характарыстык адносна сюжэтнай, рэальнай і ўяўнай рэчаіснасці. І ў гэтым спалучэнні разнастайных прыёмаў мастацкага пісьма — адна з вядучых асаблівасцей творчай практыкі знакамітага беларускага пісьменніка.

## Спіс літаратуры:

1. Бароўка, В. Этнаграфічна-бытавы фон у прозе Васіля Быкава / В. Бароўка // Да 80-годдзя народнага пісьменніка Беларусі: зб. навук. арт / рэдкал.: Л. В. Алейнік, З. І. Бадзевіч, У. В. Рагойша; пад. агул. рэд. Л. Д. Сіньковай. — Мінск, 2005.

2. Бугаёў, Д. Эпапея працягваецца / Д. Бугаёў // Быкаў, В. Збор твораў: у 4-х т. / Васіль Быкаў. — Мінск.: Маст. літ., 1980. — Т. 1. Аповесці.

3. Букраба-Рильська, І. Стереотип селянина та ідентичність польського суспільства / І. Букраба-Рильська // Народна творчість та етнографія: польська етнологія. —2007. — №1.

4. Быкаў, В. Збор твораў: у 4-х т. / Васіль Быкаў. — Мінск.: Маст. літ., 1982. — Т. 3. Аповесці.

5. Быкаў, В. Збор твораў: у 4-х т. / Васіль Быкаў. — Мінск.: Маст. літ., 1982. — Т. 4. Аповесці. Апавяданні.

6. Быкаў В. Поўны збор твораў: у 14 т. / Васіль Быкаў. Мінск: Саюз беларускіх пісьменнікаў; Масква: ТАА «Выдавецтва «Время», 2005. — Т. 2. Аповесці.

7. Кабржыцкая, Т. Гісторыя ўкраінскай літаратуры: украінска-беларуска-польскія літаратурныя дыялогі / Т. В. Кабржыцкая, М. М. Хмяльніцкі, Э. Ю. Дзюкава. — Мінск: БДУ, 2012.

8. Каваленка, В. А. Жывое аблічча дзён: літ-крытыч. арт. / В. А. Каваленка. — Мінск.: Маст. літ., 1979.

9. Кобржицька, Т. Бліндаж — ковчег Василя Бикова / Т. Кобржицька / Літературна Україна. — 2007. — 27 липня.

10. Літературознавча енциклопедія: у 2-х т. / автор-укладач Ю. Ковалів. — Київ: Вид. центр «Академія», 2007. — Т. 2.

11. Тычына, З. Сны і снабачанні Яна Баршчэўскага / З. Тычына — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004.

12. Фрейд, З. Введение в психоанализ: лекции / З. Фрейд. — М., 1991.

13. Sulima, R. Słowo i etos / R. Sulima. — Kraków, 2002.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 6 лютага 2015 года.

**Ключавыя словы**: ваенная проза, вобраз вёскі, менталітэт беларусаў, этнакультурны кампанент, лес, балота, сімволіка жытла, сны і снабачанні.

**Key words:** war prose, the image of the village, the mentality of Belarusians, ethno-cultural component, forest**,** swamp, home’s symbols, dreams.

**Вольга ЛЫНША**

**Характар тэкставай прасторы ў ваеннай прозе Васіля Быкава**

**Рэзюмэ**

У артыкуле з выкарыстаннем прыёмаў рэцэптыўнай эстэтыкі вывучаюцца суадносіны тэксту і мікратэксту, даследуюцца асаблівасці ўвасаблення этнакультурнага кампанента, менталітэту беларусаў у ваеннай прозе Васіля Быкава.

**Volha LYNSHA**

**The character of the text area in war prose of Vasil Bykov**

**Summary**

This article discussed, based on the use of methods of receptive esthetic, the relation between text and microtext. Furthermore it examines the characteristics of the embodiment of the ethno-cultural component of the mentality of Belarusians in the war prose of Vasil Bykov.

**Уладзімір САЛАМАХА**

# ЧУЖЫЯ ЛЁСЫ ЯК СВАЕ...

## Школа, традыцыі, талент

Нячастая з'ява ў сучасным літаратурным працэсе — кніга, як пазначана ў анатацыі да яе, «творчых партрэтаў вядомых, знакамітых дзеячаў беларускай культуры», выдадзеная некалькі гадоў таму, з часам набывае ўсё большае грамадскае гучанне. Ёй цікавяцца чытачы, яна запатрабавана ў бібліятэках, сярод калег аўтара не сціхаюць размовы пра яе вартасці, у газетах і часопісах друкуюцца водгукі.

Асабіста мне гэта не здаецца выпадковым: захапляе, амаль усе партрэты, як літаратурныя творы, меў гонар чытаць у часопісах яшчэ да выхаду кнігі «Постаці…»*, у якую яны ўключаны. Даўно вызначыў свае адносіны да іх, і як да партрэтаў, і як да дыялогаў вядомага пісьменніка Зіновія Прыгодзіча з нашымі знакамітымі сучаснікамі, што прысвяцілі сваю творчасць служэнню народу, Айчыне, сваёй краіне. Заўважу, той, якая некалі была ў нас (дасягненнямі якой яны ганарацца), і сённяшняй, якую яны будуюць, падкрэслю, разам са сваім народам. Так, з тым народам, з якім «вядуць гутарку»: ствараюць яркія ролі ў тэатры і кіно, ставяць спектаклі, пішуць карціны і кнігі, захоўваюць і памнажаюць наш нацыянальны песенны скарб, а таксама робяць шмат чаго іншага і ў творчасці, і ў асабістым жыцці.

Партрэты… Канечне ж, яны. Але праз дыялогі. Магчыма такое? У мяне сумненняў няма: магчыма. Як няма сумнення і ў тым, што ўсе яны вызначаюцца адной вельмі важнай якасцю — публіцыстычнасцю. Увогуле, і яшчэ шмат чым, у тым ліку — і зваротам аўтара і яго суразмоўцаў да самых розных праблем жыцця грамадства, якія, зрэшты датычаць кожнага з нас не залежна ад нашых пасад і званняў. Калі гаварыць канкрэтна: чалавек і яго справа, пераемнасць пакаленняў, шляхі пошуку свайго месца ў жыцці, прафесіяналізм, грамадзянскасць, патрыятызм, без чаго ні рабочаму, ні інтэлігенту, ні палітыку, ні кампазітару, ні прадпрымальніку, ні пісьменніку немагчыма сцвердзіць сябе сярод людзей, як асобу.

Актуальна? Безумоўна, калі чалавеку не абыякава яго месца ў грамадстве, калі яго хвалюе ўсё, што адбываецца ў краіне, калі ён, як кажуць, не стаіць у баку ад жыцця, а хоча быць у ім стваральнікам. Як, напрыклад, сапраўднымі стваральнікамі з'яўляюцца кожны ў сваёй прафесіі ўсе дзесяць, назавём іх так, герояў кнігі Зіновія Прыгодзіча, з якімі ён і вядзе дыялог…

Звернемся да прадмовы, якую напісаў да выдання Алесь Карлюкевіч.

Даючы сваю ацэнку кнізе «высокавартаснай мастацкай публіцыстыкі», перад гэтым, у прыватнасці, разважаючы пра яе жанравыя асаблівасці, А. Карлюкевіч разглядае яе «яшчэ і як варты ўвагі студэнтаў Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта самы сур'ёзны падручнік».

Думаю, што гэта сказана А. Карлюкевічам не толькі, як аўтарам прадмовы, але і як выкладчыкам гэтага інстытута невыпадкова, не проста ў эмацыянальным парыве (зараз хто толькі іх і як не піша, часам нават не чытаючы кніг). Думаю, што «Постаці…» ён назваў такімі не толькі як галоўны рэдактар старэйшай

* ***Зіновій Прыгодзіч.*** Постаці: З цэлым народам гутарку весці… Мн.: «Літаратура і Мастацтва», 2011.

беларускай газеты «Звязда», але і ведаючы, што такіх падручнікаў сапраўды не хапае, а таксама заўважыўшы, што сёння нестае паўнавартаснай публіцыстыкі на старонках газет і часопісаў, ва ўсякім выпадку яе менш, чым было раней. Ды і якасць… Таксама думаю, што і ён, як і іншыя літаратары-публіцысты разумее, што маладым, якія ідуць на змену майстрам, часта не хапае не толькі жыццёвага вопыту і прафесіяналізму, а элементарнага паняцця, што такое публіцыстыка.

А між іншым публіцыстыка, як некалі нас вучылі на тым жа журфаку слынныя яе майстры, як від грамадска-палітычнай дзейнасці, адыгрывае вельмі важную ролю ў жыцці краіны. А ў такія перыяды яе жыцця, як наш, калі краіна ідзе па шляху свайго станаўлення, тым больш…

Канечне, і ў публіцыстыцы, як і належыць, ідзе змена пакаленняў. Канечне, ёсць і будуць новыя «пававы», але ж... Ды мы ўжо дайшлі да таго, што звычайную газетную нататку называем публіцыстыкай, ды яшчэ якой! У нас ужо стала «модным» ці што, калі некаторыя пачынаючыя літаратары з прычыны значнасці сваёй творчасці, называючы сябе на вокладках сваіх кнігі вядомымі паэтамі і празаікамі, дадаюць: публіцыст. Трывога ёсць: дваццацігадовыя «майстры», якім нібыта няма ў каго вучыцца. А вучыцца ім трэба — чытаць няма чаго.

У нас жа нямала знакамітых публіцыстаў, якія сцвердзілі сябе яшчэ ў тыя нашы часы, калі публіцыстыка была сапраўды «палымянай». Яны і сёння выступаюць у друку з праблемнымі артыкуламі на самыя розныя тэмы жыцця грамадства: П. Якубовіч, А. Лемяшонак, Л. Юнчык, У. Гаўрыловіч, В. Кубека, Д. Новікаў ды іншыя «сталічнікі» і «правінцыялы», але... Дарэчы, у такіх газетах, як «СБ. Беларусь сегодня» і «Рэспубліка» склаліся ўжо свае школы газетнай публіцыстыкі. На чале іх, без перабольшвання, стаяць галоўныя рэдактары Павел Якубовіч і Анатоль Лемяшонак, чый асабісты творчы вопыт выразна прыкметны ў матэрыялах некаторых супрацоўнікаў і аўтараў гэтых выданняў. І гэта добра, бо разважлівасць, памяркоўнасць, аналітыка, асабліва калі ўздымаюцца важныя праблемы жыцця грамадства, калі сутыкаюцца розныя погляды на з'явы рэчаіснасці, якраз гэтага і вымагаюць.

Тут варта прыгадаць, што ў свой час такія якасці былі ўласцівы, напрыклад, публіцыстычным артыкулам пісьменнікаў Мікалая Чаргінца, якія ён друкаваў у «Правде», Івана Новікава, таксама ў гэтай газеце, Мікалая Матукоўскага і Міхаіла Шыманскага ў «Известиях» ды іншых.

Кажучы пра адметных публіцыстаў, журналістаў і пісьменнікаў не такога ўжо і далёкага мінулага, варта назваць С. Паўлава, А. Бажко, В. Хадасоўскага, публіцыстычныя творы якіх на міжнародную тэматыку пастаянна друкаваліся ў беларускіх газетах.

Гэта адносна газетнай публіцыстыкі, хоць нярэдка яе падзел на «газетную» і «літаратурную» — умоўны…

Што датычыць, як піша А. Карлюкевіч «высокавартаснай мастацкай публіцыстыкі» «Постацей...», дзе, цытую далей: «Інтэрв'ю выйшла за межы традыцыйнага інфармацыйнага жанру. Уключыўшы ў тэксты фрагменты рэпартажнага, эсэістычнага, замалёвачнага характару, Зіновій Кірылавіч выбудаваў гутарку-нарыс», дык апошняе зараз — даволі рэдка сустракаецца ў друку. (Маладым літаратарам усё ж варта звярнуць на гэта ўвагу. Таксама варта ведаць, чым пісьменніцкая публіцыстыка адрозніваецца ад газетнай.)

Увогуле з «сур'ёзным падручнікам» юных павінны знаёміць сур'ёзныя педагогі. Калі ў Інстытуце журналістыкі, дык там яны ёсць і сярод тэарэтыкаў з вучонымі званнямі і без іх, і сярод практыкаў. Педагогам для пачынаючых можа быць кожны сур'ёзны журналіст, вядома, калі ягоную публіцыстыку яны чытаюць у газетах, і пісьменнік, які змяшчае яе ў часопісах і кнігах.

У публіцыстыцы, як і ў любой справе, павінна быць уласная школа. І калі я пералічваў прозвішчы некаторых нашых найбольш яркіх публіцыстаў, што працуюць, або працавалі ў газетах, асабіста ведаючы творчасць кожнага, сцвярджаю: творчая школа ў іх ёсць, а таксама — жыццёвая…

Грунтоўная публіцыстычная школа ёсць і ў аўтара кнігі «Постаці…» Зіновія Прыгодзіча. І — жыццёвая. Вось толькі некаторыя штрыхі ягонай біяграфіі…

Нарадзіўся Зіновій Кірылавіч Прыгодзіч у 1944 годзе ў вёсцы Лышча Пінскага раёна. Зразумела, што ягонае маленства не было лёгкім, зрэшты, як і маленства ўсіх дзяцей яго пакалення.

Вядома, што ў пасляваенныя часы наогул усім было нялёгка — краіна ў руінах, голад, нястача — і толькі людская з'яднанасць і самаадданая праца кожнага на сваім месцы дала магчымасць адбудаваць разбураную гаспадарку, дазволіла людзям выжыць, выгадаваць дзяцей, як кажуць, выправіць іх у вялікі свет…

Працавалі дарослыя і дзеці. (Усе тыя, з кім пісьменнік вядзе дыялог у сваёй кнізе таксама кажуць пра гэта і, ўспамінаючы сваё маленства, зазначаюць, што іх занятак быў далёка не дзіцячы.)

Працаваў з малых гадоў і Зіновій Прыгодзіч. Працаваў, вучыўся, сталеў, прыглядаўся да жыцця. Школьнікам пачаў пісаць заметкі, вершы, апавяданні. Друкаваў іх у раённай газеце, і нават у рэспубліканскіх выданнях!.. Школу скончыў маючы дакладнае разуменне аб сваёй прафесіі — журналіст, слова якога павінна дапамагаць людзям.

Пасля школы — сталая праца спачатку літсупрацоўнікам у раённай газеце, потым — на мясцовым радыё. (Менавіта з райгазеты пачынаўся шлях у журналістыку і літаратуру многіх публіцыстаў.) Праз працу, праз адносіны з людзьмі ў многім і «вывучаецца» жыццё. Заўсёды быў там, дзе людзі… (Зноў жа, героі кнігі З. Прыгодзіча знакамітыя В. Анісенка, М. Дрынеўскі, М. Захарэвіч, Л. Захлеўны, А. Мальдзіс, І. Місько, М. Міцкевіч, Г. Паплаўскі, Я. Сіпакоў, А. Сульянаў, у дыялогах з пісьменнікам зазначаюць такое ж у сваіх біяграфіях.) А гэта падабенства біяграфій (праца змалку), між іншым, адна з акалічнасцей, якая дае права аўтару на роўных весці гутарку з героямі сваёй кнігі.

Адпрацаваўшы два гады ў райгазеце і на мясцовым радыё, З. Прыгодзіч паступіў на факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Сярод яго настаўнікаў былі такія выдатныя практыкі і тэарэтыкі журналістыкі і публіцыстыкі, як Б. Стральцоў, Р. Булацкі, М. Дастанка, М. Цікоцкі і іншыя. Яны і ўзбагачалі ягоны ўжо ўласны творчы вопыт, і Зіновій Прыгодзіч, дарэчы, як і ўсе названыя вышэй журналісты, што прайшлі іхнюю школу публіцыстыкі і сёння, калі непазнавальна змянілася жыццё, не цураюцца яе.

Я знарок так шмат гавару пра айчынную школу публіцыстыкі, як наогул пра школу прафесійнага майстэрства. І, чытаючы дыялогі З. Прыгодзіча з акцёрамі і рэжысёрамі, мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору, са скульптарам і мастаком, з кампазітарам, з пісьменнікамі, з гэтымі дзесяццю славутымі людзьмі, якія сваёй працай праславілі і сябе, і краіну (падкрэсліваю, нашу былую і сённяшнюю), знаходжу ва ўсіх іх вельмі адказнае стаўленне да прафесійнай вучобы, да школы, да паняцця традыцыі і творчасці… І заўважаю: школа, традыцыі заўсёды мелі і маюць выключна вялікае значэнне ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці, у творчасці — таксама.

Не сакрэт, што сёння традыцыя, напрыклад, у тэатры, музыцы, мастацтве, літаратуры шмат кім з творцаў, асабліва маладымі, не проста бяздумна парушаецца, а нават ігнаруецца, часам нават здзекліва высмейваецца.

Як вядома, так ужо неаднойчы было, асабліва калі ў жыцці грамадства адбываюцца нейкія істотныя змены. У такія перыяды многае з дасягнутага папярэднікамі бяздумна разбураецца, і даволі часта некаторыя людзі, не маючы адпаведных здольнасцей кідаюцца не ў сваё. І ў творчых галінах — таксама. Хаця гэтай «хваробай», разбураць усё дашчэнту, каб на пустым месцы здзейсніць нібыта ўжо вельмі значнае, сваё, «заражаны» і нямала хто са здольных. Але, як паказвае час, годнага з гэтага нічога не атрымліваецца...

У «Постацях…», напрыклад, пра традыцыю ў тэатры разважае акцёр, рэжысёр, педагог, стваральнік СВАЙГО тэатра Валерый Анісенка. Мастак непаў-

торнага творчага лёсу. У сваёй прафесіі ён спазнаў сапраўдны поспех. Да ўсяго даходзіў праз тытанічную працу душы, нястомныя пошукі.

У акцёрскай, рэжысёрскай, педагагічнай і арганізатарскай дзейнасці В. Анісенка абапіраўся і абапіраецца на традыцыі выдатных нашых і рускіх папярэднікаў. Нястомна вучыўся і вучыцца ў іх, адкрываючы сваё, ніколі не цураўся традыцыі, абапіраўся на яе. Ніколі не адмаўляў і не адмаўляе наватарства. І — вучоба, вучоба, вучоба… «Мы ўсе — вучні ў Жыцця, — лічыць знакаміты рэжысёр. — Ва ўсякім выпадку, у мяне жаданне нечаму навучыцца, спасцігнуць — было вызначальным… І па сённяшні дзень не прытупілася, жыве ўва мне прага пазнання, спасціжэння сутнасці сваёй прафесіі».

Скажыце, ці можна без пазнання таго, што да цябе годна зрабілі іншыя, спасцігнуць сутнасць любой прафесіі? Напрыклад, урача, педагога, сталяра, земляроба, акцёра… пісьменніка, у рэшце рэшт?..

У жыцці грамадства бываюць часы, калі высокі прафесіяналізм літаральна ва ўсіх прафесіях, надзвычай запатрабаваны. І ў творчых — таксама. Звычайна — гэта не простыя часы…

Калі браць літаратуру, дык многія выдатныя пісьменнікі ў такія часы жыцця краіны адкладвалі недапісаную аповесць, раман, паэму і звярталіся да палымянага публіцыстычнага слова, якое клікала народ да яднання, да агульнай стваральнай справы. І ў гэтай сваёй дзейнасці абапіраліся на традыцыю. Але «нельга ж варыцца толькі ва ўласным саку». Традыцыя таксама дапамагае гэтаму. Вось што гаворыць далей Валерый Данілавіч, калі размова скіравалася канкрэтна ў рэчышча: «Традыцыі і наватарства, традыцыі і мода».

«Я прытрымліваюся хутчэй традыцыйнага рэчышча, — кажа Валерый Анісенка. — Але пры гэтым стараюся адпавядаць дню сённяшняму... Павінна быць разумная дыялектыка. Разумнае ўзаемадзеянне паміж традыцыямі і наватарствам. Аднак аснова — традыцыі».

У беларускага тэатра свае традыцыі. Яны ў многім, як сведчаць тэатразнаўцы, сугучны з традыцыямі рускага тэатра. І школа свая ў беларускага тэатра ёсць. Яна ўвабрала ўсё лепшае з іншых тэатральных школ, таксама найперш з рускай. (Гэта пацвярджае гутарка пісьменніка з Марыяй Захарэвіч, выдатнай актрысай, рэжысёрам, педагогам.) І сваіх драматургічных твораў у нас хапае, але рускую і замежную класіку мы таксама глядзім. І наша драматургія — таксама ў многім заснавана на традыцыі. Сваёй, рускай і сусветнай.

Не магу не прывесці выказванне пра традыцыю, як такую, што між іншым не пашкодзіла б ведаць некаторым нашым пачынаючым наватарам-пісьменнікам і іншага выдатнага тэатральнага дзеяча, расіяніна Юрыя Саломіна. Даючы інтэрв'ю расійскай газеце «Завтра» (2013 год, № 43) ён зазначае, што папярэднікі «Работали тогда в одном направлении — утверждения русского театра». І далей: «Нужно быть воспитанным этим театром».

Але В. Анісенка і М. Захарэвіч «воспитаны» сваім тэатрам, у якім служылі і служаць, і наогул беларускім тэатрам. Пісьменнік, публіцыст таксама павінен быць выхаваны той літаратурай, публіцыстыкай, у якой працуе. І, дзякуй богу, што у нас гэтая «выхаванасць» у многім захавалася, што мы не адцураліся, як некаму хацелася б, сваёй нацыянальнай літаратуры, класічнай і проста годнай, і такога яе віду, як публіцыстыка…

Цытую Ю. Саломіна далей: «И задача руководства: сохранить то национальное достояние, которое мы получили от величайших артистов, создавших ему славу».

У заключэнне такое… Калі карэспандэнт «Завтра» гаворыць з Юрыем Мяфодзьевічам пра традыцыю, перафразаваўшы Дастаеўскага, зазначае, маўляў «традиция спасёт мир», Майстар адказвае: «Традиция спасёт мир. Мне так кажется. Потому что ведь каждый народ будет бороться за её сохранение. Новшества приходят и уходят, а традиции — ЭТО ОСНОВА НАЦИИ… Отказаться от традиции, это ОТКАЗАТЬСЯ ОТ РОДИТЕЛЕЙ». (Выдзелена мной. — **У. С.**)

Тут я павінен зрабіць невялікае адступленне, каб нагадаць, пра якую прыгажосць, што выратуе свет, казаў наш зямляк, сусветна вядомы пісьменнік Фёдар Дастаеўскі. Не, не проста пра прыгажосць, як такую, пра што часта пішуць у СМІ… Дык вось, усё ў жыцці можа быць прыгожым, але... Каб не абцяжарваць цытатамі з рамана Фёдара Міхайлавіча, не прыводзіць дыялогі, у якіх і вядзецца гаворка пра «прыгажосць», што выратуе свет, і ў якім не даецца адказу, менавіта якая, звернемся да дзённікавых запісаў пісьменніка. У іх сказана: «Весь мир спасет красота Христова…» (Адкуль нашы помныя традыцыі, як аснова жыцця?..)

Але зноў вернемся да кнігі «Постаці…», да размоў З. Прыгодзіча са знакамітымі нашымі суайчыннікамі... Дыялогі — з элементамі розных публіцыстычных жанраў.

Валерый Анісенка цвёрда перакананы: «Тэатр не памрэ ніколі! Таму што гэта жывое мастацтва. Таму што гэта жывая і вельмі неабходная форма чалавечых зносін. Тэатр і ўзнік як натуральная чалавечая патрэба ў такіх зносінах. Калі хочаце, гэта своеасаблівае лякарства ад раз’яднанасці. Ён, па вялікім рахунку, і існуе толькі тады, калі паміж сцэнай і залай узнікае тая самая вольтавая дуга, пра якую ўжо мы гаварылі (чытайце дыялог. — **У. С.**) і якая і ёсць сутнасць тэатральнага мастацтва».

І далей, ужо пра першае: «Некаторыя нашы тэатры ў пагоні за гледачом ідуць на знарокавую палітызаванасць, гоняцца за вострай публіцыстычнасцю (значыць, яна запатрабавана, калі «гоняцца»? — **У. С.**), злабадзённасцю. Ці варта гэта рабіць? Я думаю, варта. Тэатр можа быць розным. Але ён павінен выконваць сваю галоўную справу, якую выконваў на працягу доўгіх тысячагоддзяў, — даследаваць чалавечую душу. (Апошняе — традыцыя ўсіх відаў мастацтва, і, канечне ж, літаратуры. — **У. С.**) Каб гаварыць аб відавочных праблемах часу, не трэба быць мастаком. Дастаткова быць рэпарцёрам. У тэатра ж іншае прызначэнне. З яго нельга выходзіць разбітым і расціснутым. Калі гаварыць аб тым, што чалавек па сваёй сутнасці мярзотнік і ніколі іншым не будзе, жыццё наша лягчэйшым і святлейшым не стане. Ганаровая місія нашай прафесіі — узняць чалавека. Паказаць яму неба і зоркі, даць крылы надзеі».

Я знарок даю такую вялікую цытату з разважанняў Майстра аб сваёй прафесіі, тэатры, жыцці — у гэтым яго мастакоўская сутнасць. І калі гаворка шчырая, а яна такая, то захапляе, выклікае на роздум аб часе, людзях у ім, аб грамадстве з яго праблемамі, і самай галоўнай, над чым стагоддзямі «б’ецца» тэатр і літаратура — чалавечая душа ў розных жыццёвых абставінах, яе загадкавасць. А часам «загадкавасць» у ёй такая, што мы ўсе вымушаны думаць пра тое, што ж выратуе свет… (Спраецыруем гэтую думку на тыя няпростыя падзеі, якія сёння наогул адбываюцца ў свеце, у суседніх нам краінах, у нашай краіне... Падумаем, а якая роля публіцыстыкі і «тут» і «там», каб хаця б нешта змяніць да лепшага)…

Далёка не простыя дыялогі З. Прыгодзіча з героямі сваёй кнігі. Яго субяседнікі найперш звычайныя людзі. Нашы сучаснікі розных пакаленняў у асабістым жыцці, яны маюць тыя ж турботы і памкненні, што і кожны: жыць годна. Калі задумацца, дык, як кажуць творцы, «звышзадача»... А звышзадача ў творчасці — справа вельмі складаная. І не толькі ў ёй...

Паколькі ўвесь час мы кажам пра публіцыстычны кірунак кнігі «Постаці...» і пра тое, што «вакол» яе, варта ўспомніць, а што ж уласна ўсё-такі, публіцыстыка.

Нагадаю для тых, хто, надрукаваўшы 2—3 нататкі, накшталт: «Вывезлі сем вазоў гною», ці «Зорка К. паставіла брыльянт у зуб» на вокладках сваіх кніг пішуць, што ён (яна) не толькі паэт, празаік, але і публіцыст… Важна нагадаць яшчэ і таму, што як не так даўно прадбачылі некаторыя нашы славутыя пісьменнікі не такога ўжо і далёкага мінулага, напрыклад, Іван Пятровіч Шамякін у сваім дзённіку «Роздум на апошнім перагоне», «літаратура мізарнее» якраз і па-гэтаму… І публіцыстыка — таксама.

Здавалася б, пішуць так — хай пішуць. Толькі ж загана ў іншым: разбураецца само паняцце літаратуры і публіцыстыкі. Як віду твораў. Менавіта твораў. І калі А. Карлюкевіч, галоўны рэдактар газеты, з багацейшымі публіцыстычнымі традыцыямі, са сваёй, створанай папярэднікамі школай публіцыстыкі, разглядае «Постаці…» не толькі, як сапраўды годную кнігу, як несумненную творчую ўдачу пісьменніка, а «…яшчэ і як варты ўвагі студэнтаў-журналістаў самы сур'ёзны падручнік», дык з ім хочацца пагадзіцца. Але з адной, як я лічу, агаворкай — своеасаблівы падручнік для будучых публіцыстаў, як журналістаў, так і пісьменнікаў. Бо ў кнізе тэорыі няма, тут творы публіцыстычнай накіраванасці, якія вельмі цікава чытаць і студэнту, і выкладчыку, і журналісту, і пісьменніку.

## Бацькі і дзеці. Грамадства

Несумненна, яшчэ адной вартасцю кнігі «Постаці…» з'яўляецца і тое, што ў ёй аўтар прасочвае, па якіх шляхах, пачынаючы з ранняга дзяцінства і па час сённяшні, ішлі яго суразмоўцы да, так бы мовіць, не толькі піку сваёй славы ў творчасці, а, найперш, свайго станаўлення як проста людзей, нашых сучаснікаў. Пры гэтым гаворка пісьменніка з ягонымі героямі, з кожным з якіх ён добра знаёмы, а з некаторымі нават шмат гадоў сябруе, вядзецца нязмушана і шчыра, што выклікае ў чытача безумоўны давер: гэта ўсё праўда…

Аказваецца, лёгкіх шляхоў у жыцці і творчасці не было ні ў каго. Але ўсе яны з цеплынёй успамінаюць сваё дзяцінства, бо побач былі бацькі і людзі, сярод якіх жылі ў вёсках, ці ў горадзе. Уражанне такое, што ўсім ім нават у самыя цяжкія моманты шанцавала на добрых людзей. Зрэшты, сакрэт тут просты, спрадвеку вядомы сярод людзей: яны добрыя да цябе, калі ты сам добры да іх…

Не ў ва ўсіх былі бацька і маці. Жыццё ёсць жыццё… Удвая цяжэй было таму, каго, напрыклад, выхоўвала адна маці. Як, скажам, Валерыю Анісенку: ягоная маці адна «падымала» чатырох дзяцей… І гэта ў вёсцы ў пасляваенны час. Але слова самому Валерыю Анісенку: «Яно ў мяне (дзяцінства. **— У. С.**) было вельмі нялёгкім… У сям'і мы не ведалі слоў «хачу» альбо «не хачу». Трэба! Вось што было галоўным, вызначальным у нашым жыцці. Трэба **—** і зімою, у пяць гадзін раніцы, у мароз і завіруху ішлі на ферму мама, сястра Эма і я, каб напаіць, накарміць і падаіць кароў. І так тройчы за суткі... Словам, кожны дзень з ранку да вечара праца, праца і праца».

А вось пра працу ў тэатры: «Так і ў тэатры **—** я не прывык сядзець без справы. І гэта, паверце мне, не дзеля кар'еры, не дзеля таго, каб мяне нехта пахваліў, а выключна толькі дзеля таго, каб рэалізаваць свае магчымасці, свае ўнутраныя патрэбнасці. На шчасце, і па сённяшні дзень не прытупілася, жыве ўва мне прага пазнання і спасціжэння прафесіі».

Але як гэта, мякка кажучы, не пасуе да шляхоў «спасціжэння прафесіі» некаторых нашых юных літгеніяў. Тых, з якімі мы ўжо занадта носімся, бяздумна ўхваляючы іх слабенькія вершыкі ды апавяданні, выдаючы за ўзоры нібыта майстэрства!.. А ім жа трэба дапамагаць у іншым **—** у вучобе… Дайшло да таго, што ўжо некаторыя 25-гадовыя адкрываюць свае школы літаратурнага майстэрства і вучаць такіх жа як самі. Прыклады?.. Ды хаця б вось гэты: «…Сёння я табе патлумачу, як рабіць гэта крыху лепей». І сапраўды тлумачыць, дасціпна і проста: «Баўся гукапісам, гуляй з сінтаксісам». І «бавяцца», і «гуляюць» з тым, з чым нельга гэта рабіць. І гэта перш за ўсё не іхняя асабістая бяда, а наша агульная. Не толькі ў тэатры, літаратуры і мастацтве і г. д. Важна гэта ўсвядоміць і дапамагчы маладым зразумець, што тут да чаго. А такіх пісьменнікаў, калі ўжо размова скіравалася да літаратуры, у нас шмат: маладым ёсць чаму і ў каго павучыцца, і заганнага тут нічога няма. (Зноў жа, невыпадкова «Постаці…» А. Карлюкевіч

раіць, як «самы сур’ёзны падручнік» студэнтам-журналістам. А я дадам: і пісьменнікам-публіцыстам, не толькі пачаткоўцам…

З Міхасём Дрынеўскім Зіновій Кірылавіч таксама знаёмы вельмі даўно. Можа таму, дыялог між імі «раскаваны», як не для друку. Без «прыхарошвання», без так званай унутранай «самацэнзуры», калі, здараецца, людзі баяцца нешта сказаць не тое, што трэба. Тут, між іншым, як і ва ўсіх дыялогах, поўная шчырасць: усё так і ёсць… Тут, што надзвычай важна, калі «падручнік», у дыялогу раскрываецца характар і аднаго, і другога. (Для юных літаратараў: у беларускай літаратуры выключна рэдкім дарам ствараць характары праз дыялогі валодалі Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Іван Мележ, Іван Навуменка, хаця не толькі яны.) У сучаснай публіцыстыцы ў прыватнасці такім дарам, раскрываць характары праз дыялогі, валодае З. Прыгодзіч…

М. П. Дрынеўскі — мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Генадзя Цітовіча, народны артыст, заслужаны дзеяч мастацтваў, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэмі, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», кавалер некалькіх ордэнаў…

Увогуле — просты сялянскі сын з адной палескай вёскі. (А якіх дасягнуў вышынь і ў тым нашым часе, які так ахайваюць некаторыя «прасунутыя», і ў гэтым, які ім таксама занадта не падабаецца, таму што стваральны.)

У бацькоў Міхася Паўлавіча было дзевяць дзяцей. Чацвёра першых памерлі ад страшэннай хваробы… Сам ён нарадзіўся перад вайной, якую амаль не помніць, але, як кажа, у памяці засталося, калі трыста ягоных аднавяскоўцаў фашысты сагналі ў царкву і спалілі жывымі…

Бацькі асаблівай адукацыі не мелі, «не дужа пісьменныя». Працаўнікі. У бацькі «былі залатыя рукі. Умеў бандарыць, і сталярыць». З вайны прывёз сталярны інструмент. «Уся вёска будавалася з дапамогаю гэтых інструментаў, — успамінае Міхась Паўлавіч, — бацька рабіў выдатныя вокны, дзверы». Ён таксама рамантаваў калгасную тэхніку…

І так, простыя вяскоўцы без усялякай «мудрагелістасці» змаглі сваім уласным прыкладам прывіць усім сваім дзецям любоў да працы. Выгадавалі, выправілі «ў людзі».

Пра яго ўжо ведаем. А астатнія дзеці Дрынеўскіх?

Старэйшы з братоў Дзмітрый Паўлавіч — урач-рэнтгенолаг. Мікалай Паўлавіч, які маладзейшы за яго на два гады — доктар медыцынскіх навук, прафесар. Таксама доктар медыцынскіх навук і прафесар Уладзімір Паўлавіч. А Рыгор Паўлавіч, як яго называе Міхась Паўлавіч, «самы галавасты», узначальваў лабараторыю, якая працавала на космас...

Але працавітымі сваіх дзяцей выхавалі бацькі.

Калі ўжо размова пра бацькоў, дык парушаючы зместавы парадак дыялогаў кнігі запрашаю чытача самому пераканацца, што кажа пра сваіх бацькоў, напрыклад, Адам Мальдзіс, перад гэтым падкрэсліваючы ім жа вызначаныя рысы беларусаў: «Гэта сціпласць і працавітасць»… (Дыялог «Беларуская цывілізацыя мае даўнія традыцыі».

З Адамам Мальдзісам (нарадзіўся ў 1932 г. у вёсцы Расолы на Астравеччыне) не паспрачаешся… Але «навошта» працавалі самі і «навошта» прывівалі сваім дзецям любоў да працы добра ведалі і ягоныя бацькі — звычайныя сяляне «Праўда, можа, крыху і не зусім звычайныя, бо бацькавы продкі былі літоўцы, — гаворыць ён. — А маці з суседняй вёскі Задворнікі, з крыху багацейшай сям’і, з беларусаў».

Увогуле, нашы бацькі лічылі і лічаць, «што народ павінен спакойна рабіць сваю справу» (цытата з дыялогу. **— У. С.**).

Згадзіцеся, для простага чалавека няма нічога важнейшага за гэта: будзе так, будуць расці дзеці, будзе лад ва ўсім, адсюль, здзяйсненне ўсяго, без чаго немагчыма паўнакроўнае жыццё. А калі пра жыццё наогул, то на яго, «вечнае

біблейскае», на пытанне пра сэнс жыцця адказ такі: «Сэнс жыцця ў тым, каб пражыць яго годна, у адпаведнасці з народнай хрысціянскай мараллю». Але «разам з тым, — як лічыць Адам Восіпавіч, — чалавеку трэба даваць права і на памылку. Чаму? Таму што ўсяго прадбачыць немагчыма».

Спыніўшыся на паняцці, змесце, напоўненасці, зрэшты, кожны мае права вызначыць сам сабе, што за гэтым стаіць, звернем увагу, напрыклад, на тое, у чым ён, сэнс жыцця, для знакамітай актрысы, рэжысёра і педагога Марыі Георгіеўны Захарэвіч. (Яна ў гэтай кнізе — адзіная жанчына-творца, з кім пісьменнік Зіновій Прыгодзіч вядзе дыялог.)

Таксама сялянская дачка. З Мядзельшчыны. Марыя Георгіеўна кажа: «…расла ў цеплыні, у ласцы, але не спешчаная». Дапамагала бацькам ва ўсім сялянскім занятку, а яны часта хварэлі. (Між іншым, рабіла ўсё па гаспадарцы, як і яе гераіня Ганна з мележаўскіх «Людзей на балоце», сцэнічны вобраз якой стварыла выдатна!)

Цікава расказвае Марыя Захарэвіч пра сябе, бацькоў, пра сваё станаўленне, пра вучобу, акцёрскую працу, пра няпростую атмасферу ў тэатральным асяродку (а дзе яна простая? — **У. С.**), пра свае адносіны да тэатральнай школы, пра любоў да беларускай літаратуры, сяброўства з некаторымі пісьменнікамі… І яшчэ шмат пра што, непарыўна звязаным з яе жыццём і творчасцю. І за ўсім гэтым бачацца яе шчодрая душа, заўсёды адкрытая людзям. «Навошта той талент, калі няма сэрца…» — кажа Марыя Георгіеўна, і ў гэтым вялікі сэнс свайго прызвання між людзей…

А на традыцыйнае пытанне Зіновія Кірылавіча пра сэнс жыцця, зазначаючы, што гэта вельмі складанае, філасофскае пытанне, адказвае: «Ну, каб яно не было, тваё жыццё, такім бяздарным, пустым. Каб нешта талковае зрабіў...» І зноў вяртаецца да сваіх вытокаў: «У вёсцы людзі працуюць, можна сказаць, ад цямна да цямна. Але ж яны не думаюць, што сэнс жыцця для іх у нечым незвычайным. Трэба проста жыць, працаваць, радавацца зробленаму, радавацца навакольнаму.

А яшчэ — каб людзі навучыліся адносіцца адзін да аднаго з увагай, з любоўю. Каб знікла зайздрасць. Каб нехта парадаваўся чужому поспеху, чужой удачы».

Здавалася б, прасцей простага…. Але які глыбокі «змест» чалавечага жыцця бачыцца за ўсім гэтым!.. Марыя Георгіеўна, «пражыўшы» на сцэне і на кінаэкране, у радыёспектаклях, на тэлебачанні дзясяткі самых розных жыццяў, пры гэтым, жывучы сваім сапраўдным жыццём, несумненна, увабрала ў сваё сэрца шчырасць і мудрасць сваіх гераінь. А калі проста, мудрасць жыцця…

І як добра, што Зіновій Прыгодзіч, вядучы дыялогі з гэтымі неардынарнымі асобамі, ствараючы іх партрэты, адыходзіць ад «іконнасці». Але: вялікія — таксама людзі… Разумець гэта — важна…

Народны артыст, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі і шэрагу іншых Леанід Захлеўны на пытанне ў дыялогу з пісьменнікам, што ён наогул больш за ўсё цэніць у людзях, адказвае так: «Больш за ўсё цаню прыстойнасць, шчырасць. Ну і, канечне, талент».

Бацькоўскі прыклад у дзяцінстве ў Леаніда Канстанцінавіча знешне быў крыху іншы, чым, скажам, у В. Анісенкі, М. Дрынеўскага, М. Захарэвіч, А. Мальдзіса, якім давялося працаваць з маленства (сюды трэба аднесці і Г. Паплаўскага, Я. Сіпакова, А. Сульянава, пра іх гаворка наперадзе).

І ўсё толькі таму, што ён не вясковы, і рос крыху ў іншых абставінах. Ды і час… Ён мяняўся да лепшага. І гэта вельмі добра, што Леаніду Захлеўнаму было лягчэй, чым ім, старэйшым за яго і равеснікам. Бацька служыў на граніцы, потым — горад.

Бацька і аддаў сына ў музычную школу: хацеў, каб той менш бадзяўся па вуліцы… І здарыўся цуд: знайшоўся настаўнік, Яўген Канстанцінавіч Петрашэвіч, які адкрыў у хлопца талент!.. І праз гады гэты талент узбагаціў нашу нацыянальную музычную культуру…

Вось і думаеш, як важна наогул юнаму таленту на пачатку свайго творчага шляху займець сапраўднага настаўніка!...

Дыялог пісьменніка з кампазітарам называецца «Музыка — гэта тое, чым я жыву…» Зрэшты, З. Прыгодзіч выбраў такі прыём у гутарках з героямі кнігі: назва — выказванне чалавека, як адна з яго сутнасцей…

У размове даюцца меркаванні Маэстра наконт часу, месца творчасці ў жыцці, як уласным, так і ў жыцці грамадства.

Ёсць шчыры расказ аб сабе, сям'і, калегах… І паўсюль — прыстойнасць, шчырасць, талент…

Прыстойнасць, дабрыню цэніць у людзях і знакаміты скульптар Іван Міско. І яшчэ: ён не прымае здрады. І яго «вельмі засмучае неабавязковасць». Ён кажа: «Я — чалавек дысцыпліны і хачу гэтага ад іншых».

Адкуль у майстра такія рысы характару? Ад бацькоў, сялян. Вось што ён гаворыць пра сябе. «Нарадзіўся я амаль па Гогалю: на хутары ля Валобрынкі, што на Слонімшчыне. Валобрынка — гэта невялічкая, надзвычай маляўнічая рачулка з чыстай, светлай, ласкавай вадою. Дык вось на беразе гэтай рачулкі, літаральна за дзесяць—пятнаццаць метраў ад вады стаяла наша хата. Звычайная драўляная хата-пяцісценка. Побач быў агарод, гаспадарчыя пабудовы. Крыху воддаль, метраў за трыста, пачынаўся стары высокі лес, які агінаў нашу сядзібу плаўнай дугою. Вось гэта мясціна памерам недзе з гектар і называлася хутар Поплава. Можа, ад таго, што вакол хаты і сапраўды быў прыгожы травяністы поплаў, на якім улетку пасвілася ўся наша нешматлікая жыўнасць — конь, карова, свінні…»

Дык гэта ж — проза!.. У звычайным успаміне Майстра пра сваё маленства… Пасля гэтых радкоў, з якіх і пачынаецца расказ Івана Якімавіча пра сябе, хочацца чытаць і чытаць: не ўсялякі пісьменнік можа так пісаць, як кажа скульптар… А што да мовы, вобразнай і дакладнай, дык ёсць чаму павучыцца маладым. Сёння, і гэта вельмі заўважаюць тыя, хто працуе ў дзяржаўных выдавецтвах і часопісах, многім з пачынаючых, а сярод іх шмат сапраўды таленавітых, якраз і не хапае ведання мовы. У некаторых яна проста жахлівая. І зноў жа, гэта не віна маладых, а наша агульная бяда: не працуем з імі як след, калі наогул працуем. І тут з'яўляюцца самазваныя настаўнікі, пад покрывам клопату аб юных адводзяць іх ад літаратуры. Хто наўмысна, а хто з прычыны сваёй абмежаванасці і нічым не падмацаваных амбіцый…

Іван Якімавіч, які за сваё жыццё бачыў столькі выбітных людзей, што і ўявіць цяжка: ад прэзідэнтаў розных краін, да касманаўтаў, вобразы якіх ствараў і стварае ў сваіх творах, які пра жыццё ведае, мабыць, больш, чым пра яго сказана ў тысячах кніг, на пытанне З. Прыгодзіча, ці можа ён назваць сябе шчаслівым чалавекам адказвае: «Безумоўна». І тлумачыць чаму: «рана выбраў свой шлях і ніколі, ні разу аб гэтым не пашкадаваў». Ягоная праца прыносіць яму «маральнае задавальненне, пэўную вядомасць, дзяржаўнае і грамадскае прызнанне».

Вельмі цікавыя роздумы пра жыццё і ў Міхася Міцкевіча, малодшага сына Якуба Коласа. Міхась Канстанцінавіч — доктар тэхнічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, літаратар. Так, так, літаратар. Ён піша і друкуе вельмі дасціпныя эпіграмы, а жанр гэты не просты…

«Шчасце — калі здзяйсняюцца мары», — упэўнены Міхась Канстанцінавіч.

Проста і мудра.

У дыялогу Зіновія Прыгодзіча з ім мы пазнаем шмат невядомага пра песняра, і як пра творцу, і як пра чалавека. І зноў жа — ніякай «іконнасці», што не перашкаджае песняру быць песняром свайго народа сёння і назаўжды.

Сам Міхась Канстанцінавіч для тых, хто яго асабіста ведае — добры, шчыры, спагадлівы чалавек… І — працавіты і сёння, нягледзячы на шаноўны ўзрост.

На пытанне пра галоўную рысу ў характары Якуба Коласа, сын адказвае: «Праўдзівасць. Ён быў абсалютна чэсным чалавекам. Ва ўсім: у літаратуры,

у сям'і, у адносінах з сябрамі. Дома стваралася такая атмасфера, што я не мог уявіць, як можна сказаць няпраўду. Хлусня лічылася недапушчальнай».

На пытанне «Вы шчаслівы чалавек?» чытаем адказ:

«Лічу, так. Шчасце — паняцце шматграннае. Па-першае, самае вялікае шчасце — гэта само жыццё, існаванне». Далей «расшыфроўваецца», што сюды ўваходзіць. А ўваходзіць усё жыццёвае і простае. І — усім зразумелае…

Знакаміты мастак Георгій Паплаўскі ў дыялогу з пісьменнікам «Рэалізм — душа мастацтва», таксама зыходзячы са свайго жыццёвага і творчага вопыту, разважае пра бацькоўскі прыклад у станаўленні чалавека. (Канешне ж, шмат чаго расказаўшы пра мастацтва, яго ролю ў жыцці чалавека, грамадства, краіны). Што да краіны, дык ёсць і такое: «…неабходна быць грамадзянінам сваёй краіны, раздзяляць тыя пачуцці, тыя радасці і боль, якія адчувае твой народ».

Але вернемся да бацькоў.

Нарадзіўся Георгій Георгіевіч ва Украіне, у горадзе Роўна, дзе жылі сваякі маці, да якіх яна і прыехала нараджаць. А потым ужо, нарадзіўшы сына, вярнулася назад у Бортнікі, гэта вёска недалёка ад Бабруйска.

«Бацькі мае — рускія, са старавераў, — кажа Георгій Георгіевіч. — Бацька доўгія гады працаваў на фанерна-дрэваапрацоўчым камбінаце ў Бабруйску. Слесарам, наладчыкам машын… На камбінаце яго цанілі і за ўмелыя рукі, і за стараннасць, добрасумленнасць».

А далей пра радню, дзе ўсе яны, «стараверы, былі вялікімі працаўнікамі». І зноў пра бацьку: «…колькі помню, ледзь золак — ужо на нагах і абавязкова што-небудзь майструе, клапоціцца па гаспадарцы. Пасля едзе на працу (наколькі асабіста мне вядома, каля сарака кіламетраў. А які тады быў транспарт? — **У. С.**), а вярнуўшыся вечарам дамоў, зноў з галавою акунаецца ў хатнія турботы. І так з дня ў дзень». Крыху ніжэй: «Павінен сказаць, што, калі мне што-небудзь і ўдалося зрабіць у гэтым жыцці, дык толькі дзякуючы таму, што бацькі змаглі выхаваць ува мне любоў да працы. Хаця, шчыра кажучы, мая працавітасць ужо на парадак ніжэй».

Можа і так, калі спыняцца на апошнім. Але ж створанае Майстрам у жывапісе, графіцы, у кніжнай ілюстрацыі не дазваляе пагадзіцца: не можа такога быць!.. Толькі самаахвярны працаўнік змог стварыць тое, што стварыў Георгій Георгіевіч.

Цікавыя яго разважанні пра ўласна мастацтва: для чаго яно?.. Проста мастацтва для мастацтва? Адназначнага адказу на гэта ён не дае, маўляў, паразважайце самі, навошта каму нешта навязваць? Хаця, калі ўжо так, па яго меркаванні «Усё залежыць ад таго, у чыіх руках і тое і другое (маецца на ўвазе мастацтва для мастацтва і сацыяльнае мастацтва. — **У. С.**)»

І як тут не нагадаць у сувязі з гэтым выказванне вялікага рускага мастака Крамскога, якое прыводзіць Георгій Георгіевіч, гаворачы пра «змест» мастацтва, які па яго ж меркаванні, нельга зводзіць толькі да выказванняў думак. Бо «мы жывём не толькі ў цудоўным, але і ў жорсткім свеце», у якім, вядома ж, адбываецца «напружаная сутычка ідэй, адчайная барацьба дабра і зла. Не заўважаць усяго гэтага, выключыць яго са сферы мастацтва — значыць ігнараваць логіку жыцця, яго дыялектыку».

А выказванне Крамскога наступнае: «Толькі пачуццё грамадскасці дае сілу мастаку і падзесяцярае яго сілы… і толькі ўпэўненасць, што праца мастака і патрэбная, і дарагая грамадству, дапаможа выспяваць экзатычным раслінам, што называюцца карцінамі. І толькі такія карціны будуць ствараць гонар для сучаснікаў і для нашчадкаў».

А кнігі?.. Ёсць пра што задумацца, калі мы гаворым пра сучасную літаратуру, ёсць…

Тры пісьменнікі, героі кнігі «Постаці…», першай з задуманай аўтарам серыі… Адам Мальдзіс, Янка Сіпакоў, Анатоль Сульянаў. На дзіва адораныя

асобы. Што да Адама Восіпавіча, дык поле яго дзейнасці наогул, без перабольшання, надзвычай уражвае…

Што датычыць Івана Данілавіча Сіпакова — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, крытык… А Анатоль Сульянаў, дык празаік, публіцыст, ваенны лётчык, генерал, настаўнік…

Думаеш, калі прыгадваеш гэта, якія ж непаўторныя асобы нашы пісьменнікі!.. І іх не адзінкі, нават не дзясятак. І не заўсёды гэта заўважаеш, чытаючы іх творы. Значыць, вельмі добра, што пісьменнік Зіновій Прыгодзіч у «Постацях…» пастараўся паказаць нам пакуль толькі некаторых з нашых выдатных літаратараў і як проста людзей, і як творцаў…

Вось Янка Сіпакоў, светлы, незабыўны, шчыры… Жахлівае маленства: фашысты забілі бацькоў за сувязь з партызанамі. Гадавала і выхоўвала хлопчыка цётка Вулляна. Звычайная вясковая жанчына, з тых нашых прабабуль, бабуль, матуль — святых гаротніц нашай зямлі, якія ў страшэнны час ліхалецця аддавалі сябе без астатку таму, каб захаваць жыцці дзяцей і ўнукаў. Часта не толькі сваіх родных, і не толькі сваёй нацыянальнасці і свайго веравызнання, але — дзяцей. І дарослых. (Прыкладаў таму шмат.)

Цётка Вулляна (ведаю з асабістых расказаў Івана Данілавіча) умела «адгукацца на чужы боль». Такое пачуццё яна прывіла і маленькаму Янку. Гэтым пачуццём валодаў Іван Данілавіч усё жыццё. Без яго, такога пачуцця, нельга напісаць добрую кнігу. А ў Янкі Сіпакова такіх кніг, добрых, столькі, колькі ён напісаў…

Сэнс свайго жыцця Іван Данілавіч разумеў так: «Проста жыць». У фінале дыялогу Янка Сіпакоў, між іншым, як і Міхась Міцкевіч, тлумачыць, што гэта значыць, проста жыць. І за ўсёй ягонай прастатой — усё добрае, што ёсць у яго творах, у жыцці. І ўсё на карысць грамадству…

Зіновій Кірылавіч быў вельмі блізкім чалавекам для Сіпакова. А блізкаму чалавеку весці дыялог з блізкім няпроста. Дыялог атрымаўся. Янка Сіпакоў, якому з яго добрым характарам было «хараша» (яго любімае слова. — **У. С.**) з добрымі людзьмі, і якім таксама было «хараша» з ім, у кнізе такі, як мы яго памятаем…

Пра добрых людзей шмат гаворыць і Анатоль Сульянаў. Дыялог З. Прыгодзіча з ім называецца «Духоўнасць, маральнасць — аснова прафесіяналізму». Чалавек самай мужнай прафесіі — абаронца Айчыны — прафесіяналізму ў любой справе надае першаснае значэнне.

Але, мужнасць, строгасць, справядлівасць, дабрыня і спагада… Гэтыя якасці шчасліва спалучаюцца ў асобе Анатоля Канстанцінавіча. Мабыць, пагэтаму яму, як ён прызнаецца «…у жыцці шанцавала на добрых людзей»… Адзін з іх — Васіль Быкаў, які высока цаніў Анатоля Сульянава і як чалавека, і як пісьменніка, і як свайго сябра…

У дыялогу Анатоль Канстанцінавіч расказвае пра некаторыя старонкі сваёй біяграфіі. Гаворыць пра службу ў войску, пра тое, як пачынаў пісаць, разважае пра літаратуру, яе месца ў грамадстве. Кажа і пра ўрокі Васіля Быкава, якія ён яму даваў, як больш вопытны пісьменнік.

У дыялогу нават ёсць раздзел «Урокі Васіля Быкава». У ім фармулюецца тое, у чым яны заключаюцца асабіста для Сульянава. Вось як пра гэта кажа Анатоль Канстанцінавіч: «...па-першае, гэта — вернасць праўдзе. Чаго б яна ні каштавала! Пра гэта Васіль Уладзіміравіч неаднаразова напамінаў і вусна, і пісьмова. Кроў, пакуты і пот народа ў мінулай вайне, — пісаў ён, — накладваюць на тых, хто піша аб вайне, найпершы абавязак — безумоўную вернасць праўдзе».

Ёсць у дыялогу і аб тым, якое значэнне Васіль Быкаў «надаваў форме літаратурнага твора, дынаміцы і логіцы сюжэта, глыбіні раскрыцця характараў сваіх герояў». А таксама такі запавет выдатнага пісьменніка: «ніколі і нічога не вымучвай праз сілу. Пішы толькі тады, калі не можаш не пісаць».

Заўважае Анатоль Канстанцінавіч і наступнае: «У Быкава трэба вучыцца і вучыцца ўменню падтрымліваць талент, радавацца поспеху калегі». А перад гэтым прыводзіць прыклад, як умеў гэта рабіць Васіль Уладзіміравіч...

Што ні дыялог у «Постацях…», то адкрыцці. Не толькі ў стварэнні праўдзівых вобразаў герояў кнігі, іх характараў, паказу іх жыццёвых пазіцый. Адкрыццяў на іх погляды на справу, якой служаць, на грамадства, час, у якім «спрасавана» мінулае і сённяшняе народа, адкрываюцца перспектывы на будучыню.

У іх, гэтых дыялогах — і ўласная жыццёвая, грамадзянская, творчая пазіцыя самога Зіновія Прыгодзіча як чалавека і пісьменніка. А гэта вельмі важная якасць любой кнігі: з чым аўтар ідзе да чытача… (Тут, калі паводле Л. Талстога, сэнс любой кнігі не ў той або іншай калізіі, а ў «нравственном отношении автора к действительности». І такія адносіны да рэчаіснасці і аўтара і яго суразмоўнікаў, як кажуць, навідавоку…

## Публіцыстыка як від літаратуры і не толькі

Дык вось, зноў публіцыстыка. Звернемся да вызначэння, якое ёй дае «Беларуская энцыклапедыя» ў 18-і тамах, да 13-га тома, што выйшаў у 2001 годзе пад рэдакцыяй тагачаснага галоўнага рэдактара гэтага выдавецтва Генадзя Пашкова, слыннага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. (Дарэчы, ён аўтар выдатнай кнігі публіцыстыкі «Палескія вандроўкі».)

У згаданым томе змешчаны даволі грунтоўны, наколькі гэта дазваляе спецыфіка выдання, артыкул пра публіцыстыку выдатнага беларускага публіцыста, журналіста, пісьменніка, кандыдата гістарычных навук, доктара філалагічных навук, прафесара Барыса Стральцова. З. Прыгодзіч у свой час працаваў разам з ім у газеце «Звязда».

Барыс Стральцоў, аўтар манаграфій «Публіцыстычнасць інфармацыйных жанраў» (1973), «Аналітычныя жанры» (1974), «Публіцыстыка: Жанры. Майстэрства» (1977) і шэрагу прац па дадзенай тэматыцы, дае ў гэтым артыкуле такое азначэнне публіцыстыкі: «…від твораў, прысвечаных актуальным праблемам і з’явам грамадскага жыцця».

У «Постацях…» З. Прыгодзіч праз дыялогі з героямі выдання якраз і ўздымае «актуальныя праблемы і з’явы» нашай сённяшняй, і скажам так, не такой ужо і далёкай мінулай рэчаіснасці. Паказальна, што ніхто з субяседнікаў пісьменніка, гаворачы пра сённяшняе, не адмаўляецца ад свайго мінулага жыцця, сваёй творчай дзейнасці ў тыя часы. У мінулым яны знаходзяць асновы агульнанароднай жыццясцвярджальнасці, гавораць пра агульную стваральнасць, сцвярджаюць, што ў тым няпростым часе было шмат чаго добрага.

Цытую далей з артыкула Б. Стральцова пра публіцыстыку, тое, што падаецца мне найбольш істотным у адносінах да «Постацей...» «Выконвае сац. пед., прапагандысцкія, інфарм. функцыі, фарміруе грамадскую думку». (Ёсць у выданні і такое. Яно даволі ярка праяўляецца пры сустрэчы аўтара кнігі з чытачамі, пра што сведчу асабіста.)

Стральцоў гаворыць, што публіцыстыка «як від грамадска паліт. л-ры найб. пашырана ў журналістыцы», а таксама, што «Пісьменніцкая П. прасякнута кампанентамі маст. творчасці», дык зазначаю: такімі «кампанентамі» аздоблены дыялогі. У іх — жывая мова, яркая вобразнасць, дакладныя завязка, развязка, кульмінацыя і г. д.

Далей у артыкуле знакамітага публіцыста і колішняга выкладчыка факультэта журналістыкі БДУ называюцца асноўныя якасці публіцыстыкі. А менавіта: «...тэарэт. Абгрунтаванасць, доказнасць, праўдзівасць, прынцыповасць, тэндэнцыйнасць, паліт. вастрыня, эмацыянальнасць, палемічнасць». Гаворыцца пра жанры: «нарыс, эсэ, фельетон, памфлет». І яшчэ прафесар паведамляе чытачу пра

некаторую спецыфіку публіцыстыкі і яе асаблівасці. І хоць не гаворыць пра дыялогі, помню з яго лекцый, што ён таксама адносіў іх да мастацкай публіцыстыкі. Вядома, калі яны адпавядаюць усяму вышэй названаму. Але і ў той час такіх пісьменніцкіх дыялогаў з людзьмі, як зараз у З. Прыгодзіча, можна было сустрэць вельмі рэдка. Звычайна іх замянялі інтэрв'ю.

Называе Барыс Васільевіч і найбольш яркіх публіцыстаў розных часоў: мінулага і сённяшняга (на час выхаду энцыклапедыі з друку). Вядома ж, найперш — К. Каліноўскі, дарэчы, Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь у галіне публіцыстыкі носіць яго імя; Ф. Багушэвіч, З. Бядуля, М. Гарэцкі. Прафесар зазначае, што публіцыстыка «заняла значнае месца ў творчасці М. Багдановіча», што «з публіцыстычнымі творамі выступалі Ц. Гартны, М. Зарэцкі, Я. Скрыган, М. Чарот». А таксама, што Я. Купала, Я. Колас, К. Чорны, А. Куляшоў, П. Броўка, П. Панчанка і іншыя ў гады «вайны са старонак розных выданняў звярталіся да народа». І, што «найб. уклад у развіццё бел. п. пасляваен. часу зрабілі пісьменнікі Я. Брыль, В. Быкаў, І. Дуброўскі, М. Лынькоў, В. Палтаран, Я. Сіпакоў, М. Танк, І. Чыгрынаў, І. Шамякін». А яшчэ, што «У сучаснай (на час напісання артыкула. — **У. С.**) п. працуюць Н. Гілевіч, У. Глушакоў, Л. Екель, А. Казловіч, Л. Левановіч, У. Ліпскі, С. Шаўцоў, М. Шыманскі, Л. Юнчык, В. Якавенка і інш.».

Вядома, Б. Стральцоў у невялікім артыкуле не мог назваць усіх пісьменнікаў і журналістаў, хто тады працаваў у розных публіцыстычных жанрах. Але асабіста я да найбольш яркіх кніг тых часоў, якія маюць публіцыстычную накіраванасць абавязкова аднёс бы знакаміты нарыс аб Беларусі Уладзіміра Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі». Нагадаю, слынны пісьменнік пісаў яго спецыяльна для юнага ўкраінскага чытача, у нас твор вытрымаў некалькі выданняў, прадмову да аднаго з іх напісаў Васіль Быкаў.

Назваў бы і кнігу нарысаў і эсэ Янкі Сіпакова «Акно, расчыненае ў зіму», якую мы, студэнты журфака 70-х гадоў, вывучалі пад кіраўніцтвам Барыса Васільевіча. І не магу не назваць яшчэ адну кнігу Я. Сіпакова — «Зялёны лісток на планеце Зямля» (2010), абазначаную аўтарам, як «Партрэт Беларусі». У ёй — 30 эсэ пра нашу зямлю, пра ўсё наша мінулае і сённяшняе. А таксама — кнігу крытыка, літаратуразнаўцы, гісторыка, празаіка і публіцыста Алеся Марціновіча «Зерне да зерня», дарэчы, адзначаную Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь і інш.

Ідзе час. Не ўсе з пералічаных літаратараў і журналістаў, хто сярод нас, працягваюць займацца публіцыстыкай. Не ўсе працуюць у ранейшым, стваральным рэчышчы. Прычыны розныя: ад змены поглядаў на з'явы грамадскага жыцця, калі іншы творца раптам становіцца, як кажуць, «прозрэвшим» і адракаецца ад ўсяго таго, што раней славіў сваім «палымяным» словам, да — узроставай…

Можа, некаму падасца дзіўным, але ў нашым і ў новым часе так і не «прозрели», усе без выключэння, субяседнікі Зіновія Прыгодзіча. Яны як працавалі для грамадства, так і працуюць. Хіба што зараз таму-сяму з іх больш складана, чым раней… (Прычына раскрываецца ў гутарках, у іх жа і тое, як яны пераадольваюць гэтыя складанасці.)

Не «прозрели», мабыць таму, што кожны з іх сёння, як і тады, адчувае сябе грамадзянінам сваёй краіны, што ён па-ранейшаму разам з народам?.. Дык гэта ўжо грамадзянская пазіцыя... Пры тым, як сведчаць дыялогі, такая пазіцыя не выключае палемікі, спрэчак паміж людзьмі, не пазбаўляе іх свайго пункту гледжання на тую, або іншую з'яву рэчаіснасці, палітыку дзяржавы і г.д. Але тут павінна быць разумная памяркоўнасць і канструктыўнасць, накіраваныя на стваральнасць. Кожнага з нас, зноў падкрэслю, у той справе, якую ён абраў.

Напрыклад, добра пра гэта сказаў Міхась Дрынеўскі. Зіновій Кірылавіч пытае ў яго, маўляў, ці важныя для «харыста» чалавечыя, маральна-ідэйныя якасці. Адказваючы на пытанне, народны артыст, кіраўнік славутага творчага

калектыву, у прыватнасці, зазначае: «Што тычыцца ідэйных якасцей, то нас мала цікавяць палітычныя погляды чалавека і ў якой ён партыі. Галоўнае, каб любіў свой народ, родную культуру, матчыну мову…»

А пра пісьменнікаў можна так сказаць? Несумненна… І нагадаю: літпрацэс адзін…

## Стваральнікі

Асабіста мне вельмі хацелася, каб кніга «Постаці...» мела або такі падзагаловак, або нават назву. І яшчэ, каб у ёй было пазначана, што субяседнікі Зіновія Прыгодзіча — героі таго і гэтага нашага часу.

Пачну з апошняга, з герояў… Сёння сапраўдных працаўнікоў, людзей, якія годна, без залішняй «шуміхі» робяць сваю справу (і такую, як субяседнікі Зіновія Прыгодзіча, у тым ліку і пісьменнікі), усялякія «продвинутые», «паспяховыя», «культавыя» ў лепшым выпадку імкнуцца не вельмі заўважаць.

Часта ў СМІ, асабліва так званых свабодных — «культавы акцёр», «культавы спявак», «культавы пісьменнік» і г. д. Словам, штучна створаныя, дамарослыя, нібыта вялікія, у розных творчых сферах чалавечай дзейнасці, выдаюцца за прыклад юным. Але ці той?..

Выдатныя пісьменнікі Адам Мальдзіс, Янка Сіпакоў, Анатоль Сульянаў, кожны з якіх унёс і ўносіць (на жаль, Івана Данілавіча ўжо няма сярод нас) свой уклад у духоўныя скарбы краіны, якраз паказвалі і паказваюць прыклад самааддананага ёй служэння, як, між іншым, і ўсе без выключэння героі кнігі «Постаці…». Несумнена, яны — героі нашага часу…

У кожнай справе важны прыклад. Прыклад пакаленняў… Прыклад сучаснікаў. Асабісты прыклад бацькоў, суседзяў, настаўнікаў… Важны прыклад герояў літаратуры і мастацтва… І праўдзівы жывы вобраз хлебароба, рабочага, урача, вайскоўца, палітыка і г.д., створаны на старонках кніг, на экране, на сцэне, разам з прыкладам з рэальнага жыцця — часта для юнакоў і дзяўчат — арыенцір у выбары свойго жыццёвага шляху.

Пра яго выбар, пра пошукі сваёй жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі — таксама шмат гаворыцца ў кнізе. Таму яна можа быць адрасавана і школьнікам...

У сувязі з гэтым успомніўся адзін матэрыял, надрукаваны некалькі гадоў таму ў газеце «Белорусская нива». У ім карэспандэнт выдання задаваў пытанне выпускнікам адной са школ г. Заслаўя: хто для іх герой нашага часу… Аказваецца, як адказаў адзін з вучняў — бацькі… І яго падтрымалі многія аднакласнікі.

Стваральнікі… Тыя, хто стварае… Па-руску — «Созидающие». Усе героі кнігі «Постаці...» такія ж. Але прыгадалася, што кніга з такой назвай ужо ёсць. І выйшла яна ў 2008 годзе ў Расіі тыражом у 2000 экзэмпляраў. (Такі ж тыраж і «Постацей...») Там — амаль на 150 мільёнаў жыхароў, у нас — амаль на дзесяць).

Аўтар той кнігі знакаміты рускі мастак-рэстаўратар, мастацтвазнаўца, пісьменнік, публіцыст, акадэмік, даследчык даўніны (не толькі сваёй айчыннай, але і нашай беларускай) Сава Ямшчыкоў. На жаль, Савы Васільевіча ўжо няма ў жывых, памёр у 2009 годзе.

Згаданая кніга С. Ямшчыкова — таксама, як і «Постаці…» З. Прыгодзіча — дыялогі аўтара са знакамітымі людзьмі, у якіх дакладна вызначаная патрыятычная пазіцыя да сваёй Айчыны.

Кінарэжысёры Андрэй Таркоўскі і Марлен Хуцыеў, пісьменнікі, сярод якіх Валянцін Распуцін і крытык Ігар Залатускі, святар-іканапісец айцец Зянон і многія іншыя расіяне, у тым ліку і нашы суайчыннікі, якія жывуць і працуюць там, гавораць з аўтарам пра сябе, пра сваё месца ў грамадстве, аб праблемах, якія ў ім сёння ўзнікаюць.

І яны, гэтыя людзі, таксама, як і субяседнікі Зіновія Кірылавіча, з’яўляюцца героямі часу свайго грамадства. Ды і сам Сава Васільевіч быў такім жа.

Сава Ямшчыкоў шырока вядомы і ў Беларусі. Напрыклад, яшчэ ў даперабудовачныя часы ён разам з групай калег па просьбе Машэрава ўзнаўляў у Нясвіжы ў Фарным касцёле алтарны вобраз «Тайнай вячэры», у час вайны прабіты снарадам.

Творцаў, у дадзеным выпадку гэтых пісьменнікаў-публіцыстаў З. Прыгодзіча і С. Ямшчыкова, аб’ядноўвае тое, што яны належаць да адной і той жа вялікай рускай класічнай школы публіцыстыкі, на якой заснаваліся нацыянальныя школы, Зіновій Кірылавіч, акрамя БДУ, вывучаў яе ў Маскве ў Акадэміі грамадскіх навук. А астатняе, як ужо гаварылася, залежыць ад таленту творцы.

Заўважу, не прыніжаючы Саву Васільевіча, у дыялогах Прыгодзіч некалькі больш стрыманы і менш катэгарычны, або зусім не катэгарычны, у меркаваннях, чым Ямшчыкоў. Думаю, рускі публіцыст у сваіх дыялогах такі, бо адразу ірвецца ў «бой». У яго краіне, з яе маштабамі, міжнародным становішчам, часам з непрымірымымі поглядамі некаторых людзей на жыццё грамадства многія праблемы стаяць вайстрэй, чым у нас. Асабіста мне цікава было параўноўваць кнігі, дыялогі, адзначаць таленты публіцыстаў, погляды на рэчаіснасць, засяроджвацца на іх падабенствах і адрозненнях. І цудоўна, што такія падабенствы і адрозненні ёсць.

Напрыклад, і ў З. Прыгодзіча, і С. Ямшчыкова — свая мова…

Спынюся на мове З. Прыгодзіча. Яна захапляе. Іншы раз нават цяжка вызначыць, дзе ён журналіст (мова газеты асобная), дзе празаік і паэт, настолькі арганічна спалучаюцца яго словы. І калі А. Карлюкевіч раіць будучым журналістам «Постаці…» як падручнік, дык яго праўда: скажам, чаму б студэнтам не павучыцца дакладнасці і вобразнасці, разуменню асацыятыўнасці і г. д. у раскрыцці тэмы? Ці, што не менш важна — у беражлівых адносінах да мовы сваіх субяседнікаў?..

Напрыклад, чытаю дыялог з Мальдзісам і бачу яго такім, як ведаю. Бачу партрэт, адчуваю характар гэтай непаўторнай асобы ў нашай культуры, бачу ягоную цудоўную Смаргоншчыну, чую яе гаворку, землякоў яго бачу… І бачу людзей, ягоных сяброў Адама Іосіфавіча, пра якіх ён расказвае…

Або выдатны скульптар Іван Міско… Звярніце ўвагу на сказы: уяўляецца скульптар, майстэрня, яго героі, сярод якіх, вядома ж, касманаўты і проста людзі…

Ці пісьменнікі Янка Сіпакоў і Анатоль Сульянаў… Мяккі, спагадлівы, светлы, часам журботны Іван Данілавіч, уяўляецца жывым... Бачыш у яго родных Зубрэвічах землякоў пісьменніка, герояў многіх твораў. А вось чалавек надзвычайнай мужнасці пісьменнік Сульянаў… Як чалавек ваеннай прафесіі — гранічна дакладны ў выказваннях. Часам чаканнае слова, ніякай сентыментальнасці... Адчуваецца валявы характар, і ў той жа час, пры ўсёй строгасці — надзвычайная чулая душа.

Несумненна, гэта заслуга пісьменніка Зіновія Прыгодзіча, што ён так уважліва паставіўся да сваіх субяседнікаў, да іх вобразаў, да іхняга ўнутранага свету, да іх творчасці, лёсаў… Без гэтага ягоная першая кніга «Постаці…» (ужо выйшла другая з задуманай серыі) не мела б такога грамадскага гучання, якое мае. І калі мы назавём «Постаці…» своеасаблівым падручнікам жыцця — у гэтым не будзе перабольшвання.

**Васіль ШУР**

# ПРА БІБЛІОНІМ «ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ» І ІНШЫЯ ЗАГАЛОЎКІ

У беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч як празаік, паэт, драматург, сцэнарыст, эсэіст, публіцыст, перакладчык, крытык пакінуў багатую літаратурную спадчыну.

Яшчэ пры жыцці ён быў прызнаны як пісьменнік-энцыклапедыст, які глыбока ведаў і па-мастацку самабытна, пераканальна і ўмела пісаў не толькі пра беларускую гісторыю і літаратуры, стаўшы заснавальнікам беларускага нацыянальнага гістарычнага рамана. Закончыўшы Кіеўскі ўніверсітэт, засвоіўшы рускую і ўкраінскую літаратуру, Караткевіч прыйшоў у нацыянальную літаратуру з грунтоўным веданнем сусветнай і айчыннай гісторыі і літаратуры. Пра гэта, як адзначана даследчыкамі яго творчасці, сведчаць нават загалоўкі твораў, якія інтэртэкстуальна дэманструюць высокі інтэлектуальны патэнцыял пісьменніка: «*Ідылія ў духу Вато», «Лятучы галандзец», «Трызненне мужыцкага Брэйгеля», «Балада пра сыноў Пітакаса», «Наследаванне Байрану», «Новая Атлантыда», «Чурлёніс*», а навуковая дасведчанасць, талерантнасць, аб'ектыўнасць У. Караткевіча ў апісанні рэалій, узаемадзеяння культур, традыцый народаў, напрыклад, украінскага і беларускага, варта пераймання, захаплення.

Уладзімір Караткевіч як выдатны пісьменнік быў майстрам разнастайных прыёмаў па стылізацыі мастацкага тэксту, у прыватнасці, ён умела падбіраў онімы, устарэлую лексіку, фразеалогію, разнастайныя апісальныя выразы, імітуючы імі пэўную гістарычную эпоху, побыт, звычаі, сацыяльнае асяроддзе. Так, у нарысе «Зямля пад белымі крыламі» шырока прадстаўлены тапонімы, імёны канкрэтных асоб, вядомых у гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі: *князь Уладзімір, Казімір Лышчынскі, Барталамей Шпакоўскі, Лазар Богша, Кашпар Бекеш, Вітаўт, Аўгуст III, Менск, Менеск, Машакоўка, Дзебры, Камянецкая Вежа* і інш., свет мінулага перадаюць шматлікія ўстарэлыя словы: *фартэца, пушкар, міля, пан, дзіда, мушкет* і інш.

Даследчыкі творчасці У. Караткевіча (Т. Кабржыцкая, В. Мароз і інш.), акрамя арыгінальнага выкарыстання перыфраз, стварэння запамінальных, сімвалізаваных бібліонімаў, якія спрыяюць глыбокаму і пазнавальнаму зместу яго твораў, адзначаюць іншыя адметныя рысы яго індывідуальнага стылю: наяўнасць разнастайных метафар інфармацыйна-выхаваўчага характару, параўнанняў, адсутнасць закасцянелых трафарэтных выразаў і шаблонаў, уласцівых для мовы некаторых нарысаў, лаканізм выкладу думак, глыбокае веданне фактаў гісторыі і культуры беларускага і суседніх народаў, пра што сведчыць насычэнне яго мастацкіх тэкстаў гістарызмамі і архаізмамі, якія даюць магчымасць чытачу праз умоўнасці мастацкага тэксту ўзнавіць каларыт, атмасферу беларускага мінулага, падрабязнасці этнаграфічных і бытавых замалёвак.

Паказальнае ў творчасці У. Караткевіча — шырокае выкарыстанне слоўсімвалаў, што ўвасабляюць Беларусь. Відаць, з гэтай прычыны даследчыкі мовы пісьменніка імкнуцца выявіць пераважна агульныя моўна-стылістычныя асаблівасці яго творчай манеры без абавязковай праекцыі на пэўны літаратурны жанр. Ужо ў ранніх творах гэтага пісьменніка-рамантыка выяўляецца як скразная

адметнасць яго стылю персаніфікацыя назоўнікаў, найчасцей у тэматычнай групе «*радзіма*» — «вобразе ўсёй яго творчасці — вобразе Беларусі» (В. Мароз).

Для ўзнёсла-велічнага наймення нашай радзімы Беларусі як дзяржавы У. Караткевіч стварыў апісальны выраз «*Зямля пад белымі крыламі»*, якім назваў свой папулярны нарыс. Ён упершыню быў надрукаваны не ў Беларусі, а ў Кіеве ў 1972 г. на ўкраінскай мове, а па-беларуску — значна пазней, у 1977 г. Дарэчы, неаднаразова ўносіліся прапановы, каб кніга «Зямля пад белымі крыламі» была зацверджана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці падручніка для школ Беларусі. Між іншым, і раннюю паэму пра сваю малую радзіму ён таксама назваў вельмі блізкай перыфразай «*Зямля дзядоў*». Паступова гэтыя цяпер вельмі частыя бібліонімы набылі сімвалічны сэнс, выступаючы сінонімамі да наступных перыфраз, вядомых з твораў беларускай мастацкай літаратуры: *зямля Заслонава, Купалы; зямля продкаў; зямля бацькоў* і інш. Падобныя апісальныя выразы як сімвалічныя, вядомыя ў іншых літаратурах, ужываюцца для ідэнтыфікацыі самых розных краін: *Зямля Калумба* — Амерыка*, Зямля Сервантэса* — Іспанія*, Паднябесная зямля* — Кітай, *зямля Тараса* — Украіна, *зямля Спартака і Гарыбальдзі* — Італія і інш. [2. с. 43]. Журналіст К. Карнялюк у нарысе «*Белы бусел ляціць…*» (газета «На страже», 06.01.2005), пішучы пра самыя прыгожыя і памятныя мясціны Беларусі, адзначыў, што выраз «*сінявокая Беларусь*» увёў у нашу культуру ўкраінскі паэт Уладзімір Сасюра. У сваю чаргу, вялікі сын гераічнай аршанскай зямлі Уладзімір Караткевіч напісаў нарыс «*Зямля пад белымі крыламі*» спачатку для ўкраінскага чытача, бо так хацелася распавесці суседзям пра цуды зямлі бацькоўскай. Назва твора даўно стала крылатай, як і птушка *бусел* — сімвалам Беларусі…

У гісторыі беларускай літаратуры ёсць прыклады, калі асобныя загалоўкі не задавальнялі звышпільных цэнзараў, і тыя патрабавалі ад аўтара замены ці карэкціроўкі тэкстаў і некаторых онімаў — ключавых слоў да ўсяго літаратурнага твора ці асобных яго частак. Так, спачатку рукапіс кнігі *«Зямля пад белымі крыламі»* пісьменнік здаў у друк пад назвай *«Краіна пад белымі крыламі»*. Яна ўяўляла арыгінальную перыфразу, метафарычна-ўзнёсла называючы нашу радзіму — *краіна Беларусь*. Аднак, як піша пра гэта М. Дубянецкі, некаму ў той час не спадабалася слова *«краіна»,* якое пашыралі і ўжывалі тады ў адносінах да СССР. А меншыя дзяржавы, краіны, што ўваходзілі ў яго, маглі называцца ў той перыяд, як правіла, толькі краем. Што Палессе — край, то і Беларусь — край! [3, с. 178]. «Шліфаваліся» ідэалагічнай цэнзурай і іншыя творы, іх загалоўкі. Такую апрацоўку, напрыклад, перацярпела і аповесць В. Быкава *«Сотнікаў»*, якая ў рукапісе спачатку называлася *«Двое ўначы»*. Сярод двух асноўных персанажаў твора (з пункту гледжання афіцыйных «выхавальнікаў» чытацкіх густаў) вылучаўся правільнасцю разумення сітуацыі *Сотнікаў*, што і паўплывала на замену назвы твора. Замена загалоўка, як слушна пісаў М. Пажарыцкі, потым істотна адбілася нават на фарміраванні літаратурна-крытычных ацэнак гэтага твора [4, с. 44]. Загалоўкі твораў гэтага пісьменніка ўважліва аналізавалі таксама І. Лепешаў, Д. Бугаёў і інш.

Замяняў У. Караткевіч і іншыя загалоўкі сваіх мастацкіх твораў, напаўняючы іх дадатковым зместам, выяўляючы асацыяцыі, надаючы такім онімам праз умоўнасці пэўных жанраў больш шырокую, канцэптуальную трактоўку мастацка-эстэтычнай змястоўнасці ўсяго тэксту. Так, у 50—60-х гадах XX ст. пісьменнік асабліва актыўна працаваў, апублікаваўшы тры зборнікі паэзіі і апавяданняў, раман «*Каласы пад сярпом тваім*», аповесці «*Дзікае паляванне караля Стаха», «Чазенія»,* раман *«Леаніды не вернуцца да Зямлі»*, апошні загаловак-сказ таксама нечым не задавальняў пісьменніка, і ён замяніў яго на больш лаканічны «*Нельга забыць*», укладваючы ў гэты выраз спрадвечную мару самога аўтара, як і галоўнага персанажа рамана, — аб'ездзіць «*усю Беларусь, адшукаць тое, што забыта, вывучыць, біць у набат, калі штосьці занядбалі або бураць»; напісаць «сумленную гісторыю, якая не будзе забываць ні добрага, ні дрэннага*» [7, с. 323].

Аляксандр Гужалоўскі ў артыкуле «Парнас пад цэнзурным наглядам» (Полымя, 2014, № 6) падрабязна тлумачыць, як у савецкі час (40—80-я гады XX ст.) цэнзары выпраўлялі, рабілі «правільнымі» назвы загалоўкаў, асобныя фрагменты з мастацкіх твораў. Некаторыя тэксты гэтыя чыноўнікі бракавалі адразу пасля прачытання іх назвы, не паглыбляючыся ў змест. Так, напрыклад, адбылося з аповесцю Янкі Брыля «*Расчараванне*», вымушана перайменаванай у «*Апошнюю сустрэчу*», а раннюю аповесць У. Караткевіча «*Раман Ракута*» пісьменніку парэкамендавалі перайменаваць у *«Сівую легенду»,* таксама назву рамана «*Леаніды не вернуцца да Зямлі*» ён быў вымушаны замяніць на «*Нельга забыць*», хаця пралог гэтага рамана друкаваўся спачатку як апавяданне «*Паром на бурнай рацэ*». Асабліва многа самых розных прыдзірак з боку прэвентыўнай рэдактарскай і галоўлітаўскай цэнзуры мелі ў тыя часы рукапісы твораў Васіля Быкава. Так, яго аповесць «*Праклятая вышыня*» была ўпершыню апублікавана ў 1968 г. у «Маладосці», беларуская цэнзура «прагледзела» гэты ідэалагічны пракол, а ў маскоўскім «Новом мире» яе надрукавалі пад назвай «*Атака сходу*», пасля чаго ў тагачаснай афіцыйнай прэсе ўзнялася «хваля маральнага знішчэння аўтара». Няпростыя адносіны з цэнзурай у тыя часы былі ў пісьменнікаў А. Карпюка, У. Калесніка, А. Васілевіч, А. Кулакоўскага П. Панчанкі, Т. Хадкевіча і інш. («Полымя», 2014, № 6, с.141—147).

Патрабавальны да сябе пісьменнік не заўсёды можа адразу падабраць удалы онім-загаловак да свайго новага твора. І такіх прыкладаў нямала. Так, вядома, што вельмі ўважлівым і асцярожным да загалоўкаў быў Леў Талстой. Канстанцін Федзін у гэтай сувязі таксама адзначыў, што выбраць добры загаловак, — даволі цяжкая задача: прыйдуць у галаву цудоўныя варыянты, але выяўляецца, што яны ўжо былі ў іншых пісьменнікаў. Іван Мележ, прынёсшы ў рэдакцыю «Полымя» свой чарговы рукапіс, як успамінаў яго зямляк Барыс Сачанка, падрыхтаваў спачатку аж 15 варыянтаў загалоўкаў да першага рамана з «*Палескай хронікі»*, які цяпер добра вядомы пад назвай «*Людзі на балоце»*, але найбольш тады яму падабаліся дзве — «*Людзі на балоце»* і «*Туман над багнай».* А прапаноўваліся і «*Людзі ў балоце»*, і «*Людзі сярод балот»*, і «*Балотныя людзі»* і інш. У рэдакцыі пачалося непаспешлівае, павольнае абмеркаванне то адной, то другой назвы. У кожнай з іх было нешта мілае, прывабнае і разам з тым... Другі раман гэтага аўтара з цыкла «*Палеская хроніка»* ў канчатковым варыянце быў названы «*Подых навальніцы»*, а папярэдне, як успамінаюць сябры пісьменніка, меў рабочую назву «*Навальніца над полем».* Сэнс загалоўкаў многіх мастацкіх тэкстаў, як вядома, лёгка ўсведамляецца, у іх выяўляецца аўтарская ідэя, асабліва тады, калі загортваецца апошняя старонка твора. Напрыклад, І. Лепешаў, каменціруючы загалоўкі Янкі Купалы, адзначаў, чаму гэты класік літаратуры называў менавіта так свае паэмы *«Бандароўна», «Курган», «Магіла льва»,* камедыі «*Паўлінка», «Прымакі*». А ёсць жа шэраг твораў, загалоўкі якіх прымушаюць чытача задумацца. Яны або атрымалі сэнсавае прырашчэнне, або ў іх суіснуюць два значэнні. Такія, на яго думку, загалоўкі апавядання Янкі Брыля «*Memento mori*», паэмы «*Тарас на Парнасе*», трагікамедыі Янкі Купалы «*Тутэйшыя*», байкі Кандрата Крапівы «*Жаба ў каляіне*», апавядання Васіля Быкава «*У тумане*» і інш. А назва апавядання В. Быкава з алагічнай назвай «*Ружовы туман*», як пераканальна паказаў І. Лепешаў, стала крылатым выразам, падхопленым многімі аўтарамі.

Іван Шамякін таксама ўважліва ставіўся да выбару загалоўкаў сваіх твораў. Даследчыкі прозы ў першых ужо яго раманах, аповесцях выяўляюць сімвалізм, сэнсавыя прырашчэнні, наватарства, узбагачанае традыцыямі сусветнай літаратуры ў выбары бібліонімаў. Так, загаловак аповесці *«Помста»* (параўн.: *помста* — адплата за прычыненае зло) выразна прэтэндуе на шматзначнасць. Змест жа гэтай аповесці, як падкрэслівалі ўважлівыя крытыкі, наадварот, заклікаў да чалавечнасці і разважлівасці, нагадваў пра неабходнасць гуманнага, разумнага і

справядлівага размежавання вінаватых і невінаватых. Удалы і метафарычна ўзбагачаны выраз «*глыбокая плынь»*. Стаўшы бібліонімам, назваю першага ў гэтага аўтара знакамітага рамана, ён набыў асаблівую яскравасць і новае семантычнае напаўненне. Як пісалі даследчыкі, «*глыбіня*» выклікае цэлы ланцуг асацыяцый, выводзячы на сэнс сакральны, метафізічны: «*глыбокі»* — значыць, важны, неадназначны, мудры. Так, Таццяна Шамякіна, якая крытычна ставілася да асобных ягоных загалоўкаў, адзначала: «…назва выключна ўдалая. Сам выраз — «*глыбокая плынь*» — хоць і не крылаты, але сустракаецца ў народным уяўленні… Назва прама падказвала на народны характар партызанскай барацьбы». Пад «*глыбінёй*» разумеюць і ваду, і зямлю з яе падводнымі рэчышчамі, і падсвядомасць самога чалавека. Пісьменніка хвалявалі *глыбіня* (сутнасць) і першавыток розных з'яў, сімвалічна звязаных перш за ўсё з вобразам вады, пра што сведчыць загаловак яшчэ аднаго рамана — «*Крыніцы*».., крыніцы як вядома, «б'юць з глыбінь», так што назва, такім чынам, працягвае сімвалічную лінію першага рамана [10, с. 138—139].

Сімвалізмам, шматзначнасцю вызначаюцца і іншыя загалоўкі твораў гэтага класіка. Так, «*Сэрца на далоні*» — гэта не анатамічны экспанат, не алагічнае словазлучэнне, а з лёгкай рукі пісьменніка сімвал дзейснага гуманізму. Назва яшчэ аднаго рамана І. Шамякіна «*Злая зорка*» таксама выразна сімвалічная: твор пра самую вялікую катастрофу XX стагоддзя, якую найбольш спазнала наша Беларусь і асабліва малая радзіма пісьменніка, пра падзеі, звязаныя з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Вобраз палыновай зоркі, як сведчаць даследчыкі, узяты з *Апакаліпсісу,* якая прарочыць канец свету, гэта назва полісемант, яна сімвалізавала вынікі і «брэжнеўскага застою», і пачатак катастрафізму «дэмакратычнай эпохі», і «перабудовы», уласцівай дзевяностым гадам XX ст. у былым СССР.

Некаторыя загалоўкі ствараюцца на незвычайным спалучэнні слоў-кампанентаў, утвараючы такім чынам такую стылістычную фігуру, як *аксюмаран* — узаемадзеянне супрацілеглых дэфініцый, якія лагічна выключаюць адно другое, але, ужытыя разам, даюць новае патрэбнае пісьменніку па яго задуме мастацкае ўяўленне [5, с. 78]. Параўн.: «*Гарачы снег», «Жывы труп», «Святыя грэшнікі», «Аптымістычная трагедыя», «Жывыя мошчы».* У гэты незвычайны і запамінальны для любога чытача набор загалоўкаў з твораў сусветнай літаратуры ўваходзіць і назва пенталогіі І. Шамякіна таксама з алагічнай назвай *«Трывожнае шчасце»* — адзін з лепшых яго твораў з некалькіх частак пра вайну і каханне, пра вернасць пачуццяў і сардэчнасць, абавязак і, безумоўна, як скразная тэма амаль усіх яго раманаў і аповесцей — найперш пра патрыятызм, вернасць абавязку, любоў да блізкіх, да малой і вялікай Радзімы. Твор і сёння, хаця і быў напісаны ў канцы 50-х пачатку 60-х гадоў XX ст., актуальны і лічыцца наватарскім у беларускай мастацкай літаратуры, і, як сведчаць апытанні школьнікаў, студэнтаў, ён у ліку самых папулярных у беларускай літаратуры.

Гэты мастацкі прыём (аксюмаран) у апісанні рэалій пры стварэнні загалоўкаў выкарыстоўваецца ў нашай сучаснай літаратуры. Так, даследчыкі (Н. Кузьміч, Н. Дамброўская, М. Тычына і інш.), аналізуючы аповесць В. Адамчыка «*Падарожжа на Буцафале*», у працэсе ацэнкі і інтэрпрэтацыі згаданага тэксту вызначаюць і адносяць яго да самых розных жанравых прыналежнасцей (прыгодніцкай, фантастычнай, гістарычна-фантастычнай, фантастычна-рэальнай і інш.). Аднак, такая аксюмарыстычная жанравая характарыстыка апраўданая, таму што служыць адмысловым папярэджаннем пра выкарыстанне пісьменнікам нетрадыцыйнай для яго творчай манеры, бо падзагаловак, створаны В. Адамчыкам, не расчароўваў канчаткова адносна пераважна эпічнага характару яго творчасці» [11, с. 10]. Лінгвістычны кампанент у падзагалоўку, створаны В. Адамчыкам, пабудаваны на кантрастывах («неверагодна-праўдзівая і фантастычна рэальная аповесць»), дамінуючы ў тэксце, што, безумоўна, засяроджвае ўвагу чытача, бо пісьменнік малюе захапляльную гісторыю, пабудаваную на экстраардынарных

здарэннях, а гэта адна з прыкмет твораў, якія любяць чытачы, і гэту асаблівасць абавязкова павінны ўлічваць пісьменнікі.

Онімы-сімвалы шырока ўжываў у сваіх творах Я. Купала. Так, у драме *«Раскіданае гняздо»,* якую ён стварыў на падставе ўласных жыццёвых фактаў, многія персанажы, іх онімы ўспрымаюцца даследчыкамі творчасці класіка як сімвалы: абвешаны торбамі, з сукаватым кіем у руках *Старац* сімвалізуе долю тых, каго паны праўдамі і няпраўдамі прагналі з зямлі-карміцелькі; параўн.: у беларусаў *торба* — сімвал жабрацтва. *Незнаёмы* — вястун лепшай долі, бунтар, які заклікае ўсіх абяздоленых і пакрыўджаных на вялікі Сход, да вялікага змагання. Відаць, гэты онім-сімвал і вобраз, як лічыць Р. Шкраба, сталі аналагам-узорам для стварэння вобраза *Нявіднага* ў аповесці Я. Коласа «*Дрыгва*»; *Паніч* — сімвалізуе чорныя сілы, якія выжываюць з роднага кута яго законных гаспадароў, стваральнікаў. У гэтай п’есе аўтар зусім не паказвае побыт сям’і Зяблікаў. Затое буйным планам малююцца вобразы, якія набываюць сэнс вялікіх сімвалаў. Прычым сімвалаў вельмі рэальных і ў той жа час вельмі абагуленых... Як сімвалічны патрэбна разглядаць і загаловак аповесці Я. Коласа «*Дрыгва*» пра падзеі грамадзянскай вайны на Мазырскім Палессі. У аснову назвы гэтага твора пакладзены апелятыў *дрыгва* — топкае балота, багністая мясціна. *Дрыгва* — гэта і ўсё тое, што характарызуецца застоем, маральным падзеннем. Прамое значэнне слова *дрыгва* тлумачыць і пісьменнік у разважаннях дзеда Талаша: *А дрыгва там вялікая! Людзі не ходзяць па ёй, калі ступіш на яе, дык ужо наверх не выберашся. Не, не выберашся*. Аднак загаловак трэба разумець і як сімвалічны: неадольнаю *дрыгвою* для акупантаў Палесся былі не толькі бяскрайнія дрыгвяністыя і непраходныя балоты Беларусі, *дрыгва* паглынала кожнага, хто спрабаваў пасквапіцца на гэты край, на яго народ. *Дрыгвою*, *балотам* была і тая абмежаваная колькасна група мясцовых здраднікаў, якая падтрымлівала акупантаў і не разумела тагачасную ідэалогію перамен новай савецкай дзяржавы.

Вобразы-сімвалы птушак і гнёздаў, як сведчаць даследчыкі, прасочваюцца ў беларускім фальклоры з глыбокай старажытнасці, што тлумачыцца культурнагістарычнымі традыцыямі нашага народа. Так, Т. Трыпуціна, аналізуючы моўнастылявыя асаблівасці творчасці Я. Брыля, адзначала, што традыцыя ў літаратуры, пачатая Я. Купалам і звязаная з вобразам раскіданага гнязда, знайшла далейшае творчае ўвасабленне не толькі ў вядомым рамане гэтага сучаснага класіка, а і ў іншых яго творах. «*Птушкі і гнёзды*» — не толькі назва рамана, гэта і тэма, і праблема. Пісьменнік невыпадкова замяніў першую рабочую назву «*Дзе твой народ*». У творчасці Я. Брыля, як адзначыла гэтая даследчыца, сімвалічныя вобразы птушак і гнёздаў, а таксама выраю рэалізуюцца таксама ў апавяданні «*Адзін дзень»* і ў аповесці «*У Забалоцці днее*».

У онімах-сімвалах, створаных калектыўным розумам народа (фальклорныя творы), а таксама пісьменнікамі, акумулюецца вялікая колькасць разнастайных асацыяцый, пачуццяў, эмоцый. Таму, напрыклад, у мастацкіх тэкстах словы *зязюля, бусел, хата, сокал, балота, вярба, крыж, колас, серп* і інш. не проста моўныя адзінкі, а свайго роду ўмоўныя абазначэнні пэўных фактаў, з’яў рэчаіснасці, якія характарызуюцца ўстойлівасцю, традыцыйнасцю пераносаў значэнняў. Прычым у сімвалах перанос значэння адбываецца праз мастацкі вобраз, які нечым нагадвае гэту з’яву: Параўн.: *дуб* — сімвал моцы, а таксама сілы і мудрасці; *зязюлька* — сімвал самотнай жанчыны; рака *Дунай* — сімвал разлукі і г.д. [12, с. 69]. Апрача таго, у беларускай мове існуе значная колькасць устойлівых выразаў, у якіх праз апісанне характэрных і ўніверсальных рыс птушак наглядна і вобразна перадаецца знешняе аблічча і іншыя ўласцівасці чалавека.

У чым жа арыгінальнасць і сімвалізм загалоўка *«Зямля пад белымі крыламі»?* Просочым гэта больш падрабязна, аналізуючы названы нарыс У. Караткевіча. Даследчыкі стылю і мовы мастацкіх твораў (А. Андрэеў, Т. Шамякіна і інш.) адзначаюць, што для пісьменніка і чытача надзвычай важнае значэнне ў межах

цэласнасці і ўспрымання ўсяго тэксту набываюць яго ўмоўныя, пазначаныя ў мастацкім творы прасторавыя межы і асабліва яго пачатак, якія разам адыгрываюць галоўную ролю ў стратэгіі аўтара на зацікаўленасць патэнцыяльнага чытача да твора, а «цэласнасць мастацкага твора неабходна вывучаць як сістэмнасць...» Менавіта пачатак характарызуецца, як правіла, найвышэйшым узроўнем семіятычнасці. Часта ў пачатку твора выяўляе сябе той ці іншы яго матыў ці нават ідэя, аўтарская задума і, бясспрэчна, найбольш ярка — дамінанта стылю пісьменніка [10, с. 148]. Вядома, што вобраз *бусла* як сімвала Беларусі з'яўляецца скразным і засведчаны ў многіх жанрах фальклору і мастацкай літаратуры, а назоўнік *бусел* паступова трансфармаваўся ў вядомую ўсім перыфразу, створаную У. Караткевічам. У народным уяўленні святымі, божымі птушкамі лічыліся *ластаўка, салавей, бусел, жаўранак*. *Бусел* для беларусаў, як сведчаць факты з міфалогіі, — святая птушка. Забіць яго — вялікі грэх. Дачыненні *бусла* і чалавека — прыклад гарманічнага суіснавання людзей і дзікай прыроды, якая становіцца свойскай: спрадвечна людзі дапамагалі *буслу* будаваць гняздо, ахвяруючы дзеля гэтага старыя колы, бароны… За гэта птушка магічным чынам засцерагала жыллё ад пажару або папярэджвала, што жыллё можа спаліць пярун… Разуменне, успрыняцце *бусла* як апекуна і распарадчыка ўраджаем і дабрабытам як істоты, што «прыносіць» дзяцей, сцвярджае натуральнасць яго знаходжання сярод гурту калядоўшчыкаў. Светапогляднай глыбіннай семантыкай вобраза *бусла* з'явілася і судачыненне яго з продкамі, замагільным светам, што на больш познім этапе дазволіла бачыць у гэтай птушцы ўвасабленне самога Бога [6, с. 52]. Бусла лічаць пераважна толькі беларускім птахам. Пра гэта сведчыць, напрыклад, вядомая прыказка, адзначаная ў слоўніку І. Лепешава і М. Якалцэвіч: «*Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бусел (бацян)*» [8, с. 471]. Пра гэта ж пісаў і У. Караткевіч: «*Да пэўнай ступені бусел — сімвал Беларусі. Ёсць, вядома, дацкія буслы, апетыя Андэрсенам, ёсць буслы і ў іншых заходніх краінах. Ёсць яны і на поўдні. Але на ўсход ад Беларусі, калі не лічыць Сярэднюю Азію, яны ўжо амаль не водзяцца. Так што нават цікава, а хто там прыносіць у дом дзяцей*» [1, с. 3]. Сімвалічныя ў гэтага аўтара іншыя загалоўкі. Раман «Каласы пад сярпом тваім» — твор шматпланавы і маштабны. Сімвалічная і яго назва. Праз біблейскі вобраз каласоў і сярпа пісьменнік імкнуўся раскрыць усеагульныя праблемы быцця, асэнсаваць лёс чалавека, свайго народа і чалавецтва, задумацца над сутнасцю жыцця і смерці, часовасцю і вечнасцю, неабходнасцю, наканаванасцю будучага паўстання.

Самая кідкая і запамінальная адметнасць Палесся — гэта буслы, буслянкі — бусліныя гнёзды, бязмежныя балоты, якія прадстаўнікам іншых рэгіёнаў, падарожнікам найбольш запамінаюцца, калі яны ўзгадваюць гэты адметны рэгіён Беларусі. Наведваючы гэты край, В. Маракуеў у кнізе «*Полесье и полешуки*» (Адэса, 1897) адзначаў: «Бусел прылятае вясною, на *Благавешчанне*: да гэтай пары сяляне зацягваюць на зламаную вяршаліну дрэва старое кола або не прыдатную да выкарыстання барану; *бусел* нацягае на барану або кола кучу галля і селіцца ў гэтым уладкаваным гняздзе… Калі *бусел* выкіне з гнязда яйка, то, па перакананні сялян, быць году неўрадліваму, калі ж птушаня — будзе год галодны. На Палессі існуе павер'е, што раней *бусел* быў чалавекам, але за непаслушэнства Бог зрабіў яго птушкай, а яго маці за тое, што нарадзіла такога сына, была адпраўлена ў пекла, дзе цяпер, молячыся, выставіла адну нагу з пекла… На Мазырскім Палессі *буслы* жывуць пераважна на дрэвах, бліжэй да Пінскага Палесся — на хатах сялян.. Усё лета *бусел* нязменна збірае вужак і жаб на балотах. Недзе каля 6 жніўня *буслы* збіраюцца ў чароды дзе-небудзь на лугавіне аграмаднымі статкамі, рыхтуючыся да адлёту і потым пускаюцца ў вырай. На Палессі жыве павер'е, што перад адлётам у вырай *буслы* забіваюць сваіх слабых суродзічаў-таварышаў».

Часлаў Пяткевіч адзначаў, што ў 1912 годзе, знаходзячыся ў доме паноў Аскеркаў у маёнтку *Глінішча* (звярніце ўвагу — на радзіме Івана Мележа. — **В. Ш.**) за 16 кіламетраў ад *Хойнікаў*, на вялізным поплаве, зрэдку ўсеяным таполямі

(сокарамі), за якімі цягнуцца бязмежныя балоты над ракою *Віццю* (прыток Прыпяці), як можна было ахапіць вокам, налічыў да 200 гнёздаў, па адным на кожным дрэве, без барон, колаў і розных іншых прыстасаванняў з боку чалавека. У *Хойніках*, якія размяшчаюцца поблізу балота з усходняга боку, на адной тоўстай таполі, што расце каля першых будынкаў пры дарозе з *Юравіч*, у тым самым 1912 г., бачыў 18 бусліных гнёздаў (!), што з'яўляецца нечуванай з'явай нават у гэтых краях.

У беларускіх народных павер'ях, як прасочана, *бусел* спрыяе сямейнаму дабрабыту і дзетанараджэнню (параўн. уяўленне аб тым, што дзяцей прыносіць бацькам менавіта *бусел)*. Верылі, што шчасце будзе спадарожнічаць тым, на чыім падвор'і ён зрабіў гняздо. І як пісаў Ч. Пяткевіч пра буслоў на Палессі: кожны селянін там ганарыўся, маючы на сваёй стадоле *бусьленіцу,* дзеля гэтага ён размяшчаў на даху ці на вершаліне дрэва старое кола ад воза ці зламаную барану ў якасці фундамента пад гняздо… Зруйнаванне гнязда ці іншая крыўда, нанесеная птушкам, лічыцца вялікім злачынствам, тым больш такога роду ўчынак можа наслаць смяртэльную хваробу на дзяцей. Агульнавядома і забарона разбураць буслінае гняздо: птах можа жорстка адпомсціць — прынясе галавешку і спаліць хату або накліча градавую хмару. У зборніку «Легенды і паданні» (Мінск, 1983) засведчана «*Помста буслоў*»: «Чалавеку, які разбурыў буслянку, прадказваюць бяду, будзе кара нябесная. І выпадае, кара прыходзіць. Знаходзіць бусел таго, хто пакрыўдзіў яго, і помсціць злосна, жорстка — то прынясе і кіне на дах галавешку, і схопіцца хата агнём, а то і спрытней яшчэ ўтворыць — гадзюку кіне ў калодзеж: піце слёзы мае…» (с. 61)

На беларускім і ўкраінскім Палессі існаваў звычай выпякаць на *Благавешчанне* рытуальнае печыва — *буськавы лапы* — у выглядзе адбітка следу *бусла.* З гэтым печывам дзеці сустракалі з выраю буслоў [9, с. 24]. У беларусаў прадуктыўнымі з'яўляюцца і прозвішчы, утвораныя ад апелятываў *бусел, бацян*: *Бусел*, *Буська, Бусень, Бусловіч, Бацян, Бацяновіч, Бацяноўскі* і інш. Між іншым, прозвішча *Бацяноўскі* ўдумліваму чытачу можа падказаць многае. Яго мае персанаж трылогіі Я. Коласа «На ростанях» дзяк, псаломшчык у вёсцы *Выганы*, дзе працаваў настаўнікам Андрэй Лабановіч. Утворана яно (прозвішча) ад апелятыва *бацян,* якім у дыялектнай мове ў гаворках Піншчыны называюць *бусла* — тыповага прадстаўніка фаўны неабсяжных палескіх балотаў. Прататыпам *Бацяноўскага,* як устаноўлена даследчыкамі творчасці Я. Коласа, быў «*сухі і нішчымны, як абмалочаны сноп*», дзячок з прозвішчам *Хацяноўскі*, якое Я. Колас свядома «падправіў», і яно «загаварыла», арганічна ўпісаўшыся ў агульны тэкст твора. Магчыма, таксама, што Я. Колас, выбіраючы такое прозвішча надзвычай цікаўнаму дзячку, ведаў і выкарыстаў легенду, паводле якой *бусел* (бацян) — гэта чалавек ці анёл, пакараны Богам за празмерную дапытлівасць; даручаную яму торбу ці гаршчок з сабранымі там нячыстымі жывёлінамі-гадамі ён павінен быў кінуць, не развязваючы, у прадонне, ды не стрымаўся, развязаў паглядзець і выпусціў усіх тых пачварын на зямлю.Ператвораны ў птушку, цяпер ён мусіць лавіць усё тое, што некалі выпусціў, ачышчаць зямлю. Стаўшы птушкай, бацян ціснецца бліжэй да чалавека, селіцца побач ці нават на стрэхах хат.... Сваімі паводзінамі дзяк *Бацяноўскі* сапраўды нечым нагадваў *бацяна*, якога Бог пакараў за празмерную цікаўнасць. Параўнайце, напрыклад, эпізод, калі назойліва цікаўны дзячок у начны час заглядваў у вокны хаты настаўніка Лабановіча, спрабуючы высветліць яго занятасць.

Лагічна дапаўняецца ў чытача, узбагачанага фальклорнымі фактамі, гэты фрагмент з трылогіі Я. Коласа наступным зместам пра буслоў, што засведчаны ў легендзе, запісанай у канцы XIX стагоддзя М. Нікіфароўскім: *«Гады ж тым часам вылезлі з торбы і распаўзліся ізноў па зямлі. Бог не захацеў другі раз збіраць гэтую дрэнь, і ён накінуў на чалавека парожнюю торбу і загадаў збіраць у яе паўцякаўшых гадаў. І ходзіць гэты ператвораны чалавек з накінутай паміж*

*плеч торбай па лугах, палях, балотах ды збірае гадаў, але да гэтай пары ніяк сабраць не можа, нягледзячы на тое, што Бог для дапамогі паслаў яму жонку і дзяцей. З прычыны сваёй крэўнасці з чалавекам гэты пярэварацень не адыходзіць далёка ад людскіх сяліб і мала баіцца людзей*». Адлёт буслоў з берагоў Нёмана ў вырай — цёплы край, куды ў жніўні вылятаюць на зіму пералётныя птушкі, па-мастацку кранальна і настальгічна-запамінальна апісаў Якуб Колас у апавяданні «*У старых дубах»: «У леце пачыналася ўжо тая ледзь значная змена, той паварот часу, калі жыццё прыроды ідзе на спад. Скошаны луг і паскладаныя курганамі стагі, парыжэлыя ад дажджоў і сонца, ужо гаварылі аб гэтым паміранні. Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі на грудах або лянiва аглядалі лагчыны. Але было прыметна, што не на пажытак пазбіраліся яны сюды, а для нейкай іншай справы. Пастаяўшы, павольна, адзін за адным, уздымаліся яны ўгару, кружыліся там, і кожны круг падымаў іх усё вышэй і вышэй. Там яны спляталіся ў адну фігуру, у адзін шырокі круг і, не махаючы крыллямі, плаўна і згодна, як па камандзе, насіліся ў неаглядным прасторы сініх нябёсаў... Асірацелыя старыя дубы ў чорных шапках бусліных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістам, і купалі ў сонцы свае адвечныя лапы»*. Дарэчы, вырай, паводле фактаў усходнеславянскай міфалогіі — старажытная назва раю і райскага Сусветнага дрэва: цёплая запаветная краіна, куды адлятаюць душы памерлых праведнікаў. Выраю могуць дасягнуць толькі птушкі, у якіх ёсць ключы ад яго, адна з іх — *бусел.* У беларускім фальклоры распаўсюджаны матыў «замыкання» і «адмыкання» выраю Богам або яго намеснікамі (пчалой і жаваранкам). Замыканне на зіму адбывалася на Узвіжанне (27 верасня), адмыканне прыпадае на Саракі (22 сакавіка) і звязана з вясновым раўнадзеннем і прылётам птушак з выраю, чароды якіх таксама насілі назву вырай [6, с. 99].

У працах некаторых даследчыкаў тапаніміі можна прачытаць пра паходжанне назваў паселішчаў, утвораных ад мясцовай назвы белага *бусла — лелькі.* Ад яе нібыта і назва мястэчка *Лельчыцы,* што на Палессі. Але гэтую версію абвяргае А. Рогалеў: «Буслы і цяпер жывуць у *Лельчыцах*, уюць гнёзды на дрэвах, што на ўскраіне мястэчка. *Белы бусел* — гэта наогул сімвал палескіх прастораў. Аднак паспрабуйце знайсці хаця б адну вёску, назва якой паходзіла б ад назвы птушкі. Няма такіх вёсак. Таму і не верылася ў верагоднасць пачатку *Лельчыц* толькі ад белага бусла [13, с. 43]. На думку гэтага даследчыка, паселішча *Лельчыцы* (Ленчыцы) заснавалі людзі, які мелі асабовае імя, мянушку або прозвішча тыпу *Лелька, Леля, Лелюх, Лялюх* і падобныя. Ёсць і прыгожая легенда пра тое, што падчас мангола-татарскага нашэсця ворагі шукалі ў мясцовых лясах і балотах залатую выяву ляснога бога *Леля* памерам у чатыры аршыны. Але ж знайсці не маглі, і гінулі татары ў бяздонных балотах. Пры гэтым паўтаралі імя ляснога бага «*Лельчы, Лельчы…*». Так сталі называць мясціну, дзе спынілася варожае войска, *Лельчыцы* («Звязда», 30 лістапада, 2010). Але пра гэта асобная гаворка. Ад апелятыва *бусел* на Палессі вядомы шматлікія мікратапонімы, засведчаныя ў слоўніку Г. Івановай «Микратопонимия Мозырского Полесья». Гэта: *Буслава гара, Буслава магіла* — магіла вайскоўца, які меў прозвішча *Бусел; Буслаўка* — луг каля возера; *Буслікі* — назва ўзгорка; *Буслава кубло* — назва ўрочышча; *Буслаў дуб* — частка ляснога масіву, дзе на дубе была буслянка; *Буслы, Буські* — урочышчы з дубамі, дзе вадзіліся буслы. Дарэчы, адзначыць, што і галоўны атрыбут на гербе *Лельчыц* (2002 г.) — выява *бусла* ў блакітным полі іспанскага шчыта, якая ўяўляе стылізаванае адлюстраванне птаха з золата-серабрыста-чорнымі крыламі, унізе шчыта — залаты дубовы вянок, *бусел* і *вянок* сімвалізуюць асноўныя кампаненты мясцовага ландшафту, яго флору і фаўну.

Такім чынам, У. Караткевіч, укладваючы ў загаловак вялікі сімвалічны сэнс, падказваў удумліваму чытачу, што *Беларусь* — гэта краіна, якая аберагаецца гэтай божай птушкай, а мы, беларусы, ходзім пад апекай і абаронай самога Бога. У міфалогіі, якую пісьменнік таксама шырока выкарыстаў, адзначаецца, што коле-

ры *буслінай* афарбоўкі адпавядаюць колерам традыцыйнай беларускай вопраткі: *белы, чырвоны*, *чорны* — старажытная трыяда з глыбокім сімвалічным зместам. *Белы* як сімвал у розных этнакультурных традыцыях асацыіруецца са святлом, чысцінёй, нявіннасцю, праведнасцю. Так, душа добрага чалавека ў народным уяўленні адлятае *белым* галубком [6, с. 122].

У прадмове да нарыса У. Караткевіч, спрашчаючы галоўную задачу чытачу, сам паслядоўна тлумачыць утварэнне загалоўка: «*Над усёй нашай краінай, наставіўшы белыя ветразі крылаў, планіруюць буслы. Іх многія тысячы. На вільчыках сялянскіх хат, на дрэвах, на калонах старых разбураных палацаў, на слупах капліц сярод маладога зялёнага жыта… Гнёзды паўсюль. І таму мне здаецца, што зямлю нашу, Беларусь, можна назваць «зямлёю пад белымі крыламі*». Ветразі іхнія раскрылены над дрэвамі, пушысты хвост, як веерам, накрыў выцягнутыя ногі. А мне пад іхні палёт асабліва добра думаецца пра Беларусь, нашу з вамі радзіму. І для вас я і хачу, наколькі хопіць маіх ведаў і здольнасцей, расказаць пра Беларусь. Ёсць некалькі варыянтаў паходжання гэтай назвы. Прывяду два з іх. Першы. Белае адзенне даўніх вясковых людзей, белыя іхнія валасы, белы колер скуры. Другі. А ён аніяк не супярэчыць з першым. Калі на нашы старажытныя славянскія землі прыйшлі татара-манголы, здолелі адбіцца ад іх амаль адны толькі мы. Паў Уладзімір, Разань, Кіеў. Да Ноўгарада захопнікі не дайшлі толькі таму, што пачаліся дажджы. Мы адбіліся. І менавіта таму мы «белая», значыць «чыстая ад нашэсця татараў» Русь. А гэта да шмат чаго абавязвае. І вы заўсёды памятайце гэта» [1, с. 3].

Пры характарыстыцы станоўчага ў творах У. Караткевіча і іншых пісьменнікаў гэты каларонім (белы) вельмі прадуктыўны, часты, сімвалічна напоўнены. Вось фрагмент іншага тэксту з гэтым словам пра таленавітую беларускую паэтэсу Ніну Мацяш, «б*елую ластаўку Беларусі»*, якая рана памерла, выправіўшыся ў «*апошні палёт па-над жытам*» над роднай зямлёй, без якой не ўмела жыць… да Неба, да Вечнага: «*Зорка-белазёрка*», казаў пра Ніну Мяцяш паэт Анатоль Вярцінскі. І яна насамрэч зорка *белых* азёраў Беларусі: яе ўсхваляваныя думы, яе светлыя пачуцці, яе святланосная душа даходзяць да нас, як святло далёкай зоркі, што адлюстроўваецца ў чыстых, *белых* азёрах Беларусі… Беларуская паэтка — нібыта тая ластаўка з уласнага аднайменнага верша, назаўсёды заручаная з родным краем…» («Роднае слова». 2013, № 9, с. 18).

Паводле граматычнай структуры гэты загаловак — складанае словазлучэнне, у якім ужыты тры самастойныя і адно службовае слова. Лексема *зямля*, якая, як сведчаць даследчыкі, замяніла словы *краіна* ў структуры загалаўка, выступае як сінонім да такіх адзінак, як *краіна, дзяржава*. У творах мастацкай літаратуры, публіцыстыцы гэта слова шырока ўжываецца як кампанент тапанімічных назваў з велічна-ўзнёслай канатацыяй: адкрываючы новыя землі, архіпелагі, краіны, астравы, першапраходцы ідэнтыфікавалі іх рытарычна-велічна: *Зямля Саннікава, Зямля Франца-Іосіфа, Новая зямля*, такія перыфразы-словазлучэнні засведчаны і ў мастацкай літаратуры: З*ямля Сервантэса, Зямля Купалы і Коласа* і інш. Прыметнік-каларонім *белы* (белая) з міфапаэтычным сэнсам — гэта сімвал бязмежнасці, вечнасці сусвету, у традыцыйнай культуры беларусаў ён адзін з найбольш пашыраных. Нароўні з *чырвоным і чорным*, ён складае асноўны спектр колеравай сімволікі ў міфапаэтычнай мадэлі свету [6, с. 45].

Асаблівага каментарыя патрабуе лексема *зямля* ў структуры загалоўка, створанага У. Караткевічам. Гэта слова даволі частае ў загалоўках мастацкіх тэкстаў, напрыклад, у творах Я. Коласа, К. Чорнага, І. Мележа, М. Танка. У загалоўку У. Караткевіча лексема *зямля* — гэта не толькі «*краіна», «дзяржава»*. Як піша А. Бельскі, у творах большасці беларускіх пісьменнікаў *зямля* — вызначальная прыродная і духоўная канстанта нацыянальнага быцця, а таму з'яўляецца ці не самай галоўнай тэмай беларускай літаратуры. Зямля стала асновай паэтычнага мыслення Я. Коласа… Паэтызацыя зямлі і земляробчай працы складае пафас

раманаў Кузьмы Чорнага і Івана Мележа… У мастацкай свядомасці Максіма Танка *зямля* — надзвычай важны топас і шматкроць паўтаральны вобраз-матыў. Гэта па-філасофску значаная тэма творчасці як для яго папярэднікаў у нацыянальнай паэзіі і прозе, так і для знакамітых пісьменнікаў сусветнай літаратуры, пачынаючы ад далёкай Антычнасці… [14, с.12]

У мастацкай літаратуры, як ужо адзначалася, сэнс некоторых загалоўкаў раскрываецца паступова. Здараецца, што толькі прачытаўшы апошні радок у кнізе, можна здагадацца, пра што хацеў у шматстаронкавым творы сказаць аўтар. У гэтым жа нарысе У. Караткевіч, наадварот, з першых старонак знаёміць чытача з *зямлёй пад белымі крыламі.* І мы паступова далучаемся да багатай і разнастайнай інфармацыі пра розныя назвы ў розныя перыяды: *Вялікае Княства Літоўскае, Літва, Белая Русь, Паўночна-Заходні край, Беларусь,* падрабязна пісьменнік піша і пра іншыя, меншыя часткі нашай радзімы: *Палессе, Панямонне, Прыдняпроўе, Азёрны край* і інш. «Умоўна Беларусь дзеліцца на пяць вялікіх раёнаў. 1) *Азёрны край.* Гэта самая поўнач рэспублікі; 2) *Цэнтр*. Ён прыблізна супадае з Мінскай вобласцю; 3) *Панямонне.* Заходнія рэгіёны па берагах Нёмана; 4) *Усход.* Аршанскае ўзвышша, Аршанска-Магілёўская раўніна, а таксама раўніны па рацэ Беразіне і каля Чачэрска; 5) *Поўдзень*, або *Палессе*.

Я — але гэта мая прыватная думка — выдзеліў бы за кошт усходу і ўсходняй часткі Палесся яшчэ шосты раён. *Прыдняпроўе.* Занадта ўжо ўплывае на эканоміку, пейзаж, побыт, нават псіхіку чалавека вялікая Рака.

У адпаведнасці з раёнамі розныя і пейзажы» [1, с.7—8].

Уладзімір Караткевіч добра ведаў і любіў краіну пад белымі крыламі. Пра сваё захапленне, стаўленне да радзімы ён пісаў: «Я аб’ездзіў на Беларусі амаль усё. Няшмат засталося нават глухіх куткоў, дзе я не пабываў бы. Таму я насмельваюся сказаць, што ведаю сваю краіну і яе людзей. І менавіта таму, дарагія дзяўчаты і хлопцы, я стану гаварыць з вамі толькі аб тым, што сам бачыў і чуў. Гэта будзе кніга, напісаная сведкам, які многае (што датычыць сучаснасці) бачыў на ўласныя вочы. І я дужа хацеў бы, каб вы мне верылі, нават калі я стану вам расказваць самыя незвычайныя рэчы. Таму што жыццё багацейшае, чым мы яго ўяўляем. Жыццё часам бывае настолькі падобнае на казку, што нельга не ўскрыкнуць: “Ды не можа гэтага быць!”

Вы можаце спытаць, нашто гэта вам, калі вы самі жывяце тут і шмат чаго бачыце “на свае вочы”. Ну, па-першае, Беларусь вельмі розная. Розняцца людзі, будоўлі, пейзажы. Калі вы жывяце на вёсцы недзе пад Столінам, вы можаце не ведаць, як жывуць вашы браты і равеснікі недзе на Віцебшчыне. Па-другое, калі вы — дзіця вялікага горада, вы можаце ўвогуле не мець уяўлення пра першабытныя лясы недзе над Бярозай-ракой. Па-трэцяе, не тая ўжо і вёска. Людзі носяць не тыя ўборы, глядзяць замест батлейкі тэлевізары. Яны жывуць нязмерна лепей, але і... падабней адзін да аднаго. І мне хочацца расказаць вам аб тым, што знікае і чаму я быў сведкам, каб добра ведалі сваё месца ў гэтым жыцці і вы» [1, с. 4].

Пісьменнік паслядоўна звяртаў увагу на незвычайнасць, унікальнасць, асобных рэгіёнаў зямлі пад белымі крыламі. Так, ён неаднаразова наведваў маляўнічыя берагі *Убарці*, якія асабліва ўпадабалі буслы, якія цэлымі статкамі селяцца на шматлікіх дубах і іншых старадрэвінах на яе берагах, яго ўражвала мясцовая прырода, пра што з асаблівым захапленнем ён вельмі красамоўна паведамляў у названай кнізе нарысаў, а таксама ў эсэ «*Дрэва вечнасці*» пра знакаміты на ўсю Беларусь *Цар-дуб*. Па сцэнарыі У. Караткевіча пастаўлены і кароткаметражны фільм «*Сведкі вечнасці*» — пра помнікі прыроды Беларусі, дзе асаблівае месца — цар-дубу: «*Мы ехалі ў Палессе, у глыбіню ягонную, за Мазыр і Лельчыцы, каб “засняць” каля вёскі Данілегі славуты тысячагадовы цар-дуб, або дуб Крывашапкі. У нас былі ўжо шасцісотгадовыя дубы, чатырохсотгадовыя ясені, таполя Напалеона, дубы Міцкевіча, дубы Ягайлы, проста семісотгадовыя дубы. Нам пазарэз патрэбен быў тысячагадовы дуб…*» І яшчэ: *«...Стаіць у атачэнні*

*шасцісотгадовы дуб — дуб Крывашапкі», «цар-дуб», «дуб вечнасці» — вось колькі яго назваў. Яму тысяча гадоў. Разменьвае другую тысячу»* [1, с.15]. Безумоўна, вядомы пісьменнік-рамантык перабольшваў, і ў гэтым мы не бачым падману, фальшу, бо спецыялісты-лесаводы адзначаюць, што *Цар-дуб* — помнік прыроды рэспубліканскага значэння вышынёй больш за 32 м і дыяметрам 1,4 м, узрост каля 300 гадоў. Узяўшыся за рукі, яго абдымуць чатыры чалавекі. У наш час да *Цар-дуба* з Нацыянальнага парку «*Прыпяцкі*», які займае ахоўваемую прыродную тэрыторыю плошчай 193,7 тыс. га., куды ўваходзіць і частка Лельчыцкага раёна, з *Ляскавіч* і *Турава* наладжваюцца турыстычныя экскурсіі.

На сімвалічным значэнні загалоўка «*Зямля пад белымі крыламі*» яго ўзоры ў наш час удумлівымі аўтарамі, узбагачанымі міжтэкставай кампетэнцыяй, ствараюцца іншыя для шматзначнай характарыстыкі станоўчых асаблівасцей некаторых беларускіх паселішчаў, прадпрыемстваў, тэрыторый. Так, у газеце «Звязда» (27 верасня 2013) быў апублікаваны значны інфармацыйны матэрыял пра паспяховае сельскагаспадарчае прадпрыемства ў Слуцкім раёне *ААТ «Вітка-Агра»,* названае ў гонар беларускага дзіцячага пісьменніка *Васіля Віткі* (Цімоха Крысько). Публікацыя была змешчана пад назвай «*Гаспадарка, аблюбаваная бусламі*», у якой алюзійна выразна падказваецца, што размова будзе ісці пра перадавое сельскагаспадарчае прадпрыемства на зямлі, якую ўпадабалі буслы — птушкі, якія прыносяць шчасце, дабрабыт, «*пра зямлю пад белымі крыламі*».

Назва-перыфраза «Зямля пад белымі крыламі» не стала аказіяналізмам, апісальны выраз з сімвалічным падтэкстам замацаваўся ў прэсе, плакатах, паступова стаў крылатым, што пераканальна сведчыць пра яго ўнікальнасць. Напрыклад, наступны фрагмент: «*Прыемна думаць, што ёсць на Гомельшчыне пісьменнік, улюбёны ў сваю Ліцвінію, у сваю «краіну пад белымі крыламі», у яе сучаснае, мінулае і будучыню*» («Полымя», 2003, № 8, с.197). У наш час нярэдка ў выступленнях з высокіх трыбун нашу радзіму з лёгкай рукі У. Караткевіча велічна называюць гэтай нацыянальна ёмкай перыфразай. Так, у Мазыры, напрыклад, штогод праводзіцца Міжнародны фестываль дзіцячай песні пад гэтай запамінальнай назвай, у якім прымаюць удзел дзеці з самых розных краін блізкага і далёкага замежжа, а *буслянкі* — бусліныя гнёзды ў Мазыры ёсць нават у цэнтры горада.

Раман У. Караткевіча «*Каласы пад сярпом тваім»*, які таксама мае глыбокі сімвалічны падтэкст, спачатку называўся «*Мы ўсе каласы пад сярпом тваім, о Вялікі Божа*», дзе ідэя наканаванасці чалавечага лёсу выяўлена вельмі яскрава. Каментуючы гэты загаловак, А. Васілеўская адзначала, што ў філасофскім разуменні чалавек, як і *колас*, прыходзіць на свет, каб вырасціць зерне, прынесці плён і ў свой час адысці. Такім чынам, *колас* — ахвяра, непазбежная і неабходная. *Колас* — гэта і надзея на новае жыццё, вера ў адраджэнне [5, с. 55]. Сучасны падкарочаны Караткевічам варыянт гэтай неардынарнай назвы лаканічна і імліцытна перадае асноўную глыбока сімвалічную ідэю *каласоў* і *сярпа* ў гэтым творы.

Значэнне гэтага загалоўка раскрываецца не так, як у аналізаваным вышэй нарысе, а паступова, на працягу ўсяго твора. Як прасочана даследчыкамі, гэты бібліонім увасабляе ідэю неабходнасці ахвяры дзеля будучыні ( ахвяравання чалавечым жыццём) і веры ў адраджэнне, у назве выяўлена ідэя пакутніцтва беларусаў. Аналіз рамана ў кантэксце беларускай літаратуры дазваляе меркаваць, што словы, вынесеныя ў загаловак, з'яўляюцца сімвалам Беларусі, яе гістарычнага лёсу і веры ў яе будучыню.

Такім чынам, онімы-сімвалы — спецыфічныя ўласныя адзінкі, якія іншасказальна, метафарычна праз умоўнасці пэўных жанраў перадаюць ідэі, думкі, перажыванні і выкарыстоўваюцца пісьменнікамі як своеасаблівы прыём мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, заснаваны часта на выкарыстанні фальклорных, біблейскіх матываў, на пераклічцы гістарычных і літаратурных вобразаў і сюжэтаў, у якіх падсвядома выяўляюцца пэўныя намёкі і асацыяцыі ў назвах і падзеях. Онімамі-сімваламі ў літаратуры становяцца не толькі асобныя рэальныя

тапанімічныя назвы (*Чарнобыль, Брэст, Хатынь, Віскулі*), а і назвы мастацкіх твораў (*«Новая зямля», «Зямля пад белымі крыламі», «Каласы пад сярпом тваім», «Птушкі і гнёзды», «Глыбокая плынь», «Людзі на балоце», «Воўчая зграя», «Труба»*), літаратурныя персанажы (*Старац, Гарлахвацкі, Незнаёмы*). Такія адзінкі ў тэкстах акумулююць значную колькасць разнастайных пачуццяў, эмоцый, утрымліваюць павялічаную сэнсавую ёмістасць онімаў, дапамагаючы канцэнтравана ствараць яркія запамінальныя вобразы абагульняльнага сэнсу.

## Літаратура:

1.Караткевіч, У. Зямля пад белымі крыламі. Нарыс. / У. Караткевіч // — Мінск: Маст. літ., 1977. — 176 с.

2. Малажай, Г. М. Беларуская перыфраза. / Г. М. Малажай // Мінск. Выш. школа, 1974. — 95 с.

3. Дубянецкі, М. «Трэба рызыкаваць...» / М. Дубянецкі // Полымя. — 2002. — № 1. — С. 159—183.

4. Пажарыцкі, М. Мова твораў Васіля Быкава / М. Пажарыцкі // Роднае слова. — 2002. — № 1. — С. 41—45.

5. Васілеўская, Алена. Загаловак мастацкага тэксту: на прыкладзе рамана «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча / А. Васілеўская // Роднае слова. — 2003.— № 3.— С.55 — 58.

6. Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўнік / С. Санько і інш. — 2-е выд. — Мінск: Беларусь, 2006 — 599 с.

7. Караткевіч, У. Збор твораў: у 8 т. / У. Караткевіч.— Мінск: Маст. літ., 1988. — Т.3.: аповесці. — 543 с.

8. Лепешаў, І. Я. Слоўнік беларускіх прыказак / І. Я. Лепешаў, М. Я. Якалцэвіч. — Мінск: Бел. навука, 2002. — 511 с.

9. Коваль, У. І. Народныя ўяўленні, павер'і, прыкметы: Даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі / У. І. Коваль. — Гомель, 1995. — 180 с.

10. Іван Шамякін: вядомы і невядомы: ўспаміны, эсэ, аповесць / уклад. Т. І. Шамякіна. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 272 с.

11. Аммон, Марына. Матыў фантастычнага падарожжа ў творчасці В. Адамчыка / Марына Аммон // Роднае слова. — 2013. — № 11. — С. 3 — 6.

12. Садоўская А. Канцэпт «птушка» ў беларускай фразеалогіі і культуры // Роднае слова. — 2002. — № 12. — С. 68—70.

13. Рогалеў, А. Ф. Сцежкі ў даўніну: Геаграфічныя назвы Беларускага Палесся / А. Ф. Рогалеў. — Мінск: Полымя, 1992. — 159 с.

14. Бельскі, А. «Ёсць такая зямля…»: Канцэпцыя зямлі ў паэзіі Максіма Танка / Алесь Бельскі // Роднае слова. — 2010. — № 10. — С. 12—15.




*Анатоль Казлоў.*

**ТОЙ, ХТО АБГАНЯЕ СНЫ.**

**Аповесці.**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2014.*

Іван САВЕРЧАНКА

# ДЫЯГНОСТЫКА ДУШЫ

Новая кніга Анатоля Казлова «Той, хто абганяе сны» — красамоўнае сведчанне пачатку якасна новага перыяду ў творчасці пісьменніка. Яна складаецца з чатырох аповесцей, аб'яднаных агульнай творчай задумай.

У аповесці «Абганяючы сны» выявілася глыбокае разуменне аўтарам складанай і шматпланавай прыроды чалавека, спалучэнне ў адной асобе высокага і нізкага, нябеснага і зямнога, высакароднага і грахоўнага. У аповесці шмат цікавых назіранняў, шчырай спавядальнасці, адметных філасофскіх разважанняў пра свабоду і шчасце, вернасць і здраду, праўду і хлусню.

Анатоль Казлоў спрабуе разгадаць таямніцу складаных узаемаадносін паміж людзьмі. Мастацкімі сродкамі асэнсоўваецца дзіўная прырода інстынктаў, іх роля ў жыцці і паводзінах асобы. Яго цікавіць ірацыянальнае, падсвядомае, «звярынае», што дрэмле ў кожным. Аўтар смела гаворыць пра недасканаласць і хібнасць чалавечай натуры: «Не любім мы прызнавацца ў сваіх памылках, выстаўляць на ўсеагульны агляд мізэрнасць унутранага свету, свае душэўныя і цялесныя шчарбіны, выродлівасць учынкаў. Хаваем прыроджаны цынізм пад мілай усмешкай».

Вельмі слушныя і дакладныя разважанні пра тонкі свет узаемаадносін паміж закаханымі, пра небяспеку няўважлівасці, абыякавасці і здрады, справядліва адзначае загадкавасць, складанасць жаночай душы, яе непрадказальнасць.

Аповесць «Паразумецца з ветрам» — імкненне спасцігнуць неспазнаныя грані душы чалавека, вытлумачыць прыроду людскіх жаданняў і памкненняў. Твор напісаны ў форме дыялогаў лірычнага героя з уласным сэрцам, а таксама ягоных спрэчак з міфалагічнай жабай-тарцілай. Удала выкарыстаны прыём дыялагізму дазволіў А. Казлову найбольш выразна выказаць розныя погляды на чалавека, сфармуляваць супрацьлеглыя ацэнкі паводзін і ўчынкаў людзей. Разам з персанажамі твора аўтар шукае ісціну, нязменна палемізуе, выказвае ўласны погляд на падзеі, што, урэшце, дапамагае яму паўней акрэсліць і глыбей зразумець чалавека ў сучасных жыццёвых рэаліях.

Не абыходзіць А. Казлоў спрадвечнае пытанне філасофіі і літаратуры аб вытоках Божага і д'ябальскага ў чалавеку, шчыра імкнецца знайсці сродкі ачышчэння і ўзвышэння асобы: «Ты лепш пакажы, дай зразумець, дзе ў кожнага з нас змяшчаецца часціна Боскага, а дзе пралягае дадзенае Д'яблам. І якія ў іх вагавыя суадносіны?», яго непакоіць пытанне аб адзіноце і самоце чалавека, які жыве нібы ў пустыні, сярод дзікіх звяроў, бо паўсюль яго падсцерагаюць

падман, здрада і подласць. Пісьменнік прыходзіць да высновы, што ў кожным, незалежна ад яго сацыяльнага статусу і ўзроўню адукацыі, жывуць рэўнасць і здрада. У залежнасці ад абставін і збегу акалічнасцей, чалавек здатны на нянавісць і помсту. З сумам адзначаецца, што ў адносінах паміж мужчынамі і жанчынамі ў наш век з'явілася штосьці новае, нават механічнае, «без пабудовы паветраных замкаў, бессэнсоўных і пустых сустрэч у кавярнях, размоў пра Нішто». А. Казлова непакоіць, што ў значнай частцы грамадства запанавала адмоўнае стаўленне да кахання. Многія ставяцца да кахання, да вернасці і шчырасці ва ўзаемаадносінах як да небяспечнай хваробы, якой трэба сцерагчыся і ўсяляк пазбягаць. Аднак А. Казлоў верыць у выратавальную моц кахання. Адкладваць яго на потым не варта, бо з часам пачуцці прытупляюцца, пачынаецца непатрэбны аналіз, разлік, а сэрца паступова чарсцвее. Бадай, упершыню ў беларускай літаратуры раскрыты невыносныя пакуты мужчыны, якому здрадзіла жанчына. Выйсце, на думку пісьменніка, — не ў безагляднай помсце ці крыўдлівых абразах, а ў ціхім дараванні, далейшым каханні, сімвалам якога і з'яўляецца «паразуменне з ветрам».

Слушна звернута ўвага на складанасць чалавечай натуры, нязменнае імкненне чалавека да духоўнага жыцця. Лірычны герой аповесці ўскліквае: «Не жыць эмоцыямі? А як жыць, падкажыце, разумнікі-ўсёведы? Па-скоцку?» З болем у сэрцы А. Казлоў адзначае зніжэнне градуса духоўнасці ў грамадстве, дамінаванне матэрыяльнага над духоўным, панаванне культу грошай і багацця: «Душа сёння нікому не патрэбна. Зараз часы хціўцаў, здраднікаў і падонкаў. Хавайцеся, сумленныя!» Гэта смяротна небяспечна для асобы і грамадства.

Аднак А. Казлоў верыць у перамогу дабра над злом, праўды над хлуснёй. Яго развагі часам набываюць рысы ўзнёсла-гнеўнай пропаведзі: «Хлусня, здрада, падман рана ці позна, а выпаўзаюць на паверхню, на самую макаўку і ў самы нязручны для цябе момант. І ўжо анічога нельга зрабіць, як кажуць, перагуляць па-новаму, бо шахматная партыя скончана, кароль звергнуты, а пешкі з жахам разбегліся… Мо таму і не варта прыпадабняцца бальшыні. Ідзі сваёй дарогай, жыві сваім розумам, не адмаўляйся ад свайго бога, нават калі ён карослівы, пляшывы і са злямчанай барадою. Усё роўна не здраджвай!»

Вельмі дарэчы і па-народнаму мудра ўспрымаюцца словы пра неабходнасць захоўваць спакой у розных жыццёвых абставінах. Такія меркаванні і пажаданні карысныя кожнаму: «Трэба спакайней успрымаць усё, што ні робіцца ў жыцці. Падзенні і паразы, удачы і шанцункі, расчараванні і неверагодныя ды нечаканыя здарэнні. Бо жыццё нельга спланаваць, выбудаваць так, каб на ягоным прасцягу не сустракалася ні калдобін з кочкамі, ні заступаў, аб якія абавязкова разаб'еш макаўку». Як клапатлівы гаспадар, А. Казлоў гаворыць пра неабходнасць больш уважліва ставіцца да запаветаў продкаў, не абцяжарваць іх непатрэбнымі забабонамі і прымхамі, ад якіх належыць пазбаўляцца.

Робяць спробы акрэсліць мяжу паміж асабістай свабодай і сацыяльнай адказнасцю, адзначаецца неверагодная супярэчлівасць і няспынная зменлівасць чалавечых жаданняў і памкненняў. Сумненні і душэўныя пакуты лірычнага героя аповесці — сведчанне глыбокіх супярэчнасцей у людскіх сэрцах. Пісьменнік шукае шляхі да сумленнага жыцця, хоча быць удзячным людзям, якія заслугоўваюць таго, прагне навучыцца распазнаваць прыхаванае зло, думае аб тым, як заўжды быць смелым і адважным.

Праз разважанні персанажаў ён заклікае чытача смела крочыць па жыцці, ніколі не прыніжацца і нічога не баяцца. З усіх чалавечых заган і грахоў найбольш асуджае хлусню, якая атручвае чалавечую істоту. Вуснамі міфалагічнай рапухі-тарцілы пісьменнік кажа: «Наконт жа хлусні — усё проста. Яна, ваша людская хлусня, мае свой пах. Яго не зблытаеш ні з чым, ніводная парфума не зглядзіць і не прыхавае пах хлусні». Кожны чалавек мусіць заставацца сам-насам з сабою, зазіраць у сябе, аналізаваць уласныя ўчынкі і сумленна ацэньваць іх, каб не рабіць новых памылак.

У аповесці «Далонь на плячы» ўзмацняецца філасофская састаўляючая, глы-

бей асэнсоўваючы грамадскія працэсы і месца чалавека ў сучасных рэаліях. Галоўны герой Вірун жыве з манекенам-лялькай Монікай-Моняй, размаўляе з ёй, нібы з жывой істотай. Сутнасць сімвала-паслання ў тым, каб звярнуць увагу грамадства на неверагодную адасобленасць людзей адзін ад аднаго, высокую ступень узаемнага недаверу.

Узноўлены істотныя зрухі ў грамадскіх ідэалах і каштоўнасцях, якія адбыліся апошнім часам. Вуснамі Віруна, пісьменнік гаворыць пра дэградацыю грамадства, заняпад маралі і агульначалавечых нормаў. А. Казлоў не вельмі вітае мітуслівасць людзей, паспешлівасць, імкненне здабыць «смачнейшы кавалак», часам не зважаючы на сродкі. Пры гэтым схіляецца да думкі, што людзі не асабліва ведаюць, чаго яны насамрэч хочуць, да чаго сапраўды імкнецца іх душа і сэрца.

Усведамленне неверагоднай складанасці сацыяльных праблем і недасканаласці чалавечай прыроды прыводзіць да трагічных высноў, адчування небяспекі, душэўнай роспачы і непазбежнай катастрофы: «Памірае ўва мне вера ў людзей. Не знаходжу я чысціні думак і памкненняў у сваіх аднародцаў. Народ мой не жыве, а пражывае, не гараць іх душы агнём гонару і велічы за сябе і блізкіх сваіх. Няма народа і мяне разам з ім няма. Я пачаў баяцца. Разумееш, баяцца!»

Выйсце з крызіснага стану А. Казлоў бачыць у тым, каб абапірацца на здаровы сэнс і народную мудрасць. Ён нагадвае пра неабходнасць выканання элементарных законаў жыцця, не забывацца пра адвечныя каштоўнасці. Заклікае навучыцца дараваць памылкі людзям, асабліва блізкім, імкнуцца зразумець матывы і прычыны людскіх паводзін і ўчынкаў. Жыццёвы досвед дазволіў аўтару аповесці зразумець вельмі важную ісціну, сутнасць якой у тым, што здраджваюць, як правіла, тыя, хто знаходзіцца побач. Праўда, ён робіць, на мой погляд, празмерна катэгарычную, максімалісцкую выснову-засцярогу: «Калі не хочаш мець ворагаў, то ніколі не заводзь блізкіх сяброў. Бо хто яшчэ, акрамя сябра, ведае твае самыя балючыя мясціны».

Вельмі глыбокія разважанні пра прыроду ўлады і жаданне людзей кіраваць іншымі. Праўда, А. Казлоў схільны да залішняй абагульненасці, лічачы, што ўсе знаходзяцца ў пастаяннай барацьбе, бескампрамісна змагаюцца за ўладу, прагнуць прынізіць, зняважыць і падначаліць іншых: «Мы ўвесь час вядзём барацьбу з сабою, суседам, знаёмым і зусім чужымі людзьмі. Нашы сэрцы моцныя і параненыя адначасова. Але заўсёды мы перакананы, што лепш быць мёртвым, чым рабом. Дык дзеля чаго імкнёмся ўсё жыццё кагосці падпарадкаваць? Жонка — мужа, бацька — сыноў і дачок, начальнік — падначаленага… Відаць, кожны з нас слабы, а нам хочацца сілы за кошт абяссільвання іншых». Аднак гэта не заўсёды так. Ёсць, вядома, шмат спагадлівых людзей, якія бескарысліва дапамагаюць іншым, робяць добрыя ўчынкі, не спадзеючыся на ўдзячнасць.

Аўтар аповесці дае адметнае мастацкае вызначэнне фундаментальных пытанняў быцця — сэнсу чалавечага існавання. Праўда, завастрае сутнасць праблемы, займае гранічна крайнія пазіцыі: «А дзе ён, той сэнс? Як хоць выглядае? Ці мае ён колер, смак, вышыню і шырыню? Колькі доўжыцца ў прасторы». Паводле ягонай высновы, адзінота — зусім не падстава для роспачы і адчаю, а найбольш прыдатны час сцішанай засяроджанасці, плённага роздуму і карысных разважанняў. Менавіта таму аўтар любіць восень, якая схіляе да думак пра вечнасць, не толькі пра зробленае, а і пра яшчэ не здзейсненае.

Анатоль Казлоў закранае і адвечныя пытанні — прадвызначанасць чалавечага лёсу і свабоду выбару, мяжы свабоды і адказнасці. Персанажы палемізуюць, выказваюць розныя пункты гледжання. Па ўсім відаць, пісьменнік не прымае канцэпцыі наканаванасці, няздольнасці чалавека нешта змяніць ва ўласным жыцці. Ён відавочна не пагаджаецца з пашыраным меркаваннем, што ўсё спланавана нейкімі звышнатуральнымі сіламі.

Эпізод пакарання распуснай жанчыны быком мае сімвалічнае значэнне. У зашыфраванай, іншасказальнай форме сцвярджаецца думка аб тым, што чала-

вечае жыццё, адпрыродныя інстынкты і натуральныя жаданні, вышэй за стэрэатыпы і прынятыя этычныя нормы. Ні розумам, ні сэрцам пісьменнік не згаджаецца з дзікунскімі пакараннямі за іх парушэнні. Ягоная гуманістычная пазіцыя геніяльна сфармулявана ў заключных радках: «Раптам наваколле скалануў нечалавечы крык. Ён дасягнуў нябёсаў, адбіўся ад празрыстай сінечы і ўпаў на абагрэтую зямлю ды раскалоўся на драбнюткія аскепачкі, якія паглынуліся мільёнамі пясчынак на лабастых пагорках».

У аповесці змешчаны трапныя назіранні ў далікатнай сферы інтымных адносін. Так, аўтар слушна заўважае, што кожная новая закаханасць, салодкая спачатку, даволі часта заканчваецца пакутамі і болем. У адносінах паміж мужчынамі і жанчынамі, сапраўды, патрэбна нешта значна большае, чым толькі секс і фізічнае задавальненне. Пісьменнік бліскуча перадае стан чакання кахання і спадзяванні людзей на шчасце ў сямейным жыцці.

Заключная аповесць «Так і жывём» працяг разважанняў пісьменніка пра сучасныя дылемы і выклікі, людскія вартасці і заганы, спакусы і вяртанне да трывалых асноў жыцця. У якасці асноўнага мастацкага прыёму выкарыстаны размовы-спрэчкі, унутраныя разважанні герояў, дыскусіі з «чужым» голасам і гранічна шчырыя гутаркі персанажаў паміж сабой — Пятрака Найдзіна і Рудзькі Ганьчына, Кацярыны Лазебнай і Таццяны Кораневай.

Выяўляючы балючыя кропкі ў жыцці грамадства, А. Казлоў ускрывае найбольш небяспечныя заганы сучаснага чалавека — п’янства, курэнне, гаворыць пра шкоду кадзіравання ад алкаголю, праўдзіва адзначаючы натуральнае імкненне людзей жыць вольна, дыхаць на поўныя грудзі, адчуваць радасць быцця. Таццяна Коранева прызнаецца: «Не хачу паўтонаў. Душа патрабуе жыцця напоўніцу, каб сэрца перапаўнялася радасцю, клекатала ў грудзях, а не капцела сырой лучынаю».

У гэтай аповесці А. Казлоў раскрыў неверагодную цярплівасць вясковых людзей, якія часта пакутуюць ад цяжкіх хвароб, але чамусьці рэдка звяртаюцца да дактароў, або робяць гэта ў апошнюю чаргу, калі трываць далей немагчыма.

Ён разважае пра сапраўдную веру і ўяўную. Вуснамі гераіні Таццяны Кораневай ён дэкларуе: «Бог павінен быць у душы кожнага чалавека. А напускная, няшчырая вера — горш за здраду». На ягоную думку, у жыцці трэба кіравацца голасам сумлення, заўсёды заставацца шчырым, ніколі не рабіць шкоды іншым людзям. Пятрок Найдзін заклікае: «Часцей прыслухоўвайся да свайго сэрца, захоўвай парасткі дабрыні і мяккасці ў душы. І не бойся шчодрай рукі, якая падае жабраку. Дзяліся апошнім, і табе будзе».

У параўнанні з іншымі творамі, у аповесці «Так і жывём» узмацняецца мастацкі псіхалагізм, пранікненне пісьменніка ў свет пачуццяў і эмацыйных перажыванняў герояў. Неверагодныя пакуты Акуліны, якая страціла сына Сяргея, раскрыў яе невычэрпнае гора і незагойную рану. Згрызоты сумлення зазнае Кацярына пасля здрады Пятру.

Выдатныя пейзажныя замалёўкі. Раскошнае лета ў аповесці сімвалізуе багацце і прыгажосць жыцця. Сустракаюцца каларытныя містычныя сцэны, у прыватнасці, з’яўленне на могілках маленькіх белых людзей, напаўпразрыстых і хісткіх.

Выкарыстаўшы розныя мадыфікацыі інтэлектуальнага ідэалізму, А. Казлоў здолеў глыбей зазірнуць у душу чалавека, змог раскрыць свет пачуццяў і паказаць, чым жыве наш сучаснік, што яго радуе і непакоіць, хвалюе і трывожыць, што прымушае напружана думаць і разважаць, спачуваць і балюча перажываць. Без навязлівай дыдактыкі і спрошчанага маралізатарства пісьменнік дапамагае чытачу знайсці апірышча ў жыцці, адрозніць сапраўдныя каштоўнасці ад уяўных.

Ён не прыхарошвае чалавека і не робіць з яго анёла. Пры гэтым ён паказвае глыбіннае імкненне людзей да высокага і светлага, чыстага і прыгожага, здольнасць асобы на высакародныя думкі і годныя ўчынкі, адвечную прагу жыць паводле законаў сумлення і праўды.

Як бачна, выдатны майстар слова Анатоль Казлоў зрабіў шмат творчых адкрыццяў і новай кнігай істотна пашырыў мастацкія і ідэйныя гарызонты нацыянальнай прозы.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# УЗРАСЦІЦЬ КАЛАСЫ




**СВЕТЛЫЯ ЗНАКІ: ПАЭТЫ КІТАЯ**
**Уклад. А. Карлюкевіч, В. Аляксеева.**
*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

Іерогліфы — старажытнае ўсходняе нялітарнае пісьмо, узрост якога амаль 8 тысячагоддзяў. Само слова «іерогліф» — вольны пераклад на грэчаскую мову егіпецкага выразу, што даслоўна азначае «пісьмо слова Божага», г. зн., святое, светлае пісьмо. «Светлыя знакі» называецца і серыя кніг-перакладаў кітайскіх класікаў на беларускую мову, што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Ідэя серыі належыць міністру інфармацыі Ліліі Ананіч, у рэдакцыйны савет уваходзяць Алесь Карлюкевіч, Алесь Бадак, Вольга Аляксеева, Таццяна Сівец, Гао Ман, Чынгіз Алі аглу. Своеасаблівым працягам слаўных традыцый сяброўства Беларусі і Кітая з'яўляецца гэтая значная падзея літаратурнага жыцця. Варта ўзгадаць, што тры гады таму выйшаў грунтоўны том перакладаў Міколы Мятліцкага «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая». Бягучы год надаў новы імпульс культурнаму супрацоўніцтву: Кітайская Народная Рэспубліка стала пачэсным госцем XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выставы, 45 кітайскіх выдаўцоў прадставілі больш за пяць тысяч кніг, падпісана дамова аб выданні ўзаемных перакладаў літаратурных твораў Кітая і Беларусі ў 2015—2020-х гг.

Кітайская паэзія багатая на імёны. За тры тысячы гадоў сваёй гісторыі яна перажывала неверагодныя пад'ёмы і спады, але пра паэзію кожнага народа судзяць па яе вяршынях. А вяршыні кітайскай паэзіі бліскучыя: Лі Бо, Ду Фу, Хань Юл, Лі Хэ, Лу Ю, Ай Цін. Адно з першых месцаў у гэтым спісе заслужана належыць Ван Вэю, паэту эпохі Тан (VI—X стст.). Ван Вэй пра-

клаў новыя шляхі ў кітайскай паэзіі, узбагаціў яе як вытанчаны пясняр красы. Да Ван Вэя кітайская паэзія не ведала такой еднасці з прыродай. Філасофія дзэн-будызму і даоская філасофія вучылі паэта бачыць у прыродзе самае дасканалае выражэнне натуральнасці, праяву існасці рэчаў. Да літаратурнага таленту Ван Вэя далучаецца і талент мастакоўскі. У сваім трактаце «Тайны жывапісу» ён пісаў: «Сярод шляхоў жывапісца простая туш вышэй за ўсё. Яна раскрые прыроду прыроды, яна закончыць дзеянне Творцы». Вершы вялікага паэта таксама быццам бы напісаны простай тушшу, манахромна. Але ў гэтым, пэўна, і заключаецца сапраўдны талент — з дапамогай нескладаных сродкаў раскрыць «прыроду прыроды». Не страціць гэтую высокамастацкую прастату, тонкія адценні сэнсу — у гэтым бачыцца галоўная мэта перакладчыкаў вершаў Ван Вэя. Рыгор Барадулін, Мікола Мятліцкі і Таццяна Сівец у розны час узяліся за нялёгкую задачу. Цалкам адэкватнымі крытыкамі іх працы могуць выступаць, канечне, толькі носьбіты мовы і кітаязнаўцы. Але, на нашу думку, перадаць асаблівасці жыцця чалавека-лясной птушкі ў краіне, дзе «імклівая хваля цалуе ўзбярэжны мурог» і «высі нябёсаў, поўныя святла» беларускім паэтам удалося. Знойдзем тут і весялосць ад чаркі віна, «што ў Сіньфэне прадаюць дзесяць тысяч за гляк», і дружбу, «чыстую, як белыя аблачыны», і горыч ад расстання з роднымі мясцінамі, і ціхае замілаванне вясновай раніцай.

Працягвае серыю «Светлыя знакі» спадчына яшчэ аднаго паэта танскай эпохі — Лі Бо, вядомага як «бессмяротны геній паэзіі». Імя яго ставяць у адзін шэраг з імёнамі Дантэ, Петраркі, Шэкспіра, Фірдуосі і інш. Творчасць паэта цалкам увабрала ў сябе жыццё свайго народа, з незвычайнай дакладнасцю захавала дух часу. Пры гэтым вершы Лі Бо незвычайна рамантычныя, узнёслыя. Таму і называецца прадмова да кнігі, напісаная Алесем Карлюкевічам, «Пераадоленне: рамантызм ці рэалізм?..». Тонка і далікатна перадае Рагнед Малахоўскі ўвагу кітайскага паэта да кожнага гуку, кожнай маленькай зёлкі і каменьчыка. «…Ускрыкне зязюля — і рвецца душа ад пакут», — эмацыйна прамаўляе лірычны герой аднаго з вершаў. Маленькая кветачка «сіваглавы стары» памнажае «даўнюю самоту». Ліловая гліцынія нагадвае яму «быццам з салодкага сну, прыгажуню». Дух мудрасці спасціжэння свету праз сузіранне па-мастацку ўвасабляе Мікола Мятліцкі:

Гляджу я на горы,
і горы глядзяць на мяне.
І доўга глядзім, і ніхто
ані знадакучыў нікому.

Яркая метафарычнасць стылю Рыгора Барадуліна ўвасобілася і ў перакладах кітайскай класікі. Як нельга лепей перадаў ён вобразнае ўспрыняцце свету Лі Бо. «Ноч бяседай поўная, як вока», «ціша таемнасцю ные», «гранаты гарэць незагойным агнём» і іншыя сакавітыя выразы, несумненна, пераконваюць нас у гэтым.

Сябрам і аднадумцам Лі Бо быў Ду Фу, паэт цяжкога лёсу і незвычайнай жыццёвай мудрасці. У дзённіку Максіма Танка (урывак з якога прыведзены ў прадмове), напісана пра Ду Фу наступнае: «Які высокі ўзровень гэтай паэзіі, якая праз тысячу год данесла да нас любоў паэта да свайго народа, да сваёй радзімы, жывое біццё яго сэрца…» Вось такую, як сказалі б зараз, актыўную грамадзянскую пазіцыю паэта з VIII ст. і паспрабавалі перадаць Рыгор Барадулін, Мікола Мяліцкі, Уладзімір Дубоўка і Навум Гальпяровіч. Думаецца, што менавіта паэзія Ду Фу будзе вельмі блізкай беларускаму чытачу. Чуласць да людскага гора, абвостранае адчуванне сацыяльнай несправядлівасці, пяшчотныя адносіны да жанчыны, сям'і — усё гэта вызначала і творчыя памкненні Францішка Багушэвіча, Цёткі, Янкі Купалы… Заканамерна, што асноўную частку перакладаў Ду Фу здзейсніў Навум Гальпяровіч — паэт рамантычны, які выдатна перадае шчымлівыя перажыванні: шкадаванне маладых хлопчыкаў, якіх забіраюць у войска,

бязмежная адданасць Радзіме і захапленне яе прыродай, бо «краіна ў самоце, краіна ў бядзе, ды прыгажосць жыве»… «Адзінота горных вышынь» называецца кніга перакладаў Ду Фу. Кітайцы кажуць: «Адступі на крок — і ўбачыш бязмежныя гарызонты», што азначае: прыпыніся ў бясконцай гонцы за сваёй мэтай, спакойна паразважай. Узняцца да вышынь паэзіі Ду Фу, каб спасцігнуць сябе будзе карысна кожнаму.

А вось наступная кніга серыі, «Водар стоенага лесу», прысвечана перакладам кітайскага паэта больш блізкага да нас часу — Ай Ціна. Акалічнасці лёсу Ай Ціна таксама цесна яднаюць яго з нашымі класікамі. За выступленні супраць Гаміньдана тры гады ён правёў у турме, потым — за крытыку падаўлення свабоды слова ў першыя гады праўлення Мао Цзэдуна — адпраўлены ў ссылку. Не друкаваўся да рэабілітацыі ў 1978 годзе… Яго вольныя вершы нечым нагадваюць то Э. Верхарна, то У. Уітмена, то У. Маякоўскага. Некаму можа падацца, што перакладаць вольныя вершы нашмат прасцей, чым рыфмаваныя: не трэба шукаць рыфму, «танцаваць ля плуга» (як пісаў пра паэтаў Л. Талстой). Аднак не ўсё так проста… Вольны верш трымаецца на своеасаблівай рытмічнай энергіі, а семантычная напружанасць узмацняецца ў параўнанні з вершам сілабатанічным. Філасафічнасць, разуменне ўнутраных прычын з’яў і працэсаў, увага да жыцця простага чалавека — усё гэта перадаць у перакладзе вельмі складана. І дзякуючы Таццяне Сівец, Міколу Мятліцкаму і Навуму Гальпяровічу мы можам зараз па-сапраўднаму адчуць дыханне стомленых сялян, якое нагадвае дыханне зямлі, адчуць магутны прыліў любові ад судакранання з вольнымі хвалямі ракі, паразважаць, як развесці вогнішча, каб душы людзей зноў запалалі…

«Пісаць вершы, як мне ўяўляецца, гэта нават не проста гаварыць пра свае пачуцці, але гаварыць пра іх, стоячы на адной назе», — кажа адзін з герояў рамана «Жарт» М. Кундэры. Перакладаць вершы, асабліва вершы паэтаў краіны з адмысловай філасофіяй і багацейшай гісторыяй — гэта таксама «стаяць на адной назе». Адзін неасцярожны рух — і не ўтрымаеш раўнавагу. Ацаніць пачэсную працу перакладчыкаў, бліжэй пазнаёміцца з жыццём і творчасцю кітайскіх майстроў слова (кожная кніга серыі ўтрымлівае прадмову і біяграфічную даведку) зможа кожны захоплены чытач. Эстэтычная асалода ў гэтым выпадку гарантаваная.




**ЗЯРНЯТКА**
**Уклад. З. Кустава, В. Салаўёва.**
*Мн.: Мастацкая літаратура, 2014*

Чаму ў якасці эпіграфа да дзіцячай кнігі абралі радкі з сур’ёзнага філасофскага санета М. Багдановіча «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…»? Заканамернае пытанне, якое можа ўзнікнуць пры першым знаёмстве са зборнікам вершаў, апавяданняў, казак, загадак, прыпевак, гульняў, прыказак «Зярнятка». Аднак крыху глыбей праанілізаваўшы прачытанае, разумееш: згадка пра жыццёвую сілу зерня, якое захоўвае яе і праз тысячагоддзі — цалкам лагічнае. Ужо сёння маленькім свавольнікам трэба даваць зярняткі грунтоўных ведаў, не баяцца разгорнутых адказаў на іх пытанні.

Даўно заўважана: з дзяцей-«чамучак» вырастаюць геніі…

«У тлумачальным слоўніку беларускай мовы слова *зярнятка, зернейка* пазначаецца як памяншальна-ласкальнае ад слова *зерне* — дробны плод, семя злакаў; семя некаторых іншых раслін. У пераносным сэнсе слова *зерне* азначае зародак, ядро чаго-небудзь, зыходны пачатак. *Зародак* жа — крыніца чаго-небудзь. *Ядро* — гэта сутнасць і аснова», — менавіта так тлумачыцца сэнс назвы кнігі ў прадмове. Падрыхтаваць глебу і пасеяць зярняка, якое потым стане буйным коласам, — вось да чаго імкнуцца ўкладальнікі.

Зрабіць беларускае слова прывабным для дзяцей, зацікавіць іх творамі класікаў беларускай літаратуры і сучасных пісьменнікаў — на ўсё гэта працуе вельмі ўдалае тэматычнае напаўненне кнігі, адказны выбар аўтараў, шыкоўнае афармленне. Вершы, апавяданні, забаўлянкі Якуба Коласа, Язэпа Пушчы, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Анатоля Грачанікава, Алеся Бадака, Віктара Шніпа, Таццяны Мушынскай і многіх іншых зусім розных аўтараў аб'ядноўвае шчырасць пачуцця, цеплыня і пяшчота. І пры гэтым мяккі гумар, займальны сюжэт. Не адыходзяць укладальнікі ад традыцыйных мэт выхавання — развіцця патрыятызму, павагі да старэйшых, любові да ўсяго жывога, жадання плённа працаваць. Безумоўна, станаўленне гарманічнай асобы без гэтага немагчыма. Вось толькі сродкі абіраць трэба цікавыя і нестандартныя, каб не скаціцца ў маралізатарства, каб не надакучыць… Мяжа вельмі хісткая. Але Зося Кустава і Валянціна Салаўёва і з гэтым спраўляюцца выдатна. Раздзелы «Расціце беларусамі», «Я тваё зерне, мама», «Дабрадзеі», «Старалачкі», «Ай! Не буду! Не хачу!», «Любі свой свет!», «Сонечная сцежка» і інш. не толькі знаёмяць маленькіх чытачоў з залацінкамі мудрасці, але і выхоўваюць у іх самастойнасць, творчы пачатак: заданні патрабуюць распавесці цікавыя выпадкі з уласнага жыцця, прачытаць па ролях ці інсцэніраваць, знайсці сэнс незразумелых слоў у слоўніку, зрабіць уласныя ілюстрацыі да твораў. Вельмі важна, што для старэйшых дзяцей прапаноўваецца скласці паведамленне пра жыццёвы і творчы шлях асобных пісьменнікаў, бо разумнага прымянення культурна-гістарычнага метаду, на жаль, не хапае ў праграме пачатковай школы, часта аналізуюцца толькі самі творы, без сувязі з акалічнасцямі біяграфіі аўтара… Але якое дзяцінства без забаў і гульняў? Гульня — гэта ўсвядомленая дзейнасць дзіцяці. Чым больш разнастайныя і змястоўныя гульні, тым большы ўплыў яны маюць на развіццё дзіцяці. Яшчэ Максім Горкі пісаў: «Гульня — шлях дзяцей да пазнання свету, у якім яны жывуць і які прызваныя змяняць». Да таго ж у кнізе «Зярнятка» прадстаўлены традыцыйныя беларускія гульні: «Явар», «Жыта», «Сонейка», «Млын» і інш. А гэта значыць, што і ў вясёлай, нязмушанай атмасферы дзеці не разлучацца з родным словам, пазнаёмяцца з тым, чым цікавіліся іх продкі. Укладальнікі даюць падрабязныя ўказанні бацькам і настаўнікам, як праводзіць гульні, тлумачыць незнаёмыя словы, выкарыстоўваць лічылкі, загадкі, песні, рэкамендуюць назапашваць матэрыял і ствараць свой альбом «Народныя дзіцячыя гульні».

Змястоўная кніга з выдатнымі ілюстрацыямі таленавітай мастачкі Лізаветы Пашчасцевай, без сумневу, зробіць значны ўнёсак у развіццё маўлення, фантазіі і эстэтычнага густу маленькіх беларусаў. Гэта каштоўны падарунак для сямейнай і школьнай бібліятэкі. Сур'ёзна разважаць і смяяцца разам з дзецьмі, раскрываць разам таямніцы Сусвету, сеяць зярняткі мудрасці і дабрыні — магчыма, гэта і ёсць сапраўднае шчасце?

# НЕВЯДОМЫ ЛІСТ ЯКУБА КОЛАСА

Філатэліст, намеснік старшыні Беларускага саюза філатэлістаў Леў Коласаў знайшоў у адной з прыватных замежных калекцый невядомы ліст Якуба Коласа да літаратуразнаўцы, прафесара Беларускага і Казанскага ўніверсітэтаў Аляксандра Мікалаевіча Вазнясенскага.

«У Патсдаме жыве мой нямецкі калега-філатэліст Карстан Альспэбэн, ён цікавіцца гісторыяй пошты Беларусі, — пракаменціраваў лёс знаходкі Леў Коласаў. — У яго калекцыі: маркі, паштовыя канверты і карткі, розная паштовая карэспандэнцыя. Гэта вялікі і цікавы збор дакументаў пра Беларусь. На адным з расійскіх філатэлістычных аўкцыёнаў Карстан набыў ліст Якуба Коласа да Аляксандра Мікалаевіча Вазнясенскага, які ў той час жыў і працаваў у Казані. Я атрымаў копію гэтага ліста. Мой сябра назваў яго адным з самых адметных экспанатаў сваёй калекцыі. Ліст датуецца лістападам 1939 года. Дасланы ў Казань. На заказным канверце пазначаны кароткі адрас адпраўніцеля: «Мінск, БССР, Акадэмія Навук, Якуб Колас».



Минск, Академия Наук

26 XI 1939 г.

Дорогой Александр Николаевич!

Во-первых, Вы простите меня, если я переврал Ваше отчество. Но ведь так давно виделись мы с Вами, что не мудрено забыть и перепутать. Во-вторых, прошу извинения, что не тотчас же ответил на Ваше письмо - заболел гриппом. А теперь о деле.

Как мне кажется, Ваши работы будут встречены у нас радушно. Но сейчас дать Вам заверение, что они будут обязательно напечатаны у нас, я пока не решаюсь. Но все-таки полагаю, что они будут напечатаны. Чтобы сказать определенно

*Минск, Академия Наук*
*26 XI 1939 г.*

*Дорогой Александр Николаевич!*

*Во-первых, Вы простите меня, если я переврал Ваше отчество. Но ведь так давно виделись мы с Вами, что не мудрено забыть и перепутать. Во-вторых, приношу извинения, что не тотчас же ответил на Ваше письмо — заболел гриппом. А теперь о деле.*

*Как мне кажется, Ваши работы будут встречены у нас радушно. Но сейчас дать Вам заверение, что они будут обязательно напечатаны у нас, я пока не решаюсь. Но все-таки полагаю, что они будут напечатаны. Чтобы сказать определенно и положительно, нужно ознакомиться с Вашими работами. Я сейчас говорил с директором нашего института литературы и языка по поводу Вашего запроса. Директор — тов. Борисенко — Вас хорошо знает, как вдумчивого историка литературы. И мы пришли к единодушному заключению — попросить Вас переслать Ваши труды для ознакомления. Поэтому присылайте хоть бы на мое имя. Обещаю Вам не задерживаться с ответом. Думаю, что ответ будет положителен, и мы с удовольствием напечатаем Ваши труды в типографии Академии. Пришлите так же ориентировочно Ваши условия.*

*Всего лучшего.*

*Желаю здоровья и успехов. Привет семье.*

*Якуб Колас.*

***Публікацыя Льва КОЛАСАВА.***

# КРАСАВІК

* * *

У красавіцкім нумары за 1936 год у раздзеле «Хроніка» «Полымя» надрукавала падрабязную справаздачу з абмеркавання ў Доме пісьменніка артыкулаў газеты «Правда», прысвечаных пытанням барацьбы з фармалізмам і натуралізмам у мастацтве. Нягледзячы на тое, што, на першы погляд, артыкулы ў «Правде» не тычыліся ўласна літаратуры, абмеркаванне працягвалася ажно шэсць дзён.

Сапраўды, рэзкай крытыцы ў газеце прадстаўнікі мастацкага слова не падвяргаліся: удары прыйшліся па музыцы, балеце і жывапісе. Так, 28 студзеня 1936 года ў артыкуле «Сумбур замест музыкі» «Правда» пісала: «Некоторые театры как новинку, как достижение преподносят новой, выросшей культурно советской публике оперу Шостаковича «Леди Макбет Мценского уезда». Услужливая музыкальная критика превозносит до небес оперу, создает ей громкую славу. Молодой композитор вместо деловой и серьезной критики, которая могла бы помочь ему в дальнейшей работе, выслушивает только восторженные комплименты.

Слушателя с первой же минуты ошарашивает в опере нарочито нестройный, сумбурный поток звуков. Обрывки мелодии, зачатки музыкальной фразы тонут, вырываются, снова исчезают в грохоте, скрежете и визге. Следить за этой «музыкой» трудно, запомнить ее невозможно.

Так в течение почти всей оперы. На сцене пение заменено криком. Если композитору случается попасть на дорожку простой и понятной мелодии, то он немедленно, словно испугавшись такой беды, бросается в дебри музыкального сумбура, местами превращающегося в какофонию…

Всеми средствами и музыкальной, и драматической выразительности автор старается привлечь симпатии публики к грубым и вульгарным стремлениям и поступкам купчихи Катерины Измайловой.

«Леди Макбет» имеет успех у буржуазной публики за границей. Не потому ли похваливает ее буржуазная публика, что опера эта сумбурна и абсолютно аполитична? Не потому ли, что она щекочет извращенные вкусы буржуазной аудитории своей дергающейся, крикливой, неврастенической музыкой?»

У наступным сваім артыкуле — «Балетны фальш», які выйшаў 6 лютага 1936 года, «Правда» падвергла крытыцы балет таго ж Шастаковіча «Светлы ручай». На гэты раз аўтара абвінавацілі ў залішняй легкавеснасці. Следам выходзяць крытычныя публікацыі пра некаторыя тэндэнцыі ў сучасным кіно, архітэктуры. І, нарэшце, 1 сакавіка 1936 года ў артыкуле «Пра мастакоў-пэцкаляў» газета раскрытыкавала працы некалькіх кніжных ілюстратараў за іх «уродливое» афармленне дзіцячых кніжак.

Згаданыя артыкулы друкаваліся ў «Правде» без подпісу, як рэдакцыйныя, што надавала ім асаблівую важнасць, паколькі тым самым давалася зразумець, што гэта пазіцыя не асобнага аўтара, і нават не толькі самой рэдакцыі, а ЦК ВКП (б), органам якога

з'яўлялася выданне. Таму калі ў адным са сваіх нумароў газета заявіла: «С удивлением приходиться отметить, что «Литературная газета» истолковала статью «Правды» как дело для литературы совсем постороннее и даже неинтересное. Она не проронила до сих пор ни одного слова», пісьменнікі — і не толькі Расіі, але і ўсяго Савецкага Саюза — успрынялі гэта як дырэктыву для дзеяння.

Як вынікае з артыкула, надрукаванага ў красавіцкім нумары часопіса «Полымя», дыскусія аб фармалізме і натуралізме ў беларускай літаратуры пачалася 21 сакавіка.

*«Ва ўступнай прамове тав. Клімковіч зазначыў на значнае спазненне беларускай пісьменніцкай арганізацыі ў справе абгаварэння гэтых артыкулаў, — паведамляла «Полымя». — У некаторых літаратараў нават была думка, што «ў беларускай літаратуры няма небяспекі фармалізма, што гэта праблема не актуальна для беларускай літаратуры»...*

*«А для беларускай літаратуры — гаворыць тав. Клімковіч, — небяспека фармалізма нават больш рэальна, чым для часткі другіх літаратур, бо фармалізм у беларускай літаратуры пераплятаўся з нацыяналізмам і фармалістычная школка з «Узвышша» з'яўлялася адначасова рассаднікам самага заядлага нацыяналізма. Мы не можам забыцца, што за фармалістычнымі выкрутасамі вельмі часта хаваліся акрэсленыя класава-варожыя мары, жаданні і надзеі нацыяналістаў, што самыя фармалістычныя выкрутасы рабіліся своеасаблівым шыфрам для збірання нацыяналістычных аднадумцаў у літаратуры».*

Такі, на першы погляд, нечаканы, палітычна афарбаваны «запеў» у абмеркаванні, як і згадка пра літаратурнае аб'яднанне «Узвышша», якое самараспусцілася яшчэ ў снежні 1931 года, на самай справе, былі абсалютна ў духу часу і адлюстроўвалі беларускія рэаліі ў літаратуры. Справа ў тым, што менавіта ўзвышэнцы — Адам Бабарэка, Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча і іншыя вядомыя пісьменнікі, якія ў 1926 годзе з шумам выйшлі з «галоўнага» літаратурнага аб'яднання «Маладняк» і ўтварылі сваю суполку, выступалі за смелы творчы эксперымент, супраць спрошчанага разумення літаратурнай працы. І менавіта ўзвышэнцы — Дубоўка, Пушча, Бабарэка — да часу дыскусіі ў Доме пісьменніка ўжо некалькі гадоў як былі арыштаваныя за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» і «антысавецкую агітацыю» і знаходзіліся ў ссылцы.

Аднак, зразумела, ад удзельнікаў дыскусіі чакалася размова не пра ўчарашні, а пра сённяшні дзень беларускай літаратуры. Пасля даклада Якава Бярштэйна, які сваю крытыку ў асноўным накіраваў на прынцыпы фармалістычнай школы, слова ўзяў Міхась Лынькоў. *«Тав. Лынькоў*, — пісала «Полымя», — *паказаў на моцныя ўплывы фармалізма ў творчасці У. Хадыкі, Я. Скрыгана. Некаторыя вершы Хадыкі трэба чытаць некалькі разоў, пакуль дойдзеш да таго, што хацеў сказаць аўтар. Апошні раман Цішкі Гартнага «Перагуды» абцяжараны натуралістычным апісальніцтвам».*

Трэба сказаць, што многія пісьменнікі-выступоўцы не дужа кампліментарнічалі, даючы ацэнку паасобным творам сваіх калег. Так, Пятро Глебка знайшоў фармалізм у «Прамове фактам» Петруся Броўкі, «Паэме імя вызвалення» Андрэя Александровіча і «Аманале» Аркадзя Куляшова. Як і Лынькоў, Глебка не абмінуў творчасць Хадыкі (*«Калі прачытаеш яго ўсе вершы падрад, то астаецца ўражанне нейкай аднастайнасці, бо правільных агульных палажэнняў Хадыка канкрэтным матэрыялам не можа сцвердзіць і сцвярджае іх выключна сваім унутраным лірызмам, выражаным у вельмі суб'ектывістычных вобразах»*). Разабраўшыся з Хадыкам, Глебка заўважыў: *«Ёсць у нашай рабоце і другая небяспека — прымітывізм, схематызм. Гэта часта праяўляецца ў вершах Кляшторнага, Хведаровіча. У Хведаровіча ёсць і іншага парадку фармалістычныя моманты — некаторая надуманасць,*

*нерэальнасць, неканкрэтнасць вобразаў. Ёсць, напрыклад, у яго ў адным вершы такі вобраз: «Змрок паўзе, як падстрэлены тур, на адной назе». Гэта самы сапраўдны фармалістычны выкрутас».* Мікола Хведаровіч не застаўся ў даўгу і пакрытыкаваў вершы Пятра Глебкі. Кандрат Крапіва звярнуў увагу прысутных на схематызм у рамане Платона Галавача «Праз гады». Вострым атрымалася выступленне Петруся Броўкі. Вось як пра гэта пісаў часопіс: *«Тав. Броўка прыгадаў факты з нядаўняга мінулага літаратуры, калі «літаратурна-мастацкая камуна», у якую ўваходзілі Гародня, Шукайла, Скрыган, Мікуліч, Казак і сам прамоўца, дамагалася, каб у творах было як мага больш выкрутасаў, сумбуру. «Літаратурна-мастацкая камуна» адыграла шкодную ролю. Сляды ўплываў гэтай «камуны» можна і цяпер бачыць у фармалістычных выкрутасах Скрыгана і Мікуліча. Яшчэ больш шкоднай была фармалістычная школка «Узвышша». Пад выглядам фармальных шуканняў, зубры гэтай школкі Дубоўка, Пушча, Бабарэка працягвалі свае контррэвалюцыйныя ідэі».*

Але, бадай, больш за ўсё ўражвае тое, што выступоўцы адзін за адным бязлітасна крытыкавалі саміх сябе. «*Т. Лынькоў,* — расказвае «Полымя», — *значную ўвагу аддаў крытыцы недахопаў у сваёй творчасці. Раман «На Чырвоных лядах» мае багата зрываў натуралістычнага парадку, прымітывізма*». Не адставаў ад яго і Пятро Глебка: *«Да фармалістычных твораў Пятро Глебка адносіць сваю «Героіку дзён», «Карменсіту», некаторым чынам «Эму». Не вывучыўшы добра матэрыялу, паэт у гэтых сваіх творах абмежаваўся голымі штампаванымі фразамі».* Мусіў прызнаць некаторыя недахопы ў сваіх творах Кузьма Чорны, які заявіў, што ў яго рамане «Трэцяе пакаленне» шмат публіцыстычнасці. Платон Галавач прызнаўся, што ва ўступе да свайго рамана «Спалох на загонах» ён выкарыстаў фармалістычны прыём. А вось што «Полымя» пісала пра выступленне Аркадзя Куляшова: *«Вялікай страснасцю і самакрытычнасцю вызначалася прамова А. Куляшова. Аналізуючы паасобныя свае творы, паэму «Аманал» і рад вершаў, тав. Куляшоў гаворыць, што «парэчкавыя рашчыны» і іншыя мудрагельныя выразы, а таксама поза «шыбкай вучонасці» ішла ад беспадстаўнага жадання 17-гадовага юнака напісаць вялікі і значны твор».*

Прызнаў недахопы ў сваёй аповесці «Адшчапенец» Якуб Колас. Праўда, па ўспамінах некаторых удзельнікаў той дыскусіі, трымаўся ён найбольш незалежна і сказаў прыкладна такое: «Ужо чацвёрты вечар мы таўчом ваду ў ступе. Усё не можам дашукацца фармалізму ў нашай літаратуры. І фармалістычных твораў... А я ведаю такі твор: мая аповесць «Адшчапенец». Сырая, схематычная, нерэальная. А чаму? Таму, што наша крытыка, а найперш Бэндэ, з аглобляю ў руках бегаў за мною і патрабаваў, каб я як найхутчэй адгукнуўся на калектывізацыю. Дык вось я і адгукнуўся!»

Ці прысутнічаў на дыскусіі Янка Купала, часопіс не паведамляе. Тым не менш, у гэтым жа нумары змешчаны верш-прысвячэнне Купалу, падпісаны — Л. Шпакоўскі (пазней Лявон Шпакоўскі возьме сабе псеўданім Лявон Случчанін, пад якім і застанецца ў гісторыі беларускай літаратуры):

Нам і раскошна, і светла цяпер,
Згінула цемры навала.
Хочацца гучна і радасна пець
Разам з табою, Купала.

Быў хваравіты і сумны настрой
Зрывы былі і правалы.
Сёння ж красуецца песенны рой
Нашага Янкі Купалы.

«Зрывы былі і правалы» — гэта вельмі нават упісвалася ў кантэкст «пакаяннай» дыскусіі. Яшчэ ў майскім нумары «Полымя» за 1925 год Лукаш Бэндэ ў артыкуле «Шлях паэта» назваў Купалу «ідэолагам буржуазнага нацыял-адраджанізму», і з часам абвінавачванні такога кшталту ў яго адрас гучалі ўсё гучней, у выніку чаго ў лістападзе 1930 года паэт нават зрабіў спробу самагубства.

Аднак прызнанне ў дапушчаных памылках дапамагло далёка не ўсім удзельнікам дыскусіі. У тым жа 1936 годзе Уладзіміра Хадыку, на якога больш за ўсё сыпалася абвінавачванняў у фармалізме, арыштавалі і асудзілі на 10 гадоў пазбаўлення волі. У 36-м таксама былі арыштаваны Цішка Гартны, Ян Скрыган, Тодар Кляшторны і Барыс Мікуліч. У 37-м — Платон Галавач, у 38-м — Кузьма Чорны, Мікола Хведаровіч, Паўлюк Шукайла, Андрэй Александровіч…

Наступны ўдар па фармалізме быў нанесены пасля вайны. Але пасля гэтага прайшло ўсяго некалькі дзесяцігоддзяў, і вось ужо ў 5-м томе «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», які пабачыў свет у 1987 годзе, было зафіксавана: «Вульгарна-сацыялагічная крытыка 30—40-х г. без усякіх падстаў абвінавачвала ў фармалізме літаратурныя аб'яднанні 20-х г., а таксама Я. Купалу, Багдановіча, У. Хадыку і інш. Пры гэтым калі ў сярэдзіне 30-х г. пераадоленне фармалізму па сутнасці азначала барацьбу за майстэрства, супраць беззмястоўнай дэкларатыўнасці і фармальных адносін да мастацкай творчасці, то ў кампаніях барацьбы супраць фармалізму ў канцы 40 — пачатку 50-х г. пад гэта паняцце часам падводзілася наватарства наогул, вобразная складанасць і пошук новых выяўленчых сродкаў». Ну, а ў 16-м томе «Беларускай энцыклапедыі», які выйшаў у 2003 годзе, фармалізм у літаратуры ўвогуле перастаў насіць якое б там ні было адмоўнае адценне: «Вульгарна-сацыялагічная крытыка канца 1920 — пачатку 1950-х г. абвінавачвала ў фармалізме пісьменнікаў, мастакоў і музыкантаў, якія імкнуліся да наватарства, вобразнай складанасці і пошуку новых выяўленчых сродкаў. У сучаснай эстэтыцы крытыка фармалізму страціла ранейшую актуальнасць, а гэтая плынь набыла пазітыўнае значэнне ў кантэксце мадэрнізму і постмадэрнізму».

Аднак з усіх удзельнікаў дыскусіі 1936 года ў Доме пісьменніка да часу поўнай рэабілітацыі фармалізму дажылі адзінкі.

*Алесь МАЛІНОЎСКІ*

**Заўвага**

У «Полымі» № 2 за 2015 год на другой старонцы вокладкі замест «Уладзімір Караткевіч (1917—1995)» трэба чытаць «Уладзімір Караткевіч (1930—1984)».

**У МІНСКУ «ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**

- **магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін «Глобус», вул. Валадарскага, 16.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны
для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана ў друк 10.04.2015 г. Фармат 70×108$^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 17,50. Тыраж 2156 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 21 200 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск